

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**6** (1004)

*ЧЭРВЕНЬ*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

**Галоўны рэдактар**
*Мікола Міхайлавіч МЯТЛІЦКІ*

**Рэдакцыйная калегія:**

*Лада АЛЕЙНІК,
Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,
Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ
(старшыня рэдакцыйнага савета),
Уладзімір ГУСАКОЎ,
Марыя ЗАХАРЭВІЧ,
Віктар ІЎЧАНКАЎ,
Аляксандр КАВАЛЕНЯ,
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,
Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ,
Уладзімір МАЗГО
(намеснік галоўнага рэдактара),
Валерый МАКСІМОВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Зоя МЕЛЬНІКАВА,
Пётр НІКІЦЕНКА,
Генадзь ПАШКОЎ,
Алег ПРАЛЯСКОЎСКІ,
Віктар ПРАЎДЗІН,
Зіновій ПРЫГОДЗІЧ,
Іван САВЕРЧАНКА,
Алесь САВІЦКІ,
Уладзімір САЛАМАХА,
Васіль СТАРЫЧОНАК,
Таццяна ШАМЯКІНА*

РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2013

# *ЗМЕСТ*




© «Полымя», 2013



ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

# «ПОЛЫМЯ»: ТЫСЯЧА КРОКАЎ У БУДУЧЫНЮ

## (з пасяджэння «круглага стала», прысвечанага выхаду 1000-га нумара)

***Сталыя чытачы нашага часопіса ведаць, што сёлетні лютаўскі нумар «Полымя» стаў юбілейным, тысячным. Як ведаюць і тое, што ў снежні мінулага года часопіс адзначыў сваё 90-годдзе. Тады з нагоды юбілею ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі праходзілі ўрачыстасці. Не магла рэдакцыя не адзначыць і выхад 1000-га нумара. Гэтай знамянальнай падзеі быў прысвечаны «круглы стол» — «Полымя»: тысяча крокаў у будучыню», у рабоце якога прынялі ўдзел супрацоўнікі рэдакцыі, а таксама вядомыя навукоўцы, прадстаўнікі грамадскасці, якія з'яўляюцца нашымі аўтарытэтнымі і сталымі аўтарамі. Гэтае пасяджэнне таксама праходзіла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.***

Адкрываючы пасяджэнне «круглага стала», **галоўны рэдактар часопіса «Полымя», лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі** звярнуў увагу на тое, што падобныя юбілеі па-свойму знакавыя, яны маюць непасрэднае дачыненне да ўсяго літаратурнага, а калі глядзець шырэй, то і культурнага жыцця краіны. Гэта яшчэ адна магчымасць азірнуцца назад, каб лепей уявіць сабе, як развівалася нацыянальнае прыгожае пісьменства на працягу 90 гадоў, бо ў часопісе змяшчаліся па сутнасці ўсе лепшыя творы, што склалі залаты фонд беларускай літаратуры, з'яўляюцца яе гонарам. Мікола Міхайлавіч назваў асноўныя з іх. У «Полымі» ў розныя гады друкаваліся: Якуб Колас (паэмы «На шляхах волі» і «Рыбакова хата», аповесці «Дрыгва», «На ростанях»), Янка Брыль (раман «Птушкі і гнёзды», аповесць «Ніжнія Байдуны»), Васіль Быкаў (аповесці «Здрада», «Круглянскі мост», «Сотнікаў», «Знак бяды», «У тумане», «Аблава», «Сцюжа», «Ваўчыная яма»), Максім Гарэцкі (раман-хроніка «Віленскія камунары», аповесць «Дзве душы»), Міхась Зарэцкі (раманы «Сцежкі-дарожкі», «Вязьмо»), Кандрат Крапіва (п'есы «Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек», «Брама неўміручасці»), Аркадзь Куляшоў (паэмы «У зялёнай дуброве», «Прыгоды цымбал», «Новае рэчышча», «Грозная пушча», «Далёка да акіяна», «Хамуціус»), Іван Мележ (раманы «Мінскі напрамак», «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань»), Піліп Пестрак (раман «Сустрэнемся на барыкадах»), Кузьма Чорны (аповесці «Вясна», «Люба Лук'янская», раманы «Трэцяе пакаленне», «Пошукі будучыні», «Млечны шлях»), Іван Шамякін (раманы «Глыбокая плынь», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», «Вазьму твой боль»).

Дзякуючы часопісу ўбачылі таксама свет творы Вячаслава Адамчыка, Змітрака Астапенкі, Анатоля Астрэйкі, Сымона Баранавых, Алеся Бачылы, Петруся Броўкі, Змітрака Бядулі, Васіля Віткі, Анатоля Вялюгіна, Веры Вярбы, Платона Галавача, Цішкі Гартнага, Пятра Глебкі, Сяргея Грахоўскага, Анатоля Грачанікава, Сяргея Дзяргая, Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Дудара, Янкі Журбы, Лукаша Калюгі, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Карпюка, Кастуся Кірэенкі, Міколы Лобана, Алега Лойкі, Еўдакіі Лось, Міхася Лынькова, Андрэя Макаёнка, Петруся Макаля, Мікалая Матукоўскага, Ніны Мацяш, Барыса Мікуліча, Паўла Місько, Андрэя Мрыя, Рыгора Мурашкі, Івана Навуменкі, Івана Новікава, Веры Палтаран, Пімена Панчанкі, Паўла Пруднікава, Язэпа Пушчы, Аляксея Пысіна, Аляксея Русецкага, Рамана Сабаленкі, Эдуарда Самуйлёнка, Барыса Сачанкі, Юрася Свіркі, Анатоля Сербантовіча, Янкі Сіпакова, Яна Скрыгана, Міхася Стральцова, Максіма Танка, Валянціна Таўлая, Паўлюка Труса, Уладзіміра Хадыкі, Аркадзя Чарнышэвіча, Міхася Чарота, Івана Чыгрынава, Алеся Якімовіча, Яўгеніі Янішчыц, Фёдара Янкоўскага і многіх іншых.

З сягонняшнім «Полымем» супрацоўнічаюць старэйшыя беларускія пісьменнікі Алесь Савіцкі, Галіна Васілеўская. Публікаваліся Мікола Кусянкоў (раман «Хмель каля вольхі»), Уладзімір Гніламёдаў (раманы «Усход», «Вяртанне», «Валошкі на мяжы», раман-дзённік «Сем гадоў у ЦК», раман «Ліхалецце»), Валянціна Коўтун (раман «Пакліканыя», кінараман «Спасам пакліканыя»), Леанід Левановіч (раманы «Бесядзь цячэ ў акіян», «Палыновы вецер»), Віктар Праўдзін (раман «Нелюбімыя гінуць»), Алесь Савіцкі (раман «Пісьмо ў рай»), Анатоль Казлоў (раман «Юргон»), Андрэй Федарэнка (раман «Рэвізія», раман-эсэ «Мяжа»), Міхась Южык (раманы «Марыянеткі і лялькаводы», «Лесвіца», «Леапард на балконе»), Таіса Бондар (раман «Гульня ў падкіднога»), Эрнест Ялугін (гістарычны раман «Ідзі і кажы»), Уладзімір Дамашэвіч (раман «На мяжы цярпення»), Ягор Конеў (раманы «Грэчкасейная ідылія Тадэвуша Касцюшкі», «Літоўская адысея Тадэвуша Касцюшкі»), Алесь Шашкоў (раман «Ціхая Лань»), Уладзімір Гаўрыловіч (раман «Цяпло маладзіка»), Алег Лойка (раман-эсэ «Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі»), Анатоль Брытун (раман «Пах мускусу»), Зінаіда Дудзюк (раман «Слодыч і атрута»), Алесь Рыбак (раман «На раздарожжы»). Сучаснае «Полымя» — гэта і аповесці Раісы Баравіковай «Вецер з Чорнага яра», Юрыя Станкевіча «Пераход», Міколы Адама «Насця», Аляксея Бруя «Чатырнаццаць пальцаў», Кастуся Цвіркі «Палеская легенда», Галіны Васілеўскай «Сем я», «Іх было чацвёра», Міколы Фядосіка «Служу Радзіме», Івана Шамякіна «Караван», «Грузінская аповесць», Лідзіі Адамовіч «Свет сапраўдных жанчын», Васіля Гігевіча «Страчанае шчасце», Алеся Камароўскага «Смаката», Уладзіміра Ліпскага «Мужык», Ніны Рыбік «Паміж днём і ноччу», «Скрыжаванні», Навума Гальпяровіча «Зацьменне», Валянціны Кадзетавай «Таннае золата», Таццяны Пяшко «Выпраўленне памылак», Міколы Чарняўскага «Босая кавалерыя», Наталіі Касцючэнкі «Здрада».

Зазіраць у гісторыю выдання, вобразна зазначыў М. Мятліцкі, гэта тое самае, што глядзець у калодзеж у пагодны дзень і бачыць адлюстраванне зорак, якія ззяюць на небе. Нешта падобнае назіраецца і ў літаратуры. На небасхіле яе, канечне, відаць тыя зоркі, што паспелі ўжо ўзысці, але адначасова запальваюцца і новыя, святло якіх пакуль, магчыма, і мала прыкметнае, але цягам часу яно стане яшчэ больш яркім і вабным. Для літаратуры ж пераемнасць пакаленняў значыць вельмі шмат. І прыемна тое, што часопіс «Полымя» сваімі сённяшнімі справамі спрыяе гэтаму, працуючы не толькі на

сучаснасць, а і на будучыню. Пройдзе нейкія 45 гадоў і свет пабачыць 1500-ы нумар нашага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага старэйшыны. Ёсць упэўненасць, што ў гэтай зале таксама сабяруцца тыя, хто па-сапраўднаму захоплены літаратурай, зацікаўлены гісторыяй, каб ужо з агледзін свайго дня падсумаваць тое, што робіцца і што зроблена, а адначасова і паспрабаваць вызначыць заўтрашні дзень беларускай літаратуры.

Гаворку прадоўжыў **акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, знакаміты літаратуразнаўца і празаік Уладзімір Гніламёдаў**, які з'яўляецца сталым аўтарам «Полымя». Прысутным было прыемна разам з ім перагарнуць некаторыя старонкі часопіса, якія ўжо сталі гісторыяй, а разам з тым паспрабаваць зазірнуць і ў заўтрашні дзень аўтарытэтнага выдання, уявіць сабе, як будзе развівацца літаратура далей і якія тэмы патрабуюць сёння першаступеннай да сябе ўвагі і зацікаўленага стаўлення. Уладзімір Васільевіч, прынамсі, адзначыў, што часопіс «Полымя», прайшоўшы слаўны шлях, з'явіўся не на пустым месцы. Папярэднікам яго быў альманах «Адраджэнне», першы нумар якога выйшаў на пачатку 1922 года. Аднак змест яго ў многім не спадабаўся тагачасным уладам. У прыватнасці, тое, што быў надрукаваны верш Янкі Купалы «Перад будучыняй», у якім заўтрашні дзень, як палічыла цэнзура, паўставаў далёка няпэўным, хоць, як вядома, Купала паказваў тагачасную рэчаіснасць даволі праўдзіва. Таму выданне альманаха і спынілася на першым нумары, а замест «Адраджэння» і пачаў выдавацца часопіс «Полымя». Кожны перыяд у ягоным існаванні быў па-свойму адметны, у тым ліку і ва ўзаемаадносінах з літаратурным працэсам і братамі-пісьменнікамі. Але відавочна і тое, што дваццатыя гады, калі глядзець у цэлым, былі спрыяльнымі і для самога «Полымя», і для літаратуры ў цэлым. Асабліва ў параўнанні з трыццатымі гадамі. Гэта быў час, багаты на творчую свабоду, на нязмушанасць. З Адэсы прыехалі разняволеныя беларусы Сцяпан Некрашэвіч, Міхайла Грамыка, Аляксандр Баліцкі і іншыя. Прыехалі з верай у новую Беларусь. Яны стварылі атмасферу, што спрыяла развіццю часопіснай справы. Дый літаратуры ў цэлым. Дарэчы, М. Грамыка ў першым нумары выступіў з паэмай «Гвалт над формай», якая сёння ўспрымаецца мастацкім дакументам свайго часу. Па-рознаму паставіліся да яе ў творчым асяродку. Кандрат Крапіва нават напісаў эпіграму:

І без меры, і без нормы
Лье Грамыка свае формы.

Аднак нельга адмаўляць таго, што гэты твор сведчыў аб шматграннасці пісьменніцкіх пошукаў. Хоць і не ўсе маглі зразумець, што хацеў сказаць яго аўтар. Але публікацыя і такіх твораў абуджала думку, запрашала не толькі да роздуму, а і да дыскусіі. Увогуле, кола аўтараў, пачынаючы з першага ж нумара «Полымя», было шырокае. Друкаваліся і нашаніўцы Янка Купала і Якуб Колас, але давалася на ягоных старонках і месца тым, хто толькі ўваходзіў у літаратуру. Такі прынцып падыходу спрыяў таму, што стваралася жыццядайная, жыццятворчая аснова, што і дазволіла «Полымю» дажыць да свайго тысячнага нумара. Хоць за немалую гісторыю выдання нямала было рознага.

Скажам, калі ўзяць тыя ж 30-я гады. Гэта быў куды ўжо больш цяжэйшы перыяд, чым папярэдні. Часопіс мусіў рэагаваць на свой час, на ягоныя запатрабаванні. Прытым рабіць гэта дзейсна, актыўна, прытрымліваючыся ідэалагічных установак. Але разам з тым і падтрымліваў новае, звязанае з кан-

структыўным шляхам развіцця і літаратуры, і грамадства. Лягчэй стала працаваць пасля XX з'езда КПСС, калі пачалася так званая хрушчоўская адліга. У «Полымі» былі надрукаваны творы Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Пысіна, Рыгора Барадуліна, Петруся Макаля і іншых аўтараў. Гэта калі мецць на ўвазе паэзію. Аднак упэўнена адчувала сябе на палымянскіх старонках і проза. Праўда, гэта не значыць, што ўсё адбывалася так ужо гладка.

Уладзімір Гніламёдаў нагадаў, якое рэзкае непрыманне з боку маскоўскага крытыка Фелікса Кузняцова ў свой час выклікаў верш У. Караткевіча «Заяц варыць піва». Ф. Кузняцоў папракаў У. Караткевіча за быццам сентыментальны гуманізм, за адсутнасць здаровай ваяўнічасці. Разам з тым тыя, хто тады пазнаёміўся з гэтым творам, маглі ўпэўніцца, наколькі У. Караткевіч-паэт ішоў ад беларускага жыцця. Усёй вобразнай структурай верша ён паказваў чалавека таго часу, які па сутнасці быў прасякнуты тым жа заячым страхам.

Прыводзіліся У. Гніламёдавым і іншыя прыклады, калі крытыка, рэагуючы на той ці іншы твор, імкнулася ўбачыць у ім тое, чаго не было. Крытыкуючы ж аўтара, нярэдка праяўляла ваяўнічасць, што чымсьці нагадвала тое, што адбывалася ў 30-я гады. У той жа час У. Гніламёдаў адзначыў, што часопісу ва ўсе часы было не займаць смеласці. І праяўлялася гэта не толькі ў пытаннях мастацкай літаратуры. У прыватнасці, Уладзімір Васільевіч нагадаў, які шырокі рэзананс выклікала публікацыя артыкула Мікалая Алексютовіча, прысвечанага гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. На працягу некалькіх дзён у Акадэміі навук БССР ішла вострая дыскусія, на якую былі запрошаны навукоўцы ўсіх вышэйшых навучальных устаноў Мінска

Падзяліўся У. Гніламёдаў сваімі думкамі і пра нядаўнія публікацыі часопіса. Даўшы ім высокую ацэнку, ён разам з тым засяродзіў увагу на тым, што неабходна глыбей адлюстроўваць нашу сучаснасць.

**Малады навуковец, паэт Алесь Бараноўскі** таксама згодзен з тым, што за доўгую 90-гадовую гісторыю праз «Полымя» прайшла вялікая колькасць таленавітых аўтараў, многія з якіх сёння па праве лічацца класікамі айчыннай літаратуры, а сам часопіс паспеў пабываць і на рэйках грамадска-палітычнага кірунку, і быў, па сутнасці, апорным пунктам нацыянал-дэмакратыі ў беларускай літаратуры, хоць першапачаткова заклікаў да кансалідацыі працоўных усёй Расіі. Ды самыя пераломныя моманты ў гісторыі выдання ўсё ж сведчаць на яго карысць. Так, першыя 10 год (да 1932) часопісам кіравала рэдакцыйная калегія, у якую ўваходзілі Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, Усевалад Ігнатоўскі, Янка Купала, Якуб Колас, В. Нодэль, А. Сянкевіч, Міхась Чарот і інш. Ва ўмовах адсутнасці галоўнага рэдактара кожны з рэдкалегіі адчуваў роўнавялікую адказнасць за лёс выдання. У гэтым, відаць, і ёсць сакрэт удалага існавання часопіса. Усцешна, што і сёння гэта тэндэнцыя захавалася. Кіраўніцтва холдынгу і галоўны рэдактар «Полымя» добра разумеюць: каб працаваць у такім выданні, мала быць добрым журналістам, філолагам. Каб удала выправіць верш, трэба самому, найперш, быць паэтам, каб вычытаць прозу — празаікам, навуковы артыкул — літаратуразнаўцам. Толькі асобы могуць стварыць «прадукт», які будзе даспадобы шырокаму колу насельніцтва: і навукоўцам, і студэнтам, і настаўнікам, і творчым людзям. Адчуваецца, што ў часопіса ўжо даўно ёсць свой чытач — адукаваны, з цвёрдай грамадскай пазіцыяй. А гэта вымагае адпаведнага ўзроўню прафесіяналізму і ад аўтараў, і ад супрацоўнікаў рэдакцыі пры падрыхтоўцы нумароў.

Пра карпатлівую працу ў гэтых кірунках сведчаць і адметныя рубрыкі часопіса: «Навука і жыццё», «Легенды XX стагоддзя», «Школьныя далягляды», «Постаці», «Старонкі лёсу», «Наш край», дзе падаюцца матэрыялы пра жыццё Бацькаўшчыны. Аўтарамі выдання з'яўляюцца прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Беларусі.

Алесь Бараноўскі засведчыў: «Я сам з'яўляюся і чытачом, і аўтарам часопіса. І хоць да першай публікацыі ў «Полымі» я ўжо меў дзве кнігі, па сутнасці, для шырокага кола чытачоў мой дэбют адбыўся менавіта на старонках выдання. Трэба зазначыць, што «Полымя» — рэцэнзаванае выданне, а таму ў ім могуць публікавацца як сталыя навукоўцы, так і пачынаючыя. Асабліва гэта важна для апошніх, бо менавіта на старонках часопіса яны могуць абнародаваць свае навуковыя напрацоўкі і быць упэўненымі, што іх праца будзе заўважана, бо ў рэдакцыйную калегію часопіса ўваходзяць не толькі лепшыя айчынныя пісьменнікі, але і навукоўцы, акадэмікі. Гэта важна яшчэ і таму, што ва ўмовах камерцыялізацыі ўсіх сфер дзейнасці грамадства, у тым ліку і навуковай, кошт за публікацыю ў некаторых айчынных навуковых выданнях дасягае 80 — 90 тысяч, замежных — і таго больш. І калі біёлагі, напрыклад, сваімі дасягненнямі могуць палепшыць ураджай, фізікі распрацаваць новыя віды энергіі, хімікі вынайсці лекі… ёсць такія сферы навукі, як напрыклад, філалогія, якія заўсёды застаюцца ў межах тэорыі. Аднак часам робіць куды больш за астатніх — клапоціцца пра духоўнае здароўе чалавека. Усцешна, што пазіцыя «Полымя» ў гэтым кірунку безапеляцыйна правільная — падрыхтаваць творчыя і навуковыя кадры краіны, а разам з тым не даць чытачу захлынуцца ў працьме розных, не дужа якасных выданняў. Сёння мы сабраліся з нагоды выхаду 1000-га нумара часопіса. А зусім нядаўна святкавалі 90-годдзе «Полымя». Радуе, што юбілейны нумар быў аддадзены маладым. І мне, як аднаму з аўтараў згаданага нумара, дужа прыемна адчуваць сябе хоць часткова прыналежным да часопіса з такой гісторыяй і аўтарытэтам, да часопіса, які нязменна працягвае лепшыя традыцыі папярэднікаў, які з павагай ставіцца да лепшага ў сённяшняй айчыннай літаратуры, адкрывае новыя імёны для літаратуры будучых пакаленняў».

**Акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр Каваленя** заўсёды з'яўляецца прыхільнікам правядзення падобных «круглых сталоў», а часам выступае і ініцыятарам такой добрай справы. Пры гэтым у сваіх выступленнях імкнецца весці гаворку, часам выходзячы як бы за межы самой тэмы, але разам з тым намацваючы тое, што дазваляе глыбей спасцігуць яе. Узважанасцю разваг вызначылася і выступленне А. Кавалені на гэтым «круглым стале». Заклапочаны тым, каб «Полымя» было яшчэ больш чытэльным часопісам, Аляксандр Аляксандравіч мяркуе, што выданне неабходна лепш прапагандаваць сярод моладзі: «Наш часопіс, я невыпадкова кажу «наш», — падкрэсліў А. Каваленя, — павінен стаць сваім для студэнтаў. І не толькі для студэнтаў-філолагаў, а і для фізікаў, матэматыкаў. Дзеля гэтага неабходна больш пісаць, як правільна сказаў У. Гніламёдаў, пра сучаснасць».

Аляксандр Каваленя не абышоў і такую важную праблему, як мадэрнізацыя. На яе важна паглядзець не толькі як на працэсы, што адбываюцца ў вытворчасці. Важны і такі, вобразна кажучы, аспект, як мадэрнізацыя ў душы. Ідэя мадэрнізацыі павінна быць напоўнена і духоўным аспектам. Неабходна рабіць усё дзеля таго, каб студэнты, вучні лепш вучыліся. Калі ж

мець на ўвазе літаратурную моладзь, то кожны, хто бярэцца за пяро, павінен імкнуцца да напісання высокамастацкіх і, зразумела, грамадска значных твораў. Яшчэ лепш будзе, калі з'явіцца глыбока роздумны, актуальны артыкул, прысвечаны надзённым праблемам мадэрнізацыі, напісаны кім-небудзь з аўтарытэтных філосафаў. Не трэба баяцца крытыкі. Калі яна дзейсная, то гэта ідзе толькі на карысць. Менавіта дзейсная, а не знішчальная, як гэта назіралася ў 30-я гады. Дый трэба сучаснае жыццё спасцігаць у самых розных яго аспектах. Яно ж, для прыкладу, у цяперашняга рабочага іншае, чым у студэнта.

Гаворка на пасяджэнні «круглага стала» паступова пашырала межы пытанняў, што ўздымаліся. Так адбывалася невыпадкова, а зыходзячы з палымянскіх рэалій за дзевяць дзесяцігоддзяў. Несумненна, тысяча нумароў часопіса — гэта свайго роду мастацкі летапіс жыцця Беларусі на працягу 90 гадоў. Найперш, канечне, летапіс літаратурны. Аднак за гэты час у «Полымі» былі не толькі змешчаны, як ужо адзначалася, па сутнасці, усе найбольш значныя творы паэзіі, прозы, драматургіі. У перадваенны час асабліва вялікая ўвага надавалася таксама і перакладу. Аднак у часопісе былі моцныя і раздзелы публіцыстыкі, крытыкі, літаратуразнаўства. А яшчэ, пазнаёміўшыся са шмат якімі нумарамі, што выходзілі ў 20-я гады, з прыемнасцю для сябе зазначаеш, што не заставаліся ў баку і пытанні краязнаўства.

Безумоўна, шмат якія даваенныя публікацыі, дый першых пятнаццаці пасляваенных гадоў, калі падыходзіць да іх з агледзін сённяшняга дня, выглядаюць артадаксальнымі, напісаны ў духу свайго часу. Ад гэтага нікуды не дзенешся. Такая была партыйная арыенціроўка, што, дарэчы, відаць і з рэдакцыйнага звароту «Нашы заданні», змешчанага ў першым нумары: «Полымя» — гэта часопіс барацьбы, а не часопіс акадэмікаў. Мы, рэвалюцыйныя марксісты, навуку нашага змагання і нашых дасягненняў будзем заносіць на старонкі нашае часопісі. Усе тыя, хто хоча разам з намі працягваць далей змаганне пад рэвалюцыйным сцягам, няхай ідуць да нас, у нашы рады, няхай пасобяць нам вызваліць беларускую культурную работу ад станкоў народніцтва й нацыянальнай рэакцыі».

Падобная барацьба вялася і на старонках часопіса. Настойліва шукаліся «ворагі народа», а калі хто шукае, то... Канечне, такія «ворагі» знаходзіліся. Нярэдка атрымлівалася і так, што той, хто яшчэ нядаўна выкрываў у розных неіснуючых грахах іншых, неўзабаве сам станавіўся гэткім жа «ворагам». Зразумела, з падачы каго-небудзь яшчэ больш пільнага.

Але поруч існавала і іншае. Наколькі гэта было магчыма, «Полымя» прапагандавала беларускасць і змагалася за беларускасць. Усцешна тое, што з першага ж нумара новае выданне пачало друкаваць «Хроніку Беларускай Культуры». У гэтым раздзеле часопіс адводзіў месца самай разнастайнай інфармацыі, што тычылася творчага жыцця рэспублікі. Расказвалася аб рабоце Інстытута беларускай культуры, тэатраў, выдавецтваў, паведамлялася пра сувязі работнікаў літаратуры, культуры, адукацыі з прадстаўнікамі іншых народаў СССР, іншых саюзных рэспублік.

Для прыкладу, адна з падборак паведамляла, што беларускай літаратурай зацікавіліся нашы землякі, якія жылі ў Прыамурскай вобласці. У другой гаварылася пра тое, што ў горадзе Дзвінску ў Латвіі адкрылася беларуская гімназія. У трэцяй, што Міхась Чарот узяўся пісаць п'есу пра Кастуся Каліноўскага, а Змітрок Бядуля працуе над «Гісторыяй беларускага тэатра». У Віцебску пад кіраўніцтвам Міхася Зарэцкага паспяхова працаваў беларускі тэатр з вайскоўцаў, які ўзначаліў Міхась Зарэцкі. Адзначалася, што ў чыгунач-

ных школах Беларусі выкладаецца беларуская мова, нягледзячы на тое, што такому ўвядзенню праціваліся некаторыя русіфікаваныя чыноўнікі.

А хіба не цікавае такое паведамленне ў здвоеным пятым-шостым нумары за 1923 год: «Цішкам Гартным знойдзены і прывезены ў Менск рукапісы нябожчыка Фабіяна Шантыра. Рукапісы хаваліся ў ядынай яго сястры Гурскай, якая пражывае ў м. Слуцку. Яны адносяцца да першага перыяду творчасці пісьменніка, 1910—1912 гг. і пазнейшых гадоў [...]. Сярод знойдзеных рукапісаў ёсць 12 вершаў, некалькі абразкоў паэтычнай прозы і апавяданні «К волі», «Пад шум лесу», «Адзінокі», «У вялікі дзень», «Песня прарвалася» і інш. Больш позні рукапісы Ф. Шантыра, на вялікую шкоду, дзесьці прапалі».

У хроніцы за 1924 год пісалася пра адшуканую ў Ялце магілу Максіма Багдановіча, а таксама пра тое, што Якуб Колас аднавіў паэму «Сымон-музыка», рукапіс якой быў украдзены ў яго разам з чамаданам, у час паездкі на Каўказ.

Змястоўная хроніка за 1925 год. Гэта і паведамленні пра тое, што ў Празе закончана расшыфроўка татарскай малітоўнай кнігі «Ай-Кітаб», напісанай у XVI стагоддзі па-беларуску арабскімі літарамі; што Змітрок Бядуля апрацоўвае яўрэйска-беларускі і беларуска-яўрэйскі слоўнік, а беларускі кампазітар Антон Грыневіч прыехаў з Заходняй Беларусі ў Мінск.

Аднак, бадай, найбольш важныя звесткі зноў жа тычацца Максіма Багдановіча. Літаратурная камісія закончыла разбор ягоных рукапісаў, зняла з іх копіі. Увосень таго года меркавалася прыступіць да складання першага поўнага Збору твораў М. Багдановіча.

У іншым нумары таксама напаткоўваеш звесткі, што тычацца гэтага класіка нашай літаратуры. Літаратурная камісія Інстытута беларускай культуры атрымала ад Рамуальда Зямкевіча нізку з 14 вершаў М. Багдановіча. Гэтыя творы павінны былі ўвайсці ў ягоны «Вянок», але туды не трапілі. Цяпер іх меркавалася ўключыць у першы том Збору твораў М. Багдановіча.

Рабіліся далейшыя актыўныя захады па беларусізацыі. Той жа Інбелкульт сабраў каля 120 тысяч слоў для Слоўніка жывой беларускай мовы. Камісіяй па ўкладанні яго было падрыхтавана каля 200 тысяч картак з матэрыяламі і словамі з твораў Максіма Гарэцкага, Міхася Чарота, Янкі Купалы і іншых пісьменнікаў. Дарэчы, у гэтым накірунку плённа працавалі энтузіясты на месцах. Так, настаўнік С. Мурашка даслаў у Інбелкульт тысячу сабраных ім беларускіх слоў. Складаліся краёвыя слоўнікі Невельшчыны, Смаленшчыны, Гомельшчыны. Вайсковая камісія Інбелкульта прыняла 385 тэрмінаў, што тычацца вайсковай справы, а таксама змест «Вайсковай прысягі» па-беларуску.

Набірала тэмпы перакладчыцкая дзейнасць. «Маладнякоўцы» ўзяліся нават пераўвасабляць некаторыя творы тых, хто ўваходзіў у гэтае аб'яднанне, на мове эсперанта. Але перакладаліся не адны мастацкія творы, аб чым сведчыць паведамленне ў першым нумары «Полымя» за 1926 год: «Дзеля падрыхтоўкі будучае беларускае оперы перакладаюцца на беларускую мову оперы «Русалка» і «Князь Ігар».

Часопіс рэгулярна адзначаў найбольш значныя юбілеі. У прыватнасці, у другім нумары за 1924 год — 60-годдзе пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага. У сувязі з гэтым былі змешчаны нарыс Івана Цвікевіча «Кастусь Каліноўскі», некалькі вершаў.

Шырока святкавалася ў 1925 годзе 400-годдзе беларускага друку. «Полымя» апублікавала артыкулы М. Шчакаціхіна «Калі радзіўся Францішак Скарына» і А. Харэвіча «Скарына і яго эпоха».

Нямала друкавалася артыкулаў, што далучалі чытача да беларускай гісторыі, абуджалі нацыянальную свядомасць, пашыралі кругагляд: «З гісторыі асветы на Беларусі ў пачатку 19 сталецця» У. Ігнатоўскага, «Паншчына на Беларусі» М. Мялешкі, «Да гісторыі канфіскацыі «Нашай нівы» і «Мужыцкая праўда» Кастуся Каліноўскага» А. Шлюбскага, «Сялянства Віцебскай і Магілёўскай губерняў у паўстанні 1863 г.» Д. Васілеўскага і іншыя.

Аднак з пачаткам 30-х гадоў танальнасць публікацый згаданай праблематыкі пачынае рэзка мяняцца. Асабліва гэта тычылася тых артыкулаў, што закраналі пэўныя моманты краязнаўства. Іначай і не магло быць. Падобныя ўстаноўкі ішлі зверху, а іх нельга было не выконваць. Што гэта так, сведчыць і паведамленне, змешчанае ў першым нумары «Полымя» за 1931 год: «Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Беларускай акадэміі навук правадзіла з 25 па 30 студзеня «пяцідзёнку краязнаўства». Мэта яе — выкрыць контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм у краязнаўстве, звярнуць увагу савецкай грамадскасці на велізарную ролю краязнаўства ў сацыялістычным будаўніцтве і ўцягнуць у краязнаўчую работу шырокія масы працоўных гораду і вёскі».

Тыя лепшыя традыцыі ў галіне краязнаўства, што былі назапашаны ў 20-я гады, знайшлі свой годны працяг у апошняе дзесяцігоддзе. Шырокі водгалас маюць публікацыі, якія змяшчаюцца ў рубрыцы «Наш край». Дзякуючы ім, чытачы змаглі бліжэй пазнаёміцца са шмат якімі рэгіёнамі нашай Бацькаўшчыны. Расказваецца пра важныя падзеі, што адбываліся на працягу не аднаго стагоддзя, найбольш знакамітых людзей, ураджэнцаў гэтых мясцін ці пра тых, хто звязаў свой лёс з імі. Атрымліваецца свайго роду біяграфія таго ці іншага раёна. У прыватнасці, ужо расказвалася пра такія раёны, як Іванаўскі, Ляхавіцкі, Драгічынскі, Смаргонскі, Барысаўскі і іншыя. Краязнаўчы ўхіл маюць і нарысы, артыкулы пра знакамітых ураджэнцаў Беларусі. Міма ўвагі рэцэнзентаў не праходзіць ніводная значная кніга як краязнаўчай, так і гістарычнай тэматыкі.

На шмат якіх аспектах краязнаўства засяродзіў увагу прысутных і **лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, вядомы краязнаўца і мецэнат Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.** Анатоль Васільевіч пагадзіўся з тымі, хто лічыць, што трэба часцей бываць на фабрыках, заводах, фордаўскіх і мазаўскіх канвеерах, але прызнаўся, што яго больш цікавіць тэма гісторыі, у няменшай ступені і блізкай нам гісторыі. Асабліва хвалюе яго тое, што знікаюць тысячы вёсак. Нават не вёсак, а вёсачак, у якіх на сённяшні дзень пражывае не так і шмат жыхароў, а разам з імі знікае і частка нашай памяці. Знікае мікракультура, адыходзіць у нябыт фальклор, што быў характэрны менавіта для іх. Канечне, падобны працэс аб’ектыўны і нічога зрабіць нельга. Праўда, у некаторых мясцінах сказваецца і суб’ектыўны фактар. Напрыклад, наступствы Чарнобыльскай катастрофы. Апроч таго, узбуйняюцца сельскія гаспадаркі. Многія людзі пераязджаюць на цэнтральныя сядзібы, дзе, як правіла, ёсць школа, установа культуры, працуе ўрач ці фельчар. Шмат якія ж вёсачкі прадастаўлены самім сабе.

У якасці прыкладу А. Статкевіч-Чабаганаў спаслаўся на сваю родную вёску Засмужжа, што ў Любанскім раёне. Ёй, мабыць, 120 гадоў. У XIX стагоддзі яна належала Вітгенштэйнам. Затым яе купіла шляхта разам з дзедам А. Статкевіча-Чабаганава Міхаілам Іванавічам Сацкевіч-Статкевічам. А потым была рэвалюцыя, калектывізацыя. Шляхту вывезлі. Некаторых расстралялі. Засмужжа, у якім было больш за сто хат, пачало пусцець. А тут яшчэ гітлераў-

ская акупацыя. Пасля вайны ў пачатковай школе ў тым класе, у якім вучыўся А. Статкевіч-Чабаганаў, было ўсяго пятнаццаць вучняў. Цяпер ужо ніводнага вучня, дый самой школы няма.

Анатоль Васільевіч расказаў, як некалькі год назад наведаў свайго школьнага таварыша Мікалая Марціновіча, пенсіянера ўжо. Якраз працаваў над кнігай пра таленавітага прадстаўніка інсітнага мастацтва, таксама Марціновіча, толькі Паўла. Таварыш А. Статкевіча-Чабаганава, ледзь не плачучы, сказаў, што ў Засмужжы жыве ўсяго чатыры чалавекі, і з болем дадаў: «Адыдуць яны, не стане вёскі. Згіне памяць, згіне вёска…»

Тады і падумаў Анатоль Васільевіч, што ў кнізе пра П. Марціновіча трэба расказаць і пра родную вёску. Зрабіць гэта лепш за ўсё, змясціўшы здымкі яе колішніх жыхароў. Кожны ж чалавек сам па сабе цікавы. Так і з’явіўся ў ёй своеасаблівы летапіс адной вёсачкі. Як бы кніга ў кнізе. Дакладней, фотаальбом у ёй. Цяпер А. Статкевіч-Чабаганаў працуе над другім выданнем гэтай кнігі. Мяркуе дапоўніць яе здымкамі тых жыхароў, якія ў першым выданні не былі прадстаўлены. Каб нікога не забыць за ўсе 120 гадоў існавання Засмужжа. Дый шмат пра каго што-небудзь напісаць. Каб можна было паглядзець у вочы чалавеку і нешта пра яго даведацца. Анатоль Васільевіч падказаў рэдакцыі часопіса «Полымя» цікавую ідэю: знайсці на яго старонках месца тэме знікаючых вёсак і рэгулярна пра іх расказваць.

**Кандыдат філалагічных навук, літаратуразнаўца Леанід Гаранін** упэўнены, што літаратура павінна не проста звяртацца да важных тэм, а імкнуцца да таго, каб паказваць тое чалавечнае, што ёсць у нашым, на яго думку, бесчалавечным часе. Але каб гэта ўбачыць, у першую чаргу неабходны талент. Аднак гэтага таленту чамусьці нестае. Можа таму, што адбываецца нейкая інфармацыйная рэструктурызацыя свядомасці. У эпоху інфармацыйных тэхналогій, рускамоўнасці, вялікай плыні рускамоўнай літаратуры ўзрастае месца часопіса «Полымя», які склаўся як свайго роду беларускі «Новый мир» і прайшоў за савецкі час з народам усю гісторыю. Што да акадэмічага літаратуразнаўства, то ў «Полымі» пастаянна была літаратурная крытыка, але крытыка і акадэмічнае літаратуразнаўства не заўсёды сыходзяцца ў нешта пэўнае. Бываюць перыяды, калі яно адыходзіць ад крытыкі, становіцца нейкім, як бы сказаць, больш завучаным, а часам робіцца больш эсэістычным, больш публіцыстычным, больш гэткім крытычным. Тады адбываецца выхад на шырэйшыя магчымасці для чытацкай аўдыторыі.

Адзначыў Л. Гаранін і тое, што сярод усіх «вакаўскіх» часопісаў «Полымю» належыць выключнае месца. Для прыкладу, у «Весці» можна пісаць, як таго хочаш, бо іх чытаюць спецыялісты-навукоўцы. Іх цікавіць толькі сам па сабе навуковы змест пэўнага артыкула, на форму падачы матэрыялу яны не звяртаюць увагі. Свой чытач і ў часопіса «Роднае слова», які даўно з’яўляецца «вакаўскім». У ім друкуецца тое, што настаўнік «панясе» на ўрок. «Полымя» ж зарыентавана на шырокую аўдыторыю, разлічана на чытача, якому павінна быць усё, што пададзена, цікава чытаць. Таму гэта ставіць перад навукоўцам, які збіраецца быць ягоным аўтарам, іншую задачу. Але не кожны здатны яе вырашыць так, каб напісанае было чытэльным.

**Паэт, празаік, публіцыст Зіновій Прыгодзіч** пачаў сваё выступленне так: «Сёння на вуліцы беларускага прыгожага пісьменства — свята. Выйшаў 1000-ы нумар «Полымя» — нашага галоўнага і самага паважанага літаратур-

нага часопіса. Тысяча нумароў… Гэта своеасаблівая творчая вяршыня ў тысячу прыступак. І каб дайсці да гэтай вяршыні, спатрэбілася больш за 90 гадоў. Цэлае чалавечае жыццё! І па чалавечых мерках — гэта ўжо глыбокая сталасць. Але феномен «Полымя» заключаецца ў тым, што, займеўшы разважлівасць і мудрасць, часопіс па-ранейшаму застаецца маладым, па-юначы няўрымслівым, у пастаянным творчым пошуку, у рамантычным парыванні да новых літаратурных адкрыццяў. Сведкамі гэтых адкрыццяў мы былі з вамі не раз, калі захоплена чыталі раманы пра жыццё заходнебеларускай вёскі, калі спазнавалі малавядомыя старонкі жыцця і творчасці нашых класікаў, калі разам з аўтарамі ішлі незнаёмымі сцежкамі роднага краю, калі знаёміліся з творчасцю маладых, тых, каму належыць будучыня нашай літаратуры».

Зіновій Кірылавіч прызнаўся, што яго вельмі трывожыць стан нашай маладой прозы і паэзіі. Асабліва паэзіі. Стала модна пісаць пра сябе, займацца сабою, эстэтызаваць самалюбаванне. Выразна прабіваецца тэндэнцыя — адарваць сучасную паэзію ад рэальнасці, перавесці яе на рэйкі фарматворчасці. На шчасце, гэтая хвароба абмінула старонкі «Полымя», дзякуючы добраму мастацкаму густу і высокай патрабавальнасці супрацоўнікаў. Але гэта не значыць, што часопіс павінен стаяць убаку ад гэтай праблемы. Трэба актыўна процідзейнічаць разбуральнай тэндэнцыі. Трэба спакойна і доказна раскрываць маладым вочы на тое, што яны робяць і куды ідуць. Кваліфікаваных, аўтарытэтных аўтараў для такой работы ў «Полымі» хапае. Рэдакцыя часопіса любіць і ўмее працаваць з аўтарамі. Каб не быць галаслоўным, З. Прыгодзіч спаслаўся на свой асабісты прыклад.

Гадоў пяць таму ён прынёс у «Полымя» невялікае інтэрв'ю з Васілём Быкавым. Прачытаўшы яго, галоўны рэдактар Мікола Мятліцкі зрабіў некаторыя заўвагі, але ў цэлым тэкст ухваліў. І калі З. Прыгодзіч ужо збіраўся ісці, нечакана прапанаваў:

— Слухай, а чаму б табе не ўзяцца весці ў нас рубрыку «Постаці»? Мы так рэдка расказваем пра нашых знакамітых дзеячаў культуры. А калі і расказваем, то часцей за ўсё толькі пра іх творчасць. А гэта надзвычай яркія, рознабаковыя асобы…

Тады ж з М. Мятліцкім яны абгаварылі не толькі кандыдатуры будучых «герояў», але і структуру такіх матэрыялаў, іх канцэпцыю, іх ідэйную і мастацкую накіраванасць. Так нарадзіўся цыкл гутарак «Постаці». Гутарак-нарысаў, гутарак-творчых партрэтаў пра нашых выдатных творцаў, сапраўдных падзвіжнікаў нацыянальнай культуры. Нарадзіўся дзякуючы таму, што галоўны рэдактар у сціплым інтэрв'ю змог убачыць больш шырокую, больш значную задуму, натхніць і накіраваць аўтара па гэтай дарозе. Такой жа захопленасцю, адданасцю сваёй справе, па словах З. Прыгодзіча, вызначаецца і ўвесь калектыў рэдакцыі — Уладзімір Мазго, Уладзімір Саламаха, Вадзім Спрынчан, Алесь Марціновіч.

«Выхад у свет 1000-га нумара часопіса «Полымя» — знакавая падзея ў гісторыі і самога часопіса, і ўсёй творчай інтэлігенцыі, і, думаецца, кожнага беларуса, — заўважыў **доктар філалагічных навук, літаратуразнаўца, паэт Валерый Максімовіч.** — І ў нас ёсць шчаслівая нагода паразважаць, акінуць позіркам пройдзены шлях, ацаніць тую ролю і той унёсак, які зрабіў часопіс за шматгадовы перыяд свайго існавання ў культурна-асветнае, літаратурна-грамадскае жыццё краіны. Відаць, з вышыні ўжо нашага часу адкрываецца тая ісціна, што часопіс з яго ўстаноўкай на працяг закладзенай папярэднікамі традыцыі, у яе шырокім значэнні, на прапаганду высокіх узораў мастацтва,

фактычна ўзяў на сябе місію аб’яднальніцкую, кансалідуючую і зараз працягвае ісці курсам умацавання дыялогу ўсіх здаровых літаратурных сіл, курсам стваральнай творчай працы. За час свайго існавання выданне стала сапраўднай адкрытай трыбунай, з якой могуць сказаць сваё жывое і шчырае слова настаўнікі і школьнікі, прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, маладое і старэйшае пакаленне, студэнцкая моладзь, ветэраны вайны і працы, вядомыя грамадскія і дзяржаўныя дзеячы, пісьменнікі, крытыкі, публіцысты».

«Станаўленне і развіццё часопіса, — працягваў В. Максімовіч, — адбывалася разам з фарміраваннем і ўмацаваннем нашай дзяржаўнасці, з развіццём розных сфер жыцця, уключаючы эканамічную, культурную, навукова-адукацыйную, ідэалагічную. Але галоўнае тое, што на старонках часопіса друкаваліся матэрыялы, якія адлюстроўвалі подых часу, яго стрыжнявую сутнасць, узнаўлялі па-грамадзянску смела і бескампрамісна балючыя, драматычныя і трагічныя старонкі нашай айчыннай гісторыі. Тут годна прапісаліся творы, якія па-мастацку глыбока, ярка, пераканаўча ўзнаўлялі пярэстую, шматфарбную карціну жыцця, адкрывалі новыя лакуны ў няпростым мастацкім спасціжэнні сучаснасці, складаных перыпетый чалавечых лёсаў і характараў.

Гісторыя «Полымя» — гэта яскравы адбітак поспехаў нашай літаратуры ў яе высокіх, класічных узорах. Ва ўсе часы часопіс гуртаваў вакол сябе лепшыя творчыя сілы краіны, імкнуўся быць першапраходцам у раскрыцці многіх тэм, праблем, а рэдакцыя прыкладала ўсе намаганні, каб наладзіць канструктыўны дыялог з сучаснікам. Пераканаўчае сведчанне таму — выдатныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, З. Бядулі, І. Мележа, В. Быкава, І. Шамякіна, якія з’яўляліся на яго старонках. На сапраўдных узорах чалавечнасці, высакароднасці, патрыятызму і грамадзянскасці выхоўвалася не адно пакаленне беларусаў. Гэтыя творы і сёння вучаць падрастаючае пакаленне жыць сумленна, годна, па-чалавечы, памятаючы свае радавыя карані, сваю гісторыка-культурную спадчыну.

Сёння на розных узроўнях вядзецца размова пра ўмацаванне нацыянальнай бяспекі, пра захаванне і развіццё традыцыйных духоўных каштоўнасцей, нацыянальнай ідэнтычнасці. У сітуацыі актывізацыі антыграмадскіх праяў бездухоўнасці, жорсткасці, насілля асаблівую значнасць і важнасць набывае праблема захавання ментальнага, духоўнага свету сучаснага чалавека, яго каштоўнасных арыентацый, маральных якасцей, актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Ужо на парадку дня становіцца задача «ачалавечвання» чалавека, наўпрост звязаная з больш наступальным культываваннем духоўнасці, агульнапрынятых норм маралі, этыкі, — усяго таго, што павінна мацаваць стрыжань унутранага свету чалавека, пазітыўна ўплываць на яго эмацыянальна-пачуццёвы стан, сэнсажыццёвыя арыентацыі, перакананні, учынкі і паводзіны. І творы, якія друкуюцца на старонках часопіса, адыгрываюць ва ўсім гэтым незаменную светапоглядную і выхаваўчую ролю».

Валерый Максімовіч упэўнены, што «самай важнай, галоўнай місіяй, якую цягам доўгага часу выконваў часопіс і якую працягвае выконваць, — гэта рабіць усё дзеля прапаганды і развіцця нацыянальнай літаратурнай і культурнай традыцыі, захавання бесперапыннай сувязі з духоўнымі набыткамі ранейшых пакаленняў, абагачэння ідэй айчынных будзіцеляў, прарокаў, праметэяў духу. Арыентацыя на нацыянальную літаратурную традыцыю, культывацыя гістарычных, сакральных архетыпаў, міфалагем, вобразаў-сімвалаў мае звышістотнае значэнне для жывучасці, перспектыўнасці ўвогуле

беларускага мастацкага слова — слова Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча. Гэта нашы духоўныя карані, наш падмурак, наш «прамацярынскі» ген, базіснае ядро, дзякуючы чаму мы можам захоўваць сябе, сваю самасць, сваю нацыянальную ідэнтычнасць».

Ён упэўнены, «што зварот да класічнай паэтычнай традыцыі, працяг і абагачэнне яе выступае важным, незаменным складнікам захавання ўстойлівага менталітэту нацыі. Традыцыя набывае якасць аднаго з найважнейшых інструментаў сэнсава-жыццёвага спасціжэння свету, становіцца перадумовай паспяховай сацыялізацыі суб'екта ў межах канкрэтнай нацыянальнай культуры. І часопіс прыкладае шмат намаганняў, каб умацоўваць нашы спрадвечныя карані, нашу родавую памяць, каб захоўваць сувязь часоў, сувязь пакаленняў. Гэта важная і высакародная справа, якую патрэбна ўсяляк падтрымліваць.

Непрымірымым апанентам традыцыі, на мой погляд, выступае постмадэрнісцкая літаратура, якая не прызнае ніякіх эстэтычных і этычных табу і спрыяе ператварэнню самой сябе ў крыніцу разбэшчвання душ праз навязванне паталогіі і дэградацыі ў самых нізкіх іх праявах. Замест здаровага сэнсу і сур'ёзных разваг гэтая, з дазволу сказаць, літаратура прапануе нізкапробны сурагат, займаецца ёрнічаннем, самапарадзіраваннем, густа-часта не з самых добрых намераў прыбягаючы да іроніі, чорнага гумару, гульні. Вялікі грэх яе ў тым, што яна зло, хаос, ідавочную пустальгу ўзводзіць у абсалют, фетышызуе іх. Яна не прызнае жыццёвай праўды, сумленнасці, людской дабрачыннасці, а карыстаецца такімі таннымі, заганнымі прыёмамі і спосабамі мастацкага выяўлення, якія не нясуць пазітыўны зарад, адмаўляюць перспектыву росту чалавечай душы, не запальваюць у сэрцы агеньчык неўміручага ідэалу».

«Да гонару часопіса, — адзначыў В. Максімовіч, — ён сумленна і годна трымае сваю марку, імкнецца прапагандаваць тое спаконвечнае, сумленнае, высакароднае, што не дае распасціся душы, прызвычаіцца да бруднага, агіднага, нізкага. З неаслабнай увагай заўсёды сачу за новымі падборкамі на старонках часопіса вершаў нашых карыфеяў Міколы Мятліцкага, Міхася Пазнякова, Міколы Чарняўскага, Віктара Гардзея, Генадзя Пашкова, Міхася Башлакова [...] Актуальнымі падаюцца і тыя крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, якія тычацца сённяшняга стану літаратуры і злабадзённых праяў нашай сучаснасці. І, канешне, заўсёды ў пашане глыбокая і сур'ёзная аналітыка, глыбокія зацікаўленыя развагі пра дзень сённяшні і заўтрашні, пра нашы поспехі ў розных галінах навукі і тэхнікі, аграрным сектары эканомікі.

З асаблівым трымценнем чакаеш палымянскіх дэбютаў, першых публікацый маладых аўтараў. Радуе, што сярод маладых ёсць даволі амбітныя, таленавітыя, сур'ёзныя творцы, якія з усёй адказнасцю і ўнутранай патрабавальнасцю ставяцца да сваёй справы.

Думаю, не варта паслабляць працу з рэгіёнамі. Нататкі пра мінулы і сённяшні дзень розных куткоў Беларусі ўспрымаюцца з непадробным інтарэсам і цікавасцю.

Не ведаю, як іншым, а ўласна мне хацелася б, каб часопіс «Полымя» меў магчымасць выдаваць свой літаратурны альманах. Бо пры ўсім пры тым дэфіцыт такога выдання пад патранажам дзяржаўнай установы існуе. Гэта б змагло актывізаваць літаратурны працэс, прыцягнуць новыя сілы, адкрыць новыя таленты. Гэта і магчымасць для больш мабільнай адваротнай сувязі з чытачом.

Часопіс і сёння застаецца на бестэрміновай перадавой, на вастрыні часу — «на паўмільярдным кіламетры, паміж наступным і былым» (А. Куляшоў). У сваю арбіту ён імкнецца прыцягваць самыя актуальныя, злабадзённыя праблемы, якія тычацца розных кірункаў развіцця грамадства, нашай нацыянальнай літаратуры і літаратур іншых народаў. Значнасць і запатрабаванасць гэтай працы відавочная».

**Дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Вячаслаў Даніловіч** звярнуў увагу на тое, што часопіс «Полымя» мае вялікае значэнне і з гістарычнага пункту гледжання, бо з'яўляецца каштоўнай крыніцай, якая дазваляе адчуць тую атмасферу, што існавала і на Беларусі, і ва ўсім Савецкім Саюзе ў розныя перыяды. Гэтыя звесткі з поспехам можна выкарыстоўваць у навуковых гістарычных даследаваннях. Калектыў рэдакцыі і на сённяшні дзень робіць вельмі шмат па padагульненні нашай багатай гісторыка-культурнай спадчыны.

Увогуле, «Полымя» — гэта той агмень, на які павінна арыентавацца наша грамадства. Праўда, неабходна клапаціцца пра тое, каб часопіс меў як мага большы ўплыў на самую шырокую аўдыторыю. Важна праводзіць і такія мерапрыемствы, як гэты «круглы стол», а не толькі друкаваць пэўныя матэрыялы, няхай і вельмі значныя сваёй праблематыкай. Нельга забываць, што цяпер вядзецца глабальная інфармацыйная вайна супраць традыцыйных каштоўнасцей грамадства. У гэтым накірунку «Полымя» таксама павінна гаварыць сваё важкае і аўтарытэтнае слова. Разам з тым нельга абыходзіць увагай і нейкія адмоўныя з'явы, а даваць ім адпаведную аб'ектыўную ацэнку. Бо калі іх не заўважаць, дык сёй-той падумае, што так і павінна быць.

Вячаслаў Даніловіч адзначыў, што ў Інстытуце гісторыі шмат увагі надаецца гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Па гэтай праблеме напрацаваны велізарны матэрыял. Нядаўна выйшла другая кніга двухтомніка «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці». Аб'ектыўна паказана, якія формы дзяржаўнасці існавалі, як трэба ставіцца да іх з навуковага пункту гледжання. Праведзены «круглы стол» з актывам Рэспубліканскага аб'яднання «Белая Русь», што таксама прысвечаны гэтай тэме. У працэсе абмеркавання высвятлялася, якую ролю ў фарміраванні беларускай дзяржаўнасці адыгралі Полацкае княства, Кіеўскае княства, Вялікае Княства Літоўскае, Беларуская Народная Рэспубліка, БССР. У сувязі з гэтым, сказаў В. Даніловіч, магчыма, карысна і мэтазгодна перыядычна даваць аб'ектыўны навуковы артыкул, з якога можна было б даведацца, што гэта была за дзяржава ў той ці іншы перыяд, якую ролю яна адыграла для нас, беларусаў.

Некаторыя прамоўцы ў сваіх выступленнях, зазіраючы ў заўтрашні дзень «Полымя», гаварылі пра тое, што ў будучым часопіс будзе не такім, як сёння. Меўся на ўвазе не толькі змест выдання, колькі тое, у якім варыянце ён будзе прыходзіць да чытача — у традыцыйным папяровым, альбо ў электронным, ці ўвогуле апошні цалкам выцесніць першы.

Не абышоў гэтага моманту і **намеснік дырэктара-галоўны рэдактар часопіса «Нёман» РВУ «Выдавецкі Дом «Звязда» Алесь Бадак**, які не сумняваецца, што літаратурным часопісам наканавана доўгае жыццё. І не так важна, якімі яны будуць. Магчыма, перавага будзе аддадзена электроннаму варыянту. Як прызнаўся ён, і сам у інтэрнэце чытае многія маскоўскія

і ўкраінскія часопісы. І таму, што яны на Беларусь прыходзяць са спазненнем, і таму, што не такія і танныя. А ці цалкам пераможа электронны варыянт?

Алесь Бадак прыгадаў размову, якая некалькі гадоў назад адбылася ў яго з вядомым спеваком, цяпер, на жаль, ужо нябожчыкам, Якавам Навуменкам. Тады спевакі акурат пачалі запісваць песні ў сваім выкананні не на плёнку, а на камп'ютар. На пытанне, як ён ставіцца да гэтага, Я. Навуменка адказаў: «Алесь, у запісе на камп'ютары няма душы. На плёнку яна перадаецца, а на камп'ютар не перадаецца». Тое ж самае, бадай, можна сказаць пра папяровыя і камп'ютарныя варыянты друкаваных выданняў. Часопіс не проста фіксуе той ці іншы твор на паперы. Ён фіксуе сам час. А ўвогуле часопіс — гэта люстэрка літаратуры, а літаратура — найперш сам пісьменнік, аўтар.

**Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша** гаварыў пра набыткі «Полымя» за доўгія гады. Звярнуў ён увагу і на тое, што неабходна зрабіць дзеля таго, каб часопіс карыстаўся большай папулярнасцю ў чытача. Часцей трэба ладзіць падобныя сустрэчы. Не лішняй будзе прэзентацыя асобных нумароў. Ды арганізацыя сустрэч з аўтарамі цікавых публікацый. Апроч таго, трэба прыцягваць для прапаганды часопіса сродкі масавай інфармацыі. І не толькі тыя, што выходзяць на Беларусі.

Падагульняючы вынікі гаворкі, **М. Мятліцкі** адзначыў, што адбылася вельмі карысная і патрэбная размова, якая тычыцца як будучыні часопіса «Полымя», так і ўсёй беларускай літаратуры. Бо, калі не «згасне» «Полымя», дык не «згасне» і нацыянальнае прыгожае пісьменства. Наперадзе, канечне, новыя юбілеі нашага старэйшага часопіса. Гэтаксама будзе над чым разважаць, што падагульніць. На жаль, мастацкіх твораў, якія заслугоўваюць увагі «Полымя», апошнім часам становіцца меней, у чым сказваюцца розныя прычыны, але, нягледзячы ні на што, рэдакцыя часопіса будзе высока трымаць планку мастацкасці, тым самым зноў і зноў сведчачы, што «Полымя» ёсць «Полымя».

*Справаздачу з «круглага стала» падрыхтаваў*
***Алесь МАРЦІНОВІЧ.***



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЛІХАЛЕЦЦЕ*

*Раман*

## XII

Падзеі развіваліся паскорана. З усходу ўсё больш выразна чуўся гул артылерыйскай кананады, якая то аціхала, то зноў узмацнялася, выбухала бліжэй і больш упэўнена і грозна. Па Камянецкім гасцінцы цягнуліся адступаючыя калоны гітлераўскіх салдат, каціліся абозы, тэхніка. Знікла адміністрацыя — Шрубэ, Мандрашчак, Пыр і астатнія. Аднойчы пад вечар у Прусцы спыніўся нейкі нямецкі франтавы аддзел. Франтавікі, маўклівыя, панурыя, размяркоўваліся па хатах на адпачынак. Ліпень, сярэдзіна лета, а яны — не былі б гэта немцы — ціснуліся ў хаты, пад дах. На голую падлогу класціся не згаджаліся, патрабавалі, каб што падаслаць. Лявон прынёс некалькі вязак саломы, разаслаў па хаце. Успомніў, магчыма, што калісьці і ён сам быў франтавіком і як гэта было нялёгка. А ворагі, змораныя і насупленыя, ішлі і ішлі як заведзеныя, без канца. Усе ў брудных шынялях, глыбокіх страхотлівых касках, з аўтаматамі на шыях.

Валодзік з-за печы пазіраў, як яны, не распранаючыся, клаліся на салому і маўчалі, засынаючы мёртвым сном. Некаторыя працяжна храплі, стагналі, нібы хтосьці іх там, у сне, душыў ці яны душылі кагосьці. Гаспадарам у хаце ўжо не заставалася месца. Фёкла ўзяла ўнука за руку і павяла начаваць у схрон, які выкапалі ў садзе. За імі пайшоў і Лявон.

Пад раніцу, толькі пачало днець, недзе з боку Камянца зноў пачуўся гул гармат. Снарады з завываннем ляцелі над Прускай кудысьці ў бок Брэста. Гэта ўжо працавала савецкая артылерыя. Адзін снарад бухнуў за карчамі, на поплаве, развярнуўшы вялікую яміну. Немцы — адно з двух — ці беспрабудна спалі, зарыўшыся ў салому, ці чакалі каманды. Нарэшце яна прагучала. Нямецкі афіцэр гаркнуў на падворку, не заходзячы ў хату:

— Aufstein![1]

І тут жа з хаты пачалі, як семкі з гарбуза, выскокваць немцы, што спалі там, і акуратна станавіцца ў калону.

Лявон з Фёклай, і Валодзік з імі, назіралі праз шчыліну, прыадчыніўшы дзверы схрона.

Каманда — і калона рушыла. Праз нейкі час пачуўся недалёкі выбух. У вокнах азваліся шыбы. Гэта адступаючыя ворагі ўзарвалі за сабой масток праз Плісу.

---

* Працяг. Пачатак у № 6—12, 2012 г., № 1—2, 4—5, 2013 г.

[1] Пад'ём! *(ням.)*

У Прусцы зноў запанавала безуладдзе, але не надоўга. Удар Саветаў, як тут называлі Чырвоную Армію, быў вельмі імклівы. Учора яшчэ па хатах спалі зацята-маўклівыя немцы, а праз ноч, на раніцу, праз вёску ўжо ішлі Саветы. Магутная лавіна людзей і тэхнікі кацілася, узнімаючы пыл і напаўняючы сабою вёску. Прусцы пашанцавала: вёска ацалела — людзі, дрэвы, пабудовы. Шырокаю, паўнаводнаю ракою рухалася войска. Гэта былі байцы 218-й стралковай дывізіі генерал-лейтэнанта Уладычанскага Антона Сцяпанавіча.

Лявон запомніў гэты дзень: 5 ліпеня 1944 года, серада.

Іх ішло незлічонае мноства. У расшпіленых гімнасцёрках, нагружаныя шынельнымі скаткамі, рэчмяшкамі, сапёрнымі лапатамі, кацялкамі і іншай амуніцыяй. За спінамі — доўгія вінтоўкі з прывінчанымі рабрыстымі штыкамі. Хто — у ботах-кірзачах, хто — у абмотках. У некаторых на папругах матляліся гранаты.

Трактары цягнулі за сабой гаўбіцы. Праехала з пашчапанымі бартамі палутарка, за ёю санітарная машына.

Ліпень звычайна месяц навальніц, а ліпень 1944-га з самага пачатку выдаўся сухім і гарачым. З раніцы ўсё больш прыпякала сонца, а далей, пад поўдзень, устанавілася невыносная гарачыня. Ні хмаркі, ні аблачынкі, ні ветрыку. Ад спёкі і пылу пашарэла трава і лісце дрэў. На выцвілых гімнасцёрках цямнелі пляміны ад поту. Вайскоўцы былі змораныя, недаспаўшыя, але вясёлыя. З усіх бакоў — песні, жарты, досціпы, і зусім не дакучала гарачыня. З хат і схронаў павыходзілі на вуліцу прускаўцы. Жанчыны выносілі вайскоўцам малако, хлеб, квас. «Нашы! — радасна хвалявалася Фёкла, частуючы ўсмешлівага салдаціка малаком са збанка, і з задавальненнем пазірала, як спакваля рухаўся яго кадык. — Нашы саколікі! Нарэшце! Ой, сынкі нашы родныя! Доўга мы вас чакалі…»

— Якая гэта дзярэўня? — спытаў салдацік з чорнымі раскосымі вачыма і змятымі пагонамі. Мова ў яго гучная і моцная.

— Пруска.

— Пруска? Пашкадавалі мы вас! Хацелі з арцілерыі ўдарыць па фашыстах, а патом думаем: «Насяленіе! Жалка!». А хацелі гахнуць!

— От і добра, што не гахнулі, а то не піў бы малака! — гаманіла побач Хомчыха, якая таксама стаяла са збанкам. — Не было б каму вынесці!..

— Да, мамаша! — згадзіўся чырвонаармеец, зняў з галавы зашмальцаваную пілотку, ударыў аб калена і страсянуў віхрастай, пасівелай ад пылу чупрынай. — Аднак забалтаўся я з вамі. Ну, мне пара! — Павярнуўся і пабег даганяць сваіх.

— Вайна! — услед яму сказала Хомчыха і ўздыхнула. — Ой, людкове! Няма чалавеку часу. Спяшаюцца!

Жанчыны, хто паспеў падаіць карову, выносілі малако, налівалі на хаду ў кацялкі, працягвалі хлеб. Некаторыя запрашалі ў хату: «Заходзьце ў хату!» Частавалі свежымі гуркамі і даспелымі вішнямі. На хаду. Заходзіць у хату не было часу. Хомчыха пайшла па ваду. Фёкла ж кагосьці чакала, прыслухоўвалася да гаворкі, углядалася ў твары, у аблíччы. Тут жа стаяў, рана прачнуўшыся, унук Валодзік.

— Здарова, пацан! — усміхнуўся яму, ідучы, адзін з вайскоўцаў з чырвонымі ад бяссонніцы вачыма. — Ну, таварышы, — звярнуўся ён да жанчын, — як вы тут?

— Нацярпеліся! — за ўсіх адказала Фёкла.

— Панятна!

— Хлябнулі гора!

— Ну, цяпер будзе лягчэй! — кінуў вайсковец на хаду, не спыняючыся.

— Ты халасты? — не стрымала цікаўнасці Хомчыха, якая паспела вярнуцца і трымала ў руках гладышку з вадой.

— Цяпер усе мы халастыя, наша жонка — вайна.

Пачулася:

Ой, хмелю ты хмелю-ю,
Хмелю зеляненькі-і…

Гэта спявалі салдаты, спявалі на хаду. Шырока, з краю ў край, лілася песня. Хваліста гучалі галасы, пярэднія пачыналі, заднія падхоплівалі... У Фёклы з вачэй паліліся слёзы. Спадзявалася: а раптам хто з роднай стараны, з Запалоннага! Не родзіч нават, а хаця б зямляк. Каля яе і Валодзіка прыпыніўся на момант нейкі, відаць, цікаўны чырвонаармеец, бо спытаў:

— Што, мамаша, ждзёш каво-та?

— Жду з Расеі, — прамовіла жанчына, кончыкам фартушка выціраючы слёзы. Малако ўжо скончылася, і Фёкла прапанавала вады, зачэрпнуўшы конаўкай з вядра. Чырвонаармеец выпіў, абцёр рукавом вусны, пасміхнуўся.

— Да мы-та і есць Расея! — патлумачыў ён. — Расея бальшая, я, прымерам, горкаўскі. Горкаўскай вобласці.

— Мне, каб хто з Самарскай.

— Спрашывай! Павінны быць! — чырвонаармеец паправіў за плячыма вінтоўку і рэчмяшок і спорным крокам кінуўся за сваімі.

Фёкла працягвала дапытвацца, ён адказвалі:

— Разанскія мы!

— Валагодскі!

— Калужскія!

— З Урала!

— Сібірак я, мамаша!

Нарэшце ўсё ж такі пашанцавала:

— Я з Куйбышаўскай вобласці! — прызнаўся вузкавокі, свойскі з выгляду вайсковец.

— З Куйбышаўскай?

— Так точна.

— Можа, з Борскага раёна?

— З Бузулукскага.

— Дык гэта ж, радзімый, побач! А прозвішча тваё як?

— Забалтаеў я.

— Не чула.

— Я, мамаша, ад Сталінграда топаю, самога Паўлюса ў палон браў! А як вы думалі!

— Ай-яй! — падзівілася Фёкла, не надта ведаючы, хто такі гэты Паўлюс.

— А цяпер у Берлін іду. У логава! Вот так, землячка! Гонім фрыца!..

— Ой, сынок, галодны ты, напэўна?

— Не, мамаша, не беспакойся! Вадзічкі — пап’ю!

Фёкла зноў вынесла вады. Чырвонаармеец выпіў цэлую конаўку, выцер вусны.

— А як там, на радзіме?

— Ціжало. Іссташчалі.

— Ой, што ж гэта будзе?

— Выжывем!

Падышоў Гамон, прыслухаўся да іх размовы і падступіўся бліжэй.

— У вас жа калхозы, — сказаў ён.

— Калхозы, — згадзіўся чырвонаармеец. — Есць разгавор, што будта пасля вайны калхозаў не будзе.

— Калісьці камуны былі, і жылі няблага.

— Гэтага я, ацец, не помню, даўно гэта было.

Чырвонаармеец яшчэ раз зачарпнуў з вядра — вада была свежая, халодная, з калодзежа, — папіў і, падзякаваўшы, пабег.

— Дзіва што! — як заўсёды глыбакадумна зазначыў Гамон і дадаў, прыцмокнуўшы: — Сіла вялікая!

— Мусіць, на Берасць ідуць! — азваўся з-за плота Хомчышын Апанас.

Фёкла думала пра сваё: «Родныя! Што ж што бальшавікі. А можа, гэта ўжо не бальшавікі? Тыя былі без пагонаў, а гэтыя ўжо з пагонамі. Даўняе ўспомнілі, апамяталіся, перайначыліся, паразумнелі! Вунь вы якія вясёлыя, дужыя, пракідкія, і вораг уцякае ад вас без аглядкі. Цяпер усё павінна быць добра, і людзі, і жыццё…»

А салдаты ўсё ішлі і ішлі. Над наваколлем вісела тонкая, але густая намітка пылу, які ўкрываў і дарогу, і праслы платоў, і дрэвы, і звернутыя да сонца пышныя кароны сланечнікаў на агародах. Гарачыня, спёка, духата. У гародчыку перад вокнамі пасохлі фіялкі, звялі вяргіні, зелянела толькі мята.

«Самлець можна ад такой спякоты, — зноў падумала Фёкла, — а яны ідуць. Ды яшчэ якія вясёлыя, радасныя!..»

Недзе ў блакітнай вышыні, нябачны, звінеў, таксама радаваўся вызваленню, жаваранак.

Валодзік з сябрамі-равеснікамі (некаторыя былі і старэйшыя) пабеглі паглядзець на гасцінец. З боку Камянца на Ратайчыцы, абмінаючы прускаўскую царкву, неадольнай плынню рухаліся і рухаліся вайскоўцы з усім баявым начыннем, коньмі, фурманкамі, цягачамі з гарматамі. Але найбольш ішла пяхота. Сапёры заканчвалі будаваць мост праз Плісу, узарваны адступаючымі немцамі.

— Давай, давай! — прыспешвалі адзін аднаго. — Хутчэй.

— Тэхніка стаіць!

— Хутчэй!

Падлеткі загледзеліся на будаўніцтва і на тое, што адбывалася навокал. Войска — людзі і тэхніка — адольвалі невялічкую Плісу ўброд, плёхаліся, валтузіліся ў яе плыткай каламуці, дапамагалі коням, аўтамашынам, якія буксавалі і грузлі. Яшчэ больш узмацнілася гарачыня, і нават дзіўна было, што і без таго плыткая Пліса не высахла дарэшты. Паветра нібы плавілася, плыло над зямлёй, безразважна забіраючы ад яе апошнюю прысутнасць вільгаці.

Нарэшце мост быў гатовы. Першай уз'ехала на яго павозка з пажылым салдатам на козлах, які, спяшаючыся, гучна панукаў каня.

— Пробкін, давай! Не бойся! Не правалішся! — гучна падбадзёрваў фурмана вайсковец у гімнасцёрцы, падпяразаны шырокім рэменем. Відаць, камандзір.

— А правалішся — не ўтопнеш, выташчым, рэчка мелкая! — дадаў хтосьці.

Конь упарціўся, круціў галавой, але пайшоў. Мост — пад коламі і конскімі капытамі — азваўся гулкім дробатам з-пад колаў, ажно пошчак пайшоў па карчах. За фурманкай, пахістваючыся на хаду, праехала грузавая аўтамашына са снараднымі скрынкамі.

— Ур-ра! Ур-ра-а!

Тысячай салдацкіх глотак зазвінела, адгукнулася навакольная прастора, усе былі радыя гэтаму хай сабе і не буйному, не маштабнаму збудаванню, але якое клікала і вяло наперад, да недалёкай ужо перамогі. Мост запрудзіла людская плынь, і хлопчыкі ісці праз яго не адважыліся, а павярнулі назад, у вёску. Валодзік ізноў пабег разам з усімі.

Шумеў вайсковы люд:

— Уласаўца злавілі! Уласаўца злавілі! — чулася навокал.

Каля царквы, на дарожнай абочыне, не то сядзеў, не то ляжаў чалавек, апрануты ў вайсковую форму, падобную да нямецкай. Шэрага колеру фрэнч быў расшпілены. На галаве неахайна сядзела ссунутая на патыліцу памятая пілотка, з-пад якой выбіваліся русявыя валасы. Павекі апушчаныя, безуважны да ўсяго, што рабілася наўкол. Гэта і быў той, каго называлі ўласаўцам. Дзяцюк гадоў дваццаці, не болей, схуднелы і стомлены. Валодзік не ведаў, хто такія ўласаўцы, але старэйшыя, больш вушлыя падлеткі, паспелі ўжо дазнацца.

— Уласаўцы — гэта тыя, што на бок немцаў перайшлі, — тлумачыў Валодзька Хлябіч. — Рускія.

Чалавек зрэдку падымаў вочы, пазіраў перад сабой, але, здавалася, нічога не бачыў, клычыў у зубах травінку. Каля яго знаходзіўся чырвонаармеец у фуражцы з зорачкай на чырвоным аколышку і з аўтаматам. Відаць, вартаваў. Рукі ўласаўца былі, аднак, не звязаныя.

— «Смерш»[1] злавіў! — кінуў адзін з вайскоўцаў. — Расстраляюць! Уласаўцы — людзі без радзімы. Вунь пахавальная каманда ўжо капае.

Усіх надта ўразіла гэтае слова — «смерш». У ім адчуваўся нейкі злавесны сэнс. На пагорку пажылыя салдаты капалі ямку. Падобна было, што гэта для ўласаўца. Побач, за царкоўнай агароджай цвілі ліпы, разносячы навокал саладжавы пах.

— Спачатку, як водзіцца, дапытаць трэба, — сказаў няпэўнага ўзросту салдат з адной лычкай на пагонах, прыкурваючы самакрутку.

Падлеткі з жахам глядзелі на ўласаўца і на тое, што адбывалася. Чалавек, было зразумела, чакаў вырашэння свайго лёсу, па сутнасці смерці, і ім стала шкада яго. Яшчэ жывы, але праз колькі мінут ужо будзе мёртвы. Пад’ехала зялёная «палутарка», з кабіны выскачыў афіцэр і адразу ж дастаў з кабуры пісталет.

— Где? — рэзка спытаў ён.

«Зараз пачнецца! — падумаў Валодзік і адчуў, як ад страху задрыжэлі ногі. — Заб’е!..»

— У кузаў! — скамандаваў афіцэр, паказаўшы арыштаванаму пісталетам у бок машыны. — І ты разам з ім! — кінуў вартавому.

Уласавец цяжка падняўся, твар яго яшчэ больш пабялеў, стаў, як палатно. Пад канвоем, з апушчанай галавой, падышоў да машыны і, стаўшы на калясо, закінуў нагу ў кузаў. Разам з ім у кузаў падняўся вартавы з аўтаматам. Афіцэр сеў у кабіну, гучна ляпнуўшы дзверцай. «Палутарка» кранулася з месца, развярнулася і, ўзнімаючы пыл, пакацілася ў бок Камянца.

— У штаб павезлі, — перамаўляліся паміж сабой вайскоўцы.

— Кокнуць!

— Як раз плюнуць — кокнуць.

Прывезлі забітых — чатыры чалавекі. Аказваецца, гэта для іх капалі магілу, падобныя на вясковых дзядзькоў салдаты з пахавальнай каманды. Яны ж

[1] «Смерш» — карныя аддзелы ў Савецкай Арміі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны.

збівалі з дошак дамавіны і клалі ў іх забітых. Перад тым, як апусціць труны ў магілу, вайскоўцы, сярод якіх была і жанчына, гаварылі гарачыя, прачулыя прамовы. Пад канец, нацэліўшы вінтоўкі ў неба, далі салют, стрэліўшы залпамі ў паветра некалькі разоў.

* * *

Услед за пяхотай пацягнуліся абозы. Больш — на коннай цязе. Натомленыя коні з натугай валаклі павозкі з боепрыпасамі, зброяй, амуніцыяй, звозілі ў палявыя шпіталі параненых. Часам у павозкі былі запрэжаны валы, вярблюды, мулы. Дарога стала — пясок і калдобіны.

Некаторыя жывёліны былі ўжо настолькі нездаляшчыя, што іх даводзілася мяняць. З гэтай мэтай узброеныя і рашуча настроеныя абознікі хадзілі па гаспадарках, шукалі замены.

Зноў стаў Юша ў вайсковы строй, развітаўшыся з земляробчым заняткам. Працаваў ён у Кужалёў шмат, як і ўсякі конь у сялянскай гаспадарцы. У святы аднак адпачываў. За гэтыя тры месяцы знаходжання ў Лявона конік выладніўся і падужэў. У працы ён быў вельмі вынослівы, цягавіты і адданы гаспадару. Ужо нават адвык прыпадаць да зямлі, калі ў небе грымеў гром, як гэта ён рабіў спачатку. Юша дзелавіта і з апетытам жаваў сена, калі з'явіліся вайскоўцы-абознікі, і, вядома, не здагадваўся пра свой наступны лёс. Яго вывелі на прыгуменне. Адзін з абознікаў, у старым шынялі з абпаленымі поламі, сказаў:

— Конь таксама ўдзельнік вайны.

Юша зірнуў на яго сваімі прыгожымі вачыма, у якіх адбіўся сум, разуменне і бязмежная пакорлівасць.

— Галоўнае, каб хамут падышоў! — непакоіўся абознік, які, відаць, быў за фурмана.

— Ён сваё ўжо адвяяваў! — заступілася за Юшу Фёкла. — Гэта конь партызанскі, каўпакоўскі. Яны на ім ездзілі і нам пакінулі. Напаўжывога пакінулі. Кабылу забралі, а Юшу ўзамен.

— Ты ж ведаеш, маці, цяпер усё для фронту, усё для перамогі! — патлумачыў салдацік у абпаленым шынялі. — Гэта трэба разумець. Усякла?

— Усякла, — уздыхнула жанчына.

— Мы вас без лошадзі не аставім, дадзім каняку! — запэўніў другі. — На нём яшчэ пахаць будзеце…

І сапраўды. Узамен абознікі пакінулі маладую, але надта змардаваную кабылу па мянушцы Паня. Шэрсць на Пані была бурая, пад колер старога дрэва, і шорсткая, амаль каляная. На холцы віднеўся шрам ад кулі, якая, каўзануўшыся па ёй, крыху зачапіла і скуру.

— Нічога! — супакойвалі гаспадароў вайскоўцы, запрагаючы Юшу ў падводу. Хамут падышоў як трэба, у самы раз. — Не бядуйце! Ачуняе Паня, дык добрая лошадзь будзе.

На гэтым абознікі і развіталіся. Воз быў нялёгкі, і Юша, рвануўшыся з месца, пайшоў з пачатку неяк бокам, выломваючы спіну і сагнуўшыся, але потым, калі воз разагнаўся, конь распростаўся і ачомаўся, і ўсё стала на месца. Абоз крануўся ў свой шлях, а Юша, цягнучы воз, усё азіраўся на Лявона з Фёклай, і яны таксама яшчэ доўга і зычліва глядзелі яму ўслед.

17 ліпеня савецкія войскі, агінаючы Брэст з поўначы і акружаючы яго, пачалі фарсіраванне Буга, а 23 ліпеня, на досвітку, горад быў вызвалены.

## XIII

Юшу забралі, і ў гэты ж мітуслівы, поўны турбот дзень знікла ў Кужалёў цялушка. Вечарам не вярнулася з пашы. Не збродлівая, здаецца, а не прыйшла. Занепакоіліся — і Лявон, і Фёкла, і Валодзік. Ланьку, як звычайна, з раніцы выправадзілі з хлява, і яна пасвілася, разам з усім прускаўскім статкам, у карчах на Прыдатках. Там заставалася шмат травы, якую гэтым летам, пры набліжэнні фронту, не ўдалося пакасіць, і туды выганялі гавяду. Цэлы дзень Ланька, як сведчылі пастухі, была навідавоку, а пад вечар быццам недзе схавалася. Пайшлі шукаць, шукалі да цемнаты, абышлі ўсе паплавы, кустоўе, але безвынікова. Як збегла куды. Прыдаткі — па гэты бок Лосьны. Бераг тут спадзісты, рака ўлетку плыткая, усё магло здарыцца.

— А можа яна Лосьну ўброд перайшла ці пераплыла? — услых разважаў Лявон.

— Але ж Ланька, здаецца, не збродлівая, — паціснула плячыма Фёкла. — Да гэтага часу нядоеная. Як яна і трывае!

За плотам стаяла Хомчыха. Пачуўшы іх размову, выказала сваё меркаванне:

— З’елі ўжо, напэўна, кароўку — немцы альбо Саветы.

— Дык немцы, лічы, ужо за Бугам! — ускіпеў Лявон. — Як яны маглі з’есці?!

— А можа, каторы яшчэ тут па лесе бадзяецца. Дзе цяпер спакойна? Нідзе!

— Праўду кажаш, суседка, — пагадзілася Фёкла.

Ланьку на той бок Лосьны пайшла шукаць яна разам з унукам Валодзікам, Ланьку ўсюды пазнаеш: бурай масці, з белай галавой і бакі ў белых плямінах. Адправіліся з раніцы. Дзень абяцаў быць спякотным. Спусціліся да Лосьны, што бялела ад сонечнага святла, і пайшлі па сцяжынцы ўздоўж берага. Унук, узбуджана-радасны, бег паперадзе. Каля ракі гарачыня адчувалася менш. Ішлі басанож. Ля берага над вадою віліся, пераскокваючы са сцяблін на сцяблiну, вясёлкава апранутыя стракозы і белыя матылі. Пахла рыбай і водарасцямі. Зелянела атава. Свет цешыў сваёй радаснай шматколернасцю, і, калі б не клопаты, можна было б напоўніцу аддацца яго хараству і прыгажосці, але перашкаджала дакука з Ланькай. Фёкла ўздыхнула.

Раку перайшлі па кладцы каля Альберціна і зайшлі да Пацаў. Сустрэла Хвядося. Толькі што вярнулася з агарода, у шырокай кофце, загарэлая. З Фёклай яны не надта сябравалі, але кожнай нядзелі бачыліся ў царкве. Прапахлая пасля агарода сельдэрэем, Хвядося па нейкай прычыне выглядала таксама ўстурбаванай. Што ж, гаспадарка ў Пацаў немалая, клопатаў хапала на ўвесь летні дзень. Гаспадара Якава Арыстархавіча не відаць было, займаўся, мабыць, сваімі справамі.

— Якаў з Амброжыем у Петруся хаваюцца, — паведаміла Хвядося. — Ліхіх людзей цяпер шмат.

Пятрусь — брат Хвядосі, жыў непадалёку на лясным хутары.

— Падрос, — Хвядося кіўнула на Валодзіка, які трымаўся каля бабулі, здалёк пазіраючы на карцінкі па сценах і абразы ў покуце.

Хвядося — хросная маці Валодзіка. Фёкла лёгенька падштурхнула ўнука, і ён падышоў да хроснай, пацалаваў ёй руку. Такая даўняя традыцыя, знак пачцівасці.

— Падрос, — Фёкла прыгладзіла яршысты віхор на ўнукавай галаве, калі ён ізноў вярнуўся да бабулі.

— Дык прысядзьце, — запрасіла гасцінная гаспадыня, — зараз я вас тварагом пачастую, з мэдам. — Яна рукой паказала на стол, на які праз акно падала ранішняе сонца.

— Няма калі, — Фёкла ўздыхнула і, прысеўшы на лаўку, прытуленую да сцяны, расказала пра свой клопат: — Цялушка прапала, шукаем, з гэтага берага па-над ракою хочам прайсці. Можа, дзе ў лесе яна?..

— Можа, у карчы забілася? Тут карчоў шмат!

Хвядося спачувальна пахітала галавой, схадзіла ў камору, прынесла талерку з тварагом, палітым мёдам, і Фёкла з унукам паспыталі яе пачастунак.

— Смачна! — пахваліла Фёкла, але хутка паклала на стол лыжку, каб рэшту пакінуць унуку, якому пачастунак, відаць было, вельмі спадабаўся. Ён з'еў усё, што было ў талерцы.

Госці падзякавалі Хвядосі і рушылі далей, кіруючыся ў бок Бранавіч. Вырашылі наведаць Лявонаву сястру Барбару, якая жыла тут замужам за Хартонам.

Прыгожая дарога ў Бранавічы! Па абодва бакі яе абступалі высокія ніцыя бярозы. Злева стаяў пацаўскі сад — яблыні, грушы, слівы; справа, унізе, праз надрэчныя кусты, паблісквала вада ў Лосне. Раскошна купаліся ў сінім блакіце аблокі, адбіваючыся ў рачным люстры. А ў аблоках купаўся і пускаў свае залівістыя трэлі нястомны спявак-жаўранак.

За садам у мройным бляску дня жаўцела жытнёвае поле з рамонкамі і васількамі на ўзмежку. Побач ружавеў палетак канюшыны. За ім ішоў загон сінявокага льну. Усё стаілася ў цяжкай дрымоце, праз якую прабіваўся востры водар горкага рамонку.

Шкада, яшчэ раз падумала Фёкла, што турботы засланялі сабою гэтую прыгажосць. Бабуля з унукам ішлі, спатыкаючыся часам на вузлаватых бярозавых карэннях, якія перасякалі дарогу. Сонца пякло ў спіны і ў плечы. Ад гарачыні трымцела паветра.

Фёкла думала пра сваё і не заўважыла, як дарога перайшла ў затравелую сцяжыну і прывяла іх у Бранавічы.

Бранавічы — невялічкая вёсачка з адной вуліцай, паабапал якой стаялі шэрыя, пахілыя хаціны. Зайшлі да Барбары, яе хата, восьмая з краю, стаяла амаль пасярод вёскі. Хата — нізенькая, з маленькімі вокнамі. Дол у ёй гліняны. Жыла Барбара з Хартонам і дзецьмі небагата. Барбара была якраз дома. Апранутая ў парудзелую плюшаўку і доўгі андарак. Не пазнаць у ёй той няўрымслівай і гарэзлівай дзяўчыны, якой была Варка-Барбарка ў маладосці. Пастарэла, на схудалых руках набухлі цемнаватыя вены. Убачыўшы Фёклу, яна ціха ўзрадавалася, твар пасвятлеў ад цікаўнай, хоць і сумнаватай усмешкі. Яны пацалаваліся.

— Ой, саколка ты мая! — прыхінулася да залоўкі Барбара. Прыхінулася, пракаўтнуўшы слязіну і адчуваючы, як б'ецца ў залоўкі сэрца.

— А мая ты дарагая! А мая ты родная! — расчулілася, абдымаючы сваячку, Фёкла. — Бачымся рэдка…

— Час такі.

— Ой, час! Паглядзела ў люстэрка, па ліцу я ўжо старая.

— Фёкла! Што ж з табою!? — Барбара заламала перад грудзьмі рукі. — Ты ж уся пасівела… — Павільгатнелымі вачыма пазірала яна на братавую.

— Гэта вайна выбеліла, — уздыхнула Фёкла, заўважыўшы, што і ў Барбары на лбе і на скронях таксама дадалося маршчынак. Нацярпелася бедная ў пастаянных перажываннях, асабліва пасля таго, як Сеньку забралі ў Германію.

— Нацярпеліся, — азвалася Барбара, як бы пачуўшы тое, пра што думала залоўка, — ой, нацярпеліся…

— І вочы ўжо не тыя, не блішчаць, як калісьці, у маладосці нашай далёкай. Пацьмянелі…

— Ой, залоўка, не расчульвай, а то расплачуся…

І яны раптам сапраўды абедзве заплакалі, заплакалі наўзрыд, з вачэй паліліся слёзы, якія яны чамусьці не выцiралі і не сунімалі. Слёзы ліліся, падалі, як боб.

— Ой, як даўно мы ведаем адна адну…

— Яшчэ з Расіі, — удакладніла Фёкла. — Смяшлівая ты была малой…

— Была…

Барбара пастаянна думала пра сына. Яна і цяпер, маючы на ўвазе тое, што немцаў нарэшце паперлі, запытальна зірнула на Фёклу:

— Можа, Сенька хутка вернецца?

— Вернецца! Вядома, вернецца! — запэўніла тая.

— Даў бы Бог. Працуе ў баўэра ад усходу да заходу сонца. — Барбара выцерла з вачэй слёзы. — Арэ, сее, косіць. Нават, пісаў, прыйшлося кароў даіць, бо баўэрка мела такое пажаданне. Хай, кажа, работнік доіць.

Валодзіку стала шкада іх усіх — і бабулю, і Барбару, і яе сынка Сеньку. Хацелася хоць як суцешыць, але як ты суцешыш?

Прыселі каля стала, на якім пад абрусам ляжаў хлеб. Нейкі час сядзелі моўчкі. Потым Барбара паднялася, прынесла і паставіла на стол міску кіслага малака, прынесла свежых, з агарода, агуркоў, зялёных пер’яў цыбулі, укроіла хлеба. Госці, каб не адмовіць гаспадыні ў гасціннасці, сталі частавацца.

— А гэта ўнук ужо так вырас?

— Васеў сын.

— Вялікі ўжо. А ў Васі ўсё добра?

— Баімся мы за яго. Яго ж Хрысан солтысам прызначыў замест сябе. Два тыдні прабыў.

— Гэта мала — два тыдні.

— Цяперашнім часам усяго можна чакаць.

— А як там Лявон? — спытала нарэшце Барбара пра брата.

— Дзякуй богу, працуе. Але не шанцуе нам. Зноў каня забралі. Той раз каўпакоўцы, а на гэты раз салдаты, свае. А цяпер яшчэ і цялушка знікла. Ланька. Не зброддівая, а знікла, прапала.

— А бо-ожачкі! — роспачна пляснула ў далоні Барбара. — А як жа без каровы! І не знайшлі?

— На тым беразе шукалі, — сказала Фёкла, папраўляючы на галаве хустку, — можа, яна дзе тут? Можа, на гэтым беразе з карчоў не можа выбавіцца?

У Барбары — добрае сэрца.

— Але, але, — паспачувала яна, здзіўлена хітнуўшы галавой. — Дык, можа, я з вамі пайду, шукаць дапамагу?

— Яно б то і добра было, — узрадавалася Фёкла, — бо я гэты бераг не ведаю.

— Я дапамагу. Вось толькі курэй пакармлю.

Яна выйшла з хаты з міскай тоўчаных картопляў, кінула курам. Падбег цыбаты расквечаны певень і басавітым кукарэканнем пачаў склікаць сябровак, а калі тыя падбеглі, дык ён сярдзіта драпянуў крылом па зямлі: прэч, маўляў, я сам яшчэ не сыты!

— Вось такі ў мяне певень, — паскардзілася гаспадыня. — Усё каб сабе.

Потым яна зачыніла хату на засаўку, і яны пайшлі ўтраіх, кіруючыся ў бок Млыноў. Так называлася суседняя, праз раку, вёска. Ішлі сасновым лесам, удыхаючы яго смольны пах, потым спусціліся ніжэй, да Лосьны, запахла вільгаццю, водарам крушыны, балотнай прэллю. Барбара ішла першай. Пачаўся алешнік. У альховых карчах спакусліва чырванела салодкая маліна, але не было часу яе нарваць. Ішлі далей. Пад нагамі зачвякала. У душу ўсё глыбей запаўзала трывога. Гэта была мясціна насупраць прускаўскіх Прыдаткаў, якія зелянелі на супрацьлеглым беразе Лосьны.

— Дзесьці тут трэба шукаць, — сказала Барбара і перахрысціла лоб.

Шукалі яны доўга, але дарэмна. Каровы нідзе не было. Ніхто не падаваў голасу. Цішыня. Хадзілі, соўгаліся па карчах, паціху перамаўляліся, пакуль не змарыліся зусім. Змарыліся і надзею страцілі. Прайшлі яшчэ трохі, наперадзе, па той бок ракі, ужо віднеліся Млыны.

— Можа, заняў хто ды ў свой хлеў загнаў! — бездапаможна азвалася Фёкла, адчуваючы, як ад стомы баляць ногі.

— А хто ж яго ведае.

— Яшчэ пашукаем трохі і будзем вяртацца, нічога не зробіш, нічога не парадзіш.

Невядома, што і як было б далей, калі б у гэты момант не падала голас сама Ланька. Яна ціха рыкнула, пазнала, напэўна, голас гаспадыні. Першым узрадаваўся, ажно падскочыў, Валодзік:

— Ланька! Наша Ланька.

Усе кінуліся на гэтае рыканне. Так, гэта і сапраўды была Ланька. Яна, відаць, ляжала і цяпер, адчуўшы гаспадыню, паднялася і стаяла з тоўстым вымем. Чутно было, як яна жавала і сумна ўздыхала. Схуднела, змаглася, засумавала па доме, па гаспадарах. Пабурэла яшчэ больш, пляміны па баках згладзіліся, страцілі белізну, і галава пацямнела. Спачатку Фёкла падаіла яе, пругкія струмені ажно спявалі, перакручваліся, абпырсквалі рукі, пеніліся, нібы даводзячы, што жыццё працягвалася, што яго не проста прыпыніць, што ўсё будзе добра. Малако цурком лілося на траву, потым гаспадыня пачапіла на рогі паваддок і павяла. За ёю пайшлі Барбара з Валодзікам. Усіх турбавала, як перабрацца з Ланькай праз Лосьну на той бок.

Падышлі да ракі і колькі часу ішлі ўздоўж, выбіраючы спадзістыя берагі — і з аднаго боку, і з другога. Нарэшце такое месца знайшлі. Тут стаяў і прыткнуты да берага човен. На жаль, зусім невялікі. Дзеля таго, каб перавезці на ім карову, быў яўна непрыдатны. Крыху пастаялі ў маўклівым одуме.

— Ланька! Ланька! — ласкава сказала Фёкла, мякка торгнула за паваддок і накіравалася да вады. Не распраналася. Як была апранутая, так і пайшла ў ваду. За ёю — Ланька.

Карова зрушылася з месца, даверліва ступіла ў ваду, панюхала яе гладкую паверхню, фыркнула ноздрамі і паслухмяна пайшла следам за сваёй гаспадыняй. Нават падганяць не давялося. Дабраўшыся да глыбокага месца, Фёкла — добрая плаўчыха — паплыла, не выпускаючы з рукі паваддок. Ланька, спакойна, не праяўляючы аніякага хвалявання, паплыла за ёю, крыху задраўшы ўверх рагатую галаву.

— Разумніца! — пахваліла ўсцешаная Барбара.

Фёкла плыла паперадзе, Ланька не адставала. Відаць было, як цёплая летняя вада лашчыла і абмывала ёй бурую спіну. Так, разам, дасягнулі яны берага. Першай выйшла з вады Фёкла, за ёю, не спяшаючыся, ступіла на сухое месца Ланька, крыху атрэслася, прадзьмула ноздры і спынілася каля сваёй гаспадыні. Унук стаяў на другім беразе і дзівіўся з гэтай незвычайнай пры-

язнасці бабулі і Ланькі. Потым Фёкла пайшла ў карчы выкручваць адзенне і крыху падсушыцца.

Валодзіка Барбара перавезла на другі бераг на чоўне. Тут яны развіталіся, задаволеныя, што ўсё гэтак скончылася.

— Ну вось і добра, — сказала Барбара, папраўляючы на галаве хустку.

Вярнуўшыся дадому, даведаліся, што арыштавалі Хрысана. Прыехалі ў Пруску на матацыкле з каляскай і адразу да Хрысана. Арыштавалі і павезлі ў Камянец. «Гэта «Смерш», — сказаў абазнаны ва ўсім Мікіта Галёнка.

— Трэба парадак наводзіць, шаноўныя таварышы! — гучна заявіў вайсковец з афіцэрскімі пагонамі, які прыехаў, каб забраць Хрысана. — Без улады жыць нельга, непарадак!

Хрысана арыштавалі за супрацоўніцтва з немцамі, а былі, аказваецца, такія (і ніхто гэтага не ведаў!), хто меў сувязь з партызанамі і супрацоўнічаў з імі. Ім выдавалі даведкі. Адным з такіх быў Мікола Шпронька, які першым атрымаў гэты дакумент:

*Справка*

*Дана настоящая в том, что Шпранько Николай Фомич действительно оказывал содействие в борьбе против немецко-фашистских захватчиков.*

*Командование отряда им. Ушакова.*

*20.VII.1944 г.*

— Я пастрадаў ад амтскамісара, а мне даведкі не далі, — няўцямна паціскаў плячыма незадаволены Гамон. — Як і ў той раз, калі пастрадаў за рэвалюцыю, але каму ты дакажаш!

З лясных партызан адны ішлі на фронт, іншыя прызначаліся на кіраўнічыя пасады — патрэбна была адміністрацыя і начальства.

Дайшла нарэшце і да Прускі вестка пра адкрыццё Другога фронту. Пракідкі Мікіта Галёнка дастаў недзе газету «Гайновский рабочий». Чыталі разам у Галёнкавай хаце.

— Дык гэта што? Другі фронт адчынілі? Саюзнікі? — здзіўляўся Цімоша Хлябіч.

Газета пісала:

*«6 июня на рассвете под командованием генерала Эйзенхауэра военно-морские силы наших союзников при поддержке крупных военно-воздушных сил высадились на континенте Европы — на северном побережье Франции и успешно продвигаются вглубь страны...»*

— Ну, цяпер Гітлер доўга не пратрымаецца, — насмешліва павёў галавой Міленцій. — Месяц — і кропка! Кранты!

— Пазнавата яны яго адкрылі! — сказаў Павал Гальяш.

— Бо хітрыя! — азваўся Гамон, які, як звычайна, на ўсё меў сваё тлумачэнне. — Я іх ведаю. Чэрці паласатыя!

## XIV

Назаўтра, яшчэ ў самую раніцу, пабраўшыся за рукі, да бабулі Фёклы прыйшлі ўнукі — Віталік з Лёнікам. Не ў першы раз прыйшлі, хадзілі гэтак з пачатку вясны, калі абсохла зямля і пачало прыграваць сонейка.

— Да бабулі ідзём, — паведамлялі яны сустрэчным, нават тым, хто і не пытаўся, куды яны крочаць.

Бабуля, як заўсёды, іх ужо чакала, насмажыла дранікаў і, калі яны з'явіліся, адразу пасадзіла за стол, хоць Прося галоднымі іх ніколі не выпраўляла, але ў бабулі смачней.

Валодзік наадварот, пабыўшы з братамі, пабег да бацькоў паведаміць, што Ланька знайшлася. Зрэшты, яны пра гэта ўжо ведалі, бо бачылі, як яны з бабуляй учора вялі яе дадому, але ён хацеў расказаць, як гэта ўсё было, як Ланька з бабуляй пераплывалі раку. Каля бацькавай хаты яго сустрэла нечаканасць: пад грушай стаяў чыйсьці матацыкл з каляскай. «Хто гэта мог быць?» — падумаў азадачаны хлопец, падыходзячы бліжэй.

Дзверы ў хату былі адчынены, ён ступіў на парог і… асекся. У хаце панавала цішыня, чутно было, як зумкала аб шыбіну муха ці пчала. Ля стала сядзелі нейкія двое ў вайсковым. Каля іх, крыху паводдаль, бацька. Маці з перапалоханым выглядам стаяла ля пліты. Цюкнула думка: «Вярнуліся немцы!» Аднак тыя, хто знаходзіўся ў хаце, не былі падобныя на немцаў: у новых, зялёных гімнасцёрках, грудзі перавязаны партупеямі, на блiскучых пагонах ляпіліся жоўтыя зорачкі. І на глыбока насунутых фуражках, якія вайскоўцы не здымалі, таксама зорачкі — чырвоныя. Гэта былі савецкія афіцэры. Гарталі нейкія паперы, штосьці запісвалі і час ад часу ў бацькі пра нешта пыталіся. Па баках у іх на раменьчыках, прасунутых пад пагонамі, віселі планшэткі. Сухі бляск пагонаў аднак не абяцаў нічога добрага. Адзін і другі былі пры зброі. Валодзіку здалося, што бацька сядзеў напружыўшыся, перажываў і да ўсяго быў гатовы. Маці ад страху маўчала, зацiскаючы далонню рот. Хлопец ажно анямеў ад нечаканасці, ад такога павароту падзей. «Гэта ж ці не той самы «смерш»?» — пранеслася ў галаве.

— Заходзь, сынок, тут усе свае, зірнуўшы ў бок сына, сказаў Васіль і дадаў: — Усе нашы.

Валодзік яшчэ раз абвёў вайскоўцаў вачыма. Не падобна было аднак, каб гэтыя двое ў афіцэрскай форме былі «сваімі», тым больш — «нашымі». На тварах, у аднаго і другога, выгляд строгасці і незадаволенасці.

«Гэта ён спецыяльна, наўмысна так кажа: «свае», «нашы», — спыніўшыся на парозе, падумаў Валодзік, — каб яны, што знаходзіліся ў хаце, у гэта паверылі…

Афіцэры з заклапочанымі тварамі нешта спешна пісалі, заносілі на паперу.

— Вы былі ў акупацыі? — спытаў адзін з іх з насунутай на лоб фуражкай і асабліва строгім, закамянелым тварам і дадаў: — Толькі чыстасардэчнае прызнанне можа вас у некаторай ступені выратаваць.

— Быў.

— Адны на фронце кроў пралівалі, другія ў цяпле адседжваліся. Што ж палучаецца?

— Невінаваты ён, — азвалася Прося.

— А вас ніхто не пытае! — абсек яе другі афіцэр, маладзейшы за сябра і круглатвары. — Зашчытніца знайшлася…

Трывожная думка зноў працяла Валодзіка: «Не інакш, як той самы «Смерш»! Ну вось, будзе цяпер тату, як таму беднаму ўласаўцу! Заарыштуюць і павязуць!..» Ажно дрыготка пайшла па спіне. «Не ўбачым больш таты…»

— А чаму так здарылася, што вы аказаліся ў акупацыі? — не паднімаючы вачэй, задаў пытанне афіцэр з нерухомым тварам. — Вы ж сцвярджаеце, што вы савецкі чалавек.

— Я савецкі чалавек, быў і ёсць, — пацвердзіў Васіль, але выгляд яго станавіўся ўсё больш разгубленым. Ён няўцямна пазіраў, як борзда і ўпэўнена афіцэры рабілі свае запісы, шамацелі паперамі.

— Ну, калі так, дык чаму не ў партызанах? Чаму ў партызаны не ўступілі? Чаму не ўключыліся?

— Сувязь з партызанамі падтрымліваў, прасіўся ў атрад, але не бралі. Сказалі, што тут я больш патрэбен, камусьці і тут трэба быць.

— Дык што? І вашым, і нашым? І з парцізанамі сувязь меў, і немцам служыў? Так трэба разумець? — напудзіўся на паддопытнага смершавец у насунутай на лоб фуражцы і з нерухомым тварам. — Вы не адпірайцеся, у нас гэта не пройдзе!

— Солтысам мяне прызначылі за два тыдні да вашага прыходу. Згоды ў мяне ніхто не пытаўся, паставілі перад фактам. Чырвоная Армія была ўжо каля Баранавіч, ужо гул гармат чуўся. Мой папярэднік захацеў, як ён сказаў, адпачыць, а на яго месца — мяне. Я і партызан у ізвеснасць паставіў.

— Як бачыце, у яго ўжо і тлумачэнне ёсць, — з паказным здзіўленнем варухнуў галавой круглатвары. — Ну, ты даё-ёш!

— Падрыхтаваўся! — у тон яму зазначыў сябар. Гэты, цяпер ён насунуў фуражку яшчэ глыбей, на самыя вочы, паводзіў сябе асабліва нахабна. — Усе яны такія.

— Не вінаваты ён! — яшчэ больш настойліва паўтарыла Прося. — Няўжо вы не бачыце?

«Шкада, няма бабулі, яна б ім паказала! — падумаў Валодзік. — А можа, збегаць па яе? Хай бы прыйшла..» — Ён памкнуўся ўжо сунуцца за дзверы, але круглатвары спыніў:

— Стой! Аставацца на мястах!

Хлопец спыніўся.

— З партызанамі я сувязі не парываў, — сказаў бацька і сцяў вусны.

— У лес трэба было ісці! Цяпер адказваць прыйдзецца! Усім прыйдзецца — і хто з немцамі дружбу вадзіў, і хто ў пляну быў, і нават тым, хто з нямецкага канцлагера бяжал! Ды і партызан вашых мы яшчэ перашарсцім! Яшчэ паглядзім, якія гэта партызаны. Гэта яшчэ бабка надвое сказала…

— Яны ўночы самі да нас прыходзілі! — не выцерпела, зноў умяшалася ў допыт Прося. — І не адзін раз.

— А вы, грамадзянка, не перашкаджайце, паводзьце сябе цішэй!

Прося не сцярпела:

— Гэта — мая хата, а партызаны сядзелі на тым самым месцы, дзе зараз вы. І капусту маю хвалілі.

— Пры чым тут капуста? — сурова і абурана зірнуў на маладзіцу круглатвары. — Не пра капусту мы гаворым…

— А пры тым, што частавала я іх баршчом з капусты.

— У Афінагенава папытайце, — ён маім лёсам распараджаўся, — Васіль сумна ўздыхнуў і ўгнуў галаву. — Толькі не ведаю, дзе яго цяпер шукаць.

— Хто гэта?

— Начальнік асобага аддзела.

Службоўцы пераглянуліся.

— Гэта той, што архіў упусціў? — спытаў смершавец у глыбока насунутай на галаву фуражцы. — Паедзем у раён, там разбяромся. У каляску!

— Не вінаваты ён, — заплакала Прося, кулаком выціраючы буйныя, як боб, слёзы, якія раптам паліліся з вачэй. — Не забірайце-е!..

— Калі не вінаваты, яго і так выпусцяць, без вашай просьбы, — сказаў круглатвары. — Невінаватых мы не трогаем.

Васіль падышоў да Просі, абняў:

— Не пераймайся, усё будзе добра.

Абняўся з Валодзікам:

— Не бойся, сынок, я хутка вярнуся.

Васіля вывелі з хаты, пасадзілі ў каляску, рукі загадалі трымаць за спінаю. Круглатвары сеў за руль, другі смершавец у яго ззаду.

Матацыкл падскокваў і доўга не заводзіўся, нарэшце рыкнуў, залапатаў, пусціў дым, і круглатвары выруліў на гасцінец.

Як толькі матацыкл ад'ехаў, Прося з Валодзікам пабеглі да сваіх. Фёклу і Лявона засталі ў садзе, дзе яны шукалі тыя паперы, якія закапалі тут у першыя дні вайны, перад прыходам немцаў. У руках трымалі рыдлёўкі і капалі ўжо ў трэцім ці чацвёртым месцы, дзе маглі знаходзіцца дакументы, але нічога не знаходзілі. Прайшло, як-ніяк, тры гады. Дождж, снег, маразы. Маглі згніць, струхлець. Далакопы з усіх сіл стараліся знайсці прыхаваны скарб, нават спрэчкі ўсчаліся пра тое, дзе яго закапалі, але ўсё безвынікова. Як скрозь зямлю праваліўся. А можа, хто выкапаў? Не, такога не магло быць, бо ніхто не ведаў. Фёкла ў адчаі зноў стала капаць у тым кутку саду, з якога пачыналі. Не заўважылі нават, як прыйшла нявестка. Убачылі толькі, калі пачулі:

— Васю забралі!

Гэтая вестка дадала разгубленасці.

— Хто? — устрапянуўся Лявон.

— Ваенныя нейкія, афіцэры. Прыехалі на матацыкле, учынілі допыт і павезлі ў Камянец.

— Гэта — «смерш», — сказаў Валодзік.

Фёкла не ведала, што гэта такое, але ледзь не абамлела ад аднаго гэтага грознага слова, стаяла нерухома, успёршыся на рыдлёўку.

— Гэта — вайсковае «энкавэдэ», — патлумачыў Лявон.

— Ой, што з ім будзе? — яшчэ болей захвалявалася Фёкла і кінулася ў плач, прытуліўшы да вачэй далоні, і Прося таксама заплакала.

— Быццам бы немцам служыў, — скрозь слёзы прамовіла яна.

— Не могуць дараваць за тое, што солтысам быў, — Лявон услых выказаў гэтую горкую думку і рэзкім рухам адхінуў з ілба парадзелую пасму валасоў.

Сталі раіцца, што рабіць. Улада перамянілася, але за чалавечае жыццё ніхто не адказваў і жыцця ніхто не гарантаваў. Вырашылі заўтра з раніцы ехаць у Камянец, шукаць нейкай рады.

Але ехаць не давялося, бо назаўтра Васіль вярнуўся сам. Прося кінулася да яго з плачам. Абняліся. Васіль дастаў з нагруднай кішэні ружовага колеру паперку і ціха прамовіў:

— На вайну бяруць.

— Як — на вайну?

— На фронт.

— А дзеці? А я?

Васіль нічога не адказаў, працягнуў жонцы павестку. Гэта было прадпісанне з'явіцца ў ваенкамат, пры сабе мець пару чыстай бялізны, запас харчоў на два дні, кружку і лыжку. Указана была і дата, калі з'явіцца, — сёмага жніўня.

— Каб доўга не разбірацца, вырашылі накіраваць на фронт, — сказаў ён нарэшце і ўздыхнуў. — Што ж, на фронт дык на фронт.

Прося разгубілася і зарыдала так, нібы ўжо атрымала пахавальную і не ведала, што рабіць. Атуліла твар рукамі і апусцілася на ложак. Пазіраючы

на яе, захныкалі дзеці. Пад'ехалі Лявон з Фёклай. Меліся ж, як і дамовіліся, разам з Просяй ехаць у Камянец.

— О! А ён ужо дома! — павітаўшыся, здзівіўся Лявон, прыгладжваючы валасы на галаве.

— Я, тато, на фронт іду.

— На фронт?

— Так.

Пачуўшы гэта, усе міжвольна змоўклі, аціхлі, у хаце ўсталявалася цішыня. Потым не стрымалася, заплакала, загаласіла Фёкла. Яна была ў поўнай разгубленасці. Нібы развітвалася назаўсёды.

— Супакойся! Супакойся! — прасіў Лявон, абдымаючы за плечы, але яна не супакойвалася.

Гэты цяжкі, развітальны настрой ад свякрові перадаўся нявестцы, і Прося зарыдала зноў, быццам нехта надаў ёй сілы. Умяшаўся Васіль:

— Што гэта вы? Я ж яшчэ жывы і паміраць не збіраюся. — А потым дадаў: — Відаць, надышла мая чарга. Нічога не зробіш, камусьці трэба ісці.

Фронт патрабаваў пастаяннага папаўнення, навабранцаў. Гэта разумелі ўсе.

Забіралі не аднаго Васіля. Прызвалі на фронт Апанаса Хомку, Колю Шведа, Грышку Шаўчука. Прызвалі вясёлага Сяргея Сталетніка. Усіх, хто падыходзіў па ўзросце. Разам з усімі пайшоў і Оргій Ламака, які меў мянушку Багдан. З суседняй Выгнанкі давялося ісці Карнілу, які вядомы быў, як асілак, чалавек сажэннага росту і неверагодна моцнага здароўя, ніколі не хварэў. Аднавяскоўцы, абмяркоўваючы гэтую падзею, не дапускалі нават і думкі, што такога можа зваліць, а тым болей забіць нейкая там куля. Хіба што ўджаліць, як пчала. «Яму нішто не страшна», — гаварылі пра Карнілу. Гэтаксама ён думаў пра сябе і сам.

Ухіліліся ад мабілізацыі хіба толькі пpускаўскія баптысты. Казалі, што ім нельга прысягі прымаць і браць у рукі стрэльбу. Не ўзялі Цярэшку Макацёра, у якога знайшлі хрыпы ў грудзях і жаўтуху. Мікіту Галёнку прызналі глухім і таксама не ўзялі.

Мабілізаваных праводзілі жонкі і родныя. Гэта быў момант агульнага ўзрушэння. Плакалі, гледзячы на іх, як бы развітваліся назаўсёды. Сабраліся на гасцінцы, каля Шпронькавай лаўкі. Непадалёк, за вярбою, стаялі запрэжаныя коньмі фурманкі, на якіх меліся везці навабранцаў. У натоўпе круціліся ўсюдыісныя хлапчукі. За Дзванарыкавай хатай, каля кустоў адцвіўшага бэзу і язміну, стаяў Грышка Латушка, здаля назіраў за тым, што адбывалася тут, пры гасцінцы. Цікаўных было шмат, як і тых, каго гэта тычылася асабіста і непасрэдна. Тут знаходзіўся са сваім абозным конікам і Лявон. Васіль кінуў у воз свой хатулёк.

Нарэшце, аднекуль зверху, дыхнула прахалодай. Пайшоў, пасля гарачыні і сухмені, дождж, летні, аднак непрыемны з-за сваёй назойлівасці.

Каля Сяргея Сталетніка стаяла, абдымаючы яго, жонка Лізка. Жанчына плакала, нібы ўжо была ўдава.

— Усё можна быць, — разам з усімі бедаваў Мілецій, шкадуючы пляменніка.

— Ты там паперад іншых не лезь! Ззаду трымайся! — настаўляла і вучыла Оргія Ламаку яго жонка, звяглівая Апраска. Оргій моўчкі слухаў. Выглядаў не зломкам: грудзі шырокія, як дзвярная засланка. Жонкі баяўся, стаяў перад ёй угнуўшыся.

Колю Шведа праводзіла сястра Манька і бацькі. Збялелы Коля стаяў моўчкі, нічога не казаў, не суцяшаў. Сястра плакала, выціраючы далонню

вочы. Прапаў недзе яе Санька, не вярнуўся з партызанкі, знік, як у ваду скочыў. Невядома, што з ім здарылася — з сібіраком тым. Манька куды ні кідалася, у каго ні пыталася, нават у Камянцы была, не магла знайсці канцоў. Плакала, успамінаючы, як ён называў яе Маняшай і казаў: «Курносенькая ты мая!...» Прапаў. А цяпер брат…

У натоўпе стаялі каваль Пахолак і, крыху далей ад яго, дзяк Кухта. Лявон нават здзівіўся, убачыўшы, як драпежна яны адзін на аднаго паглядалі. Відаць, што міру паміж імі не было. Блазнаваў, як заўсёды, Гамон, спрабуючы падбадзёрыць аднавяскоўцаў, якіх забіралі на фронт:

— Другі фронт адчынілі. Марыканцы! Абкружаюць яго з абодвух бакоў. Пакуль да месца даедзеце, дык і вайне канец. Можа, яшчэ і медаля дадуць.

Але на яго суцяшэнні ніхто не рэагаваў.

— Яшчэ ж пакуль што Варшавы не ўзялі, — напомніў Павал Гальяш.

— Возьмуць! — адгукнуўся Мікіта Галёнка, шчаслівы, што яго на фронт не бяруць. — Вунь я чытаў, што і на самога Гітлера замах быў. Свае палююць. Але ж і гад!

Васіля абступілі сямейнікі: Прося з дзецьмі, Фёкла, Лявон. Фёкла, не перастаючы, выцірала вочы крысом фартушка.

— Мамо, не плачце, яшчэ ўбачымся! — як мог, суцяшаў сын. У яго таксама накаціліся на вочы слязінкі.

— Пішы, пішы! — прасіла Прося. — Будзем чакаць! — Яе ноздры і памяць казытаў яго прывычны мужчынскі пах, да якога прымешваўся водар клуні, поля, штодзённай працы.

— Абавязкова! Пры першай магчымасці напішу, — абяцаў Васіль. — А ты тут дзяцей глядзі. Бачыш, колькі іх у нас.

— Вася, дзяцей я ў крыўду не дам, падгадую.

— Дык і мы ж дапаможам! — падтрымаў нявестку Лявон, аціраючы даланёй вільгаць, што сабралася пад вачыма. Не то кроплі дажджу, не то скупыя слёзы.

— А пра мяне не думайце, суцяшаў Васіль. — Я, дасць Бог, вярнуся цэлым. Жывым і здаровым. Яшчэ ўбачымся!

Ён ужо вельмі стаміўся за гэтыя дні і хацеў аднаго, — каб скончыліся нарэшце гэтыя пакуты, гэтыя горкія хвіліны доўгага развітання, бо, як кажуць, доўгія провады — лішнія слёзы. Яны і сапраўды вельмі стамляюць.

Усе чулі, як дрыжачым голасам гаварыў Сяргей Сталетнік:

— Даруйце, калі што было не так. Можа, бачымся ў апошні раз, не памінайце ліхам.

Пачалі развітвацца, і зноў рэзка ўзнялася хваля плачу і галашэнняў. Развітваліся з кожным аднапасельцам асобна, моцна трэслі за руку, абдымаліся, уздыхалі. І родныя плакалі, і самі навабранцы не хавалі слёз. Усе прадчувалі нядобрае, ведалі, што вернуцца не ўсе. Васіль прытуліў да грудзей дзяцей, моцна абняў жонку і маці і разам з Лявонам рушыў да фурманкі. Лявон вёз яго ў Камянец, у ваенкамат.

## XV

Першага ліста ад Васіля чакалі доўга. Гэта быў звычайны салдацкі трохкутнік. Палявая пошта. Збоку стаяла: «Прагледжана ваеннай цэнзурай». Васіль пісаў алоўкам і, відаць, спяшаючыся, але Прося прачытала ўсё адразу за адно імгненне. Спачатку ішоў пяшчотны зварот — да яе, дзетак, Лявона і Фёклы. У Просі навярнуліся на вочы слёзы. Затым пабеглі радкі:

*«...Пішу, каб хутчэй паведаміць пра сябе. Жыў-здароў, чаго і вам жадаю. У мяне ўсё ў парадку. Вы, пэўна, думаеце пра мяне, а я пра вас. Дык вось. На пачатку я трапіў у Баранавічы. Ехалі таварняком, з Брэста. Навокал руіны, і патрэбны рабочыя рукі, а дзе іх узяць? Усе на фронце. Таму выкарыстоўвалі нас. Аднаўлялі чыгунку паміж Баранавічамі і Беластокам, ушчэнт разбураную немцамі пры адступленні. Паабапал насыпу, на абочынах, шмат падбітай тэхнікі — танкі, аўтамашыны. Большасць — нямецкія, але ёсць шмат нашай.*

*Прыступілі да працы. На долю нашага ўзвода выпала будаўніцтва моста. Часу на ўсё, і на чыгунку, і на мост, далі тры дні. Уявіце сабе! Але за тры дні і зрабілі. Працавалі вельмі дружна, не адрываючыся, — дзень і ноч без адпачынку. Наш афіцэр сказаў, што гэта па-бальшавіцку. Не ўмееш, кажа, то навучым, не хочаш — прымусім. Такая ў іх прымаўка.*

*З землякамі рассталіся яшчэ ў Брэсце, накіравалі каго куды. Некаторых, Колю Шведавага, як здаравяка, адразу на Сандамірскі плацдарм. Адпраўляюць на фронт і адсюль. Нестае часу на абучку.*

*Цяпер, хто застаўся, займаемся страявой. Колем штыкамі салому, капаем акопы, рэжам дрот. Гэта спатрэбіцца, калі апынемся на фронце. Варым у кацялках гарохавы канцэнтрат. Я не галодны. Даюць хлеб, поснае масла. Па-нашаму — алей. Салдацкае жыццё нялёгкае, але трываць можна. Прыняў прысягу, гэта абавязкова. Цяпер я салдат, будзем ваяваць да пабеды. За мяне не турбуйцеся, усё будзе добра. Як успомню, дык мне ў жыцці, слава богу, шанцавала».*

Далей — усім паклоны. Ліст кароткі. Унізе стаяла: «Чакаю атвета, як салавей лета. Ваш Васіль. 25.IX.1944 г.»

Мужу адпісала Прося, дапамагалі Лявон з Фёклай, падказвалі, што пісаць, што можа быць цікава.

*«...Валодзік пайшоў у школу. Віталік і Лёнік падрастаюць, на здароўе ніхто, дзякуй богу, не скардзіцца. Працуем па гаспадарцы, пасеялі азімыя. Спадзяёмся, што, можа, дачакаемся на другі год ураджаю. Нас цяпер аблажылі абавязковымі падаткамі, здаём зярно, мяса, картоплі. Апроч таго, патрабуюць дадаткова здаваць грошы і прадукты ў фонд арміі і ў фонд галадаючых. Трэба, дык трэба. Людзі аддаюць апошняе, што маюць. Вядома, нялёгка, але ўсё ж такі мірнае жыццё. Нам лягчэй, чым табе.*

*У апусцелы панскі палац Падгурскіх перасяліліся пагарэльцы з Зяньkoў. Пашанцавала, у нас кажуць, і людзям, і палацу, бо пустой хаціне гэтаксама дрэнна, як і бяздомнаму чалавеку. Успамінаем пра цябе пастаянна. Каб жывы быў і жывым вярнуўся. Помні, што ты ў нас адзін, дык беражы сябе. Хочацца каб як найхутчэй дачакацца перамогі. Спадзяёмся, што ўжо хутка. Надта чакаем твайго вяртання».*

Далей ішлі паклоны ад усіх сваякоў, ад Лявонавай радні і ад цесця з цёшчай з Пакупчыкаў — Мікалая і Наталкі.

Другі ліст ад Васіля атрымалі з Мінска. Калі разгортвалі трохкутнічак, выпала маленькая, як на пашпарт, фатаграфія. На ёй Васіль худы — не пазнаць, у гімнасцёрцы з пагонамі. Фёкла аж жахнулася: «Схуднеў як!» І падстрыжаны нагола. Пачалі чытаць. Васіль паведамляў, што знаходзіцца ў Мінску, у вучэбным палку, вучыцца «на арцілерыста» і ставіцца да сваёй ваеннай прафесіі вельмі адказна.

*«Арцілерыя — бог вайны», як тут кажуць,* — тлумачыў ён і далей пісаў: — *«Размяшчаецца вучэбны полк на паўднёвай ускраіне Мінска, у Чырвоным Урочышчы, дзе раней месцілася нямецкая школа дыверсантаў. Былі, аказваецца, і такія школы. Мінск страшэнна разбураны і зруйнаваны. Цэлых дамоў — адзінкі, можна палічыць на пальцах. Горада па сутнасці няма, адна бітая цэгла. Што будуць рабіць гэтыя людзі, хто тут будзе жыць, — не ведаю. Усё трэба будаваць нанова.*

*У нас тут цэлыя дні з ранку да вечара вучэнні. Цягаем гарматы, чысцім, угрызаемся ў зямлю. Толькі і чуецца: «Капай агнявыя!» Вядома, стамляешся, але стараемся з усіх сіл. Усе ў напружанні.*

*Кожны дзень снег з дажджом, але на гэта ніхто не звяртае ўвагі. Тут, у Мінску, фарміруюцца маршавыя роты і адбываюць на фронт. У мяне ўсё. Чакаю атвета, як салавей лета».*

Васілю паслалі адказ. Потым у перапісцы быў працяглы перапынак. Нарэшце, атрымалі чарговы трохкутнічак. Прося прачытала і пабегла да свекрыві, каб падзяліцца навіною.

Фёкла таўкла проса. Прыпыніла працу, пакінуўшы таўкач у ступе. Паклікалі Лявона, які нешта рабіў у клуні. Прося стала чытаць:

*«...Пішу вам з-пад Варшавы. Я ўжо тут. З Мінска ехалі праз Брэст. Надта хацелася трапіць дадому, каб пабачыць вас усіх, але магчымасці ніякай не было, не пусцілі, поезд стаяў усяго дзве гадзіны. Я, аднак, змог адлучыцца ад эшалона, каб забегчы да Міцькі Балабайкі на Півeconarную, але дома яго не застаў. Міцька працуе электраманцёрам і лазіць на слупы, — сказала жонка, — увінчвае ізалятары і вешае дрот. Сустрэў Косцю Макаравага, ён даў мне сто рублёў грошай і буханку хлеба. Я прапанаваў распіску, але ён не ўзяў. Вельмі прыстойны чалавек.*

*З Брэста паехалі далей на захад. Буханку падзялілі і з'елі. Хлопцы галодныя, бо нічога няма. Спыніліся на нейкай станцыі. Кругом пуста, нікога. Раніца, холад. І раптам нейкае дзеўчынё падбегла да поезда. Чуем: «Гарбата! Кому гарбаты? Гаронца гарбата!»[1] Нам выходзіць забаронена, дзверы зачынены, а яна сваё: «Горонца гарбата!» Я нават падумаў, ці не за грошы яна прадае гарбату сваю? Але не! Калі ротны скамандаваў адчыніць дзверы, і мы павыскоквалі з вагона, то яна стаяла са сваім чайнічкам і частавала проста так — ад душы. Надта расчуліла мяне тое дзеўчынё. Палякі да нас добра ставяцца.*

*Цяпер мы даехалі ўжо да фронту. Чутно яго дыханне. Дыхае, як стоены звер. Начуем у нейкіх зямлянках каля Мінска-Мазавецкага».*

У канцы, як звычайна, паклоны сваякам і суседзям. І неадменнае: *«Чакаю атвета, як салавей лета».*

«Каб хоць жывы застаўся», — думала Фёкла, выціраючы вочы. З фронту ў навакольныя вёскі пачалі ўжо прыходзіць пахавальныя. Каб спыніць балючыя думкі, яна, калі ліст быў прачытаны ў другі ці трэці раз, яшчэ мацней загрукала таўкачом у ступе.

Пасля Мінска і Васіль аказаўся на Сандамірскім плацдарме. Ішлі жорсткія баі, у якіх браў удзел і ён. Прыйшоў ліст:

---

[1] Чай! Каму чаю? Гарачы чай! *(польск.)*

*«…Не палохайцеся, што пішу са шпіталя. Кантузіла мяне трохі ды зямлёй прысыпала, але, на шчасце, таварышы мяне хуценька адкапалі. Так што ўсё ў парадку. У нас тут было вялікае наступленне. Першымі загаварылі «кацюшы», а потым мы. Вельмі добра дапамагала артылерыя. Мы былі ў баі, і наша гармата шмат страляла. Мароз, а яна напалілася, як печ, нават фарба паскручвалася. Усе ў разліку атрымалі ўзнагароды, а мне з-за таго, што быў у акупацыі, нічога не далі. Але нічога, вайна яшчэ не канчаецца, і я яшчэ зараблю медаля або ордэн. Цяжка дасталася перамога, столькі хлопцаў палягло, не палічыць, і жыцця яшчэ не бачылі… Некаторыя ішлі ў бой босымі, бо не хапала абутку, і без…»*

На гэтым тэкст абрываўся, наступныя радкі былі густа замазаны чарнілам. Відаць, ліст прайшоў ваенную цэнзуру[1]. Без цэнзуры на вайне нельга.

Перапіска доўжылася, не абрывалася. Упраўляліся з гаспадаркай і чакалі лістоў. Вясна 1945 года — апошняга года вайны выдалася позняй і халоднай. Доўга не цвілі сады. Ліст ад Васіля прыйшоў у красавіку:

*«Знаходжуся ўжо на тэрыторыі Германіі. Дабіваем ужо ў яго логаве. Штурмавалі Зеёлаўскія вышыні, якія на пачатку здаваліся непрыступнымі, але нашы хлопцы адолелі. Шмат палягло. Цяпер пайшлі ў абыход Берліна на поўдзень. Рухаемся хутка. Мы нават прасунуліся далёка за Эльбу, на захад, у адным месцы сустрэліся нават з амерыканцамі. Але потым было загадана адысці назад.*

*Мяне ўзнагародзілі. Хаця, прызнаюся вам, нічога такога незвычайнага і не зрабіў. Абарвалася сувязь, а я знайшоў абрыў і змацаваў канцы. Жыву думкай, каб хутчэй скончылася вайна і мог пабачыцца з вамі…»*

Далей ішлі прывітанні і паклоны…

Вайна працягвалася.

* * *

За вайну прускаўцы, па назіраннях Лявона, сталі больш набожныя, пачалі часцей наведваць царкву, больш маліцца, не прапускалі споведзі. Народу кожную нядзелю — поўная царква. Гэтыя зрухі заўважыў і айцец Клаўдзій. Як святар ён ведаў, што вера тут, сярод яго паствы, заўсёды была адзнакай маралі і прыстойнасці, сродкам дзеля захавання грамадскай культуры, традыцыйнага ладу жыцця і звычаяў. Цяпер царквою людзі спадзяваліся яшчэ і выратавацца ад молаха вайны, ад непрадказальнасці ўладаў, словам, шукалі спачування і абароны ў Бога.

Царква не ціснула на чалавека, не аддаляла людзей аднаго ад аднаго, а нібы нават наадварот — збліжала, змяншала, пераадольвала чалавечую адчужанасць. Калі Лявон заходзіў у царкву, ставіў свечку, адыходзіў ад аналоя і засяроджваўся на сваіх думках, ён аднаўляў у памяці мінулае, успамінаў, як тут, на гэтым месцы, у гэтай царкве, стаялі калісьці дзяды і бацькі і што яны гэтаксама ставілі свечкі, углядаліся ў гэтыя абразы з цёмнымі, строгімі аблічамі святых, слухалі літургічную дзею, хор пеўчых.

[1] Ужо вярнуўшыся дадому, Васіль расказваў, што некаторым даводзілася ісці ў атаку без вінтовак, спадзеючыся ўзяць зброю ў забітага таварыша ці ў немца.

Бацюшка айцец Клаўдзій ціха ўміляўся, бачачы прыхільнасць сваёй паствы да храма, і ў яго саспела ідэя. Ідэя ўпрыгожыць, аздобіць храм новым абразом, ці, як ён казаў, іконай. Дзеля духоўных патрэб, і з гэтым усе былі згодныя.

Патрэба ў новай іконе была, апроч таго, і чыста прыкладная. Месца справа, дзе знаходзіўся кліраc для хору, дзе стаялі пеўчыя, выглядала так, нібы там чагосьці не хапала, аголена. Кухта, які быў за дзяка і кіраваў хорам, даўно прасіў, каб на гэтым месцы нешта паставіць, што б асланяла кліраc, дзе збіраўся яго хор, ад залы, дзе маліліся прыхаджане. «Спевы — гэта хваляванне, — не без досціпу тлумачыў ён, — у час спеваў спявак можа забыцца, дзе ён, і за цыцку спявачку ўхапіць ці за нешта яшчэ. А нашто, каб хто бачыў?» Айцец Клаўдзій горка крывіў вусны, непрыхільна ставячыся да дзяка і яго досціпаў. Столькі, здаецца, пераджыў чалавек, а глупства з галавы не выкінуў. Сам бацюшка глядзеў на справу сур’ёзна. У яго была ўжо нават і тэма для гэтай іконы — «Узнясенне Ісуса Хрыста». Былі і сродкі — не ставала толькі ініцыятывы. Айцец Клаўдзій сабраў царкоўны савет і растлумачыў сэнс сваёй задумы:

— Ікона павінна нагадваць пра ахвяру, прынесеную на Галгофе Сынам Божым дзеля нас, людзей. Сын Божы памёр за нас, каб вызваліць нас ад грахоў. Неба здрыганулася ад болю, калі Хрыстос вісеў на крыжы і з яго ранаў струменілася кроў. Яго душа пакутавала пад цяжарам грахоў усяго свету. А сілы цемры сабраліся вакол крыжа і рабілі сваю злавесную справу. Надта вялікія і цяжкія былі яго крыжовыя пакуты, ён выкупіў грахі чалавецтва, а чалавецтва працягвае грашыць, забываючы пра Хрыста, пра свайго Іскупіцеля. Яго пахавалі, але ён уваскрос! Хрыстос уваскрос з мёртвых, Бог-айцец забраў яго да сябе на неба.

З прапановай айца Клаўдзія ўсе былі згодныя і прызналі яе слушнай. Паўстала пытанне аб мастаку. Не кожнаму такую справу даверыш і даручыш. Дзе ж знайсці такога ўталентаванага і маральна абдараванага майстра? Лявон успомніў пра мастака з Царкоўнікаў Юзафата Драпко. Царкоўнікі — вёска за Свішчовам, там ён жыў. Гэта — кіламетраў з дзесяць ад Прускі. Казалі, што Юзафат Драпко гатовы працаваць для царквы і ўжо напісаў абраз для царквы ў Вайской, і людзям той твор падабаўся.

На перамовы да яго ў Царкоўнікі паехалі Лявон з Лаўрам Яўсеевічам. Лаўр Яўсеевіч ехаў неахвотна — з Прускі ён нікуды далёка не выязджаў, быццам кагосьці асцерагаўся. У Царкоўнікі аднак паехаў. К абеду былі ўжо на месцы, у мастака, як і жыў у звычайнай сялянскай хаце. У хаце знаходзілася і майстэрня. Ім адчыніў сам Юзафат. Хударлявы з выгляду, у мультановай касаваротцы, на ўпалым жываце падвязаны запэцканы фарбамі фартушок. Лысы, кароткія вусы і бародка, вочы чырванаватыя. На лаўках і доўгім, прыстаўленым да сцяны стале валяліся пэндзлі, цюбікі з фарбай, кавалкі палатна, рамкі і шмат іншай драбязы. Лявон глянуў на невялікага фармату карціну на мальберце, яшчэ не скончаную. Але ўжо можна было ўбачыць і разабраць, што на ёй намалявана. Карціна прыцягвала да сябе. Ішлі з поля людзі, вецер гнаў пажоўклае лісце, гнуліся галіны прысадаў і вершаліны кустоў. Слата, золь. Было ў гэтым нешта сваё, мясцовае, роднае, угадвалася нават пара года.

— Гэта восень у нашых ваколіцах, — патлумачыў мастак, заўважыўшы Лявонаву цікаўнасць.

Крыху змрачнаватая па каларыце карціна не ціснула, не гняла, а наадварот, стварала спакойны, зычлівы настрой і выклікала цёплыя ўспаміны, нібы грэла.

Калі Лаўр Яўсеевіч расказаў Юзафату пра мэту іхняга прыезду, мастак доўга распытваў, якім чынам прыйшла прускаўцам у галаву гэтая думка — паставіць у царкве ікону, ды яшчэ на такую тэму.

— Вайну перажылі, — уздыхнуў Лявон.

— Нікому не дай бог перажыць такое! — дадаў Лаўр Яўсеевіч.

Гаманілі доўга. Нарэшце мастак прыняў заказ, прызначыў тэрмін, калі твор будзе гатовы. Дамовіліся, вядома, і аб аплаце, даволі сціплай.

Заказ быў гатовы ў тэрмін. Забіраць прыехалі таксама Лявон з Лаўрам Яўсеевічам. Мастак сустрэў каля свайго тварэння, трымаючы ў руках палітру і пэндзаль. Зняў з карціны палатняную заслону, і свежы твор успыхнуў, заззяў зыркімі, радаснымі фарбамі. Абраз уражваў. Ён нічым не нагадваў тую сціплую побытавую замалёўку восені на Берасцейшчыне, якую яны бачылі ў першы свой прыезд. На палатне тварылася касмічная нерукатворная містэрыя, разгортваўся евангельскі сюжэт: анёлы ўзнімалі Хрыста над зямнымі пакутамі ў цёмна-фіялетавую, амаль чорную, глыбіню неба, густа ўсеяную мігатлівымі зоркамі. Вочы спакутаванага Бога-чалавека глядзелі з-пад цярновага вянка проста ў душу. На мяккім, добрым абліччы — водсвет глыбокай занепакоенасці і нейкага трагічнага прадбачання. Жывапіс, само пісьмо выглядалі нязмушанымі і раскаванымі. Відаць было, што мастак, насуперак візантыйскім узорам, успомніў даўнія уніяцкія традыцыі.

Айцец Клаўдзій, калі ўбачыў, усё зразумеў, крыху, як гэта было яму ўласціва, пакрывіўся, але нічога супраць не сказаў. Абраз устанавілі ў царкве — на тым месцы, дзе ён павінен быў знаходзіцца, справа, перад клірасам. Дзяўчаты прыбралі яго ў вяночак з кветак і вышываныя ручнікі. Абраз вылучаўся навізной і свежасцю фарбаў, асабліва ў суседстве з іншымі, старадаўнімі, пацямнелымі ад часу, якія ўжо былі намоленымі. Гэтаму яшчэ трэба было стаць намоленым. Мякка адлюстроўваліся на ім мігатлівыя водсветы свечак, лашчылі і лагодзілі душу.

У Лявона, калі ён пазіраў на абраз, шчымела сэрца.

«Перажылі, ой, колькі перажылі! Жах! — успамінаў і дзівіўся Лявон, стоячы ў царкве і азіраючыся на абраз. — Няўжо з гэтага не з’явіцца нешта новае, дадатнае, добрае?»

Думаецца, ён меў рацыю. Ёсць жа, урэшце, і прымаўка (а прымаўкам ён верыў), якая сцвярджала: «Няма благога без добрага».

* * *

Пра Перамогу даведаліся 11 мая.



## Віктар ГАРДЗЕЙ

### ЛЕДАВІК

**1**

Цябе згадаць не дзіва, ледавік,
Які спусціўся з гор калісьцi стромкіх.
Ляжаў, растаў і не бясследна знік —
Скрозь на шляху пакінуў скал абломкі.

Не падлічыць сонцаваротаў цуг,
Не зразумець падзей былых загадкі.
Зямля была як шліфавальны круг,
Бо кожны камень — сточаны і гладкі.

Наводшыбе адвечных Кругавіч
Абшар зляжаўся пад суцэльнай крушняй,
Таму і жыў мой продак-дрыгавіч
Ад лета ў лета і бядней, і скрушней.

У роспачы ён камень папусціў,
Аж мамант спатыкнуўся ад здзіўлення.

---

***Гардзей Віктар Канстанцінавіч*** *нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Ці думаў продак, што акраўкі ніў
Узродзяцца на рэштках зледзянення?

Скрозь валуны, і не згадаць, каму
Прыйшла з аказіяй такая пошта.
Яшчэ малым я камень падыму,
Хаця дасюль не ведаю — навошта?

**2**

Перамагаў то Карфаген, то Рым,
Стапталі рунь сланы і драмадэры.
Гісторыя Палібія аб тым:
Бурліў Усход яшчэ да новай эры!

Абложаны дапетраў Карфаген,
А, зрэшты, быў і Рым навінцы рады:
На верхатуры абарончых сцен
З'явіліся кідальныя прылады.

Легіянераў чэрап на прыцэл
Узяць прасцей на глебе камяністай,
Дык сцеражыся камянёў і стрэл,
Запушчаных старукаю балістай!

Цаны адной абрынуты снарад
Ці з катапульты, ці з раменнай прашчы,
А чэрапу — бяда, калі ўпапад,
Хоць камень той і дробны, і лядашчы.

**3**

Ідзеш — спецробу не забудзь адзець,
І помні, што хапіла ў жыцце глуму.
На валуне тут люба пасядзець
І да канца сваю прадумаць думу.

Палоска жыта — вечнасці ўзбярэг,
Куды не ступіш з каменем на шыі.
Душы збалелай трэба абярэг,
Дык на адзенне «флікераў» нашылі.

На хвалях, як апоўдні прыпячэ,
Плысці сажонкамі ды па-сабачы.
Сядзі спакойна — думай! Не цячэ
Вада пад камень, што спрадвек ляжачы.

**4**

Раса на Юр’е — Божая краса!
Прамчаўся полем конь Ярылаў белы.
Затхнецца серп, здаволіцца каса —
На спорны год быў камень запацелы.

З расой прыйшлі вясны апекуны —
Святы Юр’я́ дый сам святы Мікола.
Блішчаць на шчодрым сонцы валуны,
І дабрадаць, і цішыня наўкола.

**5**

З гары глядзець — вышэй, далей, шырэй!
Сцюдзёны вецер і — сляза на вейцы.
Сівы ландшафт, адкуль задзьме барэй,
Абжыў народ лясны — гіпербарэйцы.

**6**

Прыходзіць час раскідваць камяні,
Запас якіх закончыцца не скора.
Маю́ гару, вандроўнік, абміні:
Дзве сотні метраў ад узроўню мора.

Тут ледавік спыніў марудны рух.
Агонь і лёд — іх дух непрымірымы.
Мой двор паплыў, затым агонь патух,
Але нам кепска без цяпла Радзімы.

Тут, на гары, гулянні ладзіць цмок,
Бо што ні камень — то адзінка зброі,
Ды з іх асілкі выціскаюць сок —
Так і жывуць народныя героі.

Над чэзлай стромай вольна крумкачу,
Вось і замоўклі перапёлкі ў жыце.
Валун я на гару не закачу,
І вы мяне за слабасць не журыце.

Ідзеш на строму — камень падбяры,
Напэўна, сам раскідваў іх учора.
Вятры і смерчы круцяць на гары —
Дзве сотні метраў ад узроўню мора.

**7**

Прызнаў і Рым вякі таму назад:
Гіпербарэйцы — тыя ж дзеці сонца.

Збіраюць хмель і дзікі вінаград,
А Вакхаў поўны кубак п'юць да донца.

**8**

Усыпана каменнямі ралля,
Ламалася ў аратых прычындалле.
Дажджу няма — не капае з галля.
Раса, як боб, упала на Купалле.

Нап'ецца ўдосталь колас не пусты.
На валуне спіць Божы старац седзьма.
Сыходзіць на палеткі Дух Святы,
І не ўкрадзе расы купальскай ведзьма.

**9**

У прымаўкі і прыказкі ўвайшлі,
Ды ў розныя павер'і і паданні.
Гавораць: камяні растуць з зямлі,
І можна чуць іх стогны і ўздыханні.

Растуць яны, не просячы дажджу,
На выспах супясчаных паўз балоты,
Маўчаць яны, калі наўзбоч хаджу,—
Маўчаць акамянелыя істоты.

Быў чэрап тут падняты з глыбіні:
Не дрыгавіч — якісь неандэрталец.
Легенда ёсць: знямелі камяні,
Дзе Бог ступіў і збіў аб камень палец.

**10**

Маю́ зямлю Палібія трактат
Не згадвае ані ў адным абзацы,
Хаця чужых краёў названа шмат
І нават зніклых шмат цывілізацый.

Мяняў Малох — крывавы бог вайны —
Імгненняў бег, як пералёт птушыны.
Калі раскідваць трэба валуны,
Прыдумалі бяздушныя машыны.

На тросе камень павалок цягач,
Малох шуміць: «Вы ж трос не пeратрэце!»
Тут на магільны камень сеў крумкач,
І штосьці мроіцца яму ў партрэце.

Была яна маёй, як ёсць, гара,
Была яна прыгожай і абжытай.
Сцярвятнік знаў гаспадароў двара,
Які стаяў калісьці з краю жыта.

**11**

Збіраю камяні на ўлоннях скрозь,
Дзе ледавік разворваў цвердзь зямную.
Мароз траскучы, рунь не памарозь:
Гарысты кут люблю я і шаную.

Тут, на гары, калі гуляў малым,
Падняў я камень, хай з мараллю строгай,
За пазуху схаваў, хоць быў не злым,—
Адзін крумкач адсочваў з асцярогай.

Найшла каса на камень — цяжкі год!
Стаяць люцэрне, з вікай і гарохам.
Скаціўся камень цётцы ў агарод,
Ляжачы камень абрастае мохам.

Наўрад ці стрэнеце дзяцей гурму,
Гара прыціхла ў смутку і зняверцы.
Адзін ёсць камень — я не падыму,
І гэты камень у мяне на сэрцы.

Цвітуць ляшчыннік і зязюльчын лён,
Таму гару і не назвалі Лысай.
Адсюль завейны далягляд відзён:
Там ледавік дзярэ планету мысай.



Юліян ВЫСОЦКІ

# ТАЕМНЫ ШЭПТ БЯРОЗ

*Дакументальная аповесць*

*У партызанскім руху на Беларусі ўдзельнічалі людзі розных узростаў, розных прафесій, нацыянальнасцей. У радах народных мсціўцаў былі і грамадзяне іншых краін, якіх прымусова мабілізавалі ў рады фашысцкай арміі. Але, безумоўна, пераважную большасць лясных салдат складала мясцовае насельніцтва: у партызаны ішлі цэлымі сем'ямі, а здаралася, што і ўсёй вёскай. Мне пашчасціла сустрэць на сваіх журналісцкіх сцежках цікавага чалавека — на той час намесніка дырэктара Бардзілаўскай дзесяцігодкі Мінскага раёна — Івана Дзям'янавіча Бачылу, які летнімі канікуламі са старшакласнікамі дапамагаў мясцовай гаспадарцы ўбіраць на камбайнах збожжа. Напісаў пра яго нарыс, і тут высветлілася, што Іван Дзям'янавіч — былы партызан вядомай на Міншчыне брыгады сарокінцаў.*

## Вораг — зблізку…

…Камсамольскі сход у Мяжанах на Браслаўшчыне ў тую чэрвеньскую суботу закончыўся позна. Складанае міжнароднае становішча выклікала вострыя дэбаты: у Еўропе шугала полымя ваеннай віхуры, якое набліжалася да нашай граніцы. Асноўныя спрэчкі ішлі вакол магчымага развіцця падзей. Адны даводзілі, што Гітлера не спыняць ніякія пакты і дагаворы, і ён нападзе на Савецкі Саюз, іншыя з гэтай высновай не згаджаліся. Мясцовы настаўнік Іван Бачыла выказаўся асцярожна і дыпламатычна: маўляў, трэба рыхтавацца да любых нечаканасцей і трымаць порах сухім. Потым спыніліся на мясцовых праблемах, і калі сход закончыўся, за вокнамі пачало днець.

Але калі члены вясковай ячэйкі выйшлі на вуліцу, вечарынка ў сельскім клубе была ў самым разгары. Гукі музыкі, вясёлы дзявочы смех, песні… Іван Бачыла прапанаваў выкарыстаць гэта маладзёжнае мнагалюддзе, каб расказаць пра рашэнні свайго сходу, пра надзённыя задачы моладзі. Пасля свое-

---

*__Высоцкі Юліян Станіслававіч__ нарадзіўся 10 верасня 1939 года ў вёсцы Роўкавічы Валожынскага раёна. Скончыў Полацкае педвучылішча (1959), вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў настаўнікам, у раённых газетах, у газеце «Мінская праўда», галоўным рэдактарам часопісаў «Ахова працы» і «Гермес».*

*Аўтар аповесцей «Таварыш Ганс» (2009), «Двое з пякельнага бамбардзіроўшчыка» (2012).*

асаблівай дзелавой часткі гулянка працягвалася, хаця ўжо добра разведнела. Хлопцы і дзяўчаты зноў закружыліся ў вясёлай польцы, кракавяку, павольным факстроце і вальсе. Хораша і мілагучна лілася музыка, адбіваў рытмы бубен. Іван Бачыла са сваім сябрам і цёзкам Іванам Філіповічам, які настаўнічаў у суседняй вёсцы, вырашылі пайсці дадому.

Моладзь таксама павольна разыходзілася з клуба. На ўсходняй ускраіне неба разгаралася чырвань, блакіт нябёсаў святлеў, але дзесьці далёка грымела, хаця хмар не было відаць. Раптам пачуўся натужны гул матораў, і над недалёкай чыгуначнай станцыяй з'явіліся і закружылі ў баявым піке самалёты, пачуліся ўзрывы бомб. Іван Філіповіч пабялеў і выгукнуў:

— Вайна! Пракляты фашыст усё-ткі напаў на нас! Што будзем рабіць?

Вырашылі дабірацца ў свае вёскі: Бачыла ў Бардзілаўку Мінскага раёна, а Філіповіч — у Беланы Лагойскага. На недалёкай чыгуначнай станцыі — трывога і лёгкая паніка. Тым не менш хлопцам пашчасціла ўзяць білеты і ўладкавацца ў вагоне прыгараднага цягніка. Ён часта спыняўся на прамежкавых прыпынках, і раптам аб'явілі, што далей дарогі няма: варожыя самалёты разбамбілі пуці. Прыйшлося адпраўляцца пешшу. Амаль тыдзень хлопцы асцярожна прабіраліся ўздоўж шасэйных дарог, запруджаных і забітых калонамі варожай тэхнікі, маршавымі батальёнамі фашыстаў. Для начлегу выбіралі бяспечныя месцы, часта начавалі ў лесе, пад адкрытым небам. Прастора дыхала цеплынёй, нагрэтае за дзень паветра струменіла лясны гаючы водар, і толькі трывожна і таемна шапацелі дрэвы. Пад іх начны пошум, які быццам бы нагадваў, што на іх родную зямельку прыйшла чорная бяда, у хлопцаў пачыналіся размовы пра далейшы лёс Беларусі, пра асабістую жыццёвую пазіцыю.

— …Фашыста хутка спыняць і пагоняць з нашай зямлі... — няўпэўнена гаварыў Філіповіч. — Памятаеш, нашу ваенную дактрыну: пры любым нападзе агрэсара вайна будзе ісці на яго тэрыторыі.

— Мяркуючы па колькасці іхняй сілы і па тым, як хутка вораг прасоўваецца па нашай зямлі, дактрына аказалася міфам, — задуменна і асцярожна выціснуў Бачыла. — На хуткую маланкавую перамогу спадзявацца не прыходзіцца. І што ты, цёзка, думаеш рабіць далей?

— Вярнуся дадому, а там пагляджу, куды падацца. Ну, а ты?

— Таксама пастараюся дабрацца дадому… давядзецца браць у рукі зброю, буду ваяваць... трывожная і суровая будучыня чакае нас... Услухайся, як таемна пра гэта шапочуць бярозы.

Непадалёку ад Радашковіч прыйшлося залегчы у высокім жыце: перайсці на другі бок дарогі не ўдавалася з-за мноства варожых калон. У калонах рухаліся і самаходныя малакаліберныя ўстаноўкі, якімі фашысты прыкрывалі свае войскі на маршы ад савецкай авіяцыі. Ад гулу матораў дрыжала зямля, паветра, здавалася, тугімі хвалямі біла па вушах. І раптам у гэтую какафонію гукаў уварваўся натужны цяжкі гул. Хлопцы ўзнялі галовы і ўбачылі, што ў высокім нябесным блакіце кружаць чырваназорныя самалёты. Адзін за другім яны пачалі пікіраваць на варожую калону, скідваць бомбы. Раз-пораз уздрыгвала зямля ад разрываў у галаве варожай калоны і ў самым яе хвасце. Пачалі страляць фашысцкія самаходныя ўстаноўкі. І раптам адзін самалёт задыміў і пачаў падаць — варожы снарад трапіў у яго.

— Куды ж ты? Скачы з парашутам! — закрычалі хлопцы ў адзін голас, як быццам лётчыкі ў гэтым грукаце маглі пачуць іх.

Але раптам бамбардзіроўшчык выраўняўся і накіраваўся ў галаву калоны. Палаючым метэорам урэзаўся ён у калону фашысцкай тэхнікі. Грукат магутных узрываў скалануў наваколле. Настаўнікі аслупянелі: самаахвярнасць

невядомых лётчыкаў уразіла іх. Толькі намнога пазней яны даведаліся, што былі сведкамі неўміручага подзвігу капітана Гастэлы і яго гераічнага экіпажа.

Перабрацца на той бок дарогі не атрымалася, і таму вырашылі рухацца ў Беланы — родную вёску Івана Філіповіча. Наперадзе, ля Астрашыцкага Гарадка, грымелі разрывы снарадаў, гранат, чуліся кулямётныя і аўтаматныя чэргі, вінтовачныя стрэлы. Ішоў няроўны смяротны бой — славутая сотая дывізія пад камандаваннем Русіянава стрымлівала тут шалёны націск танкаў і матарызаванай пяхоты ворага. Таму нашым падарожнікам давялося збочыць і спыніцца на начлег у невялікай вёсачцы на ўскраіне лесу. Спаць з дазволу гаспадара ўладкаваліся на сене ў адрыне, што стаяла на водшыбе. Раніцой іх разбудзіў гул матораў. Праз адтуліну ў сцяне ўбачылі: у двор укаціўся чорны танк з крыжам на брані. Хлопцы выйшлі з адрыны, іх заўважылі, і танкісты ў чорных камбінезонах накіраваліся ў адрыну. Яны выцягнулі чамаданы хлопцаў і пачалі перетрасаць няхітры іх скарб. Філіповіч памкнуўся забраць свае рэчы, але атрымаў аплявуху. Ён пачырванеў і злосна сціснуў кулакі. Бачыла схапіў яго за руку і адвёў убок.

— Супакойся, Ваня, — мякка і ціха сказаў ён сябру. — Супраць сілы не папрэш, а яна на іх баку. Пацярпі да зручнага моманту.

…Радасна, як дарагіх гасцей, сустрэлі падарожнікаў у Беланах, пасадзілі за стол, прынеслі вясковыя пачастункі. За сталом пачалася сумная размова пра вайну і гора, якое навалілася на людзей. Хлопцы расказалі пра свае прыгоды ў дарозе, пра подзвіг савецкіх пілотаў пад Радашковічамі, пра бой ля Астрашыцкага Гарадка... І раптам на вуліцы пачалася страляніна. Усе з хаты выбеглі на вуліцу. З усходняга боку вёскі рухаліся бронемашыны, цеснай шарэнгай таропка прасоўваліся фашысцкія салдаты…

Назаўтра Іван выправіўся ў далёкую дарогу, да роднага дому з трывожнай думкай пра лёс сваіх родных і блізкіх. Навучаны доўгім падарожжам з Браслаўшчыны, ён быў вельмі асцярожны, і без перашкод адолеў свой шлях.

Але не толькі навуку асцярожнасці засвоіў Іван Бачыла на небяспечным шляху ў родныя мясціны. Гэта дарога сталася дарогай да такога святога ў чалавечай натуры пачуцця, як неадольнае жаданне помсціць ворагам за кроў і слёзы родных, дарагіх, блізкіх. Зярняты гневу і нянавісці пусцілі глыбокія карані ў душы маладога настаўніка і патрабавалі выхаду, рашучых дзеянняў. Ён верыў, што ў роднай вёсцы знойдзе аднадумцаў і паплечнікаў для суровай барацьбы з фашысцкімі вылюдкамі.

## Падполле пачынае барацьбу

У Бардзілаўцы, куды ўжо амаль у сярэдзіне ліпеня прыйшоў Іван Бачыла, засталося многа камсамольцаў, моладзі — усе, каго не паспелі мабілізаваць. У склад падпольнай групы разам з Іванам уступілі яго блізкія і родзічы — Фёдар і Васіль Бачылы, тры браты Бельскія і іншыя. Пачалі з пошуку зброі. У мясцовай школе разам з маці-настаўніцай жылі браты Ролічы, якія хавалі лямпавы радыёпрыёмнік. Цішком, каб ніхто не ведаў, яны запісвалі зводкі Саўінфармбюро з франтоў. Спачатку гэтыя весткі размнажалі ўручную, пасля Іван з Фёдарам пачалі друкаваць іх на машынцы.

Некалькі разоў Фёдар разам з маці на падводзе пад выглядам паездкі на Чэрвеньскі рынак наведваў свайго добра знаёмага Арсеня Каліноўскага, удзельніка Мінскага падполля, і прывозіў у Бардзілаўку лістоўкі, газеты.

Яны ж у адну са сваіх чарговых паездак прывезлі і першы нумар падпольнай газеты «Звязда». Бацька Фёдара — Апанас Бачыла — былы дваццаціпяцітысячнік, арганізатар мясцовага калгаса, а пасля сакратар партыйнай арганізацыі, ужо ваяваў у партызанскім атрадзе «Перамога», які дзейнічаў у недалёкім лесе. Ён часта наведваў сям'ю, падказваў падпольшчыкам, што рабіць.

Дарэчы, Фёдар Бачыла пазней стаў падрыўніком, быў цяжка паранены, атрымаў высокую ўрадавую ўзнагароду — ордэн Леніна, і пасля вайны доўгі час працаваў фотакарэспандэнтам у газеце «Чырвоная змена». Пра свой удзел у партызанскай барацьбе напісаў кнігу «Застаюся жыць», якая ў 1981 годзе выйшла ў выдавецтве «Беларусь»…

Ужо ў ліпені 1941 года перадавыя фашысцкія часці прайшлі далёка наперад, за імі рухаліся тылавікі, падбіралі ўсё каштоўнае, рабавалі насельніцтва, усталёўвалі жорсткі акупацыйны рэжым. У суседніх Міханавічах з'явіўся нямецкі гарнізон, камендатура, у іншых вёсках — старасты. Пачалі дзяліць калгасную маёмасць, зямлю. З суседняй вёскі ўсіх мужчын і моладзь вывезлі ў Германію. Падпольшчыкі рыхтавалі сабе надзейныя схавішчы, дзе трымалі прадукты, запаснoе адзенне, зброю, і, у выпадку небяспекі, хаваліся самі. Яны захоўвалі строгую канспірацыю, былі падзелены на баявыя тройкі, вялі разведку і своечасова ведалі пра намеры ворага, пра абстаноўку ў наваколлі.

Многіх спецыялістаў-чыгуначнікаў акупанты прымусілі выйсці на работу, рамантаваць пуці, тэхніку. Трапіў у іх лапы і бацька Івана — Дзям'ян Бачыла. Аднойчы, за вячэрай, ён паведаміў сыну, што немцы шукаюць дыверсантаў, якія ўзарвалі ваенны эшалон на перагоне ля Міханавіч. Пасля з'явіліся чуткі, што невядомыя ўзброеныя людзі разграмілі варожы абоз і вызвалілі моладзь, якую хацелі адправіць у Германію. І многія з тых юнакоў таямніча зніклі і дамоў не вярнуліся. А дыверсіі на чыгунцы здараліся ўсё часцей. Загаварылі, што ў недалёкім Русакоўскім лесе размясціўся партызанскі атрад, які стварылі акружэнцы, былыя ваеннапалонныя і моладзь з мясцовых вёсак, якую выратавалі ад вывазу на фашысцкую катаргу. А неўзабаве цёмнай асенняй ноччу ў Бардзілаўцы з'явіліся ўзброеныя людзі з гэтага атрада. У хату да Дзям'яна ўвайшлі трое з вінтоўкамі і адзін з нямецкім шмайсерам. Павітаўшыся, яны насцярожана агледзелі памяшканне і на запрашэнне гаспадара прыселі да стала.

— Вы працуеце на чыгунцы, — ні то запытальна, ні то сцвярджальна вымавіў узброены аўтаматам незнаёмец.

— А куды ж падзенешся, прымусілі, — вінавата вымавіў бацька.—Ды і жыць жа неяк трэба.

— Сын таксама працуе на пуцях? — запытаў усё той жа. — Ён нам патрэбен для сур'ёзнай размовы.

— Не, ён пакуль дома, па гаспадарцы дапамагае, — адказаў Дзям'ян. — Зараз паклічу.

З бакоўкі выйшаў Іван, і, прывітаўшыся, прысеў на ўслоне воддаль ад стала. Ён уважліва глядзеў на незнаёмцаў: увесь іх выгляд сведчыў, што гэта не паліцаі, ды і сэрца падказвала: гэта свае.

— Прывітанне табе ад твайго цёзкі Івана Сезеня, — з усмешкай вымавіў аўтаматчык. — Ён цяпер у нашым атрадзе і спадзяецца на тваю дапамогу. Вы разам з ім збіралі сякую-такую зброю, амуніцыю, і ён прасіў перадаць яе нам. Будзе вельмі добра, калі вы сабераце яе больш: наш атрад вырас, і зброя, а таксама боепрыпасы нам вельмі патрэбныя.

Так у мясцовых падпольшчыкаў з'явілася сувязь з партызанскім атрадам. З гэтага часу Іван і яго сябры пачалі рэгулярна выконваць даручэнні парты-

занскага камандавання: збіралі зброю, распаўсюджвалі лістоўкі, перадавалі звесткі пра графік руху ваенных эшалонаў, пра сістэму аховы чыгункі. Першай баявой аперацыяй Івана Бачылы стала дыверсія на «жалезцы».

Аднойчы цёмнай вераснёўскай ноччу ён пачуў ціхі стук у аконную шыбу. Здагадаўшыся, што такі сігнал можа падаваць толькі свой, Іван адчыніў дзверы. У хату ўвайшоў Іван Сезень. Ён папрасіў правесці яго бяспечным шляхам да чыгуначнай станцыі Міханавічы. Міну яны ўдвух паставілі ўдала: варожы эшалон зляцеў з рэек, і рух на ўсход быў затрыманы на цэлыя суткі.

Фашысты ўстрывожыліся, часцей сталі праводзіць аблавы, хапаць моладзь, узмацнілі свае гарнізоны, стваралі новыя. Небяспека навісла і над бардзілаўскімі падпольшчыкамі. Некаторыя ўдзельнікі мясцовай падпольнай групы па рашэнні камсамольскага кіраўніцтва ў пачатку 1942 года пайшлі ў партызанскі атрад, сувязь з якім была пастаяннай. Першым пасланцом да народных мсціўцаў аказаўся Мікола Шкор. За ім пайшлі Аляксей Бельскі, Валодзя Арцёмаў, Фёдар і Валодзя Бачылы. На развітанне камандзір групы Аляксей Бельскі загадаў Івану:

— Камандаванне групай па агульным рашэнні камсамольскага бюро ўскладзена на цябе. Але гэта яшчэ не ўсё. Пойдзеш працаваць разам з бацькам на чыгунку.

— Дапамагаць фашыстам? — здзівіўся Бачыла.

— Так трэба, — цвёрда адказаў Аляксей. — Вочы і вушы маеш, лічыць умееш, пра ўсё што ўбачыш і пачуеш, будзеш дакладваць у атрад. З гэтага дня лічы сябе не толькі кіраўніком падпольнай групы, але і партызанскім разведчыкам.

З гэтага часу Іван Бачыла стаў сам часцей бываць у партызанскім атрадзе, прыносіў свежыя разведданыя, пазнаёміўся з многімі байцамі. Навіны пра баявыя дзеянні лясных салдат далёка разышліся па навакольных вёсках. А неўзабаве ў партызан з'явілася і сувязь са штабам партызанскага руху ў Маскве. Адбылася гэта падзея ў адзін з вясновых дзён 1942 года…

## Бой на Воўчым востраве

…На невялікай прагаліне, сярод векавых соснаў, бялеў ладны кавалак тканіны. Партызанскія дазорныя заўважылі гэта яшчэ здалёк, з павароту ўезджанай лясной дарогі і прынялі спачатку за гурбу снегу. Але калі пад'ехалі бліжэй, убачылі, што на маленькіх елачках завіс парашут. Гэта насцярожыла. Пасля разгрому варожага гарнізона ў Малым Трасцянцы фашысты настойліва населі на нешматлікі яшчэ атрад, рухаліся па яго слядах, і рэдкі дзень абыходзіўся без баявых сутычак з карнікамі. Вось і сёння партызаны ледзь адарваліся ад ворага і рушылі ў бок вёскі Каладзіно. Туды паслалі ўжо разведку: на лёгкіх развалках, запрэжаных стаеннікам, паімчалі Асадчы і Мураўскі.

У гэтых амаль бесперапынных баях пільнасць і назіральнасць людзей абвастрыліся. Яны чуйна рэагавалі на кожны падазроны шум лесу, на кожны незнаёмы прадмет. А тут раптам — парашут! Асцярожна падышоўшы бліжэй, партызаны выявілі пад шаўковым палотнішчам туга набіты брызентавы мяшок. У ім аказаліся сакавіцкія нумары «Праўды», каністра са спіртам, кансервы, сухары. Абступіўшы незвычайную знаходку, людзі з цікавасцю разглядалі багатыя трафеі. Газеты адразу ж пайшлі па руках, але камісар Кім Ляшчынскі адабраў іх і схаваў у камандзірскую сумку:

— На прывале пачытаем разам, — сказаў ён.

— Значыць, чуткі пра армейскі дэсант усё-такі праўдзівыя, — пасля кароткага маўчання вымавіў адзін з дазорных, Валодя Балукоў. — Вось бы сустрэцца з імі, распытаць, як там на фронце.

— Зямля цесная: сустрэнемся, — запэўніў яго другі дазорны. — Па адных сцежках цяпер ходзім, на адно звяр'ё палюем.

Пад вечар на часовую стаянку атрада ў Русакоўскім лесе пешшу вярнуліся разведчыкі. Яны далажылі камандзіру, што ў вёсцы ў іх укралі фурманку. Мясцовыя жыхары паведамілі, што гэта зрабілі нейкія вайскоўцы, палічыўшы, напэўна, што на развалках прыехалі паліцаі. Хлопцы жартавалі, што дэсантнікі забралі фурманку як выкуп за згублены мяшок, які знайшлі партызаны ў лесе. А праз некалькі дзён лясныя салдаты сустрэлі гэтых вайскоўцаў, пазналі іх па сваёй фурманцы. Гэта аказаліся чырванаармейцы-дэсантнікі пад камандаваннем старшага лейтэнанта Уладзіміра Марэева, закінутыя ў тыл для дэверсійна-разведвальнай баявой дзейнасці. Трапілі яны ў гэты лясны масіў выпадкова, з-за памылкі пілотаў.

Пра гэта і іншыя свае прыгоды дэсантнікі расказалі партызанам за сяброўскім застоллем у гасціннай сялянскай хаце. Уладзімір Марэеў паведаміў, што дэсантавацца яны павінны былі на Воўчы востраў, дзе меркавалі абсталяваць свой пастаянны баявы лагер. Партызаны паабяцалі дапамагчы ім у гэтым.

З гэтага часу дэсантнікі і партызаны разам хадзілі на баявыя аперацыі, узрывалі чыгуначныя рэйкі, пускалі пад адхон варожыя эшалоны. Востра не хапала ўзрыўчаткі, зброі, боепрыпасаў. Таму на пачатку мая Уладзімір Марэеў выклікаў да сябе радыстку Валянціну Бушуеву і загадаў ёй звязацца па рацыі з Вялікай зямлёй. Ён атрымаў згоду на злучэнне з партызанскім атрадам і папрасіў прыслаць усё неабходнае для баявых дзеянняў. Камандзірам атрада быў прызначаны старшы лейтэнант Марэеў, камісарам — Кім Ляшчынскі. Дзве майскія ночы над Русакоўскім лесам кружылі чырваназорыя самалёты, на водсвет кастроў ляцелі парашуты з каштоўнымі грузамі. Партызаны прымалі іх і перапраўлялі на Воўчы востраў.

Месца для лагера, сапраўды, было ўдалым. Востраў густа парос векавымі дрэвамі, яго паўднёвая частка была пакрыта густым маладым сасоннікам, у якім планавалася размясціць буданы. Вакол Воўчага рассціланіся цяжкапраходныя балоты, што рабіла гэта месца зручным для абароны. У часовых буданах, абцягнутых палотнішчамі парашутаў, прыкрытых лапнікам хвоі, размясцілі медпункт, склад боепрыпасаў, штаб. Зморанымя штодзённымі клопатамі па прыёмцы і сарціроўцы грузаў, партызаны з наступленнем цемры моцна заснулі, уладкаваўшыся хто дзе. Нарэшце ў лагеры ўсё заціхла. Толькі вартавыя чуйна ўслухоўваліся ў шумы начнога лесу. Ціха і асцярожна, нібы прывіды, прасоўваліся яны па вызначаных маршрутах. Імжэў дробны надакучлівы дождж, неба, закрытае нізкімі воблакамі, здавалася, яшчэ больш згушчала начны змрок. Трывожна шапталіся дрэвы, шапацелі кусты.

У гэтым суцэльным шуме дазорны перадавога сакрэту ўлавіў якісьці падазроны рух, і ў той жа момант халодная сталь апякла яго плячо. Вартавы інстынктыўна адхіліўся і стрэліў. Рэзкае рэха стрэлу пакацілася над прамоклай зямлёй. Лес адразу ж напоўніўся тупатам ног мноства людзей, камандамі на чужой мове, бразгатаннем зброі. Другі, бліжэйшы да лагера, пост падняў баявую трывогу. Партызаны імгненна ўсхопліваліся, кідаліся да зброі і займалі свае, вызначаныя ў баявым раскладзе, месцы. Кулямётчыкі першымі адкрылі

масіраваны агонь. Раптоўная атака карнікаў захлынулася: фашысты заляглі. У начной цемры толькі па інтэнсіўных стрэлах можна было вызначыць лініі абароны і нападу, якія занялі праціўнікі. З першых хвілін бою партызаны не шкадавалі патронаў у адказ на кожны падазроны шум, на кожную ўспышку варожых стрэлаў.

Колькасць карнікаў вызначыць было цяжка, толькі па насычанасці варожага агню можна было меркаваць, што фашысты ў некалькі разоў пераўзыходзяць атрад Марэева ў жывой сіле і ўзбраенні. Таму Уладзімір Марэеў пабываў амаль ля кожнага байца і, урэшце, застаўся з кулямётчыкамі Фёдарам Глебавым, Пятром Кукарэкам і Іванам Ціханчыкам, якія знаходзіліся на цэнтральным участку абароны. З'явіліся першыя параненыя, але пасля перавязкі некаторыя з іх зноў вярталіся на баявыя пазіцыі.

Прыблізна апоўдні ўсталявалася трывожнае зацішша. Карыстаючыся гэтым, Валянціна Бушуева, паведаміўшы па загадзе камандзіра на Вялікую зямлю пра варожы напад, згарнула рацыю і, закінуўшы яе за плечы, выйшла з будана, каб перамясціцца ў больш бяспечнае месца. Нечакана яна сутыкнулася з паліцэйскім. Дзяўчына двойчы стрэліла з пісталета ва ўпор і пачала клікаць на дапамогу: з-за бліжэйшых дрэў паказаўся ланцуг карнікаў, якія ўклініліся ў наш левы фланг. На крык Бушуевай першым кінуўся Антон Кананчук і іншыя байцы. Па загадзе камандзіра Іван Ціханчык і Пётр Кукарэка перанеслі кулямётны агонь на левы фланг і адрэзалі варожы ланцуг.

У жорсткай рукапашнай сутычцы фашысты былі знішчаны, рацыя і радыстка выратаваны. Гэта падзея, бадай, і аказалася кульмінацыяй бою. Фашысты не маглі прасунуцца ўжо ні на крок, адступілі на самы край вострава, дзе акапаліся і заляглі. Над прасторай навісла зацішша. Карыстаючыся ім, Антон Кананчук па загадзе Марэева залез на высокую елку і агледзеў у бінокль наваколле. Ён далажыў, што непадалёку ад вёскі Распуцце фашысты ўстанаўліваюць артылерыю, мінамёты, да пераправы праз балота набліжаліся браневікі.

— Вось-вось пачнецца абстрэл! — заключыў Кананчук.

— Падрыхтавацца да атакі! — загадаў Марэеў. Загад пайшоў па радах партызан ад байца да байца.

— За Радзіму! Наперад! Ура! — выхапіўшы маўзер, старшы лейтэнант кінуўся наперад.

За ім узняліся байцы і партызаны. Затрашчалі аўтаматы, загаварылі ручныя кулямёты. З флангаў іх падтрымалі «станкачы», і вораг не вытрымаў, адкаціўся ў балота. Загрукала варожая артылерыя і доўга біла па пустых партызанскіх пазіцыях. Падчас атакі загінуў Уладзімір Марэеў і быў смяротна паранены камісар Кім Ляшчынскі. Народныя мсціўцы трымаліся яшчэ амаль суткі і не адступілі ні на крок. Наступнай раніцай карнікі сабралі забітых і параненых і вярнуліся ў гарнізон. Як паведамілі пасля мясцовыя жыхары, ворагі прывезлі 42-х забітых і 50 параненых. Партызаны страцілі 4-х сваіх таварышоў, 11 байцоў атрымалі раненні.

Нялёгкі бой доўжыўся 36 гадзін і закончыўся перамогай лясных салдат. Гэта загартавала партызан, павысіла іх баявы дух. Але камандаванне народных мсціўцаў пачало рупіць пытанне аб магчымых здрадніках, якія так дакладна выявілі дыслакацыю атрада і выдалі ворагу. Таму партызанская разведка і сувязныя атрымалі строгі загад выкрыць іх. Такі загад атрымаў і Іван Бачыла. Ён пачаў уважліва прыглядацца да людзей.

## «Вам новае даручэнне…»

Неўзабаве з атрада прыбыў сувязны і перадаў новы загад камандавання: забяспечыць атрад медыкаментамі і перавязачным матэрыялам з медыцынскага пункта, які працаваў у Міханавічах. Пунктам загадваў наш палонны ўрач Міхайлаў. Справа аказалася даволі небяспечнай, бо якраз насупраць медпункта размяшчалася камендатура. Праз знаёмую санітарку Вольгу Войцік Іван Бачыла перадаў партызанскую просьбу Міхайлаву. З хваляваннем пад'язджаў Іван на падводзе да медыцынскай установы. Міхайлаў быў адзін у сваім кабінеце. Калі Бачыла зайшоў, урач выйшаў і старанна зачыніў за сабою дзверы. У сувязнога мільганула трывожная думка пра здраду, але ён вырашыў цярпліва чакаць, што будзе далей.

А далей здарылася непрадбачанае: у прыёмнай з'явіўся эсэсавец, і разам з урачом яны накіраваліся да кабінета. У Івана пахаладзела сэрца. Праўда, па дарозе яны дзесьці затрымаліся. Праз некалькі хвілін, якія сувязному здаліся бясконцымі, у кабінет зайшоў Міхайлаў.

— Чорт нанёс гэтага эсэсаўца, — з агідай прамовіў урач. — Нешта хоча выведаць, ды не на такога нарваўся. А ты, напэўна, перахваляваўся. Не бойся: я не выдам нікога. І хачу паведаміць яшчэ адно: няхай партызанская разведка прыгледзіцца да свайго сувязнога ў Дукорскім гарнізоне. Здаецца мне, па некаторых выказваннях майго знаёмага эсэсаўца, што хтосьці там працуе на немцаў.

З гэтымі словамі ўрач перадаў Івану два цяжкія кошыкі з медыкаментамі і праводзіў яго на дарогу. Іван адправіў медыкаменты ў атрад і паведаміў пра падазрэнні Міхайлава. Праз дзён дзесяць Бачылу перадалі запіску ад урача. Ён пісаў, што абстаноўка на медпункце ўскладнілася, і заставацца там ён больш не можа. Міхайлаў прапанаваў захапіць як мага болей тары для медыкаментаў і ў дзве гадзіны дня пад'ехаць на падводзе да медпункта.

Іван прыехаў у Міханавічы роўна ў прызначаны час. Увесь гарнізон у той дзень выбыў на чарговую аблаву. Дзяжурнаму салдату Міхайлаў сказаў, што паедзе па выкліку да хворага і бесперашкодна разам з сувязным яны пакінулі медпункт — на гэты раз назаўсёды. Так у партызанскім атрадзе з'явілася свая медыцынская служба. Пасля вайны Міхайлаў прыязджаў у Бардзілаўку, і яны з Іванам Бачылам успаміналі гэты эпізод.

Пераважная большасць моладзі, ратуючыся ад угону ў Германію, папаўняла партызанскія атрады. Але і вораг не драмаў: ва ўсіх буйных населеных пунктах умацоўваліся варожыя гарнізоны, з'явіліся новыя, часцейшымі сталі аблавы. Па варожых гнёздах — гарнізонах — вырашана было нанесці ўдары. У адной з такіх аперацый удзельнічаў і Іван Бачыла. Атрад, у якім ён быў сувязным, разграміў фашысцкі гарнізон цэнтральнай сядзібы былога саўгаса «Гуркі», захапіў многа зброі, боепрыпасаў, прадуктаў харчавання. Разгромілі таксама гарнізон у Кайкаве, на торфараспрацоўках, дзе служылі літоўцы і ўкраінцы. Многія з іх перайшлі да народных мсціўцаў.

Вораг устрывожыўся, сцягнуў рэгулярныя часці і пачаў прачэсваць лясы. Нашы атрады былі яшчэ нешматлікімі, слаба ўзброенымі, і таму камандаванне прымяніла адзіна правільную ў той абстаноўцы тактыку: невялікімі групкамі партызаны выйшлі з блакады і разышліся па вёсках. Калі блакаду знялі, яны зноў сабраліся ў лясах.

Ціхім шэрым досвіткам, пастукаўшы ўмоўленым сігналам у дзверы, у хату да Бачылаў зайшоў партызанскі пасланец Іван Сезень. Павітаўшы гаспадароў, ён прысеў да стала і трывожным стоеным голасам вымавіў:

— Наша разведка ўстанавіла, што сёння або заўтра фашысты рыхтуюць аблаву ў вашай вёсцы, каб усю моладзь адправіць у Германію. Камандаванне прапануе неадкладна пераправіць усіх падпольшчыкаў у атрад. Захапіце ўсю наяўную зброю і прыходзьце ў партызанскі лагер. Мяркую, што і табе, Іване, не варта заставацца ў вёсцы. Збірай сваіх байцоў і прыходзьце, не марудзячы, у лес.

— Але ж я працую на чыгунцы і мая адсутнасць можа выклікаць падазрэнні і, не дай бог, рэпрэсіі супраць маіх бацькоў, — задумаўся Іван.

— Не, Іванка, не з рукі табе падавацца ў партызаны, — паківала галавою маці,— цябе, можа, і не забяруць у Нямеччыну: ты ж працуеш на чыгунцы. Дый пра бацьку падумай: як ён растлумачыць тваю адсутнасць на рабоце.

— Растлумачыць можна проста: памылкова забралі ў Германію, — параіў партызан. — Правяраць наўрад ці будуць. У крайнім выпадку можна спаслацца на хваробу.

Іван Сезень параіў сувязному сабраць на вызначаным пункце ўсю моладзь, якая яшчэ заставалася ў Бардзілаўцы. Ён загадаў неадкладна забраць са схронаў усю зброю, запасціся прадуктамі і выступіць у атрад. Антон і Герасім Бегуны, Уладзімір Ахрамовіч, Канстанцін Бельскі, Уладзімір Зубчонак, Пётр Бачыла сабраліся па-ваеннаму хутка і на чале з Іванам і партызанскім сувязным адправіліся ў лес. Калі апошняга падарожніка схавалі прыбярэжныя кусты і дрэвы, з боку Кайкава паказаўся ланцуг паліцаяў і жандараў: аблава пачалася. У атрадзе размеркавалі падпольшчыкаў па розных узводах. Івана Бачылу залічылі ў дыверсійную групу Сямёна Баркана (у пасляваенныя гады ён працаваў дырэктарам Свярдлоўскага машынабудаўнічага завода).

Кожную ноч падрыўнікі выходзілі на чыгунку, спускалі пад адхон саставы з варожай тэхнікай, жывой сілай, боепрыпасамі. Фашысты сталі ўмацоўваць ахову чыгункі, будавалі доты, міціравалі падыходы. Уздоўж чыгуначнага палатна развесілі сігнальныя званочкі. Праз кожныя пяць мінут праходзілі ўзброеныя патрулі. Падрыўнікам стала больш складана і небяспечна, яны неслі страты. Фёдар Бачыла ў час адной аперацыі трапіў на міну і быў паранены, такі ж лёс напаткаў і Васіля Баркуна. Тады Сямён Баркан прапанаваў іншую тактыку — ударыць па чыгуначных станцыях. І сапраўды, партызаны правялі паспяховую аперацыю на станцыі Міханавічы: узарвалі стрэлкі і чыгуначны састаў, пасля паўтарылі гэта ў Седчы.

Група Баркана з’яўлялася нечакана пад самым носам у фашыстаў, наносіла ім адчувальны ўрон. Дапамагала тое, што праз сваіх разведчыц-сувязных Вольгу Бельскую і Зінаіду Шкор, якія працавалі на ўзвядзенні ўмацаванняў уздоўж чыгункі, партызаны дакладна ведалі абстаноўку, сілы і сістэму аховы, шляхі найбольш бяспечнага падыходу і адыходу. Дапамогу падрыўнікам аказваў і бацька Івана Бачылы — Дзям’ян, які да гэтага часу працаваў пуцявым абходчыкам.

Ціхім летнім досвіткам група падрыўнікоў, у складзе якой быў і Іван Бачыла, асцярожна падышла да чыгункі насупраць дота, які стаяў паблізу станцыі Дубовае. Удалечыні пачуўся грукат цяжка нагружанага цягніка. Васіль Афанасьеў таропка паставіў міну ў тым месцы, якое ім падказаў Дзям’ян Бачыла, і скаціўся пад насып. Партызаны адбеглі і заляглі ў хмызняку. Магутны выбух скалануў наваколле. Састаў з фашысцкай ваеннай тэхнікай узляцеў у паветра. Амаль тыдзень пасля гэтага немцы расчышчалі дарогу. Уся група падрыўнікоў за гэту аперацыю была ўзнагароджана партызанскімі медалямі першай ступені.

## Разведцэнтр — на сувязі

У верасні 1942-га атрад узначаліў старшы лейтэнант Леанід Сарока, які па заданні разведупраўлення Заходняга фронту з радысткай Аляксандрай Гарковай быў закінуты ў глыбокі нямецкі тыл для збору агентурных звестак па Мінскім чыгуначным вузле і арганізацыі дыверсій. Дэсантавалі іх у Кайкаўскім лесе. Рацыю разгарнулі ў леснічоўцы, сам Сарока паступіў у лясніцтва на работу лесніком.

Леанід нарадзіўся ў Заслаўскім раёне каля Мінска, працаваў на чыгунцы, у 1939 годзе яго прызвалі ў армію. На пачатку вайны абараняў Ленінград, пасля скончыў разведшколу, быў залічаны ў разведупраўленне Заходняга фронту. І цяпер выконваў адказнае заданне на сваёй Радзіме. Спачатку ўсё ішло добра. Але брат ляснічага, які служыў у паліцыі, стаў падазраваць новага лесніка, і пра свае падазрэнні далажыў у камендатуру. На леснічоўку наляцела жандармерыя, правяла вобыск, збіла гаспадароў, але нічога так і не знайшла: Сарока ў гэты час быў на абходзе, а рацыя з радысткай надзейна схаваны.

Разведчык зразумеў, што знаходзіцца на грані правалу, і тэрмінова перабазіраваўся ў закінутую пуню ў глыбіні лесу, у самым гушчары. Адсюль у разведцэнтр паляцелі данясенні і здабытыя звесткі пра абстаноўку і работу Мінскага чыгуначнага вузла. У адзін з вераснёўскіх дзён Сарока вяртаўся з разведкі на свой пункт. Ён асцярожна ехаў на веласіпедзе па глухой лясной сцяжынцы, і тут з-за хмызняку пачуўся вокліч:

— Стой! Рукі ўгору!

З гушчару выйшлі ўзброеныя людзі і акружылі веласіпедыста. Гэта была партызанская разведка на чале з Анатолем Алейнікам. У групу ўваходзілі Пятро Сачок, Сямён Баркан, Уладзімір Балукоў.

— Хто такі? Дакументы ёсць? — запытаў Алейнік.

— Што ў яго пытацца? — запярэчыў Балукоў. — Відаць жа: фашысцкі паслугач. На веласіпедзе цяпер раз’язджаюць толькі здраднікі. Няйначай, бобік штосьці выглядвае ў нашым лесе, а пасля навядзе карнікаў, на Воўчым востраве было такое.

— Я мясцовы ляснік, — асцярожна сказаў Сарока. — Раблю абход свайго ўчастка. А вы хто такія?

— Гэта цябе не датычыцца, — рэзка абарваў Алейнік. — Паглядзіце, хлопцы, што ў ягоных кішэнях.

Пятро Сачок дастаў з кішэні штаноў падазронага нямецкі рэвальвер.

— Ну, што цяпер скажаш, «ляснік»? — здзекліва спытаў Алейнік. — Расстраляць яго! — загадаў ён Сямёну Баркану.

Сароку адвялі са сцежкі глыбей у лес і паставілі ля вялікага куста ядлоўцу. Бразнуў затвор вінтоўкі.

— Хопіць ламаць камедыю, — спакойна сказаў «ляснік». — Я савецкі разведчык, старшы лейтэнант, на заданні ў глыбокім тыле. А вы, напэўна, партызаны…

— Разведчык? Гэта яшчэ даказаць трэба, — недаверліва прамовіўАлейнік. — Ёсць у цябе доказы?

— Хадзем са мною ў пуню, там мая радыстка з рацыяй. Дарэчы, набліжаецца і час сувязі з разведцэтрам фронту...

Уся група накіравалася да адзінокага збудавання. Партызаны пачалі падымацца на вышкі па драўлянай лесвіцы. Зверху пачуўся шчаўчок затвора аўтамата.

— Шура, не страляй, гэта свае! — прамовіў Сарока...

Так у патрызан з’явіўся новы камандзір — кадравы ваенны, старшы лейтэнант Леанід Сарока з разведупраўлення Заходняга фронту. Цяпер амаль

уся дзейнасць партызанскага атрада была падпарадкавана разведцы. Леанід Сарока накіраваў у Мінск і навакольныя варожыя гарнізоны некалькі груп разведчыкаў і сувязных. Яны ўладкаваліся ў нямецкія ўстановы, на прадпрыемствы. Да гэтага часу атрад папоўніўся людзьмі настолькі, што на яго базе стварылі партызанскую брыгаду.

У штаб пачала паступаць каштоўная стратэгічная інфармацыя. Неўзабаве яе стала так многа, што для перадачы спатрэбілася некалькі рацый. І разведцэнтр у розны час прыслаў у атрад пяць радыстак з апаратурай. Адначасова з разведкай партызаны праводзілі і баявыя аперацыі супраць фашысцкіх захопнікаў. Партызаны разграмілі нямецка-паліцэйскія гарнізоны ў Крупіцы, Самахвалавічах, Трасцянцы, Зазер'і, Анопалі і іншых населеных пунктах. Савецкая ўлада была адноўлена ў многіх вёсках і сёлах, у тым ліку ў Бардзілаўцы, Кайкаве, Аляксееўцы, Міханавічах. І фашысты нічога не маглі з гэтым зрабіць, хаця неаднаразова праводзілі карныя аперацыі. У многіх з іх удзельнічаў і Іван Бачыла, яго аднавяскоўцы — таварышы па падпольнай барацьбе — і члены дыверсійнай групы, з якімі ён пасябраваў.

У сарокінцаў, як пачалі называць партызан уз'яднанай брыгады, была рэгулярная сувязь з Вялікай зямлёй, адкуль яны атрымлівалі зброю і боепрыпасы, медыкаменты, а самі праз сувязных і па рацыі перасылалі неабходныя разведданыя. У адзін з дзён, дакладней, начэй, цэнтр разам з сувязным Барысам Булычовым закінуў у брыгаду савецкага разведчыка — немца Франца Іягана Петэра, які пад Смаленскам перайшоў на бок Чырвонай Арміі, неаднаразова ўдзельнічаў у разведрэйдах, быў паранены. За подзвігі ў разведвальна-дыверсійнай дзейнасці атрымаў ордэн Чырвонай Зоркі і званне лейтэнанта. Цяпер яго накіроўвалі на разведку ў Мінск. Пад мянушкай «Інтэндант» ён абсталяваўся ў Мінску і пачаў разведку. У атрад перадаваў каштоўную стратэгічную інфармацыю. Аднойчы Франца затрымаў на вуліцы каменданцкі патруль. Дакументы ў «Інтэнданта» аказаліся ў поўным парадку, але ўбачыўшы за спінаю афіцэра аўтамат, старшы патруля прапанаваў прайсці ў камендатуру. Аказалася, Франц парушыў сакрэтны загад мінскага каменданта аб забароне афіцэрам насіць з сабою зброю акрамя кабурнай. Па дарозе ў камендатуру савецкі разведчык спрабаваў уцячы, але яго скасіла аўтаматная чарга. Леанід Сарока вельмі перажываў гэту балючую страту, ён моцна дакараў партызанскую разведку, якая своечасова не змагла даведацца пра сакрэтны загад каменданта.

## Мірная аперацыя ў Дукоры

Напярэдадні 1943 года з нямецкага гарнізона ў Дукоры ад дзяўчат-сувязных, якія жылі ў суседняй вёсцы Харэвічы, паступілі звесткі, што камандзір роты самаахвовы, якая абараняла дукорскі гарнізон і мост праз раку Свіслач, і многія яго падначаленыя шукаюць сувязі з партызанамі. Камандзір брыгады выклікаў да сябе начальніка партызанскай разведкі Анатоля Алейніка і камандзіра роты Пятра Сачка.

— Што думаеце наконт прапановы аб сустрэчы ў Дукоры? -— запытаў ён, ні да кога канкрэтна не звяртаючыся.

— Канечне, рызыка ёсць,— задуменна прамовіў Анатоль. — Але ж і ўсё наша цяперашняе жыццё — суцэльная рызыка.

— Бач ты, які філосаф! — усміхнуўся камбрыг. — Ты канкрэтна далажы, што высветліла твая разведка.

— Нашы сувязныя расказвалі аб поўнай лаяльнасці большасці самаахоўцаў, — сказаў Алейнік. — Мірнае насельніцтва яны не крыўдзяць, і камандзір роты часта намякае сувязным, што не супраць перайсці да нас.

—Тады даручаю вам разам з начальнікам штаба распрацаваць гэту аперацыю. Усё ўлічыце дакладна, каб ніякіх нечаканасцей…

Вырашылі выкарыстаць калядныя святы і запрасіць камандзіра самаахоўцаў у госці да бацькоў адной з дзяўчат — партызанскай сувязной — у вёску Харэвічы. Галоўная роля ў гэтай аперацыі адводзілася роце Пятра Сачка. У ёй былі партызаны — ураджэнцы суседніх з мястэчкам вёсак, ведалі ўсе падыходы да гарнізона, будынак, дзе размяшчаліся самаахоўцы. Камандзір роты даручыў Уладзіміру Балукову весці лясных салдат у Дукорскую пушчу і спыніцца ля вёскі Хазянінкі непадалёку ад мястэчка. Аб выкананні павінен паведаміць сувязны. Сам Пятро Сачок разам з Іванам Бачылам і Мікалаем Страхам выехалі ў Харэвічы раней і спыніліся ў яго бацькоў. Пасля абеду з’явіўся сувязны і далажыў, што рота заняла ўмоўныя пазіцыі ў пушчы. Пятро Сачок даў загад пасля 18 гадзін уступіць у вёску Харэвічы і акружыць хату, дзе весяліліся госці.

Трашчалі калядныя маразы, жвавы вецер дробнай снежнай крупкай сек шчокі. Рота Пятра Сачка ціха падышла да вясковай хаты, у вокнах якой гарэла яркае святло, чуліся вясёлыя галасы. Тут гасцявалі начальнік гарнізона, яго намеснік і яшчэ адзін самаахова ец. Партызанская рота заняла вызначаныя пасты. У хату з аўтаматамі зайшлі Пятро Сачок, Міхаіл Страх і Іван Бачыла. Вось як пра далейшыя падзеі расказвае ў сваёй кнізе «Застаюся жыць» былы партызанскі падрыўнік кавалер ордэна Леніна Фёдар Бачыла:

«Гасцяванне было ў самым разгары. Група партызан зайшла ў хату.

— Рукі ўгору! — прагучала нечаканая каманда.

— Ну, што будзем рабіць? — спытаў Пятро Сачок. — Ваяваць, ці гарэлку піць?

— Лепш гасцяваць, чым ваяваць, — з усмешкай вымавіў начальнік гарнізона. Ён ужо зразумеў, што дзяўчаты выканалі яго просьбу аб сувязі і спатканні з партызанамі.

— Перш чым мы сядзем за стол, давай дамовімся, як ты здасі нам сваю роту самааховы, — прапанаваў Пятро Сачок. — Мы чулі, што многія з іх жадаюць загладзіць сваё здрадніцтва і перайсці на наш бок. Калі яны не замазаны крывёю мірных жыхароў і не ваявалі супраць нас, мы прымем іх у свае рады. Згодзен?

— Згодзен,— кісла адказаў начальнік гарнізона.

Не выпускаючы з рук зброі, партызаны прыселі з абодвух бакоў стала так, каб ніхто не змог выйсці з-за яго. Пачалі абмяркоўваць ход аперацыі. Вырашылі, што начальнік гарнізона ў суправаджэнні «жандара» — яго ролю будзе іграць пераапрануты ў адпаведную форму Уладзімір Балукоў — зойдуць у казарму і загадаюць самаахоўцам сабрацца на інструктаж у глядзельнай зале на другім паверсе, дзе і адбудуцца асноўныя падзеі. Але намеснік начальніка завёў размову аб тым, што з пераходам да партызан трэба пачакаць да вясны, бо цяпер вялікія маразы, і ў лесе будзе холадна. Яго арыштавалі і павялі пад вартай у штаб. Пазней высветлілася, што на здраду ён пайшоў свядома і служыў фашыстам верай і праўдай.

Начальнік гарнізона з Уладзімірам Балуковым, пераапранутым у форму палявой жандармерыі, пайшлі у казарму. За імі ішлі два партызаны ў паліцэйскай вопратцы. Лёгка знялі вартавых. Партызаны незадоўга перад гэтым акружылі казарму і заляглі ў старым парку. Па загадзе начальніка гарнізона

самаахоўцы хутка падымаліся на другі паверх на «інструктаж». З першага паверху партызаны вынеслі зброю. Іван Бачыла, Пятро Сачок і Міхаіл Страх узбеглі наверх і рэзка расчынілі дзверы ў актавую залу. Пятро Сачок даў аўтаматную чаргу паверх галоў. Гарнізонаўцам растлумачылі, што казарма акружана і прапанавалі здацца і перайсці на бок партызан. Самаахоўцы радасна загудзелі.

Пераважная большасць іх адразу ж згадзілася, а 8 чалавек, на якіх указалі самаахоўцы, прыйшлося арыштаваць, у тым ліку і намесніка начальніка гарнізона. У атрад павезлі мінамёт, 4 кулямёты, 72 вінтоўкі. Брыгада Сарокі атрымала значнае папаўненне, яна расла і з ліку мясцовага насельніцтва, якое настойліва шукала сувязі з партызанамі. У канцы кастрычніка 1943 года да сарокінцаў на аўтамашыне, нагружанай зброяй і боепрыпасамі, разам з савецкімі ваеннапалоннымі прыбыў антыфашыст Ганс Куляс».

## «Балканы, агонь!»

Неўзабаве Івана Бачылу перавялі ў артылерыйскі ўзвод. Партызанская артылерыя складалася з трох саракапяцімiліметровых гармат. Добрую баявую паслугу аказалі яны пры разгроме варожых гарнізонаў. У час адной з чарговых карных экспедыцый фашыстаў партызанскія артылерысты занялі выгадную агнявую пазіцыю паблізу вёскі Ляўкі Пухавіцкага раёна, на ўзвышшы, якое жартам назвалі Балканамі.

Супраць партызан рушылі рэгулярныя эсэсаўскія падраздзяленні і старадарожскія паліцаі. Партызанская артылерыя нанесла нечаканы ўдар і расстроіла баявыя парадкі ворага. Акупанты падвезлі сваю артылерыю і двое сутак абстрэльвалі пазіцыі народных мсціўцаў. Але пратызанскія гарматы пад покрывам ночы напярэдадні былі перастаўлены ў бяспечнае месца. На трэці дзень аперацыі партызаны акружылі ворага, і артылерыстам зноў прыйшлося «папрацаваць». Ніводзін вораг не вярнуўся ў свой гарнізон: усе знайшлі магілу ў балотах, куды народныя мсціўцы адцяснілі іх.

У перапынку паміж баявымі аперацыямі, разведрэйдамі, дыверсіямі на чыгунцы здараліся рэдкія хвіліны адпачынку. Народныя мсціўцы даводзілі да ладу зброю, займаліся асабістай гігіенай, у атрадах праходзілі палітгадзіны, або людзі проста збіраліся на ўскрайку невялікай палянкі паблізу баявога лагера. Тут самадзейныя артысты часта давалі прадстаўленні, ставячы вясёлыя сцэнкі з партызанскага жыцця. У адзін цёплы жнівеньскі дзень, калі надарылася такая вольная часіна, Іван Бачыла размясціўся пад раскідзістымі маладымі бярозкамі ўскрай паляны і, гледзячы ў блакіт нябёс, успамінаў сваю дарогу ў партызаны. Яму прыпомніўся доўгі і цяжкі шлях з Браслаўшчыны ў родныя мясціны, яго сябра Іван Філіповіч, іх мары на такой вось палянцы. І тут ён зразумеў, пра што так трывожна шумелі тады бярозы. Беластволыя і цяпер таемна шапацелі над яго галавой, навяваючы мары пра недалёкую мірную будучыню…

Да вызвалення Беларусі ваяваў Іван Дзям’янавіч Бачыла ў партызанах. Незадоўга да вызвалення Мінска яго прызначылі ў сакрэтны аддзел штаба брыгады сарокінцаў. Ён рыхтаваў розныя дакументы для партызан, рэляцыі і прадстаўленні на ўзнагароды, прыводзіў у парадак архівы. З дакументаў Іван Дзям’янавіч даведаўся пра немцаў, якія хоць і не пераходзілі непасрэдна ў партызанскія рады, але верай і праўдай служылі высакароднай справе перамогі над фашызмам, дапамагаючы народным мсціўцам. Адным з такіх патрыётаў быў камендант станцыі Седча обер-лейтэнант Міхель Бромберг…

…Прыбіральшчыца Надзея Бачыла, якая служыла на станцыі, заўважыла, што камендант Бромберг рэзка адрозніваўся ад іншых фашыстаў. Быў чалавекам мяккім, памяркоўным, вельмі спакойным, ніколі не крычаў на падначаленых, не муштраваў іх і, на здзіўленне, ніколі не бедаваў, калі адбываліся дыверсіі на чыгунцы. Аднойчы, застаўшыся сам-насам з камендантам, Надзея адкрыта спытала яго, чаму ён пайшоў ваяваць супраць Савецкага Саюза. Бромберг са здзіўленнем паглядзеў на жанчыну і, памаўчаўшы, ціха сказаў:

— Я не хацеў, але так здарылася. А цяпер, напэўна, ужо нічога не выправіш…

— Усё яшчэ можна паправіць, — лагодна заўважыла жанчына. — Я магу вам дапамагчы ў гэтым.

Яна прапанавала наладзіць сустрэчу з камандзірам разведгрупы Мікалаем Філановічам, і Бромберг згадзіўся. Сустрэча адбылася на ўзлеску за станцыяй. Размова аказалася доўгай і цяжкай. Філановічу давялося прымяніць усё майстэрства агітатара, каб пераканаць Бромберга паверыць, што яго субяседнік сапраўды мае сувязь з партызанамі, не правакатар. У рэшце рэшт узаемаразуменне было дасягнута, і Міхель Бромберг згадзіўся супрацоўнічаць. Яго звесткі аказаліся вельмі патрэбнымі, асабліва для падрыўнікоў: цяпер партызаны не трацілі каштоўную ўзрыўчатку дарэмна, а білі па самых балючых месцах, узрывалі самыя важныя ў баявых адносінах варожыя эшалоны.

Маёр Сарока загінуў у няроўным баі з фашыстамі, вяртаючыся з разведрэйда з Налібоцкай пушчы. Пасля злучэння з наступаючымі часцямі Чырвонай арміі і вызвалення Мінска партызаны ахоўвалі сталіцу ад варожых груповак, якія спрабавалі разарваць акружэнне і выйсці з катла. І гэта былі апошнія баі, у якіх удзельнічаў Іван Бачыла.

…Цёплым ліпеньскім днём у раёне цяперашняй вуліцы Кастрычніцкай (там, дзе месціцца зараз канцэртная зала «Мінск») з самай раніцы пачалі збірацца ўзброеныя людзі. З рэпрадуктара ліліся мелодыі маршаў і папулярных песень. Партызаны рыхтаваліся да ўрачыстага параду. Іван Бачыла стаяў з групай сваіх баявых паплечнікаў — байцоў атрада імя Калініна. Раптам ззаду хтосьці схапіў яго ў абдымкі і моцна сціснуў. Іван павярнуўся і ўбачыў… Івана Філіповіча!

— Цёзка! Дружа! Вачам сваім не веру! Нарэшце сустрэліся! Расказвай хутчэй пра свае подзвігі. Але сам бачу, што ваяваў ты адмыслова: вунь як ззяюць на грудзях медалі! Нават «За адвагу» заслужыў, віншую!

— Ды і табе ёсць чым ганарыцца, — узрушана прамовіў Філіповіч.—Таксама не пакрыўджаны ўзнагародамі. Расказвай хутчэй, дзе змагаўся ваш атрад...

Размовам двух даўніх сяброў, здавалася, не будзе канца.

— Дык ты ведаеш цяпер, аб чым так таемна шапталі бярозы? — спытаў між іншым свайго баявога пабраціма Бачыла.

— Пра нашу нялёгкую барацьбу і нашу перамогу, пра тое, што мы ачысцім ад фашысцкай погані родную зямельку і будзем жыць свабодна і шчасліва на ёй пад шапаценне любімых бяроз, — узрушана і паэтычна адказаў яму сябра…

Іван Дзям’янавіч вярнуўся ў родную вёску, паспяхова скончыў Магілёўскі педінстытут і доўгі час працаваў на ніве народнай асветы, выхоўваў сапраўдных патрыётаў, быў намеснікам дырэктара Бардзілаўскай сярэдняй школы Мінскага раёна.

## Алесь БАРАНОЎСКІ



* * *

Нішто ў гэтым свеце не нова, і гэта паўторыцца…
Дубліруем лёсы падчас, не пакінуўшы аўтарства.
Як лёгка па кальках жыццё чалавечае кроіцца,
Як цяжка прайсці праз людскую знявагу і здрадніцтва…

А я ўсё гадаю, што будзе за новымі крокамі.
Хаду запаволіць прад зеўрай шырокай ці здолею?..
Як вучань сумленны спраўляюся мужна з урокамі,
Што ўсе называюць здаўна чалавечаю доляю.

* * *

Успыхнуў у высях агеньчык і згас,
Разліўшы праменне па небе паўночным.
Як далеч разбудзіць птушыны галас,
Насустрач усходу няспынна пакрочым.

І што нам хмурыны і едкая стынь,
На роднай дарозе не лічацца крокі.
Да новых адкрыццяў! Да новых вяршынь!
Няхай нараджаюцца зноўку Прарокі!

Спатоліўшы смагу са студні быцця,
Мы вернемся ўсё ж да радзімай калыскі,

---

***Бараноўскі Аляксандр Аляксандравіч*** *нарадзіўся 7 верасня 1988 года ў вёсцы Церуха Гомельскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны (2011). Магістр мастацтвазнаўства (2012). Аспірант Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы.*

*Аўтар паэтычных кніг «Чуйнае акно» (2008), «Вясляр» (2010), «Дыяментавы німб для Анёла» (2012).*

Дзе неба, як поле, а поле, як сцяг,
Дзе парасткі лёсу — жывога працяг…
Дзе варту нясуць на зямлі абеліскі.

* * *

*Прысвячэнне сябру*

Хіба забыць пра словы Вашы можна?
Я гэтага і ў думках не хачу…
Радкоў жывых крануся асцярожна,
Што паўстаюць Сусветам уваччу.

У іх адных і радасцю, і жалем
Са мною падзялілася пяро.
Ды пішуцца жыццёвыя скрыжалі
Не стрыжнямі, здаецца, а зарой.

Ад гэтых слоў і сэрца страпянецца.
І дух жывы, нібы бруя крыніц,
З абуджанаю сілаю памкнецца
Да подыху пранізлівых грамніц.

А слоў і не забыць, і не пазбыцца,
Па жылах дзівасілам што імкнуць…
Напой мне гэты піць і не напіцца,
Каб зноў паэта у сабе вярнуць.

* * *

З кожным жыццёвым годам
Болей раблю высноў…
Засеўкі і ўмалоты
Думак, пачуццяў, слоў.
Дзень прахалодна-прыкры
Выпадзе мне, на жаль…
Так высякае іскры
Лёсу майго каваль…
Сноў і падзей каралі,
Расчараванне й плён…
Сэрца, як дол, узаралі
Ветры халодных дзён.
Толькі не стане лёдам,
Што накіпела зноў.
З кожным жыццёвым годам
Болей раблю высноў.

* * *

Сэрца — навылет… Свет папяровы…
Усё да драбніц мне у свеце не нова.
Мова адна, толькі мова — ахова.
Як засцярога — сакральныя словы.

* * *

Над радыенукліднымі
Лясамі старажытнымі
Адкрытай небнай вышаю
Буслы дамоў ляцяць,
Каб Божаю ды воляю
У барацьбе з нядоляю
Над Белай Руссю здолелі
Хмурыны  разагнаць.

Пад песню птушак звонкую,
Лясы, расціце гонкія.
У неба, сосны стромкія,
Вам трэба узлятаць.

Памылка недарэчная…
Хай будзе памяць вечнаю…

Нам трэба шчасце стрэчнае,
Каб лёс свой будаваць.

* * *

Я веру ў сілу дабрыні
І ў чалавечнасць.
Сплятае час хвіліны й дні
Мае у вечнасць.



Тамара КУРЛЕНКА

# ТУМАН НАД ПОПЛАВАМ

*Апавяданне*

## I

Амаль тыдзень імжыць дробны, нудны дождж. Здаецца, гэтая непагадзь ніколі не скончыцца: і дождж, і золкая пахмурнасць, што вісяць над зямлёй, навейваюць на душу смутак і скруху.

Дрэвы ўздоўж вуліцы стаяць панылыя, здаецца, анямелі, лісцё нават не зварухнецца, не шапоча.

І вось ужо амаль тыдзень, як Хрысціна прыехала ў родную вёску. Прыехала праз дваццаць гадоў, як развіталася з ёй, як тады думала, з'язджаючы, што назаўсёды.

Прыехала з адчуваннем, быццам — на спатканне з тым сваім далёкім і бязрадасным мінулым, якое тут было ў яе. Чаму? І сама не ведае…

Прыехала? Не, прымчала, разумеючы адно: каб, як кажуць, зблізку паглядзець на ўсё тое, што яшчэ тыдзень таму, здалёку адсюль, здавалася такім непатрэбным і вартым таго, каб забыць назаўжды і не ўспамінаць ніколі.

І ўсё ж, чаму непатрэбным?.. Мабыць, таму, што калі ад'язджала, то думала, маўляў, там, куды едзе, будзе лепш, чым тут, і недзе ж, вядома, павінна сустрэцца добрая душа, якая зможа зразумець і яе, Хрысцініну душу.

Яшчэ на паўдарозе з райцэнтра да вёскі, як ехала сюды, ёй карцела выйсці з аўтобуса, памкнуцца нацянькі, праз палі і лугі, а гэта кіламетраў дзесяць, да знаёмых да болю, напэўна, ужо збуцвелых і ўчарнелых акацый, без сведкаў прыпасці да роднай зямлі на апусцелым бацькоўскім селішчы. Але нешта стрымала, не дазволіла спыніць аўтобус, выйсці з яго: не, не груз, баян у чахле і не сумка з вопраткай і гасцінцам для бабулі Адаркі. Што? Яна, Хрысціна, і зараз, амаль праз тыдзень, які пражыла тут, не можа зразумець. Хаця, ці трэба ёй гэта?

---

*__Курленка Тамара Пятроўна__ нарадзілася 31 ліпеня 1952 года ў вёсцы Рыжкаў Брагінскага раёна. Вучылася на факультэце журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працавала вадзіцелем тралейбуса, настаўніцай, дырэктарам Руднямарымонаўскага сельскага Дома культуры Гомельскага раёна. Друкавалася ў штотыднёвіку «ЛіМ», часопісе «Маладосць» і інш.*

## II

Як жа змянілася аблічча роднай вёскі за той час, што Хрысціна не была тут! Як пастарэлі вяскоўцы за гэтыя гады!.. І як счарнелі, збуцвелі акацыі…

Хто б калі мог падумаць, што нікога з вяскоўцаў не ўзрадуюць тыя змены, якія адбыліся тут пасля аварыі на атамнай станцыі… Так, нікога не радуе асфальтаваная дарога, пракладзеная праз усю вёску. Не радуюць людзей і тыя льготы, якія зараз маюць. Не ўсцешваюць і клопаты ўлад пра іх, вяскоўцаў.

Жылі ж некалі людзі тут так, як было заведзена спрадвеку іх прашчурамі. Працавалі, як умелі адпачывалі, жаніліся, нараджалі дзяцей, хавалі старых. Ладам жылі, дапамагаючы сусед суседу, а то і ўсёй вёскай таму, хто меў у гэтым патрэбу.

А тут — на табе, здарылася нечуваная бяда, і, здаецца, ураз усё перамянілася, пераўтварылася: тое, што было, быццам адышло ў нябыт. Здаецца, калі прыгледзецца, зараз кожнага непакоіць толькі сваё: а што са мной будзе далей?.. Што будзе з маімі дзецьмі?..

Ці гэта так толькі здаецца Хрысціне? Бо цяпер думкі толькі яе пра сябе, пра сваё…

Хаця, не, бачыць яна, як людзі ходзяць адны да другіх, і на вуліцы сустрэўшыся спыняюцца, падоўгу пра нешта гавораць. Пра што? Можа, не толькі пра свае ўласныя жыццёвыя клопаты, а і пра агульнае: што будзе з нашай вёскай, нашай зямлёй, небам…

Здаецца, ёсць клопат пра нас, а мы ўсё адно нібы забытыя. Вунь нават і буслы забылі нас: каторы год няма іх тут, пустуюць гнёзды, разбураюць іх снег, дождж, вецер…

Птушкам лацвей: ляці куды хочаш, ладзь гнёзды, дзе лепш.

А як жа людзям пакінуць свае, ад веку абжытыя селішчы? Хаця, ёсць і тыя, хто некалі з’ехаў, а цяпер вяртаецца. Як, напрыклад, яна, Хрысціна. Толькі, ці вяртаецца, гэта яна яшчэ не вызначыла для сябе.

## III

Навокал ціха. Толькі па-ранейшаму ідзе нудны дробны дождж. Панылыя дрэвы, сады, платы. Цяжкое, нізкае шэрае неба.

Хрысціна сядзіць на ганку бацькоўскай хаты. Ганак, здаецца, урос у зямлю, знізу абымшэў, зверху зусім патрэскаўся, счарнеў.

Сюды, да роднай хаты, яна прыходзіла кожную раніцу, каб пабыць сам-насам са сваімі думкамі.

Хрысціна спынілася ў бабулькі Адаркі, хата якой насупраць, праз вуліцу. Старая ёй не родная бабулька, а так, як кажуць у вёсцы, дзясятая вада на кісялі, або, як жартуе той жа дзед Змітрок — па бабе родны свёкар. Адарка нейкая далёкая радня. Яна з тых жанчын, якія век звекавалі ў працы, і шчасця не надта каб ведалі. Жыла заўсёды разам з людзьмі, добра і звыкла, і так будзе жыць да скону, лічачы, што лёс у яе такі, і скардзіцца на яго грэх.

Вядома, першай да каго зайшла Хрысціна, была яна, гэтая на дзіва простая, бясхітрасная старая, але па-свойму мудрая і спагадлівая. Яна якраз была ў двары, угледзеўшы Хрысціну, пазнала адразу, нібы яны не бачыліся дзеньдва, а не добрых два дзясяткі гадоў, сказала:

— А мая ты Хрысцінка, ідзі хутчэй у хату, бо, мабыць, вымакла і замерзла.

— Але, трохі вымакла, пакуль ішла да аўтобуснага прыпынку доўгай і пустой вуліцай.

Яшчэ здаля ўбачыла счарнелую страху бацькоўскай хаты, якая чамусьці здавалася чужой сярод новых дахаў цагляных дамоў, акружаная змарнелымі, шызымі ў імжы дрэвамі. Ішла і баялася, уяўляючы, як знежывела за столькі гадоў сваёй адзіноты хата, бо парог яе, канечне ж, калі зрэдку хто і пераступаў, дык хіба толькі Адарка, якой, ад'язджаючы, пакінула ключ. А тое, што Адарка ўсё яшчэ мацуецца, тэпае па зямлі дык ведала, адчувала: такая павінна доўга жыць, на такіх працавітых, спагадлівых і добрых, як кажуць, зямля трымаецца.

Бабуля Адарка запрасіла Хрысціну ў хату, падала з печы нейкую заношаную цёплую світку і сказала: «Пераапраніся, дзіцятка, ды адразу за стол, мабыць, з раніцы не ела…»

А калі Хрысціна пад'ела: вараная капуста, бульбяная бабка, а замест малака, як звычайна некалі было, яблычны адвар, седзячы насупраць яе на ўслоне, прамовіла:

— Ты, Хрысціна, надоўга ці ненадоўга, але жыві ў мяне. Ваша ж хата ўсё на замку ды на замку. Не хутка, як дзверы адчыніш, не ў міг дух у яе вернецца.

— Дзякуй, родная, — сказала Хрысціна і, здаецца, адчула, як у холад, у лёд, што гнялі душу, капнула кропля святла і цяпла. А заледзянела, сцялася сэрца з тае пары, як адна засталася на гэтым свеце, як страціла сваю ўцеху, радасць, сваю надзею на звычайнае жаночае, мацярынскае шчасце — сыночка…

## IV

І вось цяпер сядзіць Хрысціна на счарнелым, патрэсканым ад часу ганку бацькоўскай хаты і няўцешныя, неакрэсленыя, нібы разарваныя, недадуманыя, як след, думкі раяцца ў галаве, вярэдзяць душу, гнятуць.

Здаецца, і пражыта нямала, амаль чатыры дзясяткі гадоў, а падумаеш, усё нібы спрасавана ў адзін дзень, у якім перапляліся і радасці, і горасці. Ды так моцна, што не адарваць адно ад аднаго, не вызначыць, чаго было больш. Ды і як вызначыш, калі над усім адно — сыночак, — невыносны боль, які ніхто і нішто не астудзіць, не загоіць.

Мабыць, ды не мабыць, а дакладна, таму яна і прыехала дадому шукаць тут паратунку. Толькі ці знойдзе, бо як кажа бабулька Адарка, няма ў бацькоўскай хаце духу, знежывеў…

А яна ж, Хрысціна, атрымліваецца, ды што атрымліваецца, ведае, якраз таму і ехала сюды, каб дух гэты адчуць. Мабыць, яна падсвядома адчувала, што толькі ён можа ажывіць, вярнуць да жыцця яе зледзянелую, спакутаваную душу.

Здаецца, адамкні счарнелыя, заімшэлыя дзверы, увайдзі ў цёмныя сенцы, упусці ў іх хоць гэтае шэра-шызае слабае святло, і пачне ажываць хата, а з ёю ўсё ў тваёй душы. Думалася, варта толькі захацець — і жыві сабе зноў у бацькоўскай трохсценцы, і самі сабой спакваля знікнуць думкі пра мінулае: усё застанецца недзе там, у нерэальнасці, усё знікне, як мігатлівае мроіва.

Тут і занятак знойдзецца ёй не горшы, чым у Заполлі, дзе жыве цяпер, тут і жытло ёсць. Сваё.

Што да занятку, дык Хрысціна ніякай працы не баіцца: у поле — дык у поле, на ферму — калі ласка. А калі ўзяць у рукі баян, з якім ладзіць, здаецца, столькі, колькі сябе помніць, дык гэта будзе ўжо сама тое, што трэба. Можа ў

школе выкладаць спевы, можа ў садку іграць, там якраз няма каму гэта рабіць; бабулька Адарка казала, што прыязджаюць сюды маладыя, ну зусім дзяўчаткі, музыкі, пабудуць нейкі час, парыпаюць на гармоніках, ды чамаданчык у рукі, і — бывайце, вяскоўцы…

Як Хрысціна яшчэ школьніцай была, ды ўсюды іграла, на вячорках, на святах, на хрэсьбінах і вяселлях, людзі казалі, што Бог надзяліў яе такім уменнем, музыку чуць. І так ужо выйшла, атрымалася, што быццам самавучка, а нават спецыялісты, якія паканчалі музычныя вучылішчы і кансерваторыі, калі чулі, як яна грае, лічылі, што яна таксама з іхняй спецыяльнай адукацыяй…

А наконт таго, што яна, пабыўшы дома, кіне-рыне Заполле і зноў прыкіпіць да родных мясцін, дык гэта не што іншае, як імгненная фантазія. Ведае Хрысціна, што нікуды з Заполля яна не паедзе, бо там… Там жа магілка яе Ігнаткі, першага, адзінага і… апошняга сыночка.

Але, думалася, што пойдзе ў адпачынак, аб’едзе ўсіх знаёмых, пабудзе тыдні два ў роднай вёсцы, наведае бацькоўскія магілкі (бацька і маці памерлі адно за адным неяк у адзін год адразу, як здарылася чарнобыльская бяда) і застанецца тут.

Пабыла… Схадзіла… Там усё даведзена да ладу: Адарка стараецца. Пастаяла, у думках пагаварыла з маці, з бацькам… Пытала ў іх, як быць, і нібы чула адказ: слухай сэрца.

Вось і слухае. А яно зноў просіцца назад туды, дзе Ігнатка, дзе ён нарадзіўся, шчабятаў, дзе не ўберагла…

## V

Хоча і не можа Хрысціна зайсці ў хату. Не, не таму, што на дзвярах замок, які даўно пабіла іржа: у яе ключ, адчыніла б, ці папрасіла б каго з мужчын, адчынілі б. Нешта няпэўнае ў яе на душы. Адчуванне такое, што яна чамусьці баіцца сваёй хаты. Праз закарэлае акно, залепленае пылам шкло, бачыла, што ўсё там аплецена павуціннем. Значыць, праўду казала Адарка пра дух.

Хрысціна глядзіць на падворак. Утравелы надта: буяюць быльнік і крапіва… Вунь у канцы падворка калодзеж з жураўлём. Вянцы зруба замшэлі, сцежка да калодзежа затравела, а ён сам зверху наглуха забіты дошкамі, мусіць, вада ў ім загнілася. І журавель замшэў ажно да самага верху, вочап ёсць, вядра няма…

## VI

…Бабуля Адарка прыходзіць да Хрысціны тады, калі яна ўжо адчувае, што прамокла да ніткі: ганак без застрэшка, адкрыты дажджу, ветру.

Асцярожна кратае за плячо:

— Ішла б ты ўжо назад, пераапранулася б. Сядзі не сядзі, думай не думай, што было не паправіш, па-іншаму пражыць пражытае яшчэ нікому не ўдалося. Але, калі думаецца, то хай…

Сказала яна гэта так, нібы гаварыла пра складанасці жыцця, як пра нешта простае, што павінна быць, калі ўжо так наканавана. І Хрысціну гэта нібы суцешвае: нікуды ад свайго лёсу не дзенешся. Вось яна простая, мабыць, стагоддзямі выкрышталізаваная звычайная мудрасць, якая дапамагае чалавеку пражыць усё, што б ні сустрэлася на ягоным шляху.

Адарцы, здаецца, ужо дзевяноста гадоў. Але яна яшчэ даволі жвавая і ўвішная. Па гаспадарцы сама спраўляецца, без староннях дапамогі.

Ёсць у яе дзеці, дачка і сын, унукі, жывуць у Гомелі, наведваюць старую рэдка: у іх свае клопаты, да ўсяго — тут не ўсё добра з экалогіяй…

Хрысціна вагаецца, не ведае, што рабіць: ісці назад у Адарчыну хату, або ўсё ж адчыніць дзверы сваёй. І бабулька, мабыць, разумее, пра што думае Хрысціна, кажа:

— То пайшлі, донька.

Адарка на дзіва лёгка адмыкае ржавы замок, здымае яго, цягне за зашчапку на сябе дзверы. Яны лёгка адчыняюцца, хаця і балюча рыпяць. Першай ступае ў сенцы. Хрысціна — за ёй.

У сенцах холадна, паветра застаялае, але амаль адразу ж, як шэрань, што ўварвалася сюды з падворка, выціснула цемрадзь, пасвяжэла.

І ў хаце паветра такое ж, хаця, здаецца, яшчэ больш не жылое.

Ледзь пераступіўшы парог з сенцаў у хату, Хрысціна нібы ў нейкім ачмурэнні прыхінаецца да печы, з якой шмат дзе абсыпалася пабелка, ёй вельмі хочацца адчуць, як некалі ў дзяцінстве, цеплыню і пяшчоту печы. Але цэгла халодная, шурпатая, печ сапраўды безжыццёвая, амярцвелая, і гэта зноў вяртае Хрысціну ў рэальнасць: не, не можа быць звароту сюды, хоць з вёскай, з роднай хатай звязана ўсё, калі так можна сказаць, — гэта падмурак яе жыцця, таго, што было, ёсць, будзе…

## VII

Але, так… тут расла, гадавалася, сталела. Тут упершыню пакахала. Лічы, яшчэ — дзяўчынкай, шаснаццаць ёй было. І пакахала не некага са сваіх хлопцаў, якія да яе заляцаліся, а чужога, прышлага.

Так, Андрэй, яго воблік, здавалася, з першай недарэчнай сустрэчы засланіў ёй свет.

Тады, убачыўшы яго, аддалася пачуццям бяздумна, нібы кінулася ў пельку з галавой. А да гэтага, было, калі марыла пра каханне — усе яе равесніцы сустракаліся з хлопцамі, пачала звяртаць увагу на Сяргея, аднакласніка, якому, здаецца, падабалася. Тады думалася, што ягоная ўвага, хоць і рэдкія сустрэчы вечарамі з ім на поплаве за вёскай, калі не ведалі, што казаць адно аднаму, і ёсць каханне.

Ажно — не, не такое яно, каханне, аказалася ў жыцці…

Андрэй ажаніўся з мясцовай дзяўчынай. І яна, Хрысціна, як апошняя дурніца пацягнулася тады на танцы на вяселле. А ён, жаніх, захмялелы, танцаваў не толькі са сваёй Нінаю, а з усімі дзяўчатамі, якія былі тут…

Хрысціна не памятае, як стала танцаваць з ім, памятае толькі, як ён пранізаў усю яе істоту пякельным паглядам, а потым і ўвогуле спапяліў словамі: «Эх, прыгажуня, чаму я цябе не сустрэў раней?.. Дзе ж мае сямнаццаць год?..»

Яна адчула, як згарае ад сораму, ёй здавалася, што і Ніна, і ўсе, хто быў там, здагадаліся, што робіцца ў яе на душы, вырвалася з яго рук і кінулася прэч.

Прыцемкам бегла яна ад вясковага клуба, дзе былі танцы, на поплаў, ёй трэба было пабыць у адзіноце, каб зразумець, што з ёй зрабілася… І, пабадзяўшыся там, пахадзіўшы па халоднай роснай траве, ужо раніцай, калі ледзь пачынаў ружавець усход, зразумела: каханне, каханне з першага погляду…

Хрысціна толькі скончыла школу, а яму ўжо было дваццаць пяць. Ён ужо вывучыўся, быў спецыялістам, і нават, казаў, пісаў дысертацыю.

Яна плакала начамі, ведала, што гэта вялікі грэх — уяўляць сябе на месцы ягонай жонкі, але не магла саўладаць з сабой, мроіла… Яна, як ні імкнулася, не магла пазбавіцца летуценняў, мараў пра яго, насіла Андрэеў вобраз у сваім уяўленні, жыла ім. І здзіўлялася: што за насланнё напала на яе, між імі нічога ж не было, акрамя аднаго танца, і то не станцаванага да канца, і яго, Андрэевага, аднаго погляду і некалькіх нібы жартаўлівых слоў.

У тое незабыўнае, праз шмат гадоў пасля танцаў, ягадна-грыбное лета (пасля школы Хрысціна засталася дома, стала працаваць загадчыцай клуба і ні на кога з хлопцаў асаблівай увагі не звяртала, жыла як набяжыць), Андрэй прыехаў у вёску. Не быў, не быў, і тут — на табе…

Чула ад людзей, што з Нінай у яго не вельмі ладзіцца, а чыя там віна, хто ведае… Прыехаў адзін, жыў у хаце Ніиных бацькоў, якія памерлі.

І трэба ж было ім тады выпадкова сустрэцца на роснай ранішняй сцежцы ў лесе!..

Хрысціна несла паўнюткі кошык рабінава-яркіх падасінавікаў — нарэзала на адным месцы — лес яна ведала, а ён ішоў насустрач, з пустым.

Іх погляды сустрэліся, і сцежка аказалася вузкай, каб размінуцца.

Памятае Хрысціна, як шалёна закалацілася і, здавалася, вырвецца з грудзей яе сэрца. Памятае, як свяціліся ласкавым бляскам валошкавыя Андрэевы вочы, у якіх, здаецца, яна патанула…

А потым ужо на ўвесь час Андрэевага адпачынку гэтыя бярозы сталі для іх месцам таемных сустрэч.

А па вёсцы пайшлі чуткі: любяцца…

І аднойчы ён прапанаваў ёй паехаць з ім на Віцебшчыну, куды Андрэя запрасілі на працу.

Паехала, кінулася, як у пралабку з галавой, ні пра што не думаючы. І не зжылося, не злюбілася: пажылі год, другую знайшоў.

## VIII

Сынок у яе нарадзіўся, Ігнатка. Ужо адна была. Колькі турботных дзён, бяссоных начэй правяла яна каля сыночка!.. Калі хварэў, ні на крок ад яго не адыходзіла, усё адна ды адна. Як жвавенькі, вясёленькі быў, бязмежна радавалася, як усялякая маці. А як ганарылася ім, калі ён у чатыры гады ўжо ведаў буквар!.. Радавалася, што ён, маленькі, вельмі любіў, як яна грае, і ўжо ўмеў, танцуючы, патрапляць пад музыку. Неўзабаве пасля таго, як нарадзіўся Ігнатка яна пераехала з Віцебшчыны ў Заполле, на сваё Палессе, у свой раён, бліжэй да свайго дома. Тут яна працавала загадчыцай калгаснага Дома культуры.

Але сталася так, што не ўгледзела, не зберагла свайго сыночка, сваю адзіную надзею і ўцеху, і цяпер адна, на ўсім белым свеце адна.

## IX

Надвячоркам у хаце бабулі Адаркі сабраліся суседкі. Ці самі прыйшлі, ці Адарка паклікала, Хрысціна не ведала. Ва ўсякім разе яна, Хрысціна, нікога не запрашала. Але, бачылася з аднавяскоўцамі і аднавяскоўкамі, віталася, іншым разам перакідвалася з кім словам-другім дзеля прыліку, не больш.

А тут сабраліся, як на складчыну. Кожная нешта прынесла: і каліва пітва свайго, і да пітва. Стол накрылі, селі за яго жанчыны, большасць

даволі летныя: у каго ўнукі, а то і праўнукі, і не адной жанчыны яе, Хрысцініных, гадоў.

А гаварылі пра яе, Хрысціну, неяк асцярожна, каб не зрабіць ёй балюча. Маўляў, ці надоўга? А можа, назусім?.. Хата ж бацькоўская, калі падладзіць, спраўная будзе, жыві — і радуйся.

Але, лёгка сказаць, жыві і радуйся… Хрысціна нічога пэўнага для сябе не вырашыла, толькі ў роздуме хітала галавой.

— Ай, жанчынкі, — сказала Адарка, — што вы чэпіцеся да яе? Як будзе, так будзе. — І да Хрысціны: — Сыграй што-небудзь. Не ўсё ж нам нудзіцца.

Казала бабулька «нам», а Хрысціне чулася «табе». Не, сабе яна, канечне, іграць не будзе. Ды ўжо даўно не іграе сабе, з таго часу, як засталася адна. А вось ім, людзям, калі ласка.

Узяла баян, які стаяў на лаве на покуце, хацела расцягнуць мяхі, але хтосьці з жанчын сказаў: «Ат, Хрысціна, не трэба. Калі не іграецца — не іграй. Пагамонім. Іншы раз лепш пагаманіць, чым паспяваць».

Яна паставіла баян на месца. Жанчыны, нібы забыўшыся на яе, пачалі нетаропка гаварыць кожная пра сваё. А яна слухала іх, нібы ў сне, і думала, нібы ў сне, няпэўна, ні на чым не засяроджваючыся. Але звычайна, спрадвечна, так было, ёсць і будзе… І раптам гэты сон, гэтую нібы бесклапотную звычайнасць, будзённасць ускалыхнула: нехта з жанчын зацягнуў: «Там у лузе каліна стаяла»... — Яе падтрымалі, падхапілі галасы, а Хрысціна ціхенька паднялася, выйшла з хаты.

## X

Яна ступіла на ганак і ад нечаканасці спынілася ўтрапёная: дождж перастаў... Яшчэ нядаўна ён імжэў, здавалася, яму не будзе канца — і на табе!.. Паветра было цёплым і лёгкім. У пацямнелым, але ачышчаным ад хмар небе слаба трапяталі зоркі.

Чамусьці Хрысціне захацелася адзіноты. Захацелася пайсці на поплаў, у луг, пахадзіць па ім пад гэтымі мігатлівымі зоркамі, ні пра што не думаючы, проста так. Мабыць, такому яе жаданню дала штуршок песня, якую спявалі жанчыны. «Там у лузе каліна стаяла…»

Спяваюць, як умеюць. Але адчуваецца, што кожная спявала душой. І Хрысціне бачацца шырокі луг, адзінокая, як і яна, каліна… І самота зноў агортвае сэрца.

Некалі яны хадзілі па гэтым лузе з Сяргеем. Хадзілі і хадзілі. Здаецца, ад таго ў яе на сэрцы і знаку не засталося: дзяўчо яна была, не ведала, што такое каханне, усе ходзяць, і яны таксама…

З таго часу, як яна ўбачыла Андрэя, як ён запаланіў яе, спапяліў, Сяргей нібы перастаў існаваць для яе. Разышліся іх сцежкі. Ён пасля школы з’ехаў у Гомель, адтуль пайшоў у войска. З войска вярнуўся ў вёску, яе, Хрысціну, не трывожыў. Здавалася нават, калі выпадкова сустракаліся, нават саромеўся, маўляў, даруй, што некалі хадзіў з табой. А неўзабаве ён ажаніўся, узяў мясцовую, маладзейшую гады на чатыры за Хрысціну.

Ажаніўся, дык ажаніўся. Няхай. Але ж тры дні таму яны выпадкова сустрэліся на вуліцы: яна ішла да свайго падворку, ён, можа, у цэнтр, дзе магазін, пошта…

Ад нечаканасці спыніліся. Сумеліся, пазнаўшы адно аднаго. Ён як спытаў:

— Ты, Хрысціна?

— А хто ж, — паціснула яна плячыма.

— А я то чую, кажуць у вёсцы, Хрысціна вярнулася. Быццам, кажуць, клубам загадваць будзеш. Вакансія ёсць. Вярнулася?

— Ды не, — сказала яна. — Хаця… як сказаць.

Памаўчалі. Потым яна:

— Ну дык пайду.

— Ты б на поплаў наш калі вечарам прыйшла, — як папрасіў ён.

Яна паглядзела на яго. Мужчына, як мужчына. Вясковец. У кірзавых ботах, простыя штаны, калашыны ўвабраныя ў абляпаныя граззю халявы. У грубым плашчы, у шапцы. Твар мокры, чырвоны. Здаецца, ад Сяргея патыхала гарэлкай. Чамусьці стала шкада яго:

— Але, прыйду, як дождж перастане.

Прагучала, як абяцанка дурню, маўляў, чакай пасля дожджычка ў чацвер. І пайшла. Адчувала спінаю: глядзіць ёй услед. Зазлавала: жанаты, калі хто ўбачыць, плёткі пойдуць. Толькі гэтага ёй цяпер і не хапае…

І вось, ідучы на поплаў, раптам падумала: а што калі ён і сапраўды прыйдзе? Сказала жартам, а ён, можа, усур’ёз успрыняў.

Хацела вярнуцца з паўдарогі, а потым як падштурхнула сябе: не, ён жа не дурань. Ат, мабыць, і пакрыўдзіўся, што яна так яму сказала. Зрэшты, калі ў тыя маладыя гады ў іх не было ніякіх сур’ёзных пачуццяў, дык што ўжо цяпер казаць. А ідзе яна туды, бо надта хочацца адзіноты.

## XI

Не, мабыць, не дзеля адзіноты Хрысціна ішла сюды. Яна не магла вытлумачыць сабе, чаму і навошта ёй раптам захацелася ўбачыць Сяргея. І яна прадчувала, што ён будзе там.

Так, дождж перастаў, і, выходзіць, тады на вуліцы яна сама прызначыла яму спатканне. Навошта? Ён жа жанаты, і ў яго дзеці.

Сяргея Хрысціна заўважыла яшчэ здалёк. У водсвеце вераснёўскіх зорак, якія цяпер паяснелі і ўжо не здаваліся такімі мігатлівымі, ягоная постаць на цёмным фоне далёкага лесу нецярпліва рухалася ўздоўж вуліцы, якая вяла на поплаў.

Падумалася, што, мабыць, Сяргей даўно чакае яе. Значыць…

І разам з тым яе зноў пранцяла думка: навошта ўсё гэта?.. Але калі прыйшоў, значыць, у тыя іхнія маладыя гады ён кахаў яе, а яна гэтага не разумела. Можа, ды не можа, а дакладна, інакш склалася б яе жыццё, калі б яна стала яго жонкай.

Цяжка сёння ўспамінаць былое. Хаця шкада яго: выходзіць, жыве з нялюбай? А яна — адна. Зрэшты, з дзяцінства, колькі сябе помніць, адна. Але, бацькі вечна сварыліся чамусьці, на дачушку не вельмі зважалі. Памерлі, забралі з сабой таямніцу з-за чаго сваркі былі, можа, ніколі адно аднаго не любілі. Толькі дачцы асуджаць іх — грэх.

Як кажуць людзі: бацькоў не судзі…

…Сяргей, заўважыў яе таксама здалёк. Спыніўся, потым рашуча накіраваўся насустрач, падышоў ціха. Адзначыла, што гэта ўжо не той Сяргей, якога яна ведала. Той быў сціплы, гэты ўпэўнены ў сабе мужчына.

— Ты прабач, Хрысцінка, што не даю табе спакою, — сказаў ён, — але ж памятаю і жыву табою, хоць столькі часу прайшло.

Ён змоўк, маўчала і яна, не ведаючы, што сказаць. І маўчанне гэтае, як яна зразумела, было нясцерпнае для абаіх.

— Ты ж жанаты, Сяргей, — сказала яна.

— Але… І жонку завуць, як цябе… Называю яе па імені, а бачу…

— Не трэба, Сяргей…

— Што не трэба? — спытаў ён. — Ты ж не пабаялася прыйсці, не пабаялася людскіх плётак, а яны будуць.

— А чаго мне баяцца, Сяргей? Што мне людскія языкі?.. Я жыву сваім жыццём. Не, не жыву, а існую. Вось ужо колькі год… Мне не да людзей, ні да каго…

— Што ты кажаш, Хрысціна? Апамятайся… Я па-чалавечы разумею цябе, успрымаю твой боль, але ж трэба трымацца… І калі табе так цяжка, то толькі адно тваё слова — і я не пагляджу ні на што. Яшчэ ж не позна, Хрысціна.

— Позна, — цяжка ўздыхнула і змоўкла. — Позна ўжо, Сержык, — паўтарыла яна, — пяшчотна назваўшы яго Сержыкам, як у юнацтве. — І прыйшла я на поплаў, дзе некалі мы сустракаліся з табой, не таму, што ты паклікаў сюды мяне. Пайшла б адна, каб успомніць сваё юнацтва… Ты кажаш, што па-ранейшаму мяне кахаеш. Не веру, ды толькі…

Сяргей не даў ёй закончыць, раптам моцна прытуліў да сябе, дыхнуў у твар гарэлкай, і ў яе хапіла сілы адштурхнуць яго.

— Хрысціна, — зашаптаў ён разгублены, — любая, будзь маёй! Будзь назаўжды. Злітуйся!.. Я ўсе гэтыя гады чакаў цябе.

— Сяргей, апамятайся! Позна ўжо што-небудзь перайначыць. Ну, пашкадую я цябе, дык што, табе будзе лепш?

Але ён не слухаў яе. Ён, здавалася, страціў усялякую ўладу над сабой, зноў памкнуўся да яе. Хрысціна ўхілілася.

— Апамятайся! — амаль закрычала яна.

Дзіўна, але гэтае слова, жорсткае, халоднае, уладнае спыніла яго. Не чакаючы, што будзе далей, яна павярнулася і таропка пайшла да вёскі. Падыходзячы да першых хат падумала: няма поплаву, — асушылі, як і не было. Нешта падобнае і ў яе жыцці, нібы яно было і няма. Ды, не, ёсць яно, ёсць яна сённяшняя, адзінокая, са сваім цяжарам на сэрцы, і толькі…

## XII

Вераснёўскія ночы халодныя, але Хрысціна ў роспачы гэтага не адчувае. Дайшоўшы да вёскі, раптам павярнула ў луг, доўга ішла па ім, нібы не разумеючы навошта, і раптам набрыла на нейкі пакінуты стажок, спынілася каля яго, пачала разграбаць волкае, без усялякага паху сена.

Хутка залезла ў стажок, прымасцілася ў яго сярэдзіне, адчула цяпло. Калі супакоілася, падумала, што тут, у вёсцы, ёй няма месца і захацелася ў Заполле: туды, назад… У яе было такое адчуванне, што спыніўся час, што ўсё застыла на месцы і што ёй ужо ніколі не вырвацца ад усяго гэтага балючага і жахлівага туды, дзе яна павінна быць…

І, нібы змірыўшыся са сваім лёсам, Хрысціна не заўважыла, як задрамала, сагрэўшыся ў сене. Прачнулася, калі над поплавам калыхаўся, раставаў, нібы добра разведзенае вадою малако, туман. І здрыганулася: сена пахла летнімі зёлкамі, а над лугавымі поймамі плыў сівы туман. Падумалася, што і ў Заполлі, дзе пахаваны яе сынок, таксама ж у гэты час, мабыць, плыве такі ж сівы туман…



Сяргей ТРАХІМЁНАК

# СЛАВА ПЕРАМОЖЦУ...

*Аповесць*

***Смерць — гэта адзінае, што яшчэ не збэсціў чалавек. Усё астатняе ён ужо спляжыў, апаганіў. І толькі смерць засталася некранутай, не апаскуджанай, не запэцканай рукамі чалавека. Чалавек з радасцю ўзяўся б і за смерць, але яна не скараецца і не даецца яму ў рукі. Смерць няўлоўная, яна застаецца загадкай. Чалавек збіты з панталыку. Ён не ведае, што рабіць са смерцю.***

Ашо Раджніш. Смерць — найвялікшы падман

Ясніў гэту паляну шмат разоў. Я не ведаў, дзе яна знаходзіцца, але шлях да яе быў зусім просты. Я выйшаў за горад, падняў руку і стаяў да таго часу, пакуль каля мяне не спыніўся дальнабойшчык.

— Табе куды? — спытаў ён так, нібы мы ведалі адзін аднаго сто гадоў і развіталіся толькі ўчора.

Я няўпэўнена паказаў рукой кудысьці наперад.

— Зразумела, — адказаў ён, — сядай, я якраз туды і еду.

У кабіне адчуваўся салодкі пах тытуню. Відаць, я надта дэманстратыўна панюхаў паветра, і вадзіла зазначыў:

— «Залатое руно».

Зверху на панельнай дошцы ляжаў японскі каляндарык, напалову прыкрыты дарожным атласам. На каляндарыку быў намаляваны самурай, які трымаў у руках меч, а пад ім надпіс на рускай мове: «Слава победителю…» Канца надпісу я не бачыў, і было незразумела, навошта ўслаўляць таго, хто б’е ці спрабуе біць кагосьці мячом.

— Ты кепска выглядаеш, прыяцель, — сказаў кіроўца так, як кажуць крутыя хлопцы з галівудскіх кінафільмаў.

Я нічога яму не адказаў, і нейкі час мы ехалі моўчкі. А пасля ён спыніў машыну, пабудзіў зменшчыка, а сам залез на яго месца ў люльку за сядзеннямі.

---

*__Трахімёнак Сяргей Аляксандравіч__ нарадзіўся 7 лютага 1950 года ў горадзе Карасук Новасібірскай вобласці. Закончыў Свярдлоўскі юрыдычны інстытут.*

*Аўтар кніг прозы «Игра капризной дамы» (1995), «Детектив на исходе века» (1996), «Груз небесный» (1998), «Заказ на двадцать пятого» (1999), «Женская логика» (2000), «Второй уровень» (2001), «Записки «черного полковника» (2010) і іншых. Напісаў літаратурныя сцэнарыі шэрагу кіна і відэафільмаў.*

*Лаўрэат літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Змяркалася, і каб не размаўляць з другім шафёрам, я зрабіў выгляд, што сплю. Неўзабаве ж я папраўдзе заснуў.

Прачнуўся, калі сонца ўжо ўзышло. Зрэшты, не яно пабудзіла мяне, а нейкае адчуванне трывогі, якое рабілася ўсё мацнейшым…

Машына імчалася па двухпалоснай асфальтаванай шашы, што ляжала сярод хваёвага лесу.

— Спыні, — сказаў я шафёру.

— Адсюль да бліжэйшай вёскі сорак з гакам, — адказаў ён.

— Спыні, я прыехаў.

Вадзіцель пацiснуў плячыма і спыніў машыну. Я ўзяў свой мяшок, саскочыў на дарогу і, не азіраючыся, падаўся ў гушчар.

Трывога пакінула мяне. Гэта ўзрадавала. І я злавіў сябе на думцы, што ў апошнія гады амаль забыў, што такое адчуванне радасці. Неўзабаве ўбачыў азярцо. Я спыніўся, скінуў мяшок з пляча. Увагнаў крук у хвою, што стаяла на грудку метрах у пяцідзесяці ад возера, прасунуў у яго шнур ад маленькай палаткі, забіў тры калочкі ў зямлю, нацягнуў вяроўку, абкруціў яе вакол хвоі і завязаў. Пасля кінуў у палатку паралонавы дыванок, дастаў з мяшка конаўку і поліэтыленавую бутэльку на два літры, склаў мяшок у некалькі столак і паклаў яго замест падушкі.

Пасля гэтага выбраўся вонкі. Вакол азярца ляжала ізумрудна-зялёная, яшчэ не апаленая сонцам, лугавінка, вартая пэндзля мастака. Сонца ўжо ўстала над лесам і прыпякала, але гарачыні яшчэ не адчувалася. Я чамусьці падумаў, што на гэтай лугавінцы добра было б пасвіцца авечкам. Як тым козам, якіх я бачыў у Альпах, куды мы ездзілі ў складзе групы турыстаў з жонкай і сынам два гады таму. Там, на ферме, высока ў гарах, у маленькай загарадцы мы ўбачылі і некалькі казлянятак. Група з цікавасцю пачала іх разглядаць. Гаспадар сказаў, што гэта дарослыя козачкі, але дэкаратыўныя.

— А колькі яны даюць малака? — пацікавіўся адзін з турыстаў.

— Яны не даюць малака, — адказаў гаспадар.

— Тады навошта іх гадаваць?

— Іх гадуюць для таго, каб яны радавалі вока, — быў адказ.

Тут зусім нечакана я ўспомніў украінскі анекдот пра паміраючую цешчу, якая ўбачыла на падаконніку верабейчыка і пачала яго клікаць:

— Верабейчык, верабейчык.

Але ўмяшаўся зяць. Ён сказаў:

— Не адцягвайце ўвагу, мамо…

Вось і я адцягнуў увагу.

Я па-варварску зрабіў на ствале засечку — пазначыў дату 15 мая, затым закінуў у хмызняк ужо непатрэбную мне сякеру, зноў залез у палатку і лёг на паралонавую падсцілку.

«Слава пераможцу…» — прыгадаўся надпіс.

Мяне не турбаваў той факт, што я не ведаў, дзе знаходжуся і як адсюль выбрацца. Я ж і не збіраўся адсюль выбірацца. Я прыйшоў сюды памерці.

* * *

У палатцы я пракачаўся ўвесь дзень. Пад вечар захацелася есці, але я ведаў, што трэба пратрымацца два-тры дні, і гэта адчуванне знікне. Калі арганізму не даваць спажытку, ён пачынае з'ядаць сябе. Я схадзіў да азярца і набраў у бутэльку вады. Уначы мне не спалася, і раніцай, каб падбадзёрыцца, устаў, распрануўся і выкупаўся ў возеры. Я дамогся жаданага, але літаральна

праз гадзіну паднялася тэмпература, пачалася гарачка. Пад вечар па ўсім целе пайшла высыпка і пачаліся галюцынацыі. Хоць наўрад ці можна было назваць галюцынацыямі тое, што праплывала перад маімі вачыма…

Вось я бачу сябе ва ўніверсітэце ў камп’ютарным класе… Вось мне прапануюць застацца ў аспірантуры на кафедры камп’ютарных тэхналогій, і загадчык кафедры выказвае шкадаванне з прычыны маёй адмовы... Вось я ў загсе са сваёй Нінай... Вось мы адпачываем у Крыме, каштуем шашлыкі на рынку. Уладальнік шашлычнай — крымскі татарын — хоча зрабіць Ніне камплімент, але мая прысутнасць стрымлівае яго… Вось у нас нарадзіўся сын, і я фіксую яго першыя крокі лічбавай відэакамерай, а пасля размяшчаю ўсё гэта ў камп’ютарнай памяці, па завядзёнцы сістэматызуючы здымкі ў адпаведнасці з кожным месяцам і годам... Вось я атрымаў прапанову ад сур’ёзнай прыватнай фірмы, якая займаецца распрацоўкай праблем ДНК... Вось я з жонкай і ўжо трохгадовым сынам у Харватыі... А вось і Швейцарыя. Я спрабую ўбачыць загарадку з маленькімі казляняткамі, але злы кінамеханік па-свойму круціць гэты фільм, і мне робіцца балюча…

Вось памірае сын, марнее на вачах жонка, трапляю ў бальніцу я... Вось размова з дырэктарам фірмы. Ён кажа мне тое, што павінен у такіх выпадках гаварыць дырэктар фірмы, офіс і парадкі ў якой капіруюцца з заходніх узораў:

— Мы не займаемся дабрачыннасцю…

Вось у прыёмнай мне ўручаюць канверт з грашыма — маім разлікам — і трывіяльнымі, але такімі мілымі сэрцу нашых новых рускіх навукоўцаў словамі пра тое, што фірма ў маіх паслугах больш не мае патрэбы…

Вось сустрэча з Венічкам Шмараевым, наўгародскім шарлатанам. Ён з важнасцю прамаўляе нейкія туманныя фразы наконт вышэйшай волі, кажа пра тое, што мой сын і жонка памерлі толькі таму, што своечасова не звярнуліся да яго... Паездка ў Ноўгарад. Вяртанне. Абследаванне ў клініцы і рэзюмэ: калі б вы звярнуліся раней, а не шукалі дапамогі шаралатанаў ад медыцыны…

Вось я падымаюся па лесвіцы да сваёй кватэры і не магу адамкнуць дзверы ключом. Нарэшце яны адчыняюцца і азербайджанец, чымсьці няўлоўна падобны да таго крымскага татарына, тлумачыць мне, што ён купіў гэтую кватэру ў мяне і ўсе дакументы, якія пацвярджаюць гэты факт, у яго ёсць. Пасля ён запіхвае мне ў кішэню дзве сотні рублёў і з трэскам зачыняе дзверы.

Вось я брыду праз увесь горад да майго ўніверсітэцкага аднагрупніка Івана Нарымава, прашу пазычыць рэчмяшок, палатку і сякеру… Вось я на могілках ля двайной магілы… Вось еду з дальнабойшчыкамі па шашы…

І адбываецца дзіўнае. З кожным кадрам гэтага віртуальнага фільма ў мяне знікае адчуванне асабістай прыналежнасці да ўбачанага, нібыта ўсё гэта з іншага, не майго жыцця… А можа, і не было ніякага майго жыцця і мне ўсё гэта здалося: і маё бесклапотна-шчаслівае існаванне ў фірме, і гранты, што ўзяліся немаведама адкуль, і ланцужкі ДНК, якія даводзілася фіксаваць, апрацоўваць, сістэматызаваць у адпаведнасці з пэўнымі прыкметамі. І мудроныя развагі калег-навукоўцаў, якія жартам называлі сябе і **падобных да сябе грантасмактунамі**. І пыхлівасць супрацоўнікаў, якія думалі, што ўзялі жыццё за горла, бо дапялі да яго вытокаў і ўведалі, што яно з’яўляецца ўсяго толькі ланцужком сімвалаў. Але хіба ж гэта так? І чаму ж тады я, адзін з тых, хто лічыў, што схапіў Бога за бараду, ляжу тут?

Але я ўжо не такі, як мае калегі. Я, у адрозненне ад іх, ужо разумею, што мова, якой яны карысталіся, каб расшыфраваць боскія пасланні, не ёсць мова Тварца. Як ні дзіўна гэта будзе гучаць для большасці адукаваных людзей, але

Бог наўрад ці разумее чалавечую мову ці мовы, бо яны — спараджэнне чалавечага розуму. Яны, як слэнг, прыдуманы прадстаўнікамі злачыннага клана для таго, каб нармальныя людзі не зразумелі, пра што яны гамоняць.

У Тварца свая мова, і пакуты, перажыванні, хваробы — знакі гэтай мовы. Відаць, Ісціны, атрыманыя гэткім чынам, новыя для канкрэтнага чалавека. Хоць, магчыма, Ісціна павінна быць адна, а мы адкрываем не Ісціну, а толькі яе аспекты.

Галоўнае — зразумець, што нам кажа Тварэц, куды ён нас вядзе і як канчаецца фраза «Слава пераможцу…»

* * *

Вялікае высокае акно старога замка не пасавала абсталяванню сучаснага офіса. Яшчэ больш не пасавала з гэтым акном сакратарка ў цёмным дзелавым касцюме з белым каўнерыкам і кароткай спадніцай. Яна нягучна і нават з пэўнай элегантнасцю друкавала штосьці на клавіятуры камп’ютара.

Іаган Крэбс паглядзеў на гадзіннік: яго прымушалі чакаць ужо дванаццаць хвілін. Крэбс, як і большасць немцаў, быў педантам і не выносіў у сваім асяроддзі людзей, якія б ставіліся да парадку не так, як ён. Аднак, як чалавек недурны, ён разумеў, што цяга да ўпарадкавання мае негатыўны бок. Упарадкаванне і схільнасць да яго вядзе да таго, што чалавек страчвае здольнасць прымаць неардынарныя рашэнні і нават у навуковым пошуку дзейнічае заўсёды згодна з пэўным стандартам. Таму ў Крэбсавай фірме, там, дзе неабходна было забяспечваць умовы працы ці яе бяспеку, працавалі яго суайчыннікі. Там жа, дзе трэба было знайсці незвычайнае рашэнне ці выхад з тупіковай сітуацыі, ён выкарыстоўваў супрацоўнікаў з іншых краін, у прыватнасці, з Расіі. Фундаментальная іх падрыхтоўка, з аднаго боку, і незаангажаванасць стэрэатыпамі адукацыі цывілізаваных краін, з другога, дазвалялі яму дасягаць вынікаў, якімі не маглі пахваліцца яго калегі.

Але зараз Крэбс сядзеў у прыёмнай чалавека, якому быў абавязаны сваім бізнесам, і не дазваляў сабе выказваць сваёй незадаволенасці — толькі час ад часу пазіраў на гадзіннік.

Фірма, гаспадаром якой быў Крэбс, называлася «Геном-2000» і займалася шэрагам праектаў, грошы на якія выдаткоўвалі заможныя людзі. Шмат хто з іх хацеў пры гэтым застацца невядомым. Магчыма, іх палохала дачыненне добрапрыстойных буржуа да тых распрацовак, якімі займалася фірма, а, магчыма, для гэтага меліся іншыя прычыны. Але паміж заснавальнікамі і Крэбсам існавалі стасункі, якія ў чалавечай дзейнасці маюць назву канспіратыўных.

Крэбсу было сорак пяць гадоў. У маладыя гады ён жыў і вучыўся ў Мюнхене і меў намер выкладаць нямецкую літаратуру. Але пасля заканчэння ўніверсітэта пераняў занятак свайго бацькі — пачаў прадаваць калькулятары, а пасля перайшоў на гандаль персанальнымі камп’ютарамі. Але ўсё тое было, як сказалі б у Расіі, дзеля хлеба надзённага. Яшчэ падчас навучання яго ўразілі ідэі, якімі быў прасякнуты ў сярэднія вякі нямецкі рамантызм: пошукі запаветнай зямлі — Святога Грааля, за сценамі якога схаваны тайны бязмежнай маладосці і вечнага кола самаўзнаўлення. У тую эпоху рэцэпты бяссмерця шукалі з дапамогай яснабачання, фантазіі, сеансаў медытацыі. Аднак ужо тады былі людзі, якія спрабавалі рабіць гэта, абапіраючыся на розум.

Легендарны Леанарда да Вінчы ў XV стагоддзі быў апанаваны ідэямі пошуку законаў узнікнення і знікнення індывідуальнага жыцця, спрабаваў зразумець, якім чынам адбываецца спалучэнне духу і цела.

Крэбс уявіў сябе прадаўжальнікам таго, што рабіў вялікі Леанарда, толькі на больш высокім узроўні. І з той розніцай, што Леанарда рабіў усё сам, а Крэбс быў арганізатарам гэтага працэсу, па-першае, а па-другое, атрымліваў ад яго матэрыяльныя выгоды, прыцягваючы немалыя грошы тых, каму абяцаў у будучым неймаверныя прыбыткі ў выпадку рэалізацыі сваіх навуковых бізнес-праектаў.

Меў Крэбс і яшчэ адну якасць, якая вылучала яго сярод тых, хто час ад часу кідае ў свет ідэі новых тэхналогій і абяцае перакуліць яго ў патрэбным для эліты накірунку. Гэту якасць можна назваць здольнасцю ўлоўліваць і ўчэпіста трымаць нейкія пакуль яшчэ нябачныя звёны, якія ўзнікаюць на стыку, здавалася б, ніяк не з'яднаных адна з адной навуковых распрацовак.

Крэбсу надта ж карцела яшчэ раз паглядзець на гадзіннік, але ён стрымліваў сябе. Пачуўся званок, і ў перагаворніку прагучала толькі адно слова: «Крэбс».

Сакратарка, якая ледзь чутна набірала на камп'ютары тэкст, на імгненне адарвалася ад клавіятуры і прамовіла:

— Геен зі, бітэ!

Крэбс наблізіўся да зачыненых дзвярэй, адразу ж спрацаваў фотаэлемент, дзверы ціха расчыніліся, і ён трапіў у тое месца, якое можна было б назваць каміннай залай, калі б не абсталяванне офіса, якое яго ўладальнік прывёз у замак з Паўночнай Амерыкі.

Крэбс ведаў, як трэба трымацца з гаспадаром, і дзейнічаў адпаведна. Калі той вітаўся, тое ж самае рабіў і Крэбс. Калі толькі ківаў, Крэбс адказваў такім самым ветлівым кіўком. Першае заўсёды азначала, што гаспадар ставіцца да яго пазітыўна ці нейтральна, другое не абяцала нічога добрага. Вось і зараз Крэбс убачыў ледзь заўважны ківок, аўтаматычна адказаў такім самым стрыманым рухам і асцярожна апусціўся на краёк крэсла.

— Крэбс, — прамовіў гаспадар кабінета, — што адбылося ў вас у Гановеры?

— Няшчасны выпадак…

— Крэбс, у вас штогод здараецца няшчасны выпадак, а гэта пагражае канфідэнцыяльнасці нашых адносін. Адразу ж з'яўляецца паліцыя, а следам газетчыкі. А калі яны аб'яднаюць гэтыя няшчасныя выпадкі ў адно? Заснавальнікі настроены рашуча. Яны маюць намер даручыць гэтую місію іншай асобе, якая адрозніваецца ад вас толькі тым, што ў яе не будзе няшчасных выпадкаў.

— Яны не могуць аб'яднаць іх, — запярэчыў Крэбс, — ці мала што можа адбыцца зусім нечакана ў розных фірмах, у розных гарадах.

— Тым не менш, Крэбс, я не збіраюся інструктаваць вас, як трэба працаваць. Калі вы ўзяліся ажыццяўляць праект на пэўных умовах, дык зрабіце ласку, прытрымлівайцеся гэтых умоў.

— Ёсць, сэр, — адказаў Крэбс, адчуваючы, што амерыканцу спадабаўся гэты зварот.

— Ідзіце, Крэбс, справаздачу і поспехі «доследных узораў» як заўсёды — да першага верасня.

Крэбс выйшаў з кабінета. Змушана пасміхнуўся сакратарцы, як і павінен пасміхнуцца чалавек, якому даў прачуханца бос, і накіраваўся да выхаду. Але Крэбса не надта засмуціла размова з босам. Ён ведаў сабе цану. Ніхто з яго магчымых канкурэнтаў не здолее яго замяніць — ён сягнуў далёка наперад у рэалізацыі праекта. Ды і ўсе асноўныя моманты распрацоўкі знаходзяцца толькі ў ягонай галаве.

Калісьці ён адным з першых ухапіўся за ідэю кланіравання чалавека, але сам жа і адмовіўся ад яе адным з першых, і не таму, што апасаўся няўдачы. Хутчэй за ўсё, ён інтуітыўна зразумеў, што яна тупіковая, і, фармальна не адмаўляючыся ад рэалізацыі гэтай ідэі, паступова пераарыентаваў дзейнасць сваёй фірмы на вырашэнне іншых задач. Хоць усе па-ранейшаму лічылі яго дзіваком, які траціць грошы іншых багатых дзівакоў на ідыёцкія праекты, штосьці накшталт вынаходства вечнага рухавіка, але не ў механіцы, а ў біялогіі.

Крэбс сеў у машыну і паехаў па дарозе праз парк вакол замка. Калі б яго кіроўца мог глядзець назад, дык убачыў бы дзіўную метамарфозу, якая адбывалася з уладальнікам фірмы «Геном-2000». З наёмнага навукоўца, якога толькі што паўшчуваў яго работадавец, ён, па меры набліжэння да варот парку, ператвараўся ў паспяховага бізнесмена з гадавым даходам тры мільёны еўра.

Дзесяць гадоў таму, калі ў СМІ ўсчалася хваля паведамленняў пра тое, што генетычны код чалавека вось-вось будзе разгаданы, Крэбс не кінуў усе свае сілы і грошы на яго канчатковую расшыфроўку, каб зрабіцца першым. Ён, як бізнесовец, зразумеў, што доўгі ланцужок мільярдных спалучэнняў чатырох лацінскіх літар дае бясконцае спалучэнне варыянтаў. Але нічога не дае яму, Крэбсу, як бізнесмену. У 99,95 працэнтаў людзей гэтыя варыянты цалкам ідэнтычныя, і толькі тыя пяць сотых працэнта ёсць клад, з якога, калі як след кеміць, можна атрымаць матэрыяльную выгоду.

Не варта кланіраваць чалавека, калі нават у рамках аднаго пакалення можна знайсці чалавека з патрэбным генетычным кодам, гэта значыць, якасцямі, якія маглі б паслужыць асновай для будучых сацыяльна-палітычных маніпуляцый. А калі так, дык гэта можа прынесці яму, Крэбсу, не толькі навуковую славу, але і неймаверныя прыбыткі.

Крэбс націснуў на кнопку і трохі апусціў шкло. У салон уварваўся моцны струмень свежага паветра — машына імчалася па аўтабане з хуткасцю 140 кіламетраў. Але вось нарэшце і знаёмы паказальнік — «Патсдам». Тут машына Крэбса па васьмёрцы з’езду павярнула ўправа і ўжо з меншай хуткасцю ўкацілася ў гэты прыгарад Берліна.

* * *

Які сёння дзень? Так, паспрабуем зарыентавацца. Калаціла мяне некалькі дзён, пасля я столькі ж вяртаўся да жыцця, выпаўзаў са свайго прытулку і ледзь не на карачках валокся да возера, каб набраць вады і апаласнуцца. Ага, у першы дзень я зрабіў сякерай засечку — пазначыў дату. Гэта было15 мая. Адбылося, аднак, штосьці дзіўнае. Я гляджу на зробленыя сякерай лічбы і не магу зразумець, што яны значаць. Недзе ў глыбіні душы я ўсведамляю, што гэта пачатак адліку. Гэта той дзень, калі я апынуўся тут. Але дзе я знаходжуся зараз, на якім адрэзку лінейкі ці кола часу?

Я прыйшоў сюды, каб памерці. Я развітаўся з усімі. Я паадпускаў усіх і дараваў усім: і свайму начальніку, і нават азербайджанцу, які ў кагосьці набыў дакументы на маю кватэру. Дык вось, я згубіўся ў часе, а каб знайсціся, павінен стварыць новую шкалу, прыняць за нуль іншую велічыню адліку.

Я пачаў збіраць хваёвыя шышкі — прыносіць кожную раніцу ў палатку па адной. Калі іх назбіралася дваццаць, я сасніў сон. На дысплеі майго камп’ютара гэтым разам былі не доўгія ланцужкі ДНК, а набраныя лацінічай імя і прозвішча: Іаган Крэбс. Я пачаў ліхаманкава націскаць клавішы камп’ютара, каб атрымаць пра гэтага Іагана больш падрабязную інфармацыю. Але камп’ютар быў віртуальны і не слухаўся.

Нейкі шум пабудзіў мяне, і я доўга ляжаў, прыслухоўваючыся, пакуль не зразумеў, што гэта галасы людзей. Упершыню за доўгі час я адчуў трывогу і пачаў выбірацца з палаткі. Ногі і рукі не слухаліся. Калі я ўсё ж такі выблытаўся на свет Божы, дык убачыў двух маладых хлопцаў у балотных ботах, падпяразаных патранташамі, з паляўнічымі стрэльбамі за спінай. Хлопцы з відавочнай пагардай глядзелі на мяне. А я паспрабаваў стаць на ногі, але з гэтага нічога не атрымалася.

— Глядзі, як набраўся, — сказаў адзін.

— Хутчэй абкурыўся, — заўважыў другі, падыходзячы бліжэй і разглядаючы мяне, як цікавага жужаля, перш чым раздушыць яго.

— Відаць, твая праўда, — сказаў першы і раптам ударыў мяне нагой у жывот.

Удар трапіў як раз крыху ніжэй за сонечнае спляценне. І мне, як у дзяцінстве, хацелася абурыцца гэтым подлым учынкам, сказаць, што ў мяне апераваны страўнік, і нават не страўнік, а ўсяго толькі чвэртка. І што менавіта з-за гэтага я прыцягнуўся сюды…

Ад удару я адляцеў да хвоі, але звыклага болю ў эпігастрыі, куды трапіў насок балотнага бота, я не адчуў.

Я яшчэ не паспеў усвядоміць недарэчнасці ўсяго таго, што адбываецца, як атрымаў другі ўдар у тое ж самае месца, але гэтым разам ужо ад другога нягодніка.

І раптам я раззлаваўся, усхапіўся і кінуўся на іх. Праўда, слова «кінуўся» наўрад ці падыходзіла да таго, што я зрабіў, а вось хлопцы сапраўды кінуліся ўцякаць. Яны адбегліся на бяспечную адлегласць, а тады адначасова, як механічныя салдаты, павярнуліся, знялі з пляча стрэльбы і наставілі іх у мой бок. Прычым рулі былі скіраваны зусім не ў грудзі, а на мой няшчасны страўнік, якому так і не змаглі даць рады ні гарадскія эскулапы, ні наўгародскія экстрасэнсы.

«Не, яны не пацэляць, — пранеслася ў мяне ў галаве, — не зусім жа яны падонкі, каб забіць хворага чалавека, які нічым не пагражае ім».

Але я памыліўся, абедзве стрэльбы стрэлілі адначасова, прычым гук быў нейкі доўгі ды раскацісты. Так грыміць гром у летнюю навальніцу. Я скурчыўся, паваліўся на зямлю, зноў дзівячыся, што звыклага болю ў сонечным спляценні, куды павінен быў трапіць шрот, не адчуваю.

Тут я прачнуўся, зноў пачуў знаёмыя раскаты і зразумеў, што там, за брызентам палаткі, ідзе дождж.

Я доўга ляжаў на сваёй падсцілцы, слухаючы, як кроплі барабаняць па палатцы, пасля прыклаў палец да мокрага брызенту. Я ведаў, што рабіць так нельга. Калісьці ва ўніверы я хадзіў у паходы па маршрутах трэцяй катэгорыі складанасці і гэтыя дробязі, безумоўна, ведаў. У тым месцы, дзе да брызенту дакрануўся палец, палатка пачынае працякаць.Так і атрымалася, кроплі вады пачалі падаць мне на штармоўку, але гэта выклікала прыемнае пачуццё далучанасці да таго, што адбываецца. Ці ж мне, часцінцы прыроды, апасацца кропель гэтай жа прыроды? Мне зрабілася так хораша, што я расчуліўся і заплакаў.

Пасля гэтага сну ў душы маёй адбыўся нейкі пералом, мройлівы стан паўнаркатычнага трызнення змяніўся рэальнай насцярожанасцю і моцным жаданнем паесці. Я пачаў супрацiўляцца, на кожны прыступ выпіваючы па тры глыткі азёрнай вады, але гэта амаль не дапамагала. Відаць, арганізм з’еў знутры ўсё, што можна, і ўжо нічога не мог падкінуць у топку жыццёвых сіл. Нарэшце я зразумеў, што не хачу больш заставацца ў палатцы ля возера.

Наступнай раніцай я выбраўся вонкі, зрабіў некалькі крокаў і прыхінуўся да хвоі. Трохі аддыхаўся, наважыўся скруціць палатку, але сіл не хапіла, і тады я проста пацягнуўся ў той бок, адкуль прыйшоў месяц таму. Я не памятаю, колькі я ішоў, але нарэшце выйшаў на шашу.

Вадзіцелі машын, якія я спрабаваў спыніць, бачачы мяне, толькі павялічвалі хуткасць. Відаць, я меў калі і не страшны, дык ва ўсякім разе варты жалю выгляд.

Нарэшце каля мяне спыніўся старэнькі «масквічок».

— Табе куды? — спытаў мяне вадзіцель гадоў пяцідзесяці, у фланелевай кашулі, кепцы і акулярах.

Я раскрыў быў рот, каб сказаць, што мне трэба ў Падольск, але з гэтага нічога не атрымалася. Інструмент, якім я не карыстаўся ўвесь месяц, заржавеў.

— Сядай, — сказаў ён мне, — пасля паспеем разабрацца.

І сапраўды, праз паўгадзіны, пасля некалькіх няўдалых спроб, я спытаў яго:

— Які сёння дзень?

— Дваццаць пятага чэрвеня, — быў адказ.

Значыць, я прабыў ля возера сорак дзён.

* * *

Парадокс, але мяне, як і першым разам, падабралі дальнабойшчыкі і прывезлі ў Падольск. Я прыйшоў да Івана Нарымава. Тыдзень вучыўся наноў гаварыць, есці, а пасля сеў за камп’ютар, увайшоў у інтэрнэт і набраў імя Іагана Крэбса.

Як высветлілася, Іаган Крэбс быў нямецкім навукоўцам, які набіраў супрацоўнікаў для нейкага незвычайнага праекта. Я ні хвіліны не вагаўся і накіраваў яму сваю анкету, а таксама паведаміў, чым займаўся раней.

Літаральна праз тыдзень мне прыйшло паведамленне, што мяне выклікаюць у Патсдам. Я пазычыў у Нарымава грошай і паехаў.

Вакзал у Берліне мяне ашаломіў. Мне нават падалося, што я не змагу ў гэтым бліскучым і ззяючым мурашніку знайсці выхад да патрэбнай мне стаянкі, дзе павінен чакаць мяне прадстаўнік Крэбсавай фірмы. Але я засяродзіўся і супакоіўся, бы камп’ютар, уключыў сваю памяць і зразумеў, што сёе-тое яшчэ памятаю з курса нямецкай. Я знайшоў стаянку, дзе чакаў мяне чорны «БМВ» з шафёрам і высокім бялявым хлопцам, які назваўся Гансам.

Пасля мы ехалі па Берліне, і я ўбачыў Брандэнбургскія вароты, і ўзрадаваўся, быццам сустрэў даўняга знаёмца. Але Ганс сказаў, што гэта не тыя, хоць і вельмі падобная сваёй манументальнасцю.

Праз гадзіну мы былі ў Патсдаме. Я думаў, што мяне ўладкуюць у гасцініцы, а ўжо тады будуць рабіць тэсціраванне на прыдатнасць да новай працы, але Ганс адразу прывёз мяне ў нейкі офіс, і ўжо праз пяць хвілін я сядзеў у кабінеце Крэбса і гаварыў з ім.

Я ведаў методыку адбору ў такія фірмы. Але і тут усё было па-іншаму. Крэбс не зачытваў мне звычайны ў такіх выпадках апытальнік.

— Праверку на паліграфе і падрабязнае анкетаванне вы пройдзеце пасля, — сказаў ён.

Я кіўнуў у знак згоды, але каму яна патрабавалася тут, тая мая згода!

— Зрэшты, калі вы будзеце іх праходзіць, дык гэта звычайная фармальнасць, бо іх праходзяць тыя, у дачыненні да каго я прыняў станоўчае рашэнне, — сказаў ён мне на рускай мове з ледзь заўважным акцэнтам, які ўсё ж

такі дазваляў зразумець, што з табой размаўляе немец. — Першае пытанне: як вы мяне знайшлі?

— Я страціў працу і пачаў шукаць прапановы ў інтэрнэце.

— У інтэрнэце, як падлічылі мае спецыялісты, каля чатырнаццаці такіх прапаноў з розных краін. Чаму вы абралі нашу фірму і Германію?

— Мне спадабалася, а дакладней, калі сказаць па-руску, я запаў на імя Іаган, яно мне нагадвала майго сябра Івана Нарымава.

— Чаму з вамі развіталася ранейшае кіраўніцтва? — спытаў Крэбс з тым самым акцэнтам, і калі б не гэты акцэнт, я б мог падумаць, што мяне дапытвае адзін з нашых айчынных апаратчыкаў, гэтак спецыфічна правільна было сфармулявана пытанне.

— Я меў праблемы са здароўем і не мог выконваць той аб’ём працы, які на мяне ўскладаўся.

— Гэтыя праблемы зліквідаваны?

— Так.

— Сёння да абеду вы ўладкуецеся ў гасцініцы, а тады Ганс прывязе вас сюды для праверкі на паліграфе. Заўтра ж атрымаеце заданне, па выніках якога мы з вамі падпішам кантракт. Як бачыце, я ўжо вырашыў, што вы будзеце працаваць у нас, усё астатняе трэба для таго, каб вызначыць рамкі выкарыстання вас у якасці прафесіянала-камп’ютаршчыка. Зрэшты… — тут Крэбс самазадаволена адгарнуў папку, што ляжала перад ім на стале, і прачытаў некалькі сказаў з маёй характарыстыкі па ранейшым месцы працы.

Я зрабіў здзіўленыя вочы, хоць гэты фокус на самай справе мяне не мог здзівіць. Той, хто працаваў у Расіі, ведае цану гэтых характарыстык. Але немцы, відаць, маюць інфармацыю, якая змешчана там, за ісціну ў апошняй інстанцыі. Ну што ж, хай маюць.

Ганс адвёз мяне ў гасцініцу, уладкаваў, аплаціў нумар за трое сутак наперад. Праўда, усё гэта ён рабіў не як прадстаўнік фірмы, які абавязаны абслугоўваць кліента, а як ахоўнік. І я гэта зразумеў.

Па абедзе Ганс прывёз мяне ў офіс, і ў маленькім кабінеце лысы таўстун прымацаваў да мяне датчыкі. Адна манжэта апынулася на перадплеччы, другая захапіла тры пальцы левай рукі.

Таўстун кепска гаварыў па-руску. Зрэшты, турбавацца ён не меў патрэбы. Ён глядзеў у нейкую паперку і чытаў.

— Імя?

— Пётр.

— Прозвішча?

— Лазуцін.

— Лазутшчык? — перапытаў аператар.

— Лазуцін, — прамовіў я выразна.

— Колькі вам гадоў?

— Трыццаць.

— Якога колеру ваша кашуля?

Я разумеў, што гэта падрыхтоўчыя, праверачныя пытанні, а следам пойдуць галоўныя. Так і атрымалася.

Аператар зрабіў паўзу і, зазіраючы ў паперчыну, прачытаў:

— Мы карыстаемся найноўшай тэорыяй галасавога напружання… калі людзі маняць, яны адчуваюць прыроднае пачуццё віны… работа галасавых звязак пагаршаецца, што выклікае частотныя змены чалавечага голасу, якія не ўспрымае чалавечае вуха, і гэта адразу ж фіксуе прыбор… вы разумееце?

Я моўчкі кіўнуў у адказ і пракаўтнуў сліну. Аператар ледзь заўважна пасміхнуўся.

— Вы праходзілі падрыхтоўку ў ФСБ?

— Не.

— Вы атрымалі інфармацыю пра нашу фірму ў інтэрнэце?

— Так.

— Вы прыехалі ў Германію ўпершыню?

— Так.

У гэты час у кабінет увайшоў Крэбс і стаў збоку ад мяне.

— Вы займаліся ў Расіі расшыфроўкай ДНК?

— Так.

Аператар задаў яшчэ два дзясяткі пытанняў, пасля паздымаў з мяне манжэты, а Крэбсу перадаў нейкую паперу. Крэбс узяў яе ў рукі, уважліва паглядзеў і зрабіў знак Гансу, які, нібыта з-пад зямлі, узнік у кабінеце паліграфіста.

— У нас ёсць час на перакур, — сказаў Ганс.

— Я не куру.

— І тым не менш.

Ганс паказаў у бок уваходных дзвярэй, і мы выйшлі на вуліцу. Там ён выцягнуў з кішэні цыгарэты і працягнуў адну мне.

Я ўзяў цыгарэту і дэманстратыўна выкінуў яе ў урну. На маё здзіўленне, Ганс зрабіў тое самае, а затым знік у будынку. Я пайшоў следам, але ўваходныя дзверы былі зачынены.

— Спакойна, спакойна, — сказаў я ціха. — Тыповы фірменны понт, разлічаны на слабанервовых кандыдатаў на прыём.

Я засунуў рукі ў кішэні і з незалежным выглядам прытуліўся да сцяны побач з уваходнымі дзвярыма.

Так я стаяў хвілін пятнаццаць, пакуль дзверы не адчыніліся і зноў не з'явіўся Ганс. Ён панадзіў мяне да сябе пальцам. Год таму я б заехаў яму ў сківіцу. Але цяпер штосьці падказвала мне, што ўсё гэта — спектакль, праверка на вашывасць, і гэту праверку я мушу прайсці да канца.

Крэбс чакаў мяне ў кабінеце. Ён працягнуў мне два экзэмпляры кантракта, складзенага на дзвюх мовах. Я адразу пачаў чытаць рускі варыянт. Крэбс браў на сябе абавязацельства выплачваць мне штомесяц васемсот еўра, а дзве тысячы будуць асядаць на маім рахунку ў банку горада Стэндаля.

Далей быў пералік умоў, якія я павінен выконваць, працуючы ў фірме. Поўная канфідэнцыяльнасць у дачыненні да таго, чым мне давядзецца займацца, інфармаванне службы бяспекі пра канкурэнтаў і гэтак далей, і да таго падобнае.

Я прачытаў тэкст, падпісаў абодва экзэмпляры, зларадпічаючы ў думках — у рускім варыянце тэксту было багата памылак.

Крэбс паглядзеў на абодва подпісы, быццам параўноўваючы іх, і сказаў:

— Ганс.

З'явіўся Ганс, зноў кіўнуў, і мы выйшлі з ім у калідор. Там ён працягнуў мне ключ ад нумара ў гасцініцы і сказаў:

— Заўтра ў дзевяць тут, зразумела?

— Яшчэ раз паваб іш мяне пальцам, — адказаў я яму, — адарву палец і кіну сабакам, зразумела?

* * *

На наступны дзень я з'явіўся на працу ў дзевяць. Ганс правёў мяне ў памяшканне, у якім працавалі два арабы. Там ён даў мне вялізны партфель і сказаў:

— Крэбсу патрабуюцца падставы для сістэматызацыі гэтага масіву.

Ён пайшоў, а я паглядзеў на арабаў і хацеў быў адрэкамендавацца, як гэта заведзена сярод калег, але тыя паводзілі сябе так, нібы мяне не было ў кабінеце. І я вырашыў пакінуць сваю ветлівасць пры сабе.

Я раскрыў партфель і ўбачыў ладны стос папер, а ў маленькім аддзяленні — некалькі «сідзюшнікаў».

Я пачаў вывучаць паперы. У верхняй гаварылася пра нейкага Мілера Фрыдрыха, які нарадзіўся ў Баварыі, жыў, вучыўся, працаваў на лямпавым заводзе, ажаніўся, стаў бацькам, а пасля беспрычынна скончыў жыццё самагубствам.

Другая была пра Хільду Брунштэйн. І ў яе, гэтаксама як у Мілера, усё было як ва ўсіх добрапрыстойных грамадзян, але, гэтаксама як і Мілер, яна скончыла жыццё самагубствам.

Я хутка прагледзеў больш як палову дакументаў і пераканаўся, што ўсе яны тычацца суіцыду. Такім чынам, Крэбс па нейкіх прычынах калекцыяніраваў выпадкі самагубства.

Астатнія дакументы таксама тычыліся суіцыдальных асоб. Я ўставіў у паз аперацыйнага блока СД-дыск і знайшоў там тую ж інфармацыю, што і на папяровых носьбітах. Хутка склаў табліцу і ўбачыў, што шмат якія яе клеткі засталіся пустымі. Такім чынам, інфармацыю пра самазабойцаў збіралі не сістэмна.

Я націснуў кнопку, выклікаў Ганса, і ён зараз жа з'явіўся.

— Мне трэба дадатковая інфармацыя.

— Тофік, — сказаў Ганс, звяртаючыся да аднаго з арабаў, — хэлп ю аўа рашн фрэнд.

Той, каго назвалі Тофікам, раптам змяніўся з твару і з ліслівай мінай падбег да мяне.

— Шпрэхен зі дойч, русіш?

— Так, так, русіш, — прамовіў ён, на маё здзіўленне, даволі правільна.

— Тады сядай бліжэй да мяне, я пастаўлю табе задачу.

— Я, я, задачу, — пацвердзіў Тофіку Ганс і накіраваўся да выхаду, перакананы, што яго місія завяршылася.

— Чакай, — сказаў я яму, — калі гэты фраер не адужае пастаўленай задачы, дык мне спатрэбіцца такі, які б валодаў нямецкай і рускай аднолькава добра.

— Знойдзем, — адказаў Ганс, — а пакуль у цябе будзе… фраер.

Фраер быў, як высветлілася, выдатным хакерам, але кепскае веданне рускай мовы ўвесь час перашкаджала нашым зносінам.

На трэці дзень са здабытай Тофікам інфармацыі я склаў аналітычную даведку па ўсіх выпадках самагубства, з якімі пазнаёміў мяне Крэбс, і зноў выклікаў Ганса. Той узяў паперу і накіраваўся да шэфа.

У камп'ютарнай ён з'явіўся праз паўгадзіны, спыніўся ў дзвярах і ўзняў руку, каб падазваць мяне пальцам, але, відаць, успомніў маю пагрозу і не зрабіў гэтага, а ўсяго толькі хітнуў галавой у бок Крэбсавага кабінета.

Крэбс сядзеў за сваім сталом, і перад ім былі раскладзены ў пэўным парадку старонкі майго аналізу.

— Значыць, — прамовіў Крэбс, — логіка, яна і ў Расіі логіка. Вы думаеце, што…

— Я думаю, што тут сабраны ўсе выпадкі гэтак званых нетыповых сацыяльных самагубстваў. Гэта прыкмета з'яўляецца істотнай для ўсіх, хто ўвайшоў у гэты спіс. Дарэчы, магчыма, ён і складаўся ў адпаведнасці з гэтай прыкметай.

— А што ў Расіі можа лічыцца тыповым сацыяльным самагубствам?

— Усё, што тычыцца альбо палітычных, альбо сямейных, альбо асабістых матываў. У гэтым жа выпадку ў рамках шкалы каштоўнасцей, уласцівых этнасу, які насяляе Германію, адзначаныя прычыны адсутнічаюць.

— А што з'яўляецца прычынай сыходу з жыцця ўсіх гэтых людзей?

— Для таго, каб адказаць на гэта пытанне, патрабуецца дадатковае даследаванне, але ўжо не на падставе ўсім зразумелых і відавочных фактаў, а на зусім іншай, нетрывіяльнай аснове.

— Напрыклад?

— Напрыклад, факты з дзяцінства, рэлігійныя погляды, нарэшце, завершанасць той працы, якой яны займаліся.

— Апошняя думка надзвычай цікавая. Карацей кажучы, лічым, што сякую-такую стажыроўку ў фірме вы прайшлі. Заўтра пераязджаеце да новага месца працы. Там з вамі будзе працаваць яшчэ адзін ваш калега-камп'ютаршчык з Сербіі, а забяспечваць вашу бяспеку і канфідэнцыяльнасць будзе Ганс. Усе яго загады вы павінны выконваць абсалютна дакладна, не аналізуючы іх на прадмет мэтазгоднасці навуковай. Вы не ведаеце ўсёй задумы, а таму не можаце карэкціраваць ягоныя патрабаванні.

— Чым мы будзем там займацца?

— Перш-наперш працягваць распачатую працу па гэтак званых нетыповых самагубцах.

* * *

На наступны дзень я ў Стэндаль не паехаў. Відаць, штосьці не спрацавала ў адладжаным механізме нямецкага парадку, і Ганс не паспеў зрабіць там тое, што было неабходна для працы. Я ўвесь дзень бавіў у гатэлі, а наступнай раніцай пайшоў у горад. Спачатку павандраваў па вуліцах і зазірнуў у крамы, падобныя адна на адну асартыментам, як дзве кроплі вады, а пасля ўзяў таксі і паехаў у Патсдамскі замак.

І замак, і парк не зрабілі на мяне ўражання. Шырокія лесвіцы, фантаны і асабліва пакрытыя пазалотай скульптуры здаваліся мне побач з нябесна-блакітнымі будынкамі і зялёнымі алеямі недарэчнай эклектыкай з нейкага іншага свету.

Не радавалі маё вока ні адмысловая альтанка малахітавага колеру, якая нагадвала Эйфелеву вежу, ні пяціканцовая зорка на клумбе перад залай, дзе адбылася Патсдамская канферэнцыя. Відаць, на маёй фізіяноміі не было ні захаплення, ні цікаўнасці. Маладзенькая гідэса пазнала рускага і паведаміла, што ў час канферэнцыі ў Сталіна спыталі, што б ён хацеў убачыць ля ўвахода ў залу. І ён адказаў: «Зорку». З таго часу на фоне зялёнай травы на клумбе заўсёды прысутнічае барвовая зорка.

У Стэндаль я трапіў праз тры дні. Ехаў туды на машыне з Гансам. Пасля таго, як я паабяцаў адарваць палец і кінуць яго сабакам, паміж намі ўсталяваліся вельмі напружаныя адносіны. Ён гаварыў мне толькі тое, што мела непасрэднае дачыненне да работы, і не трапляў на вуду «проста пагаманіць».

Вось і цяпер ён моўчкі сядзіць за рулём аўтамабіля. Калі ж і адказвае на мае пытанні, дык пасля паўзы, а такі спосаб адносін абцяжарвае, і іх не хочацца падтрымліваць. А можа, я не меў рацыі, можа, гэты жэст у Германіі не дэманструе знявагу, а выкарыстоўваецца паміж людзьмі, якія падтрымліваюць сяброўскія адносіны.

Мы пераехалі мост праз Эльбу, і я спытаў:

— Выязджаем у ранейшую акупацыйную зону саюзнікаў?

— Не, — адказаў ён пасля паўзы, — тут стаялі рускія.

— А як жа мяжа па Эльбе?

— Гэта была здзелка, — сказаў ён, — паміж Сталіным і саюзнікамі. Саюзнікі папрасілі яго вывесці войскі з Аўстрыі, а ўзамен аддалі яму гэту частку Германіі.

— Значыць, тут багата людзей, якія размаўляюць па-руску?

— Не думаю, — адказаў Ганс.

Тон яго наводзіў мяне на думку, што гэта пытанне падалося яму правакацыйным.

Як толькі мы прыехалі, Ганс адразу ж пасяліў мяне ў трохзоркавым гатэлі з той самай назвай, што і горад. Нумар мне дастаўся на апошнім паверсе, а менавіта ў мансардзе. Гэта былі вялікія апартаменты, у адным канцы якіх стаялі шафа і ложак, а ў другім — стол і некалькі крэслаў. Пасярэдзіне мелася кабінка з ракавінай і душам.

Неўзабаве Ганс павёў мяне ў офіс. Гэта быў пакой з асобным уваходам у пад’ездзе аднаго з жылых дамоў. У пакоі было ўсё неабходнае для работы: чатыры камп’ютары на прыстойных сучасных сталах, чатыры крэслы на колцах і тут жа за шырмай — два крэслы для адпачынку, маленькі столік і набор посуду з электрачайнікам.

— У мяне будзе напарніца? — спытаў я Ганса.

— Напарнікі, — адказаў ён, — адзін з іх — я, другі зараз прыйдзе.

Ганс пачаў грэць ваду, каб заварыць каву.

— Я п’ю толькі чай, — сказаў я, бо ўбачыў, што ён мые два кубкі.

— Прадугледжана, — адказаў Ганс, і я яшчэ раз здзівіўся, як добра ён арыентуецца ў рускай мове. Гэта была не руская мова Крэбса, якую ён вывучыў ва ўніверсітэце. Так мог гаварыць толькі чалавек, выгадаваны ў рускамоўным асяродку.

Ганс усыпаў у свой кубак кавы, паклаў цукар, а на донца майго кубка кінуў пакецік з чаем.

— Цукар на смак, — сказаў ён мне, — так, здаецца, кажуць у вас у Расіі.

— Мне здаецца, што тут трэба ўжываць іншы займеннік.

— Чаму? — здзівіўся Ганс, не адчуваючы падвоху.

— Мне здаецца, што тут больш дарэчы было б сказаць — у нас у Расіі.

Ганс папярхнуўся кавай, закашляўся: заўвага была да месца.

Ён прачысціў горла і раскрыў быў рот, каб абвяргаць мяне. Але пачулася пікanне дзвярэй, і ў пакой увайшоў бялявы хлопец гадоў дваццаці пяці. У руках ён трымаў магнітную картку.

— Дзень добры, — павітаўся ён па-руску з лёгкім акцэнтам. Я зразумеў, што яго папярэдзілі аб маім прыездзе.

Ганс нагбом глынуў каву, ускочыў на ногі і працягнуў мне магнітную картку.

— Ад уваходу, — прамовіў ён. — Я пайшоў.

І ён сапраўды пайшоў, гэтаксама, як і хлопец, адчыніўшы дзверы магнітнай карткай.

— Што такое? — уголас сказаў я. — Чым мы яго пакрыўдзілі?

— Драган Мілкавіч, — адрэкамендаваўся хлопец так гучна, нібы хацеў, каб яго хтосьці пачуў, а тады прыклаў палец да вуснаў і паказаў на вентыляцыйную рашотку.

Я ўстаў з крэсла і такім жа самым тонам сказаў:

— Пётр Лазуцін.

— Крэбс загадаў увесці вас у курс спраў.

І тут я міжволі заўсміхаўся. Пры ўсёй правільнасці вымаўлення хлопец рабіў націск ва ўсіх словах на першым складзе. Таму кароткія словы былі амаль рускімі, а доўгія гучалі нязвыкла і нават смешна.

— Падыходзіць, — адказаў я, — давай.

— Вось гэтыя два камп'ютары маюць выхад у інтэрнэт, — пачаў хлопец, — а вось гэтыя два — аўтаномныя. На іх трэба працаваць, калі абагульняецца канфідэнцыяльная інфармацыя.

Пасля ён вельмі падрабязна расказаў мне пра распарадак дня — калі трэба прыходзіць у офіс, як уваходзіць, калі трэба пакідаць яго.

— А калі ёсць неабходнасць папрацаваць звышурочна?

— Гэта можна, але без аплаты.

— У нас ёсць права на абед?

— Так, — адказаў Драган. — Тут недалёка ёсць кавярня.

— А ці не паабедаць нам зараз? — сказаў я яму і паказаў пальцам на вентыляцыйную рашотку.

— Падыходзіць, — адказаў Драган з націскам на другім складзе, але я мог даць клятву, што ён ніколі раней не чуў такога слова, а як пачуў, імгненна зразумеў яго значэнне і да месца выкарыстаў: неверагодныя здольнасці да навучання.

Драган накіраваўся да дзвярэй, але я яго апярэдзіў:

— Дазволь, я паспрабую сваёй карткай.

Ён саступіў убок, я ўставіў картку ў паз, пачулася піканне, і дзверы адчыніліся.

Калі мы адышліся ад офіса на даволі добрую адлегласць, Драган з палёгкай уздыхнуў і сказаў:

— Ганс у суседнім пакоі праслухоўвае нашы размовы.

— Тады ў пакоі давядзецца гаварыць пра жанчын, а на вуліцы — пра работу.

— Пра якіх жанчын? — перапытаў ён, і я яшчэ раз зразумеў, што пры ўсёй сваёй славянскасці ён жыў у іншым этнамоўным асяродку і не ведаў, што ў Расіі на працы размаўляюць пра жанчын, а з жанчынамі — аб працы.

Мы зайшлі ў кавярню. Заказалі сасіскі, сыр і піва. Піва і сыр прынеслі адразу. Афіцыянтка паставіла высокія куфлі на сурвэткі з маркай нейкага гатунку піва. Сасіскі з'явіліся, калі мы ўжо добра выпілі. Піва выклікала воўчы апетыт. Мы імгненна з'елі порцыю сасісак, заказалі яшчэ па келіху піва і пілі, закусваючы сырам.

Ад выпітага язык Драгана развязаўся, і ён экспансіўна, з націскам на першым складзе, пачаў расказваць пра тое, як ён апынуўся ў Германіі і як у гэты час у Косаве «албанскі спецназ расстраляў» яго сям'ю.

Пасля ён расказаў мне пра тое, чым займаецца Крэбс. Колькі ў яго такіх даследчых пунктаў, якія ў яго ёсць лабараторыі.

— Зрэшты, — закончыў Драган, — лабараторый у яго багата, а займаецца ён адным — спрабуе стварыць штучнага чалавека.

— І як далёка ён прасунуўся? — спытаў я.

— Не далей за іншых, але Крэбс хітры, ён прадугледзеў варыянт адыходу ў тым выпадку, калі гэта задума лясне.

— І што ж гэта за варыянт?

— Ты адразу хочаш ведаць усё.

— Не ўсё, але большую частку, — паспрабаваў жартаваць я.

— Крэбс не займаецца дабрачыннасцю. Ён атрымлівае грошы ад апанентаў тых, хто сёння знаходзіцца ва ўладзе.

— І чым жа мог зацікавіць апальных палітыкаў Крэбс?
— Ён абяцае распрацаваць эліксір жыцця.
— А навошта ён людзям?
— Каб жыць вечна.
— Відаць, у нашым узросце хочацца жыць вечна, а гадоў пад сто стаўленне да жыцця мяняецца.
— Тыя, што маюць многа грошай, прытрымліваюцца іншай думкі.
— А ведаеш, далёка адсюль, у адной з падмаскоўных вёсак, жыла старая ста сямі гадоў. Адзін малады журналіст даведаўся пра гэта і вырашыў узяць у яе інтэрв'ю. Прыехаў, унукі прывялі бабульку. А яна паўтарае толькі адно: «Прабачце мне старой, відаць, вінавата я перад Богам, што ён смерці мне не дае».
— Та-а-ак, робіць уражанне, — адказаў на гэта Драган.
— А чым у ягоных лабараторыях займаюцца яшчэ?
— Збіраюцца кланіраваць Джо Луіса.
— Навошта?
— Справа ў тым, што ў яго наймацнейшы ўдар сярод усіх баксёраў цяжкай вагі ў свеце.
— Гэта я ведаю, падлеткам пачынаў займацца боксам. І нават ведаю легенду пра ягонага трэнера. Калі карэспандэнты спыталі, што ён робіць для таго, каб паставіць у сваіх вучняў такі ўдар, як у Луіса, той адказаў: «Хаджу ў царкву і малюся, каб Бог даваў мне больш такіх хлопцаў, як Джо».
— Вось бачыш, ты шмат чаго ведаеш, а я перакананы, што Крэбс не ведае таго, што ты зараз сказаў, але ён ведае і адчувае іншае.
— Што, напрыклад?
— Перспектыву ўкладання грошай.
— І ў чым жа яна?
— Ён спадзяецца, што зможа выгадаваць з клона баксёра сусветнага класа, які будзе зарабляць яму, як гэта ў вас у Расіі кажуць… бабкі.

* * *

Крэбс з'явіўся праз тыдзень, і мяне гэта здзівіла. Якая неабходнасць прымушае першую асобу фірмы прыязджаць персанальна ў адзін са сваіх шматлікіх філіялаў? Тым больш, што праз інтэрнэт мы з Драганам штодзённа скідваем інфармацыю ў Патсдам. Але кіраўніцтва і ў Германіі ёсць кіраўніцтва.

Крэбс уважліва агледзеў офіс, нібыта ад гэтага залежала эфектыўнасць нашай працы і будучыня самога Крэбса. Пасля загадаў Гансу і Драгану пакінуць памяшканне.

— Мілкавіч ужо расказаў вам пра эліксір жыцця? — нечакана запытаў ён.

Тут мяне імгненна разанула здагадка, што Драган дарма шыфраваўся і выводзіў мяне з офіса, каб Ганс не змог запісаць нашы размовы. Хутчэй за ўсё Ганс меў мікрафончык у вопратцы Драгана, а магчыма, і ў маёй.

— Так, — адказаў я.
— І як вы ставіцеся да гэтай ідэі?
— Абыякава.
— А як жа мара чалавецтва пра вечнае жыццё?
— Асобныя людзі ў адпаведныя моманты жыцця могуць жадаць гэтага, але ў цэлым чалавецтва — наўрад.
— Чаму?

Я раскрыў быў рот, каб расказаць гісторыю 107-гадовай старой з Падмаскоўя, але стрымаўся і толькі адказаў:

— Ёсць моманты, калі чалавек не жадае вечнага жыцця.

— Вечнае жыццё — магутны стымул для чалавецтва, з дапамогай якога можна ажыццявіць шматлікія праекты. Гэта вялікае шчасце.

— Шматлікія праекты ды пражэкты абапіраюцца на тое, што яны нясуць шчасце чалавецтву, паляпшаючы і падаўжаючы яго жыццё. Але ўсё гэта з пазіцый нейкіх чалавечых уяўлення пра шчасце. На самай справе ўсё, што чалавек стварае з мэтай больш камфортнага існавання, з’яўляецца мыліцамі, якія спрыяюць ягонай дэградацыі ў якасці разумнай істоты, якая мае біялагічную аснову існавання.

— Я ведаю гэту тэорыю, але такі пункт гледжання адмаўляе карыснасць прагрэсу, а чалавек можа паставіць перад сабай задачу здабыць бяссмерце і вырашыць яе.

— Мне здаецца, гэта не задача чалавека. Толькі ў юнацтве чалавек імкнецца доўга жыць, а пазней ён пачынае разумець: усё, што з’яўляецца, павінна знікнуць, усё, што нараджаецца, павінна памерці. Тыя самагубцы, лёсы якіх мне давялося даследаваць, не з’яўляюцца самагубцамі. Яны здзейснілі гэты ўчынак без відавочных прычын. Карлас Кастанэда расказвае пра тое, як яго настаўнік, індзеец дон Хуан, запатрабаваў, каб ён забіў труса, які трапіў у пастку. Ён сказаў герою, каб той не баяўся пазбавіць жыцця гэту істоту, бо час яе жыцця на зямлі закончыўся. Але герой не паверыў і вырашыў вызваліць труса з клеткі. Аднак у клетцы сапсаваўся замок. Тады герой паспрабаваў паламаць яго нагой, пашкодзіў клетку, адзін з пруткоў якой забіў труса.

— Якое гэта мае дачыненне да нашых самазабойцаў?

— Самае непасрэднае: іх час настаў. І таму мы знешне не бачым тых прычын, якія прымусілі іх зрабіць гэта, не можам зразумець, што ж падштурхнула іх да гэтага. А ўсё проста — час іхняга існавання на зямлі завяршыўся. Мы ўсе прыходзім на гэты свет з якойсьці мэтай, і пакуль мы не выканаем сваю місію, мы жывём.

— Ужо лепей, — сказаў на гэта Крэбс. — На маю думку, чалавек — пэўны інструмент у руках Тварца і выконвае тую задачу, якую Тварэц чамусьці не можа вырашыць сам. Магчыма, і задача чалавечага бяссмерця патрэбна для чагосьці Богу.

— Сумніўна. Для Тварца праблемы бессмяротнасці не існуе. А вось стан чалавека народжанага, які імкнецца да смерці, для чагосьці неабходны яму. Можа быць, для вырашэння тых задач, якія не могуць вырашыць несмяротныя. Чалавецтва ўжо сутыкнулася з крайняй праявай гэтага стану — праз пакуты Агасфера.

— Вечнага Жыда не існавала.

— Гэта не так і важна, ці існаваў ён на самай справе. Ён існаваў і існуе як міф, а міф і ёсць найяскравейшая і вельмі насычаная рэальнасць.

— Гэта ваша думка?

— Гэта меркаванне аднаго расійскага, а дакладней, савецкага акадэміка, які прысвяціў даследаванню міфа ўсё сваё жыццё. Ён прыводзіў прыклад з абарыгенам, які, пераплываючы раку, чапляў на шыю каралі з кракадзілавых зубоў і такім чынам не трапляў кракадзілу на абед.

— Вы не зусім дакладна зразумелі задачу з самазабойцамі. Так, чалавек баіцца смерці і жыцця. Парадокс. Але толькі чалавек разумее, што такое смерць. Ён баіцца смерці, але ў шэрагу выпадкаў гэты страх не з’яўляецца значным для яго. І ён парушае забарону. І такія людзі бліжэй да Тварца, чым

усе астатнія. Гэта толькі гіпотэза, але яна павінна мець пацвярджэнне і ў матэрыяльным жыцці. Шукайце гэтыя пацвярджэнні, Лазуцін, шукайце. Ці паспрабуйце аспрэчыць мяне.

Крэбс пасля гэтых слоў устаў з крэсла, выцягнуў з кішэні пластыкавую картку, адчыніў дзверы і, не развітваючыся, пайшоў.

Неўзабаве з'явіўся Драган.

— Ведаеш, — сказаў ён, — за тыя два гады, што я працую на Крэбса, упершыню бачу і чую, каб Крэбс прыязджаў пагаварыць са сваім супрацоўнікам, хай нават ён сабе і аналітык і лоб у яго на сем пядзяў. Відаць, цябе рыхтуюць да ініцыяцыі.

— Да чаго?

— Ініцыяцыі. У Крэбса ёсць эліта фірмы, але туды можна патрапіць толькі пасля адпаведнага абраду.

— Спадзяюся, гэта не абрад абразання?

— Я таксама на гэта спадзяюся, — адказаў Драган. — Хадзем да арабаў, мне трэба купіць два касметычныя наборы, адаслаць землякам у Косава.

Мы абмінулі некалькі жалезных, пафарбаваных кузбаслакам шапікаў, у якіх гандляры ў белых халатах і каўпаках смажылі шпікачкі, каўбаскі, сала, павярнулі на суседнюю вуліцу, дзе першы паверх жылых дамоў займалі крамы, а пасярэдзіне за самаробнымі прылаўкамі гандлявалі цёмнаскурыя кучаравыя хлопцы.

Драган хутка знайшоў неабходны набор, паказаў арабу тры пальцы і тыцнуў пальцам у паперку, на якой была пазначана цана. Я збоку назіраў за гэтым гандлем. Я разумеў, што Мілкавіч просіць прадаўца знізіць цану за амаль аптовую пакупку. Але араб заматаў галавой у знак нязгоды. А пасля пачаў штосьці гаварыць, відаць, па-арабску свайму суседу-гандляру. Той, у сваю чаргу, паклікаў нейкага хлопца, які, мяркуючы па яго ўпэўненых рухах, быў у іх кімсьці накшталт «брыгадзіра». Хлопец і Драган пачалі спрачацца. Аднак дамовіцца не атрымалася, Драган вярнуў наборы і пайшоў прэч ад прылаўкаў і гандляроў. У гэты час «брыгадзір» зрабіў непрыстойны жэст, які ў Расіі ведае кожны падшыванец. Цяжка зразумець чаму, але мае рукі павыляталі з кішэняў, і я ўляпіў «брыгадзіру» бакавы ў сківіцу. На дапамогу хлопцу кінуліся ўсе гандляры адразу. Але задзіракі яны былі так сабе. Кожны з іх намагаўся не столькі стукнуць мяне, колькі па-жаночы падрапаць твар. Я азвярэў яшчэ больш — і ў ход пайшлі ногі. Аднак амаль адразу ж мне давялося адчуць страшэнны ўдар, ад якога па ўсім целе пабегла сутарга, паралізуючы мышцы.

Канчаткова апрытомнеў я ў паліцэйскім пастарунку ў літаральным сэнсе за кратамі. Побач са мной быў Драган, які патлумачыў, што я пабіў «брыгадзіра», на дапамогу яму паспяшаўся паліцэйскі і ўджаліў мяне электрашокерам. І цяпер нам абодвум пагражае турэмнае зняволенне.

— А табе чаму? — спытаў я.

— За кампанію, — адказаў ён маркотна.

Тут побач з кратамі з'явіўся «брыгадзір», пачаў штосьці гаварыць паліцэйскаму, паказваючы пальцам то на мяне, то на Драгана.

— Казлы, — раптам сказаў Драган, уражваючы мяне веданнем расійскага слэнга. — Немцы — народ законапаслухмяны і культурны, вось яны і робяцца нахабнымі, пачуваюцца гаспадарамі. А калі ім даюць здачы, бягуць у паліцыю.

— Ты ведаеш, гэта ўласцівасць этнасу, які жыве ў чужым асяродку: ён больш арганізаваны, згуртаваны, заўсёды заводзіць усіх, але адначасова пазіцыяніруе сябе пакрыўджаным.

— Ні храна сабе пакрыўджаныя, — сказаў Драган, яшчэ больш уражваючы мяне веданнем вялікага і магутнага. — Ды яны неўзабаве зробяцца гаспадарамі Еўропы.

— Згодна з Бібліяй, чалавек пачынае свой шлях у Эдэмскім садзе, а згодна з Каранам, ён туды вяртаецца. Там пры ўмове бязгрэшнага жыцця на зямлі мусульманін можа задаволіць усе свае жаданні. Каран, акрамя таго, узмацніў Біблію адным цікавым момантам. Усё, што існуе на зямлі, існуе толькі імгненне і зноў ствараецца Богам. Гэта суцэльная залежнасць ад Тварца ў наш час падманнай арыентацыі на розум і магчымасці чалавека, з'яўляецца надзейным апірышчам для тых, хто верыць гэтаму вучэнню. Відаць, гэта лёс Еўропы. Яна стварыла цывілізацыю, якая не ў стане супрацьстаяць іншай. Хоць з гэтага і можа паўстаць новы культуралагічны гібрыд, які з часам мусіць спарадзіць Гітлера-араба.

— Гітлера можна ўзнавіць хоць сёння, — сказаў Драган, — але за ім ніхто не пойдзе.

— Чаму ж? Калі ён прапануе тую ж ідэю — Германія для немцаў, усё можа паўтарыцца.

— Не можа, таму што ў Германіі неўзабаве немцаў не застанецца. Зрэшты, як і французаў — у Францыі, сербаў — у Косаве. Але што нам з табой гэта філасофстваванне. Пасля сённяшняга нас разлічаць і вышлюць з Германіі.

— Ну што ж, значыць, такі наш лёс.

— Шкада, што гэта наш лёс.

— А ўсё ж новы Гітлер-араб мае шанец аб'яднаць Германію пад лозунгам «Германія для немцаў арабскага паходжання».

* * *

— Ты паводзіш сябе, як бацька Браўн, — сказаў мне праз тры дні пасля сутычкі з арабамі Драган.

Я нічога не адказаў.

— Ты ведаеш, хто такі бацька Браўн?

— Так, — сказаў я, — чытаў у дзяцінстве Чэстэртона.

— Дык вось, ён у суправаджэнні другога пастара ішоў па горадзе і ўвесь час нешта біў ці рабіў штосьці незвычайнае. Такім чынам, ён пакідаў сляды для таго, хто ішоў следам.

— Ты пра што?

— Крэбс абышоўся з намі дзіўна: выцягнуў нас з кутузкі, не разлічыў, не аддаў у рукі дэпартацыйных улад.

— Значыцца, мы яму патрэбны.

— Хутчэй за ўсё, яму патрэбен ты, а вось для чаго — трэба падумаць, і найперш табе.

— Навошта мне думаць, хай усё ідзе, як ідзе, тым больш Крэбс зацікаўлены ў нас.

— Гаспадар заўсёды зацікаўлены ў тлустых калядных гусках болей за іншых. Але гэта цікавасць гаспадара, якому трэба прадэманстраваць гасцям страву з найтлусцейшай гусі.

— Як Крэбс здолеў усё гэта зрабіць?

— У яго вялікія сувязі і грошы.

— Вось, — сказаў на гэта я, — а казалі ж, што ў Германіі няма карупцыі.

— Ты не бяры пад увагу сувязі Крэбса і карупцыянераў, ты пра сябе падумай.

— Драган, за мяне думае Крэбс, а я раблю тое, што мне даручаюць. Так пазначана ў кантракце.

— Мне здаецца, што ты сапраўды патрэбны Крэбсу, але пакуль не зусім разумею, навошта. У асяродку камп'ютаршчыкаў няма іерархіі, каб можна было сказаць: вось гэты самы-самы. Узровень іхні прыкладна аднолькавы. Аналітыкі таксама не могуць выйсці за межы логікі, якую калісьці стварыў, а калі дакладней, дык аформіў, Арыстоцель. Чым жа ты так зацікавіў Крэбса, што ён даў асобную лабараторыю, двух памочнікаў?

— Адкажы на гэта пытанне сам, Драган.

— Чаму менавіта я, а не ты?

— Таму, што гэта пытанне паставіў ты, а не я.

— Я паставіў яго таму, што не ведаю на яго адказу.

— Дык знайдзі гэты адказ. Правільна пастаўленае пытанне — напалову адказ.

— Навошта мне марнаваць час і сілы, каб знайсці адказ, калі ты можаш проста і хутка адказаць мне.

— Я не магу, таму што сам не ведаю.

— Давай аналізаваць сітуацыю.

— Навошта гэта табе? Надыдзе час — сітуацыя сама вырашыцца.

— А калі яна вырашыцца не на тваю карысць?

— Значыць, так трэба.

— І ты не будзеш супраціўляцца?

— Чаму ж? Калі я буду супраціўляцца, значыць, мой час яшчэ не надышоў, а калі не, дык супраціўленне бессэнсоўнае.

— А як ты будзеш ведаць, што супраціўленне бессэнсоўнае?

— Мне штосьці падкажа, што гэта так.

— Суцэльны фаталізм! А дзе ж чалавек з яго розумам і ўсёмагутнасцю?

— Чалавек увесь час стварае міфы пра сябе — то ён разумны, то ўсёмагутны, а на самай справе ён і не разумны, і не ўсёмагутны.

— Гэта не так. Проста час ад часу чалавек трапляе ў нейкія тупікі свядомасці. Але як толькі ён гэта ўсведамляе і выпрацоўвае новыя сродкі засваення навакольнага асяродку, усё зноў прыходзіць у раўнавагу. Вось і на сёння ўсё чалавецтва трапіла ў такі светапоглядны тупік і спрабуе выблытацца з яго.

— Якім чынам?

— Шукае новыя шляхі вырашэння праблем, шукае новыя сродкі зносін і гэтак далей.

— І што ж можа быць новага ў старых каардынатах розуму?

— Падача матэрыялу не праз лагічныя формы, а праз вобраз.

— Усход да гэтага дапяў даўно, але гэта не наблізіла яго да ісціны.

— Відаць, да ісціны нельга наблізіцца ні з Захаду, ні з Усходу. І той, і другі пункт гледжання абмежаваны рамкамі, парушаючы якія чалавецтва рызыкуе зваліцца ў бездань. Вось і зараз мы пагаварылі з табой і я, здаецца, зразумеў, навошта ты патрэбны Крэбсу. Ён праз твае аналізы знаходзіць нестандартныя рашэнні. Ты і не ведаеш, да чаго яго падштурхоўваеш, калі размаўляеш з ім.

— Якія размовы? Я з ім сустракаўся і гаварыў тры разы!

— Шмат хто гаворыць з ім усяго толькі адзін раз. А тых, хто гаварыў два разы, можна па пальцах пералічыць.

— Ды і гаварылі мы з ім не пра работу, а на так званыя адвечныя тэмы. А ці ведаеш ты, чым адвечныя тэмы адрозніваюцца ад усіх іншых?

— Не.

— Яны таму і адвечныя, што не маюць ні пачатку, ні заканчэння. Імі бессэнсоўна займацца для таго, каб вырашаць такія прагматычныя задачы чала-

вечага быцця, як, напрыклад, кланіраваць Джо Луіса і зрабіць яго чэмпіёнам свету па боксе.

— Непасрэдна — так. Але адвечныя тэмы з суразмоўнікам, адораным арыгінальным мысленнем, у перыяд светапоглядных крызісаў дапамагаюць пазбягаць стэрэатыпаў, якія не дазваляюць знайсці выйсце з тупіковых сітуацый. Такім чынам, ты ёсць камень, на які наступае Крэбс, каб прыняць неардынарнае рашэнне.

— Ты ведаеш, я сапраўды камень, бо імя маё Пётр. Але сумняваюся, што Крэбсу я патрэбны ў якасці апірышча. Хутчэй за ўсё, тут ёсць прагматычнае тлумачэнне, і мы яго калісьці атрымаем.

— І тваё меркаванне?

— Маё меркаванне такое, што Джо Луіс — гэта толькі адзін з накірункаў работы Крэбса, і, магчыма, не галоўны. А ты яму патрэбны таму, што маеш штосьці такое, чаго няма ў іншых. У Крэбса д’ябальскі нюх на такіх хлопцаў, як ты.

* * *

Міналі дні і месяцы, прысвечаныя аналізу самых абсурдных з’яў, пошуку іх прычынных сувязей, справаздачам. Часам нам здавалася, што мы знаходзімся на парозе нейкага адкрыцця, але часцей за ўсё ўзнікала адчуванне, што нас з Драганам выкарыстоўваюць як нейкую кантору «Рогі і капыты», што служыць Крэбсу шырмай для прыкрыцця яго вялікага, а галоўнае, сакрэтнага праекта.

Ці наведваў Крэбс іншыя свае цэхі і лабараторыі гэтак жа часта, як нашу, я не ведаю. Але адзін раз на месяц, нягледзячы на нашы штодзённыя стасункі па інтэрнэце, ён з’яўляўся і размаўляў са мною і Драганам. Праўда, Драгану ён выдаткоўваў трэцюю частку таго часу, цягам якога гаварыў са мной.

Крэбс з’яўляўся перад намі, як сапраўдны камандзір, раптоўна, нібы спрабаваў заспець нас знянацку. І мы разумелі гэта і заўсёды былі напагатове і ў поўным узбраенні. Відаць, ён быў не чыстакроўным немцам, бо часам схіляўся да сентыментальнасці, хоць я магу і памыляцца. Мы ж пра немцаў мяркуем у адпаведнасці з пэўнымі стэрэатыпамі нашай адукацыі, якая заўсёды найперш падкрэслівае ўласцівую ім пунктуальнасць, не ўзгадваючы ні пра што іншае.

Вось і сёння ён рассеўся ў крэсле, пакаштаваў кавы і сказаў:

— Чым больш паглыбляешся ў тэму, тым больш праблем.

Я не зрэагаваў на гэта, не кінуўся высвятляць, што ж гэта за тэма. Трэба будзе — сам скажа.

— Што вы скажаце на гэта?

— Агульная заканамернасць якога заўгодна даследавання, у працэсе правядзення выяўляецца мноства аспектаў, пра якія ніхто раней і не здагадваўся.

— І якое выйсце з усяго гэтага?

— Спыніць аналіз…

— То бок, кінуць працу?

— Не, трэба проста знайсці тую мяжу, за якой больш дэталёвы аналіз ужо не толькі бессэнсоўны для вырашэння асноўнай задачы, але і ўвогуле шкодны для таго, каб дасягнуць мэты даследавання.

— Але аналіз выяўляе прыкметы, абапіраючыся на якія можна рухацца далей.

— Уся справа ў тым, што з’яўляецца мэтай даследавання. Калі гэта проста рух наперад, дык можна назапашваць гэтыя прыкметы аналітычным шляхам

бясконца, аднак жа калі перад даследчыкам стаіць канкрэтная задача, дык ён павінен ведаць ці інтуітыўна адчуваць момант, калі яму стае камянёў, сабраных з дапамогай аналізу, для таго, каб пабудаваць нейкі дом. Прычым гэты момант залежыць ад таго, што збіраецца зрабіць даследчык і што за тэму ён даследуе. Паколькі ўсё, што стварыў сам чалавек, — мае канец, а ўсё, што стварыў Тварэц, — канца не мае.

— Вы цікавы экзэмпляр, Пётр, — сказаў Крэбс, сёрбаючы каву з кубка. — Вы разважаеце так, нібы вы не жывы чалавек.

— А так яно і ёсць, я ўжо памёр амаль паўгода таму.

— І як вам там?

— Там мне сказалі, што яшчэ надта рана.

— Вось бачыце, яшчэ адзін аспект нашай тэмы.

Драган меў рацыю, Крэбс нібы падсілкоўваўся ад нас размовамі на адвечныя тэмы. Праўда, яны заўсёды ў той ці іншай ступені тычыліся смерці чалавека. Але хіба можа чалавек у іерархіі адвечных тэм паставіць на самую вяршыню штосьці іншае?

— Найміце ў фірму тэхнолагаў, — сказаў я яму.

— У нас ёсць тэолагі.

— Ну, тады які сэнс гаварыць на гэтыя тэмы з намі, камп’ютаршчыкамі і аналітыкамі?

— У неспецыялістаў могуць быць цалкам нечаканыя падыходы да вырашэння праблем. У свой час Форд вырашыў стварыць аўтамабіль для заможнага амерыканца, які быў бы танным і лёгкім. Але спецыялісты аўтамабілебудавання не маглі стварыць машыну лягчэйшую за тысячу дзвесце кілаграмаў, у той час як Форд паставіў задачу, каб вага аўтамабіля не перавышала адну тону. І тады Форд даручыў праектаванне самалётабудаўнікам. Тыя выканалі заказ, але не маглі стварыць, нягледзячы на вялікі запас надзейнасці, машыну цяжэйшую за семсот кілаграмаў.

— Тут кожны глядзіць са сваёй званіцы, як кажуць у нас у Расіі. З гэтых званіц свет бачыцца па-рознаму і праекты яго пераўтварэння — таксама.

— Ці варта нам выкарыстоўваць званіцы, з якіх свет бачыцца зусім не так, як яго бачыць заказчык са сваёй званіцы? Часам погляд з адной званіцы цалкам адпрэчвае тое, што бачыцца з другой. Каноны вучэння Буды для нас незразумелыя. Яшчэ можна пагадзіцца з тым, што чалавек вяртаецца ў гэты свет час ад часу. Але навошта імкнуцца да перарывання гэтага кола вяртанняў? Жыццё такое цудоўнае. Навошта імкнуцца да нірваны, тады як наперадзе ў цябе шматлікія жыцці, жыві ды радуйся? Навошта знішчаць агнём цела пасля смерці?

— Справа ў тым, што кланіраваннем і ўваскрашэннем чалавека занялася заходняя навука, якая не можа ўявіць сабе ўваскрашэння без нейкага апірышча на матэрыяльную субстанцыю — парэшткі чалавека. Тады як усходняя традыцыя гэтага не патрабуе.

— Адзін з маіх тэолагаў заявіў, што ўсё, што існуе ў свеце — гэта розныя грані Боскага паслання людзям.

— Безумоўна, такі пункт гледжання існуе, але кожны народ бачыць сваю грань адзіна правільнай, і гэта слушна, таму што не яго справа вырашаць задачы іншых народаў ці нават Тварца.

— Тут належыць спыніцца, — сказаў Крэбс, — таму што я як раз лічу, што чалавек — гэта працяг Тварца ці нават выява самога Тварца. Толькі так можна чагосьці дасягнуць праз чалавечую дзейнасць. Калі ж загадзя абмяжоўвацца падзелам на тое, што гэта — справа чалавечая, а гэта — Боская, нічога не зможаш дамагчыся.

— Калі прытрымліваецца такой думкі, дык чалавек можа зрабіцца Тварцом?

— Так, некаторыя людзі і ёсць Тварцы. Мне здаецца, пошук іх сярод тых самазабойцаў дапаможа нам вызначыць прыкметы, згодна з якімі можна адрозніць чалавека як асобіну жывёльнага свету ад чалавека-Тварца, створанага па вобразе і падабенстве Боскім.

— Мы ўжо гаварылі на гэту тэму. Чалавек не створаны па вобразе і падабенстве Боскім, хутчэй за ўсё чалавек стварыў Бога па ўласным разуменні, і вобразе і падабенстве.

— Што ж,— прамовіў Крэбс, — гэта адно з меркаванняў і не болей.

— Зразумела, як кажа Драган Мілкавіч, гэта супрацьлеглая думка, якая дазваляе чалавеку і чалавецтву вызначыць край бездані, па якім яны вандруюць, для таго, каб не зваліцца і не спыніць свайго існавання.

— Чалавецтва не мае патрэбы ў пазначэнні краёў бездані нейкімі знакамі, яно сляпое і глухое, а вось чалавеку-Тварцу і правадыру чалавецтва — гэтыя знакі патрабуюцца, бо на іх трымаецца жыццё чалавецтва.

— Сумніўна, жыццё не можа трымацца на носьбітах розуму. Хутчэй за ўсё, яно трымаецца на больш надзейных апорах.

— Якіх жа?

— Стыхійнасці і спантаннасці.

— Аргументы?

— Ніводная піраміда не стаіць на вяршыні.

— Лагічна, — сказаў Крэбс, устаючы са свайго крэсла. — Працягвайце працу.

* * *

Ніколі не думаў, што Каляды і Новы год — такія розныя святы. У Стэндалі падрыхтоўка да Калядаў пачалася ў першай дэкадзе снежня. У вокнах шматпавярховікаў пачалі з'яўляцца каганцы, яловыя галінкі. У дварах прыватных дамоў — метровыя Санта-Клаўсы. У гатэлі ўсе сурвэткі былі размаляваны елкамі, снегавымі гурбамі, сняжынкамі.

Штодзень узмацнялася прадчуванне аднаго-адзінага ў жыцці свята.

У сярэдзіне снежня Ганс прывёз новыя матэрыялы. У яго прысутнасці мы размясцілі іх у сваіх аўтаномных камп'ютарах, якія ён пасля работы апячатваў.

Матэрыялы тычыліся вопытаў па ажыўленні людзей. У іх захоўваліся шматлікія параметры паддоследных, у тым ліку іхнія ДНК, а таксама акалічнасці іх смерці і вяртання да жыцця.

— Слухай, — спытаў я Драгана, — а чаму Ганс так добра ведае рускую?

— Ён аўсзідлер.

— І што гэта такое?

— Перасяленец з Усходняй Еўропы ці з Азіі.

— Вось як?

— Тут такіх многа, але шмат хто з іх утойвае гэта, бо яны тут людзі…

— Другога сорту?

— Не, трэцяга.

— А хто ж тады другога?

— Туркі, арабы…

— Ну, крута тут у вас у Германіі. Слухай, а навошта ўся гэтая фігня па ажыўленні людзей, што яна можа прынесці Крэбсу?

— Ніхто не ведае.

— Ужо ж праводзіліся доследы з кланіраваннем, ажыўленне ж — гэта ўчарашні дзень.

— Разумееш, у Крэбса заказ не толькі на вечную маладосць, у яго хутчэй за ўсё і заказ багацеяў на ўваскрашэнне блізкіх людзей, а часам і любых коцікаў і сабачак.

— Але гэта не тое.

— Гэта тое, бо ўсе вопыты з кланіраваннем увесь час натыркаюцца на адну праблему: клон імгненна старыцца. І механізм гэтага старэння незразумелы. Вось Крэбс і шукае хоць якія зачэпкі, якія дапамаглі б яму зразумець прынцып, у адпаведнасці з якім адбываецца старэнне, а калі больш дакладна, дык паскоранае старэнне.

— Тут ёсць адна памылка, якую чамусьці ўпарта не заўважаюць навукоўцы. Занамернасці механічнага руху пераносяцца на заканамернасці біялагічнага руху.

— І што ж тут за бяда?

— А бяда тая, што тэхнічную сферу стварыў чалавек. Гэта штосьці накшталт мыліцы, з дапамогай якой ён палягчае сваё існаванне. А сферу біялагічнага руху стварыў Бог. Калісьці ў генетыцы была такая дапаможная галіна, як яўгеніка. Навука, якая займалася праблемамі паляпшэння пароды чалавека. Але напрыканцы дваццатага стагоддзя генетыкі спынілі работу ў гэтым накірунку, гэтаксама, як і фізікі ў накірунку стварэння вечнага рухавіка. Але калі першыя аргументавалі гэта законамі захавання энергіі, дык другія не спрабавалі рабіць гэта ў рамках навуковай метадалогіі. Яны проста сказалі, што свіння не можа сама палепшыць сваю пароду, гэта можа зрабіць толькі свінавод. Так і чалавек не можа палепшыць сябе, гэта павінен зрабіць той, хто яго стварыў.

— Ты хочаш сказаць, што ўваскрашэнне немагчымае?

— Я хачу сказаць, што ўваскрашэнне магчымае, але гэта не будзе ўваскрашэннем.

— Чаму?

— Таму, што акрамя біялагічных параметраў, мусіць вярнуцца ці паўтарыцца мноства іншых, прыродных, сацыяльных, якія на той момант рабілі ўплыў на фарміраванне таго ці іншага індывіда. А яны ж непаўторныя. Такім чынам, уваскрашэнне як аднаўленне ў былым аблíччы немагчымае.

— Відаць, ты маеш рацыю, але існуе попыт на ўваскрашэнне, і Крэбс гэты попыт задавальняе лепш за іншых, таму і атрымлівае адпаведныя фінансавыя ўліванні для сваіх доследаў.

— А адкуль мог з’явіцца гэты попыт? Яго зрабілі СМІ?

— Не, СМІ ўсяго толькі развілі далей ідэі, якія складаюць сутнасць сусветных і не сусветных рэлігій.

— Але рэлігіі вядуць гаворку пра ўваскрашэнне ці для Страшнага Суда, ці для жыцця нябеснага.

— Рэлігіі так фармулююць свае сентэнцыі, што цяжка адназначна адказаць на гэта пытанне. Вось кожны і бачыць у радках рэлігійных вучэнняў тое, што яму хочацца бачыць. А калі там чагосьці нестае, дык з’яўляецца новы прарок і дае гэта людзям…

У гэты час пачулася знаёмае піканне, дзверы адчыніліся, і на парозе з’явіўся Ганс.

— Ты да нас у якасці Санта-Клаўса? — з’едліва пацікавіўся Драган.

— У якасці пасланца, які прыносіць благія весткі, — адказаў той. — Да нас кіруецца Крэбс.

— А чаму гэтым разам з папярэджаннем?

— Ён незадаволены вашымі апошнімі працамі.

— І што яму не спадабалася канкрэтна?

— Ён са мной на гэты конт не гаварыў.

— Дык чаму ты вырашыў?

— Інтанацыя падказала — такі тон нікому ніколі не абяцаў нічога добрага.

— Табе чаго баяцца, ты ж у нас наглядчык.

— Мы адна каманда, і за вынікі адказваем усе разам.

— Штосьці я не бачыў, каб на цябе Крэбс сварыўся гэтак жа, як нас з Пятром.

— Штосьці я не чуў, — адказаў яму Ганс, — каб ён на вас з Пятром сварыўся. Ён увогуле ні на каго не сварыцца. Разарваў дамову — і толькі. Гэта не ў вас у Расіі, тут вас выхоўваць ніхто не будзе.

— Чаму ў вас, лепей было б сказаць — у нас, у Расіі, ці не так, Ганс? Зрэшты, можа, ты зусім і не Ганс, а Гена, які нарадзіўся ва Усходнім Казахстане, але з развалам Савецкага Саюза з’ехаў самастойна ці з бацькамі на гістарычную радзіму ў Германію.

— Дарэчы, — сказаў Ганс, — калі вы ўважліва чыталі кантракт, дык маглі заўважыць, што збор інфармацыі па пытаннях, якія не тычацца навуковых даследаванняў, у тым ліку і біяграфічных звестак на супрацоўнікаў фірмы «Геном-2000», забаронены.

— А мы і не збіраем, Ганс, не збіраем. Мы проста бачым, што ты добры хлопец, які гадаваўся не ў Германіі. Але чамусьці не хочаш, каб гэта ведалі ўсе.

— Зрэшты, — падтрымаў мяне Драган, — мы можам прааналізаваць прычыны такіх паводзін. А каб не парушаць кантракта з фірмай, аддамо матэрыялы Крэбсу. Ну, як?

— Ніяк, — адгукнуўся Ганс. — Я нічога не гавару Крэбсу, а вы не робіце ніякага аналізу.

— Добра, — пагадзіўся Драган. — Дык калі будзе Крэбс?

— Відаць, з хвіліны на хвіліну.

— Хтосьці з вялікіх, — зазначыў Драган, — сказаў, што жывы чалавек — гэта дудачка, на якой грае Гасподзь.

— Ты пра што гэта?

— Мне здаецца, што я — гэта дудачка, але дзьмухае ў мяне Крэбс, — сказаў Драган.

* * *

Аўтамабіль Крэбса пад’ехаў да нашага офіса праз паўгадзіны. Шафёр і целаахоўнік засталіся ў машыне, а сам Крэбс увайшоў у памяшканне і, не пакідаючы Гансу магчымасці дагадзіць, адкрыў дзверы сваёй карткай.

Гэтым разам ён паводзіў сябе яшчэ больш нахабна, чым у мінулы раз. Перш-наперш паказаў Драгану і Гансу пальцам на дзверы, а тады цяжка апусціўся ў крэсла і прамовіў:

— Сядайце, Пётр, у нас зусім мала часу.

— Зварыць каву? — спытаў я яго.

— Не, адразу пачынаем працаваць. Мне падаліся цікавымі вашы разважанні пра міфы і пра тое, што міф ёсць не хлусня ці неадэкватнае адлюстраванне рэчаіснасці, а насычаная найяскравейшая рэчаіснасць, то бок

рэальнасць. Прычым прыйсці да гэтай высновы шляхам ланцужка сілагізмаў сапраўды цяжка. Лепш гэта зрабіць праз вобраз ці, у крайнім выпадку, прыклад. Але ваш прыклад з абарыгенам, які чапляе каралі з кракадзілавых зубоў, непераканаўчы.

«Не пераконвае, таму што ты не абарыген і ніколі не пераплываў праз раку, дзе поўна кракадзілаў», — падумаў я, а ўголас прамовіў:

— Ёсць яшчэ больш яскравы прыклад. У XIX—XX стагоддзях назіралася разбурэнне традыцыйных імперый, у тым ліку і Расійскай.

— Хто іх разбураў?

— Капітал, капітал, яму перашкаджалі традыцыйныя нормы іх існавання, межы, імператары, арыентаваныя на нацыянальныя каштоўнасці, а не на рахункі ў банках. У такіх умовах ён не мог вольна перацякаць туды, дзе былі магчымыя звышпрыбыткі.

— І як жа адбывалася разбурэнне?

— Трывіяльна, з дапамогай разбурэння духоўных асноў, дыскрэдытацыі знакавых постацей. Так, напрыклад, рускі мастак Ілья Яфімавіч Рэпін напісаў страшную карціну «Іван Жахлівы і яго сын Іван». Сюжэт яе просты. Цар Іван у гневе б’е сына посахам па галаве, а тады, жахнуўшыся, заціскае рану рукамі, намагаючыся ўтрымаць у сваім дзіцяці жыццё. Вусцішны сюжэт. Тут праз цара-варвара дыскрэдытуецца і ўсё яго варварскае царства, з сістэмай каштоўнасцей, сістэмай рэгулявання стасункаў у грамадстве і гэтак далей. І мала хто ведае, што Жахлівы не забіваў свайго сына. У наш час правялі судова-медыцынскую экспертызу — даследавалі яго пахаваныя ў Маскве парэшткі. Ніякіх прыжыццёвых пашкоджанняў не знойдзена. Акрамя таго, таксікалагічная экспертыза засведчыла, што памёр ён ад атруты. Уласна кажучы, як і сам Іван Жахлівы. Але хто ведае пра гэта? То бок пра тое, як усё адбылося на самай справе? Міф пра цара-тырана, дыктатара, які нават не пашкадаваў свайго ўласнага сына, зрабіўся асновай, на якой здзяйсняліся рэальныя ўчынкі.

— Гэта адпавядае нашай канцэпцыі, — сказаў Крэбс пасля паўзы. — А цяпер да спраў практычных. Вы аналізавалі матэрыялы на тых людзей, якія былі ў клінічнай смерці?

— Так, і накіравалі вам справаздачу. Але гаворка ішла не проста пра людзей, якія зазналі клінічную смерць. Гэта была выбарка тых, хто знаходзіўся ў гэтак званым стане клінічнай смерці больш за пяць хвілін.

— Якое гэта мае значэнне?

— Вялікае. Людзей, якія былі ў клінічнай смерці меней за пяць хвілін, вельмі многа, і яны не цікавяць нас.

— Чаму?

— Таму што гэта нават не смерць, а ў пэўным сэнсе нейкая непрытомнасць. А вось пасля пяці хвілін пачынаецца адміранне клетак галаўнога мозгу. І тыя людзі, што знаходзіліся ў лепшым свеце больш за пяць хвілін, а пасля вярнуліся адтуль, для нас вельмі цікавыя. Цікавыя таму, што яны паводле ўсіх зямных законаў не маглі вярнуцца і тут мы бачым ці можам убачыць вышэйшую волю.

— І ў чым жа гэта вышэйшая воля?

— У тым, што яны не выканалі праграмы, закладзенай у іх, і вярнуліся з гэтай мэтай ці былі перапраграміраваныя.

— Тут, калі ласка, больш падрабязна.

— Калі вы глядзелі выбарку, дык заўважылі, што шмат хто з іх пасля знаходжання ў гэтым стане змяніў лад жыцця. Зрабіліся праведнікамі, вернікамі і гэтак далей.

— Які з гэтага ўсяго вывад?

— Ёсць меркаванне, што свет рэальны і свет нябачны знаходзяцца ў нейкай раўнавазе. І ў выніку парушэння гэтай раўнавагі назіраецца значнае перамяшчэнне субстрату аднаго свету ў другі. Знешне гэта выяўляецца ў вялікай колькасці смярцей падчас эпідэмій ці войнаў. На нашу думку, гэта праява зусім не павярхоўная, а хутчэй за ўсё даволі значная. Таму што менавіта ў такія часы відавочна праяўляюцца агрэсіўнасць у дачыненні да сабе падобных, інстынкт смерці прабіваецца праз слаі цывілізацыйных табу.

— Інстынкт смерці ўласцівы чалавеку, і яго можна фіксаваць у тэндэнцыях чалавечых паводзін. Турніры, спартыўныя спаборніцтвы, войны, нарэшце. Без нейкай біялагічнай патрэбы знішчэння іншых істот чалавек не мог бы выжыць. Прычым, калі звярнуць увагу на гістарычныя прыклады, дык войны вяліся не толькі для таго, каб знішчаць супярэчнасці, што ўзнікалі паміж дзяржавамі, але і для таго, каб патрымаць смерць за вусы, так, здаецца, пісаў калісьці Кіплінг.

— Усё гэта так, але наш вывад, што ўсё гэта не столькі імкненне вырашыць свае спрэчкі з дапамогай зброі і жаданне праверыць сваю моц, гуляючы са смерцю, колькі парушэнне раўнавагі ў тым свеце, які злучаны з намі нематэрыяльнымі ніткамі. І мы толькі фіксуем знікненне шматлікіх нашых сучаснікаў і несучаснікаў у войнах, эпідэміях, катаклізмах праз смерць, гэта значыць нейкі шлюз, які ўсмоктвае ў сябе людзей і не вяртае іх назад ці, у рэдкіх выпадках, вяртае пасля клінічнай смерці.

— Людзі любяць разбураць, а гэта нешта накшталт смерці аб’ектаў матэрыяльнага свету. Але разбурэнне свету матэрыяльнага вядзе да таго, што на яго аснове ладзіцца новы свет ці ствараецца наступная мадыфікацыя матэрыяльнага свету. Ці не тое самае адбываецца ў свеце людзей?

— Людзі стварылі сістэму каштоўнасцей чалавечых. У ёй нараджэнне — шчасце і найвышэйшая каштоўнасць, а смерць пазбаўляе чалавека гэтай каштоўнасці і, адпаведна, не з’яўляецца ні каштоўнасцю, ні шчасцем. А тым часам смерць трэба рэабілітаваць, бо яна ёсць пачатак нараджэння, а нараджэнне як такое ёсць патэнцыяльная смерць. Але калі нараджэнне мы вітаем, бо маем магчымасць убачыць усё, што адбываецца з чалавекам пасля нараджэння на зямлі, дык са смерцю так абысціся мы не можам, бо мы не бачым таго, што адбываецца пасля смерці, і перажываем жах з-за гэтай няпэўнасці, жах беззваротнага канца. І шмат якія рэлігіі мянялі свае каноны, калі бачылі, што чалавек не мае таго апірышча ў жыцці, якое даецца яму праз сістэму духоўных законаў, часцей за ўсё ўвасобленых у рэлігійныя формы, гэта значыць, цячэнні, вучэнні, рухі.

— З чаго ж складаліся гэтыя змены?

— Чалавеку вярталася ў розных формах надзея на вяртанне, на ўваскрашэнне. І з гэтай надзеяй ён мог існаваць і выконваць тую задачу, якую мусіў выканаць.

— Да таго моманту…

— Так, менавіта да таго моманту, пакуль не надыдзе час «Ч», момант парушэння раўнавагі свету тонкіх энергій і свету матэрыяльнага. Тады чалавецтва больш не беражэ сябе і ўслаўляе смерць, імкнецца да смерці. Аднак будзе правільным зрабіць дапушчэнне, што масавая смерць неабходная для таго, каб трохі пазней з’явілася масавая колькасць зноў народжаных.

— Выдатна, — сказаў Крэбс. — Гэты тэзіс вам належыць пацвердзіць і даказаць. Чым вы і павінны заняцца ў найбліжэйшы час.

* * *

Дарога бяжыць сярод неўзараных палёў. Але палі чыстыя — ні старой травы, ні снегу. Відаць, іх добра прыбралі яшчэ з восені. Мы з Драганам сядзім на заднім сядзенні машыны, на месцы шафёра — Ганс.

Як сказаў Ганс, мы кіруемся ў адну з сакрэтных лабараторый, што займаецца кланіраваннем чалавека. Але па дарозе звоніць мабільнік, Гансу загадваюць ехаць у іншае месца. Нам што, мы людзі паднявольныя, у іншае дык у іншае.

Нарэшце, пад’язджаем да нейкай прыгожай фермы. Два ахоўнікі звяраюць нашы фізіяноміі з фотаздымкамі, якія ў іх у руках. Пасля адзін з іх вядзе мяне і Драгана ў бункер. Там нас чакаюць Крэбс і два немцы, поўныя пачуцця ўласнай годнасці.

— Мы пойдзем туды без халатаў? — пытае адзін з іх у Крэбса.

— Так, — адказвае той. — Эксперымент перайшоў з прабірнай, стэрыльнай стадыі ў паўсядзённую, і не варта вяртацца назад.

Мы ўвайшлі ў пакой, які можна было назваць працэдурным кабінетам заштатнай бальніцы. Там стаяў стол, на якім размясціўся апарат, падобны да дзіцячых вагаў. Вакол стала стаялі крэслы без абіўкі. І вялізны экран над сталом, нават не экран, а адразу чатыры экраны, павернутыя на чатары бакі свету.

— Сядайце, панове, — сказаў Крэбс, і ўсе селі на крэслы.

Крэбс націснуў нейкую кнопку, і мамка ў шэрай сукенцы і фартуху прынесла аднагадовае негрыцянё. Яна спрытна пасадзіла яго на вагі і пачала прымацоўваць да ручак і ножак датчыкі. Вялікая колькасць незнаёмых людзей спалохала дзіця, яно зморшчыла тварык і хацела заплакаць, але мамка паклала руку на яго плячо і штосьці ціха прамовіла. Малы трохі супакоіўся, хоць напружанне засталося.

Крэбс, седзячы ў сваім крэсле, пасунуў да сябе маленькі экран і клавіятуру ноўтбука і пачаў націскаць кнопкі. Чатыры экраны ажылі, на іх з’явіліся фотаздымкі двух чалавек — чорнага мужчыны і чорнай жанчыны.

— Гэтым разам мы абралі іншы шлях, — сказаў Крэбс. У гэты час на экране з’явіліся клады, хутчэй за ўсё негрыцянскія, бо на першым плане бачыліся магілы, а на другім — стаяла купка чорных мужчын і жанчын. — Мы не шукалі сурагатную маці. Мы кланіравалі ягоных бацькоў. Прычым ДНК яго бацькі і маці мы ўзялі з іх магіл у Амерыцы. Каштарыс гэтай аперацыі я падам вам пасля, панове.

— А ці не прасцей было б пайсці звыклым шляхам? — спытаў адзін з паноў.

— У гэтым выпадку мы б атрымалі эфект старэння, які выявіўся яшчэ ў авечкі Долі.

— А як вы пазбавіліся ад яго ў дадзеным выпадку?

— Даволі арыгінальна, — адказаў Крэбс, гэта быў відавочна ягоны дзень. — Мы кланіравалі па ранейшым варыянце маці і бацьку, тады ў пэўны час злучылі іх, а пасля ўжо атрымалі дзіця, якое перад вамі.

— А дзе зараз бацькі? — спытаў другі пан.

— На жаль, пасля нараджэння дзіцяці ў маці пачаўся працэс надзвычай хуткага старэння. А бацька памёр адразу пасля зачацця.

— Паглядзім яго ДНК, — прапанаваў першы пан.

Крэбс адразу ж паказаў на экране два малюнкі. Як я здагадаўся, адзін ланцужок сімвалаў быў расшыфраваным генетычным кодам Джо Луіса, а другі — дзіцяці, якое сядзела перад намі на вагах.

— Яны цалкам ідэнтычныя?

— Так, — сказаў Крэбс, — цяпер засталося толькі стварыць умовы, пры якіх праз дзесяць гадоў у нас будзе найлепшы баец у свеце.

— Чаму праз дзесяць? — спытаў першы пан.

— Мы не выключылі зусім ген старэння — для таго, каб вынік можна было атрымаць як найхутчэй. Безумоўна, гэта прывядзе да яго хуткага зносу. Але ж жыццё і слава зоркі спорту часцяком зводзяць нармальных людзей у лепшы свет яшчэ хутчэй.

— Забярыце дзіця, — папрасіў адзін з паноў.

Мамка запытальна паглядзела на Крэбса. Той кіўнуў галавой, тады яна хуценька пазнімала з ручак і ножак будучага чэмпіёна датчыкі і панесла дзіця прэч.

— Яго карміла малаком белая жанчына? — спытаў першы пан.

— Не, — з гонарам адказаў Крэбс, — яго карміла малаком родная маці.

— Скажыце, Крэбс, — спытаў другі пан, — а як вы плануеце вырашыць другую задачу — стварэнне ўмоў для фарміравання ў гэтага дзіцяці такіх самых псіхафізічных якасцей, як у Джо Луіса?

— Гэта не наша ноу-хау, — адказаў Крэбс. — У некалькіх словах, мы зрабілі расшыфроўку галаграмы энергетычнай структуры Джо Луіса, тады мы пакладзём яе на генетычны код плюс створым адпаведныя сацыяльныя і прафесійныя ўмовы і на выхадзе атрымаем вынік. Але гэта ўжо не вашы праблемы. Вы ж купляеце тэлевізар і не спрабуеце зразумець, чаму на экране з’яўляецца малюнак.

Паны паўставалі са сваіх месцаў. Крэбс таксама ўстаў, але не пайшоў праводзіць гасцей, а толькі сказаў:

— Панове, мае ахоўнікі правядуць вас за межы фермы, мне ж дазвольце застацца з аналітыкамі, у нас ёсць праблемы.

Я думаў, што пасля таго, як госці пакінуць памяшканне, Крэбс растлумачыць нам увесь гэты спектакль, але ён, як сапраўдны гаспадар, не палічыў належным марнаваць на гэта час.

Крэбс адсунуў вагі ўбок, сеў насупраць і паглядзеў на нас так, нібыта мы толькі што выцягнулі з яго кішэні ўсё ягонае багацце.

— Ці трэба было прывозіць вас сюды, каб паказаць гэты ланцужок ДНК вам? — спытаў ён.

Мы маўчалі, не ведаючы, да чаго ён хіліць.

— Як на тваю думку, Пётр?

— Думаю, не трэба, мы маглі ўсё гэта атрымаць на электронных носьбітах.

— Правільна, але чаму я прывёз вас сюды, вы даведаецеся пазней, а зараз некалькі слоў пра нашы праблемы. Я прачытаў вашу чарговую справаздачу і стаўлю перад вамі пытанне. Жыве чалавек на зямлі і ведае, што надыдзе час і ён пойдзе адсюль і ніколі не вернецца. З гэтага вынікаюць усе мадэлі існавання і паводзін. Але вось ён дазнаецца, што ўсё ж такі вернецца назад. Ён будзе паводзіць сябе цалкам па-іншаму. Ці не выслізне такі чалавек з сістэмы сацыяльнага рэгулявання, ці застанецца магчымасць кантраляваць яго ўчынкі, кіраваць яго дзеяннямі?

— Адказаць на гэта пытанне адразу цяжка, — сказаў я Крэбсу. —Сацыяльныя рэгулятары толькі знешне рэгулююць паводзіны людзей, а на самай справе іхнія паводзіны рэгулююцца сімваламі, за якімі хаваюцца каштоўнасці, уласцівыя той ці іншай частцы чалавецтва. Добра было б на якойсьці камп’ютарнай мадэлі заняцца вывучэннем гэтых сітуацый, для таго, каб калі і не зрабіць вывад, дык назапасіць матэрыял для магчымага вырашэння праблемы.

— Другая праблема. Хоць я і сказаў заказчыкам, што мы распрацавалі матрыцы душы, але гэта, па вялікім рахунку, канчатковы вынік нашай працы, а не сённяшні яе этап. А без яго ўсе нашы высілкі і заявы нічога не вартыя. Можна паўтарыць Напалеона. Генетычна ідэнтычны Банапарт з'явіцца цалкам у іншым гісторыка-культурным асяродку, у якім адсутнічаюць фактары, якія сфарміравалі яго як чалавека, што ўпершыню ў сусветнай гісторыі ўжыў гарматы супраць мірнага насельніцтва ў Тулоне і ніколі пра гэта не шкадаваў.

Я заўважыў, як Драган спрабуе занатаваць усё, што сказаў Крэбс, і здзівіўся, бо, на маю думку, ён ужо даўно ператварыўся ў камп'ютарнага чарвяка і забыўся, як карыстаюцца ручкай.

— Праблема трэцяя. Як фарміруецца душа? Цягам жыцця ці яе дае чалавеку вышэйшая воля?

І ў першым, і ў другім выпадку нам не стварыць душу ў адпаведнасці з тымі параметрамі, якія нам патрабуюцца. У першым выпадку для гэтага спатрэбяцца гады, а мы людзі смяротныя, у другім — гэта не чалавечая справа. І галоўная праблема: паўтарыць яшчэ не значыць уваскрасіць. Калі Бог не прадугледзеў перасялення душ у целы людзей, дык наша задума асуджана на няўдачу. Спецыялісты падлічылі, што колькасць насельніцтва на Зямлі не можа перавышаць 15 мільярдаў. Магчыма, гэта адбываецца не толькі таму, што на Зямлі не хопіць харчавання, каб накарміць усю гэту плойму, як кажуць у вас у Расіі. Магчыма, гэтаму перашкаджаюць іншыя прычыны. Напрыклад, колькасць душ, якія ўдзельнічаюць у кругавароце, не перавышае 15 мільярдаў. І над гэтым вам, маім найлепшым аналітыкам, давядзецца з гэтага часу працаваць.

Мы выйшлі з бункера.

— А ён жа так і не сказаў, навошта нас сюды прывозіў, — заўважыў Драган.

— Ён хацеў згуляць усляпую, напалохаць кагосьці з нас.

— Напалохаць? Навошта?

— Відаць, я пра гэта магу толькі здагадвацца, дзесьці адбываецца ўцечка інфармацыі.

— І ў яго пад падазрэннем адзін з нас?

— Так. Але ў яго не было доказаў, і ён разлічваў, што гэты чалавек спалохаецца выкліку ў бункер, уцячэ ці прадэманструе залішнюю ўсхваляванасць. Гэта называецца спробай нас празандзіраваць.

— Адкуль ты гэта ведаеш?

— Чытаў кнігу пра ваенную контрразведку.

— А як яна называецца?

— «Момант ісціны».

* * *

Тая ж дарога, але цяпер усё, што было злева, апынулася з правага боку. Усё як раней: за рулём Ганс, мы з Драганам на заднім сядзенні абмяркоўваем пастаўленыя Крэбсам задачы.

— Калі даследаваць усіх жыхароў Зямлі, — кажа Драган, — дык можна будзе мець базу для адказу на ўсе пытанні.

— Даследаванні могуць тычыцца толькі іхніх ДНК. І таму выключна матэматычна можна дапусціць, што ў нас могуць быць ці то выпадковыя, ці то свядома створаныя паўтарэнні папярэдніх экзэмпляраў.

— Ёлы-палы, — раптам кажа Драган, — калі зрабіць экскурс у гісторыю фірмы «Геном-2000», дык можна ўбачыць самы першы Крэбсаў праект.

— І ён зможа прасвятліць нашы сённяшнія праблемы?

— Не ведаю, але ў нас нічога няма, можа, аналіз задумы першага праекта нам штосьці дасць.

— Ну, тады расказвай, што гэта быў за праект.

— Гэта праект Кнігі Жыцця.

— Давай падрабязней.

— Гэта было на мяжы васьмідзясятых і дзевяностых. Крэбсу трапіла ідэя стварыць Кнігу Жыцця.

— У Крэбса манія вялікасці?

— Чаму?

— Доўгі шлях разважанняў, але кароткі — пракладу́, казаў Сенека-старэйшы. Прыйшоў аднойчы адзін чалавек да псіхіятра і кажа: «Доктар, я — Бог». «І даўно гэта ў вас?» — пытае доктар. «З таго часу, як стварыў неба і зямлю».

— Крэбс заўсёды лічыў, калі чалавеку прыйшла ў галаву нейкая думка, дык яна ад Тварца, і павінна рэалізавацца, — сказаў Драган.

— А калі гэта думка ад… сам ведаеш каго?

— Не трэба марнаваць час на падыходы, адразу пяройдзем да сутнасці. Дык вось, Крэбс вырашыў стварыць на зямлі Кнігу Жыцця, у якой будуць пазначаны ўсе, хто зрабіў у скарбонку чалавецтва свой унёсак, а таксама тыя, хто можа за гэта заплаціць.

— Як заплаціць?

— Валютай, безумоўна.

— Але гэта супярэчыць ідэі такой кнігі.

— Нічому гэта, на думку Крэбса, не супярэчыць. Крэбс лічыў, што Тварэц дае людзям грошы для вырашэння Боскіх задач, такім чынам, таго, у каго яны ёсць, можна ўносіць у гэту кнігу. Як ні дзіўна, але знайшлося многа жадаючых трапіць у Кнігу Жыцця. Тады Крэбс пайшоў далей. У рамках Кнігі ён стварыў штосьці накшталт элітнага клуба.

— І за тое, каб трапіць у гэту эліту, трэба заплаціць важкую суму?

— Не заўсёды, сёй-той мог трапіць туды, валодаючы ўнікальнымі здольнасцямі, а сёй-той мусіў заплаціць добрую суму. Але не гэта галоўнае. Усе, хто захацеў туды трапіць, павінны былі прайсці абрад ініцыяцыі.

— А хто прымаў пасвячэнне і вырашаў пытанне пра тое, ці варты кандыдат перайсці ў тую эліту ці не?

— Безумоўна, Крэбс. Дарэчы, ты ўжо на пэўнай прыступцы да яе. Крэбс накіроўвае на самастойную аналітычную працу толькі тых, хто раней ці пазней наблізіцца да ініцыяцыі, для таго, каб увайсці ў найвышэйшую касту.

— А вось тут, калі ласка, больш падрабязна.

— Ты жыў у Расіі, дзе абрад ініцыяцыі застаўся ў мінулым, у савецкім перыядзе. А ў каталікоў у Заходняй Еўропе і ў пратэстантаў у ЗША ён існуе дагэтуль, хоць і ў спрошчаным выглядзе. Гэта, безумоўна, не ініцыяцыя ў індзейцаў, калі юнак, каб яго прызналі дарослым, мусіць здабыць рысь. Тут усё грунтуецца на іншых якасцях. Але мэта адна і тая ж — перавесці чалавека ў якасна іншы стан. Хоць «перавесці» вельмі недакладна — імгненна перамясціць у іншы стан.

— І што гэта дае нам? Крэбс вырашыў падрабіць на ганарыстасці людзей. І ўсё.

— Не, не ўсё. Я мяркую, што менавіта тады ў Крэбсаву галаву і прыйшла думка пра тое, што абрад ініцыяцыі можна выкарыстаць як якаснаеператва-

рэнне біялагічнай асновы Напалеона ці Бісмарка ў рэальных Напалеона ці Бісмарка.

— Добра. Хай сабе Крэбс вырашыў выкарыстаць прынцыпы ініцыяцыі для таго, каб вывучыць магчымасць ініцыяваць Напалеона з той біялагічнай асновы, якую можна паўтарыць. Але якая тут сувязь з Кнігай Жыцця?

— Непасрэдная. Па-першае, гэта ідэя прыйшла яму ў галаву ўжо пасля ідэі пра Кнігу Жыцця. Па-другое, пасля ўзнікнення ідэі ініцыяцыі Крэбс ужо не думаў проста фіксаваць тых, хто варты трапіць у Кнігу Жыцця. Вось тады, — урачыста прамовіў Драган, — Крэбсу і прыйшла ў галаву думка ўзяць на сябе не толькі фіксацыю выдатных людзей у гэтай кнізе, але і вырашаць, каго пакідаць у гэтай кнізе, а каго можна і выкрасліць.

— Кнігу Жыцця піша Тварэц, ён жа выкідае з яе грэшнікаў, гэта значыць тых, хто жыве не ў адпаведнасці з Боскімі запаветамі, а дакладней, з заканамернасцямі існавання, а калі яшчэ больш дакладна, дык не ў адпаведнасці з тымі задачамі, якія ўсклаў на яго Бог. Так што Крэбс пераацэньвае сябе.

— Крэбс — забіяка. Але гэта і дае яму магчымасць заўсёды выйграваць.

— Не напорваўся яшчэ твой Крэбс на добры кулак.

— Ён такі ж мой, як і твой, — заўважыў Драган. — Праўда, Ганс?

— Угу, — адказаў Ганс, робячы выгляд, што нашы размовы яго не цікавяць.

— Паслухай, — спытаў я Драгана, — а гэта кніга існуе ў натуры ці яна толькі ў электроннай памяці аднаго з Крэбсавых сервераў?

— Па чутках, Крэбс мае варыянт і на папяровым носьбіце.

— А яшчэ кажуць, — умяшаўся ў размову Ганс, — што Крэбс можа сам занесці ў кнігу каго захоча і сам выкрасліць.

— Гэта не галоўнае ў пытанні пра кнігу, — сказаў я, — мяне больш цікавіць форма падачы матэрыялу ў ёй. Яна падобна на Вялікую Савецкую Энцыклапедыю?

— Я ніколі не бачыў Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, — адказаў Драган, — але, на маю думку, тая стваралася ў дакамп’ютарную эпоху і ў ёй ёсць толькі інфармацыя пра біяграфію той ці іншай асобы. Тут, акрамя таго, ёсць генетычны код чалавека, а таксама справы і думкі ягоныя.

* * *

У Стэндаль мы прыехалі пад вечар. Працоўны дзень ужо закончыўся і не было сэнсу кіравацца ў офіс. Мы развіталіся з Гансам і рушылі па вуліцы з крамамі на першым паверсе.

Арабы ля часовых прылаўкаў, бачачы нас з Драганам, актывізаваліся і пачалі правакаваць канфлікт.

— Свалата, — сказаў Драган, — а яшчэ спавядаюць самую маладую і добрую ў дачыненні да людзей рэлігію з канонамі чалавечай справядлівасці. Зараз я спынюся і скажу ім, што прарок спавядаў добрасумленнасць і прыстойнасць, сціпласць у паводзінах, чысціню цела і чысціню нораваў, усталёўваў дысцыпліну і парадак. А яны паводзяць сябе зусім не ў адпаведнасці з яго запаведзямі.

— Не трэба, і зусім не таму, што сярод іх ёсць будучы Гітлер-араб ці ягоны бацька. Усе рэлігійныя вучэнні паўставалі як нейкі водгук ці дзеянне, якія кампенсавалі адсутнасць тых ці іншых якасцей. У сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя ў Расіі была каўказская вайна. Цягнулася яна доўга, але, у рэшце

рэшт, завяршылася падзеннем апошняй апоры і прытулку Шаміля — высакагорнага аула Гуніба. Шаміль здаўся пераможцам і накіраваўся разам са сваёй сям'ёю ў ссылку ў Калугу. Адтуль ён ліставаўся з графам Варанцовым. І аднойчы Варанцоў спытаў Шаміля: «Чаму прарок Мухамед такі суровы, у той час як Хрыстос — добры і знешне, і сваімі ўчынкамі?» На што Шаміль адказаў: «Рускі народ пакорлівы і добры, таму і Іса — добры, а чачэнцы народ наравісты і гарачы, таму і прарок у дачыненні да іх суровы».

Мы абмінулі арабскі базар, перайшлі праз вуліцу, завярнулі за вугал і апынуліся перад уваходам у гасцініцу «Стэндаль».

— Хадзем у кавярню, — прапанаваў я, — пасядзім, вып'ем піва.

— Згода, — адказаў Драган. — І чаму гэта Ганс не пасяліў нас у адной гасцініцы?

— Не прадугледжана ўмовамі кантракту.

Мы селі за столік, і афіцыянтка адразу ж з'явілася перад намі, бо я ўжо колькі месяцаў снедаў у гасцінічнай кавярні і мяне мелі за свайго.

Я заказаў сыр, піва і сасіскі. Піва і сыр з'явіліся перад намі праз некалькі хвілін, і мы працягвалі перарваную размову.

— Такім чынам, — сказаў я, — у памянёнай кнізе змешчана інфармацыя пра геном чалавека, яго імя, учынкі і думкі. Гэта ўсё, што неабходна для ажыўлення. Менавіта для ўваскрашэння, а не вяртання біялагічнай асновы. Але ў гэтым выпадку колькасць намінантаў, занесеных у кнігу, не можа быць вялікай. У Крэбса не было ні магчымасцей, ні часу ўнесці туды неабходную для спрацоўвання закона вялікіх лічбаў колькасць.

— Гэта правільна толькі напалову. Крэбс цішком збірае генетычны матэрыял па ўсім свеце. Балазе, за грошы раскапаць чыюсьці магілу і прадэманстраваць пасрэдніку ці заказчыку кавалачак праху знойдзецца многа жадаючых. А далей ужо справа тэхнікі. Але тут галоўнае не ў гэтым.

— А ў чым жа?

— Уваскрашаецца ці патэнцыяльна можа быць ажыўлены толькі той, хто патрэбны Богу. Ніякія разумовыя высілкі не дапамогуць, калі на гэта няма волі Тварца. Ты згаджаешся са мной?

— Так. Я ўжо зразумеў, куды ты хіліш.

— Правільна. Але тут з'яўляецца хітрун па прозвішчы Крэбс, які выкарыстоўвае гэта ў сваіх мэтах. Але перад ім стаіць задача: як пралічыць тых, хто патрэбны Богу? І прымазацца ў якасці пасрэдніка.

— І ён збірае каманду хлопцаў, мазгамі, а дакладней, думкамі якіх пачынае сілкавацца? Так?

— Так. І яны выдаюць яму тое, што ўжо ёсць шмат у якіх ідэалогіях чалавецтва і найперш у рэлігійных вучэннях.

— Ужо цёпла. А там, у асноўным, два падыходы. Згодна з першым, збавенне і адпаведна ўваскрашэнне магчымыя на аснове добрых спраў, згодна з другім, збавенне не залежыць ад учынкаў чалавека, яно — Ласка Боская.

— Так, я памятаю, што прыхільнікі другога падыходу спасылаюцца на евангельскае сведчанне пра выратаванне аднаго са злачынцаў, укрыжаваных разам з Хрыстом. Але ёсць і трэці падыход. Ён звязаны з ахвярнасцю. Чалавек ахвяраваў сваім жыццём. Гэта сігнал Богу, што ў новым жыцці ён здатны выконваць волю Боскую лепш за каго іншага. То бок той, які жыве, што называецца, не для сябе. Ты згодны?

— Так, і адсюль вынікае адно абагульненне. І першы, і другі, і трэці падыходы злучаюцца ў адзін. У рэлігійных вучэннях ён гучыць так: «Збавенне, як нябесны дарунак, не даецца гуляшчым». Такім чынам, Крэбс не зробіць

памылкі, калі ў лік патэнцыяльна ажыўленых занясе і тых, хто многа працаваў і чагосьці дасягнуў.

— Такім чынам, ты дамогся нечага і варты быць занесеным у Кнігу Жыцця Тварца аб’ектыўна, але тут з’яўляецца Крэбс, які заносіць цябе яшчэ і ў сапраўдную кнігу.

— А як жа дасягненні не на карысць чалавецтва? Несправядлівыя дасягненні. Як жа сусветныя дыктатары і тыраны, якія прынеслі сваім народам столькі пакут? Яны таксама зрабілі багата, і яны зусім не лайдачылі, працавалі ад ранку да ранку. Дзе ж справядлівасць? — ледзь не з пафасам прамовіў Драган.

— Справядлівасць — паняцце чалавечае. Яна і не можа быць іншай. Справядлівасць Тварца выглядае зусім інакш. І з пазіцый чалавечай справядлівасці яна — абсурд. Вядомая ўсходняя прытча распавядае пра аднаго прасветленага чалавека, які ўскараскаўся на гару і дзесяць гадоў сядзеў на ёй, малячыся і медытуючы, каб Тварэц наладзіў жыццё на зямлі па справядлівасці. Нарэшце, Тварэц з’явіўся і спытаў:

— Ты сапраўды хочаш гэтага?

— Так, — адказаў той. — Я прысвяціў гэтаму ўсё жыццё, а апошнія дзесяць гадоў сядзеў на гары…

— Хай будзе па-твойму, — адказаў Тварэц. — Ты дзесяць гадоў сядзеў на гары, будзе справядліва, калі цяпер гара пасядзіць на табе дзесяць гадоў.

* * *

Надышоў май. Тэленавіны паведамілі пра сутычку ў Берліне дэманстрантаў з паліцыяй. Але ў Стэндалі Першага мая прайшло спакойна. Напярэдадні Крэбс выклікаў да сябе Драгана. І я застаўся адзін, бо Ганс павёз Мілкавіча да боса.

Я сядзеў за камп’ютарам, што меў выхад у інтэрнэт, і шукаў патрэбную мне інфармацыю. Яна не тычылася задач, пастаўленых Крэбсам, і гэта было ў пэўнай ступені небяспечна, бо пагражала спыненнем кантракта, і не толькі. Але жаданне звязаць лагічна нейкія элементы нашага з Драганам дапушчэння прымушала мяне дзейнічаць гэткім чынам.

Пасля доўгіх блуканняў па сайтах спецслужб я нарэшце знайшоў тое, што шукаў.

«1970 год. 4 красавіка. У ваенным гарадку ў Магдэбургу па вуліцы Клаўзэнштрасэ пасярэдзіне пляца паставілі вялікую палатку. Палатку прыбралі раніцай 5 красавіка. І ў гэты ж час на найбліжэйшы вучэбны сапёрны палігон у мястэчку Бідэрытцар-Буш прыехалі некалькі ваенных машын. Вайскоўцы, што знаходзіліся там, спалілі некалькі скрыняў з незразумелым начыннем, а попел і ацалелыя часткі закапалі ў зямлю ў заходняй частцы палігона».

Калі гэту інфармацыю накласці на незразумелыя для атачэння пошукі чагосьці нейкай фірмай у заходняй частцы ранейшага ваеннага палігона, а тады паглядзець, якое дачыненне да гэтых работ мае фірма «Геном-2000», след Крэбса зробіцца відавочным.

А калі яшчэ пакорпацца ў газетных матэрыялах, дык можна дапусціць, што акцыя ў 1970 годзе мела на мэце перазахаваць парэшткі Гітлера, Евы Браўн і сям’і Гебельсаў.

Такім чынам, маем гіпотэзу, што Крэбс шукаў геном Гітлера ці спрабаваў параўнаць наяўную біялагічную аснову з парэшткамі на ваенным палігоне.

Адчуванне трывогі прымусіла мяне адарвацца ад экрана дысплея. Праз акно было відаць, што да офіса пад’ехаў адзін з аўтамабіляў Крэбса.

Я імгненна знішчыў тэкст, а тады двойчы перакрыў яго іншай інфармацыяй. Я падазраваў, што Ганс не толькі праслухоўвае нашы з Драганам размовы, але і перыядычна робіць напады на нашы камп'ютары. Як сапраўдны немец, ён глядзіць не толькі тэкст, які знішчаны, але і тэкст, які схаваны пад іншым тэкстам. Аднак у яго «сала» ў галаве не хапае, каб зразумець, што тэкст можа быць перакрыты інфармацыяй не адзін, а некалькі разоў. Усё як у старым анекдоце пра яўрэя, які змяніў прозвішча Рабіновіч на Сідараў. Але праз месяц прыйшоў у загс і папрасіў змяніць прозвішча Сідараў на Пятроў.

— Навошта вам гэта? — спыталі супрацоўнікі.

— Каб мець магчымасць на пытанне: а кім вы былі да змены прозвішча? — адказаць, што я быў Сідаравым.

Я зрабіў гэта своечасова. Пачулася знаёмае піканне, і ў пакой увайшоў Крэбс.

— Дзень добры, бос, — сказаў я так, як і павінен быў сказаць шараговы супрацоўнік фірмы свайму начальніку. — Зварыць кавы?

— Не, — адказаў Крэбс. — У мяне мала часу, пагутарым без кавы і проста ля камп'ютара. Дзе Мілкавіч?

— Ён паехаў да вас. Дакладней, яго да вас павёз Ганс.

— Ні той, ні другі да мяне не даехалі, — сказаў Крэбс, як мне падалося з нейкім раздражненнем.

— Ну, нідзе яны не дзенуцца, — адгукнуўся я. — Германія не тая краіна, у якой могуць знікнуць супрацоўнікі легальнай фірмы.

— О, майн гот, — прамовіў Крэбс, але я яму не паверыў, было ў гэтым воклічы штосьці штучнае.

— Што рабіць мне? — спытаў я.

— Працягваць працу. Вось вам картка на ўваходныя дзверы. Офіс будзеце зачыняць самі, пакуль не з'явіцца Ганс ці мы не падшукаем яму замену. А цяпер да справы. У працяг нашай размовы ў бункеры. Я ведаю, Пётр, што вы прыхільнік нейкай канцэпцыі спантаннай асновы жыцця і жыццядзейнасці. На вашу думку, стыхійнасць больш надзейная, чым свядомая, у тым ліку і навуковая, дзейнасць?

— Я б так не фармуляваў свае погляды, — адказаў я Крэбсу. — Я проста думаю, што калісьці чалавек больш адэкватна ацэньваў навакольныя з'явы і чуў голас касмічных стыхій, а чуючы, дзейнічаў у адпаведнасці з тымі заканамернасцямі, якія там існавалі. Але з часам ён засяродзіўся на аналізе сваіх жарсцяў і пачуццяў, якія зрабіліся для яго галоўнымі і якія часам не супадаюць з алгарытмамі акаляючага асяроддзя. І ўзнікае элемент дысанансу, у якім адзін з бакоў можа прайграць. На маю думку, вы, бос, разумееце, што прайграць можа толькі чалавечы, разумны бок, які ўявіў сябе ўсемагутным.

— Мне падабаецца з вамі спрачацца, Пётр, ваша пазіцыя супрацьлеглая маёй, але спрэчкі з вамі ўмацоўваюць яе.

— У Японіі ўслаўляюць пераможцу менавіта з гэтых меркаванняў.

— Не трэба чапаць Японію. Пагаворым пра нашых бараноў, так, здаецца, кажуць у Расіі.

— У Расіі кажуць: вернемся да нашых бараноў.

— Хай будзе так. Мая пазіцыя супрацьлеглая вашай. З майго пункту гледжання, не існуе дзейнасці не ў алгарытмах Тварца. Калі чалавек штосьці стварае і дасягае пастаўленай мэты — значыць, так хоча Тварэц.

Калі б Крэбс чытаў Ільфа і Пятрова, дык ведаў бы, як называецца такі стан. Аўтары «Залатога цяляці» называлі гэта: «Астапа панесла».

— Аднойчы ў Старым Запавеце я прачытаў радкі пра тое, як прарок Іезекіль ажывіў загінуўшых на полі бою. «Чым я горшы за гэтага праро-

ка?» — падумаў я тады. У маладосці я багата чытаў біблейскіх тэкстаў, яшчэ раней вывучаў антычную гісторыю. Вы, Пётр, безумоўна, памятаеце Гамера і яго «Іліяду». Там багі непасрэдна ўдзельчаюць у бітвах, фактычна выкарыстоўваючы людзей, як марыянетак. Але з часам багі ўсё больш трымаюцца на адлегласці ад чалавека, а чалавек пачынае выконваць тыя функцыі, якія раней належалі багам. І вось надышоў момант, калі чалавек можа ўзяць на сябе місію ўваскрашэння чалавека.

Я ледзь не ляпнуў: «За кругленькую суму», — але своечасова спыніўся.

А Крэбс тым часам працягваў:

— Мова Бога простая: я раблю штосьці, і ў мяне гэта атрымліваецца, значыць, Тварэц ухваліў мяне.

— Дзіўна, бос, што вы — добрапрыстойны католік, разважаеце, як пратэстант.

— Не варта зацыклівацца на канфесіянальных догмах, — адказаў Крэбс. — Як вам мае тэарэтычныя канструкцыі?

— Яны беззаганныя, бос, але з пазіцый чалавечай бездакорнасці і логікі. Паколькі і чалавечая логіка, і чалавечыя формы перадачы інфармацыі могуць быць толькі чалавечымі. Мы аднойчы ўжо высветлілі, што Бог размаўляе са сваімі дзецьмі на розных мовах. Гэта мова з манапалізацыяй розумам права на ісціну ўжо змоўкла шмат у якіх душах. СМІ, у прыватнасці, прыводзяць прыклад, што вядомае цунамі ва Усходняй Азіі выклікала пагібель толькі людзей. Але ніводная жывёліна не пацярпела. Дык на якой мове размаўляе Тварэц са сваімі дзецьмі? Чалавек страціў здольнасць не толькі разумець, але і слухаць голас Тварца. І гэта нягледзячы на ўсе разумныя намаганні ў справе Яго пошуку. Зрэшты, так ставіцца да Тварца толькі заходнееўрапейская культурная традыцыя. Усход жа даводзіць, што Бог не можа быць аб’ектам пошуку. Ён застаецца суб’ектыўнасцю як такой. Вы не зможаце адшукаць Яго дзесьці, таму што Ён — усюды. Калі ж вы пачынаеце шукаць Яго дзесьці, дык не знойдзеце Яго нідзе. Усё, што ёсць — Боскае. Бог — гэта усё існае, цэласнае, акіян, які вакол нас.

— Вось тут я лаўлю вас, Пётр, на слове. Бог — гэта ўсё, што вакол нас, і мы самі, такім чынам, кожны з нас — гэта Бог, але толькі той, хто гэта зразумеў, сапраўды з’яўляецца Богам. Можна, безумоўна, гаварыць пра тое, што Бог праз чалавека дасягае нейкай сваёй мэты. Але можна сказаць, што Бог-чалавек робіць гэта самастойна. Гісторыя прадэманстравала многае з таго, што зрабіў чалавек нароўні з Богам. І вось цяпер чалавек наблізіўся да сваёй галоўнай задачы — навучыцца ажыўляць чалавека і праз гэта зрабіцца Богам.

* * *

Толькі я наважыўся папрацаваць, як пачулася піканне замка і ў офіс увайшоў Ганс. На шыі ў яго было гіпсавае кола, якое ставяць у траўмапунктах тым, хто паламаў сабе шыю.

— Што з табой? — спытаў я яго.

— Бандыцкая куля, — адказаў ён мне, і я яшчэ раз пераканаўся, што нарадзіўся ён зусім не ў Германіі.

У руках ён трымаў два вогнетушыцелі.

— Пажарнікі агледалі памяшканне, — сказаў ён, — раілі паставіць вогнетушыцелі з вуглекіслатой. Як толькі тэмпература ў офісе перавысіць 120 градусаў па Цэльсію, яны спрацуюць.

— Давай я дапамагу, а то ты са сваёй шыяй…

— Кожны спажывае свой хлеб, — сказаў Ганс і засланіў ад мяне вогнетушыцелі, быццам баяўся, што я адбяру не толькі іх, але сапраўды забяру ў яго ягоны хлеб.

Хутка і спрытна ён паставіў вогнетушыцелі і, не развітваючыся, знік, чым выклікаў у мяне пэўнае здзіўленне, пасля чаго я яшчэ больш настойліва пачаў шукаць у інтэрнэце назву нашай фірмы да 2000 года, а таксама яе сувязі з іншымі фірмамі. Ужо амаль увечары я адшукаў паведамленне пра пажар у нейкай лабараторыі ў Гановеры і гібель там супрацоўніка. Я ўважліва прагледзеў паведамленне пра гэту падзею на сайце паліцыі Гановера і знайшоў там цікавыя моманты, але вырашыў дэталёва разабрацца з імі заўтра.

Перад тым, як вярнуцца ў гатэль, я падаўся на мясцовы рынак, дзе дзіўнаваты з выгляду немец гандляваў усякай усячынай, якая засталася пасля Савецкай Арміі. Там я выбраў для сябе процівагаз, а пасля трохі падумаў і набыў яшчэ адзін.

У гатэлі на месцы парцье была немка, якую звалі Кардэлія. Перадаючы мне ключ, яна прыклала палец да вуснаў, нібы папярэджваючы мяне.

У свой нумар я ўвайшоў вельмі асцярожна, замкнуў дзверы і тут пачуў голас Драгана:

— Не палохайся, гэта я.

Голас чуўся з куба, які месціўся ў сярэдзіне пакоя і «выконваў абавязкі» прыбіральні, душа і ўмывальніка адначасова.

— Выходзь, — сказаў я яму. — Спадзяюся, у цябе на шыі няма гіпсавага кола?

— А, — сказаў ён зларадна, — ён усё ж такі ледзь не паламаў сабе шыю.

Драган выйшаў з куба. Гіпса на шыі ў яго сапраўды не было, але твар быў бязлітасна падрапаны.

— Што здарылася?

— Я прыйшоў цябе папярэдзіць.

— Пра што?

— Пра тое, што ніякай ініцыяцыі табе не будзе.

— Чаму?

— Таму што мы з табой, самі таго не жадаючы і не разумеючы, наблізіліся да таго, што Крэбс называе галоўным сакрэтам фірмы, які ведае толькі ён сам.

— Пра сакрэт трохі пазней. Што здарылася з табой і з Гансам?

— Выехалі мы пазаўчора ў Патсдам, і ўсё было б нармальна, калі б у мяне не зашпіліўся рамень бяспекі. Я спытаў Ганса, што гэта азначае. Ён адказаў, што ў Патсдаме наведаем майстэрню. Усё гэта мяне насцярожыла, і пачаў рыхтавацца да каверзы з Гансавага боку. Так і адбылося. Нечакана для мяне на зусім пустой дарозе ён выехаў на сустрэчную паласу і стукнуўся ў бетонны слуп. Ад удару на месцы вадзіцеля спрацавалі падушкі бяспекі, а мае — не спрацавалі, але мяне вынесла праз лабавое шкло. Я ніколі не займаўся акрабатыкай, але зрабіў кульбіт і прызямліўся на газон ззаду ад бетоннага слупа. Я адразу ж зразумеў, што гэта падстава, і кінуўся ўцякаць. Дзве ночы начаваў на вакзалах, а сёння дабраўся да Стэндаля.

— Табе трэба сыходзіць.

— Сыходзіць трэба і табе. Таму што наступная чарга твая.

— Відаць, так. Але спачатку трэба падумаць, дзе ж мы наступілі Крэбсу на хвост?

— Давай думаць, — сказаў Драган, уладкоўваючыся ля стала і наліваючы сабе сок у пластмасавую шклянку, — давай думаць. Тое, што Крэбс кланіруе людзей, гэтым нікога сёння не здзівіць. Крэбс замахнуўся на большае, ён спрабуе тэхналагічна вярнуць ажыўленаму памяць. І такім чынам мы будзем мець Напалеона Банапарта, які ведае сваю ролю ў гісторыі. Але і гэта не вырашае тых задач, якія ставяць перад Крэбсам заказчыкі. Ім у першую чаргу хочацца ажывіць Гітлера. І Крэбс здолеў гэта зрабіць, і выдаў прадукт заказчыку, аднак штосьці пакінуў і для сябе. Але што?

— Вось у гэтым і сутнасць. Крэбс распрацаваў не толькі методыку аднаўлення памяці. Ён стварыў нейкую матрыцу.

— Але гэта немагчыма.

— Гэта магчыма. На ДНК накладаецца духоўная матрыца, і ажыўленне адбываецца.

— Але ж гэта…

— А ты мудры хлопец. Ты адразу ўсё ўцяміў. На адпаведны ланцужок ДНК можна накласці патрэбную матрыцу і такім шляхам падкарэкціраваць, напрыклад, асобу Гітлера, дадаць тых якасцей, якіх не хапала яму для вырашэння нейкіх глабальных задач. І такім чынам новы Гітлер вырашыць тыя задачы, якія ён не здолеў вырашыць у час папярэдняга ўвасаблення.

— Усё, я знікаю, — сказаў Драган. — Пазыч трыста еўра, я табе дашлю іх у Расію.

Калі ён пайшоў, я паваліўся на пасцель і доўга думаў, як мне выйсці з гэтай сітуацыі. Асабліва мяне непакоіла здарэнне ў Гановеры.

* * *

Раніцай, ідучы на працу, я ўжо не сустрэў у вестыбюлі Кардэліі. А яе зменшчыца расказала, што ўчора проста ля ўваходу ў гатэль машына збіла нейкага серба.

Работа не лезла ў галаву, усё валілася з рук, але калі я ўбачыў аўтамабіль Крэбса, які падкаціў да офіса, усё ўва мне мабілізавалася само сабой.

— Ёсць жаданне пафіласофстваваць? — спытаў я Крэбса, калі ён увайшоў, без належнай для падначаленага ліслівасці.

— У пэўным сэнсе так, — адказаў ён, пляснуўся ў крэсла, паставіў аташэкейс ля сваіх ног. — Трэба пагаварыць пра ролю навукі ў жыцці чалавецтва.

— І пра ролю кожнага з нас… — падтакнуў я яму.

— Можна і пра ролю кожнага…

— Мы спыніліся на тым, што навука ўжо можа кланіраваць чалавека, але ўваскрэсіць яго — значыць не толькі стварыць генетычна ідэнтычную асобіну, але і аднавіць памяць. На вашу думку, навука здатная зрабіць гэта?

— Не толькі здатная, але і абавязкова зробіць, яна ўжо літаральна ў адным кроку ад гэтага.

— Сумніўна, навука — тыповая вынаходка чалавека і мае тыя ж самыя заганы, што і сам чалавек. Акрамя таго, шлях навукі і той тупік, у які яна трапіла і ў якім знаходзіцца апошнія чатырыста гадоў, не дазваляе адказаць на тыя пытанні, якія вы хочаце і паставіць, і вырашыць. Добра вядомыя словы пра тое, што розум прывёў чалавецтва да брамы Ісціны, але наўрад ці здолее яе адамкнуць, тычыцца якраз навукі.

— Гэты пункт гледжання мае месца таму, — папаўся на вудачку Крэбс, і хоць мэта ягонага візіту была зусім іншай, кінуўся апаніраваць мне, — што вы прадугледжваеце кіраўніцтва чалавекам з боку ці то Бога, ці то адпаведных

умоў. На самай жа справе чалавек і ёсць Бог. Ён і перастварае свет, у тым ліку і з дапамогай навукі. Яна пашырае яго магчымасці.

— Навука, пашыраючы магчымасці чалавека, знішчае яго. Адвечныя каштоўнасці не без дапамогі навукі робяцца ахвярай непасрэднай выгады. Чалавек, па сутнасці, робіцца тыранам прыроды, але не проста тыранам, а тыранам, узброеным навуковымі дасягненнямі.

— Вы супярэчыце самому сабе, — сказаў Крэбс. — Каштоўнасці і мараль — гэта таксама вынаходка чалавецтва і павінны служыць чалавеку.

— Вы разумееце служэнне выключна ўтылітарна, — сказаў я яму, — нешта накшталт прыслугоўвання ці дзейнасці служак. Зноў жа дзейнасці разумнай, якая падпарадкоўваецца адпаведным чалавечым правілам і этыкету.

— У грамадстве ўсё падпарадкоўваецца этыкету, — мовіў Крэбс і паглядзеў на гадзіннік.

— У нас яшчэ ёсць час, — сказаў я яму, — можам працягваць. Грамадства — гэта ўсяго толькі частка прыроды, а яна, як стварэнне Боскае, рэгулюе творчасць чалавека, у тым ліку і навуковую. Яна ўвесь час дэманструе факты таго, што рэсурсы яе абмежаваныя. Прычым робіць гэта на ўзроўні стыхійнага, спантаннага і неўсвядомленага рэгулявання. У якасці прыкладу можна прывесці развал Савецкага Саюза, які знаходзіўся ў адным кроку ад паварочвання паўночных рэк. У мінулы раз мы гаварылі пра Ісціну, але пытанне пра яе знаходзіцца па-за межамі чалавечых разважанняў і чалавечай логікі. Усход сведчыць пра тое, што Ісціна не ёсць штосьці, што можна перадаваць з рук у рукі ў якасці адказу на пытанне. Каб дапяць да Ісціны, трэба прыйсці да піку свайго быцця. Калі чалавек памірае і цалкам вызваляецца ад свайго эга, ісціна сама адкрываецца перад ім…

— Досыць, — перарваў мяне Крэбс, — вы нават не ўяўляеце, у якой ступені вы зараз наблізіліся да парога Ісціны.

— Мне здаецца, мы абодва да яе падышлі.

— Не думаю, не думаю, — прамовіў Крэбс. — Я хацеў вам сказаць, што вы парушылі ўмовы нашага кантракта і таму грошы з вашага банкаўскага рахунку адклікaны.

Ён паглядзеў на мяне, чакаючы пратэстнай рэакцыі ў адказ, але не дачакаўся яе.

— Вас гэта не шакіруе?

— Не.

— Чаму?

— Я чакаў чагосьці такога.

— Вось як. Значыць, я вас недаацаніў.

— Так, вы мяне недаацанілі. Паколькі я ад самага пачатку мала верыў у праект стварэння новага Джо Луіса, хоць гэты праект цалкам мог быць рэалізаваны, дый у праект новага Гітлера таксама. Але я заўсёды ведаў, што хітраван Крэбс мае тое, пра што не ведаюць нават яго блізкія і нават тыя неанацысты, якія «падсілкоўваюць» праект грашыма. Для іх ён гадаваў Гітлера, але той Гітлер — усяго толькі варты жалю цень папярэдняга, а вось не-Гітлер гадуецца ў новых гістарычных умовах і залежыць ад Крэбса — гэта ўжо сур'ёзна. Хаця, Крэбс, ва ўсёй гэтай задуме і ў вашай тэорыі адносна таго, што ўсё, што робіць чалавек, робіцца на заказ Тварца, ёсць пэўная заганнасць. Розум аднабаковы, каб улічыць усе фактары, неабходныя для дасягнення мэты. На самай справе сацыяльныя сістэмы заўсёды маюць «абарону ад дурня» і злога генія ў выглядзе фактараў, якія з'яўляюцца ніадкуль і ўраўнаважваюць ці нейтралізуюць тое, што супярэчыць намерам Тварца.

— Што далей?

— Хітрун Крэбс не ўзяўся кланіраваць Гітлера, ён знайшоў ягонага генетычнага двайніка і заявіў заказчыку, што можа стварыць матрыцу духоўную. І, такім чынам, заказ выкананы і можна атрымаць свае грошы. Але Крэбс не быў бы самім сабою, калі б не адшукаў яшчэ аднаго Гітлера, які ідэнтычны гістарычнай асобе і гэтаксама з часам будзе ініцыяваны ў Гітлера-асобу. Але далей — і Крэбс напружана працуе ў гэтым накірунку — ён рэалізуе яшчэ адну ідэю, пакладзе на яго яшчэ адну галаграфічную схему і скарэкціруе асобныя якасці, для таго, каб Гітлер мог выканаць канкрэтную місію на Зямлі ўжо сёння. Калісьці буйныя прамысловыя колы прывялі Гітлера да ўлады і выкарысталі яго для атрымання звышпрыбыткаў. Цяпер гэта збіраецца зрабіць адзін чалавек па прозвішчы Крэбс. Для гэтага не трэба вялікай колькасці даследаванняў і эксперыментаў. Але Крэбс не быў бы Крэбсам. Ён стварыў сетку лабараторый, якіх на самай справе не існавала. Гэта былі толькі некалькі офісаў, дзе аналітыкі займаліся фігнёю, з якой Крэбс складаў мудрагелістыя справаздачы для сваіх заказчыкаў. Праўда, тут патрабуюцца супрацоўнікі з неардынарным мысленнем, але за вялікія грошы іх можна было навыпісваць хоць з Афрыкі. Крэбс нічым не рызыкаваў. Нават калі б заказчыкі прад'явілі яму прэтэнзіі, — нічога не паробіш, навуковы пошук можа стацца няўдалым. Ды і сама тэма, і сувязь з ёю фінансавых дзялкоў у такой ступені далікатныя, што яны ніколі не прызнаюцца, што фінансавалі гэтыя вар'яцкія праекты. Безумоўна, можна адпомсціць махляру, падаслаць забойцу. Аднак гэта для сябе даражэй, таму што не гарантуе непажаданай агалоскі. Але спантаннае рэгуляванне працэсаў у грамадстве, якое вам так не даспадобы, Крэбс, заўсёды вылучыць фактар, які спыніць творцу, што празмерна пачаў дурэць.

— І гэтым фактарам з'яўляецеся вы?

— У пэўнай ступені так.

— Вы пераацэньваеце сябе.

— Не, я ацэньваю абстаноўку цалкам адэкватна.

— Калі так, дык паспрабуйце ўявіць сваю будучыню.

— Мы яшчэ трохі пагаворым, а тады вы, Крэбс, пакінеце гэта памяшканне, а я застануся тут. Пасля ў мяне замкне камп'ютар і пачнецца пажар. Тады ўзарвецца адзін з вогнетушыцеляў, у якім замест вуглекіслаты баявы газ. Праз паўгадзіны дзверы адчыняцца, а мой труп будзе прад'ўлены паліцыі Стэндаля. Ну як?

Крэбс доўга маўчаў, а тады сказаў:

— Цікава, але ад гэтага нічога не зменіцца.

Ён накіраваўся да дзвярэй, засунуў картку ў проразь, але не пачуў жаданага пікання — дзверы не адчыняліся.

— Не спяшайцеся, Крэбс, — сказаў я яму, — я змяніў дзвярны код, і мы застанемся тут удвух назаўсёды. І ў той момант, калі нашы душы паляцяць, нам адкрыецца тое, што вы называеце Ісцінай. А да гэтага вам давядзецца зведаць усе тыя пакуты, якія зазнаў ваш супрацоўнік у Гановеры, калі вы з ім прарабілі гэты фокус.

— Пры чым тут Гановер, там была зусім іншая фірма.

— Хлусня. Хлопец, які загінуў там, трапіў на вашу вудачку гэтак жа, як і я — праз інтэрнэт. Вы загадалі паставіць праграму пажарнай бяспекі Гансу, і ён зрабіў гэта. Але я даследаваў акалічнасці таго здарэння ў Гановеры і зразумеў, што мудры Крэбс гэтым разам выкарыстае надзейны спосаб, каб пазбавіцца ад распрацоўшчыка, які не толькі зразумеў тое, чым ён займаецца, але і ўбачыў, што ён спрабуе падмануць сваіх гаспадароў.

— Мы можам дамовіцца, — сказаў Крэбс, відаць, аналізуючы сітуацыю.

— Не можам, — адказаў я. — Тварэц абраў мяне тым фактарам, які мусіць вас спыніць. Памятаеце, у вашай канцэпцыі вяртання і ўваскрашэння важную ролю адыгрывае імя. Калі гаварыць пра імя, дык я Пётр — то бок камень, аб які вы, Крэбс, спатыкнуліся.

Крэбс кінуўся да дзвярэй і пачаў біць у іх нагамі.

— Ганс, Ганс! — крычаў ён.

— Вось бачыце, Крэбс, зрабілася зразумелай і роля Ганса ў тым здарэнні ў Гановеры, дый у сённяшняй акцыі таксама.

Я зірнуў на гадзіннік.

— Засталася адна хвіліна, трэба дамаўляцца.

Але Крэбс працягваў малаціць нагамі ў дзверы.

— Зробім так, — прапанаваў я, — вы вяртаеце мне грошы, а я даю вам процівагаз. Мы пераседзім тут тыя паўгадзіны да таго моманту, пакуль адчыняцца дзверы.

Я адамкнуў шуфлядку і жэстам добрага чалавека паказаў на два процівагазы. Крэбс адразу падбег да стала, імгненна ацаніў памеры процівагазаў, выбраў большы і пачаў нацягваць яго сабе на галаву.

— Не спяшайцеся, Крэбс, — сказаў я яму, — вы не далі мне слова, што аддасцё грошы.

— Я аддам вам грошы, — сказаў Крэбс, але ў вачах яго заблішчэлі іскрынкі перавагі над чалавекам, які заключыў з ім вусную дамову.

— Вы здзіўляеце мяне, Крэбс, — сказаў я. — Ваш процівагаз не працуе без такой вось маленькай штучкі.

І я паказаў яму гумавы клапан.

— Я ўстаўлю яго ў ваш процівагаз, а вы там часам возьмеце чэкавую кніжку і выпішаце чэк на суму, якую я зарабіў.

Ён пачаў паспешліва выпісваць чэк, а я ўставіў клапан у яго процівагаз і працягнуў маску майму былому босу. Ён адразу ж узяўся нацягваць яго сабе на галаву.

— Адразу відаць, што вы не вучыліся на ваеннай кафедры. У вас грэбень на галаве, а…

Я не змог сказаць апошнія словы, трэснуў дысплей майго камп’ютара, пачаўся пажар, і амаль адразу ж спрацаваў вогнетушыцель, што вісеў ля ўваходных дзвярэй.

— Газы, — шалёна закрычаў я, нацягнуў на сябе другі процівагаз, тады перакуліў крэсла і ўладкаваўся на ім зверху, назіраючы за паводзінамі Крэбса.

Некаторы час Крэбс напружана і гучна дыхаў, але пасля раптам адкінуўся на спіну і пачаў канвульсіўна ўздрыгваць.

«Відаць, ранавата, Крэбс, рабіцца табе Богам», — падумаў я, усхапіўся і крэслам разбіў шыбу. Хтосьці звонку выбіваў зачыненыя дзверы — вось зараз яны паддадуцца тым, што нападаюць. Я сцягнуў процівагаз з галавы Крэбса, а тады зняў процівагаз і з сябе…

* * *

Апрытомнеў я ў бальнічнай палаце. Гэта было відавочна і не выклікала сумненняў — вакол суцэльная белата, ложак з адкідной спінкай і ахоўнік, які сядзеў побач з ложкам на крэсле. Ён убачыў, што я прыйшоў у сябе і пачаў набіраць нумар мабільнага тэлефона.

Амаль адразу ж у палату ўвайшлі два чалавекі. Адзін з іх быў доктарам — пра гэта сведчыў белы халат, упэўненыя рухі і пачуццё гаспадара на гэтай прасторы. Другі, хоць і намагаўся імітаваць прыналежнасць да клана дактароў халатам, быў, безумоўна, з паліцыі.

Доктар паглядзеў на экран, што стаяў на століку побач з ложкам, узяў маю руку і на дрэннай рускай мове спытаў мяне:

— Як вы пачуваецеся?

Я не адказаў, а толькі хітнуў галавой.

Тады ўрач зрабіў знак другому наведвальніку і пайшоў з палаты, следам за ім кінуўся і ахоўнік у форме.

Паліцэйскі ў белым халаце апусціўся на крэсла і хацеў быў гаварыць, але я апярэдзіў яго.

— Што з Крэбсам? — спытаў я.

— Тое самае, што і з вамі, — адказаў ён па-нямецку.

— А што са мной?

— Вы атруціліся нейкім газам. Але я думаю, вы зможаце расказаць мне, як усё адбылося?

— Крэбс прынёс два процівагазы і сказаў, што ў яго ёсць падазрэнні ў дачыненні да Ганса.

— Тут трохі патлумачце.

— Калісьці ў Гановеры ў Крэбса ў лабараторыі пазамыкала правады і ўзарваўся камп’ютар. І ці то праз пластык, што пачаў гарэць, ці то яшчэ праз што, але загінуў мой папярэднік. Дык вось, апошнім часам Крэбс меў падазрэнні, што выбух той быў невыпадковы. Ён прыйшоў да мяне, выправадзіў з памяшкання Ганса і сказаў, што хоча паставіць эксперымент, гэта значыць аднавіць усе акалічнасці таго здарэння, каб выявіць магчымага віноўніка.

— Іншымі словамі, ён папрасіў вас згуляць ролю падставы.

— Не толькі мяне, але і сябе. Ён наўмысна падставіў мяне і сябе, каб выявіць чалавека, якога ён падазраваў.

— Але ж ён рызыкаваў…

— Той, каго ён падазраваў, не ведаў, што Крэбс прынёс у кейсе два процівагазы.

— Ён хацеў…

— Мне цяжка сказаць, што ён хацеў, бо ён паведаміў мне толькі тое, што я вам цяпер расказаў… Зрэшты, вы самі можаце распытаць яго.

— На жаль, не магу… Крэбс памёр проста ў лабараторыі. Яму не пашанцавала, вельмі рэдкі выпадак, адзін на мільён, у клапане процівагаза быў дэфект.

— Я так і падумаў, таму што, нягледзячы на процівагаз, ён пачаў паводзіць сябе так, нібы яго сапраўды атруцілі газам. Таму я і разбіў акно крэслам, але, відаць, было ўжо занадта позна.

— Скажыце, а чаму вы знялі з сябе процівагаз?

— Я не рабіў гэтага.

— Вас знайшлі без процівагаза, як, дарэчы, і Крэбса.

— Цалкам магчыма, што той, хто арганізаваў усё гэта, апынуўся там першым і вырашыў падстрахавацца.

— Магчыма… Я ўпаўнаважаны паведаміць вам, што пасля лячэння вам давядзецца пакінуць межы нашай краіны, бо ў выніку смерці вашага работадаўца зніклі прычыны вашага далейшага знаходжання на гэтай тэрыторыі.

Мой візаві ўстаў з крэсла і накіраваўся да дзвярэй. Некаторы час я быў адзін, але пасля дзверы адчыніліся, і я з радасцю адзначыў, што ўвайшоў не ахоўнік, а доктар. Гэта значыць, мне паверылі.

Але радасць мая была нядоўгай: як высветлілася, атручэнне газам істотна паўплывала на маё здароўе, і праз тры дні персанал клінікі ў Стэндалі развітваўся са мною як з патэнцыяльным нябожчыкам.

Ужо на мяжы я зразумеў, што мне не даехаць да Падольска. Уласна кажучы, навошта мне Падольск. І я паехаў да сваёй палаткі. Да яе я дапяў уначы і дзіву даўся, як я ўвогуле змог адшукаць яе ў гэтай цемры. Я забраўся ўсярэдзіну і, перад тым як заснуць, падумаў, што ўсе мы — удзельнікі нейкай гульні найвышэйшых сіл і, пакуль патрэбныя для гэтай гульні, мы жывём. Вось і Драган вылецеў праз лабавое шкло машыны і не разбіўся толькі для таго, каб папярэдзіць мяне пра небяспеку, а тады скончыў жыццё пад коламі машыны. І я, перарываючы зямны шлях Крэбса, відаць, выканаў сваю праграму.

З гэткімі думкамі я прачнуўся і зразумеў, што ўсё гэта было жахлівым, вусцішным сном. Я выбраўся з палаткі і не мог даць веры сваім вачам. Вакол валяліся цэлафанавыя пакеты, проста пад хвояй, з супрацьлеглага ад палаткі боку, мелася вялікая чорная пляма — вогнішча. Полымя ад турыстычнага кастра ўзнімалася так высока, што паабгаралі нават вярхушкі хвояў, а па ствале бурштынам блішчэла выплаўленая смала. Пустыя бляшанкі, абрыўкі газет і нават касеты ад магнітафона дадавалі гнятлівасці гэтаму відовішчу. Мне больш не хацелася заставацца тут і паміраць сярод гэтага смецця. Я яшчэ раз агледзеў увесь гэты бедлам і пайшоў прэч.

Дзіўныя думкі таўкліся ў маёй галаве. Калісьці два чалавекі ў розны час і на розных кантынентах агучылі амаль адно і тое ж. Карлас Кастанэда сказаў: «Мы святлістыя істоты, нараджаемся з двума коламі сілы, але для стварэння свету выкарыстоўваем толькі адно з іх. Гэта кола, якое замыкаецца на нас у першыя гады жыцця, ёсць розум і яго кампаньён — мова. Менавіта яны, згаварыўшыся між сабой, і змайстравалі гэты свет з дапамогай апісання і яго непахісных дагматычных правілаў, а цяпер падтрымліваюць яго». А Канстанцін Цыялкоўскі напісаў: «Эвалюцыя ёсць рух наперад. Чалавецтва як адзіны аб’ект эвалюцыі таксама зменіцца і, нарэшце, праз мільярды гадоў ператворыцца ў адзіны від праменнай энергіі».

Я ішоў доўга, да таго часу, пакуль праз ствалы хвой не ўбачыў дарогу. І тут я зразумеў, чым заканчваецца фраза «Слава пераможцу». Яна не можа заканчвацца нічым іншым.

Я крочыў усё хутчэй, мяркуючы выйсці на дарогу і адразу ж злавіць спадарожную машыну. Мне нават здавалася, што гэта будзе той дальнабойшчык, які падвозіў мяне сюды. Ён паўтара месяца быў за мяжой, а цяпер вяртаецца дадому. Гэтым разам каляндарык з японцам не будзе накрыты атласам і я прачытаю надпіс цалкам: «Слава пераможцу, бо ён дае нам пункт апоры».

Раніцай я быў у Падольску. Сяк-так дацягнуўся да кватэры Нарымава, пазваніў. Дзверы адчыніліся, мой сябар, як вар’ят, глядзеў на мяне.

— Што, дрэнна выглядаю? — прасіпеў я здушаным голасам.

— Дзе ты прападаў увесь год? — гэткім жа здушаным голасам адказаў ён.

***Пераклад з рускай***
***Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***



## Хасэ МАРЦІ
**(1853—1895)**

*Хасэ Хуліян Марці-і-Перэс — кубінскі паэт, пісьменнік і публіцыст, лідар вызваленчага руху Кубы ад Іспаніі. На радзіме ён лічыцца нацыянальным героем, яго называюць «Апосталам Незалежнасці». У літаратурных колах вядомы як бацька мадэрнізму.*

*Хасэ Марці, сын Марыяна Марці з Валенсіі і Леанор Перэс Кабрэра з Тэнэрыфэ, нарадзіўся 28 студзеня 1853 года ў Гаване. Там жа ён атрымаў першапачатковую адукацыю. У 15 гадоў ён ужо апублікаваў некалькі сваіх паэм, а ў 16 — заснаваў народна-патрыятычную газету «La patria libre» («Свабодная Радзіма»).*

*У час рэвалюцыйнага мяцяжу, які выбухнуў на Кубе ў 1868 годзе, ён адкрыта сімпатызаваў паўстанцам, за гэта быў прыгавораны да шасці месяцаў катаржных работ у каменяломнях «Сан Ласара», правёў некаторы час на востраве вязняў Пінас, а ў 1871 годзе быў высланы ў Іспанію. Там ён працягваў сваю адукацыю і літаратурную працу, атрымаў навуковыя ступені ў галіне літаратуры, права і філасофіі, якія вывучаў у Мадрыдскім універсітэце. Першая публіцыстычная брашура Марці пра вязняў катаржных турмаў «Палітычная турма на Кубе» была апублікавана менавіта ў Мадрыдзе. У 1874 годзе Марці атрымаў званне магістра гуманітарных навук і ступень па юрыспрудэнцыі ў Сарагоскім універсітэце.*

*Некалькі наступных гадоў ён правёў у Францыі, Мексіцы, Гватэмале і Венесуэле. Пасля вяртання на Кубу ў 1879 годзе ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання супраць іспанскай каланіяльнай адміністрацыі і зноў быў высланы ў Іспанію.*

*У 1880—1895 гадах знаходзіўся ў ЗША, дзе быў карэспандэнтам лацінаамерыканскіх газет, пісаў артыкулы, кнігі і працаваў выкладчыкам. Разгарнуў актыўную дзейнасць па падрыхтоўцы новага паўстання на Кубе. З разрозненых эміграцкіх арганізацый Марці стварыў Кубінскую рэвалюцыйную партыю (КРП, 1892). Яна аб'яднала прадстаўнікоў розных сацыяльных слаёў і адыграла галоўную ролю ў арганізацыі нацыянальна-вызваленчага паўстання на Кубе, якое пачалося 24 лютага 1895 года. Цэнтральным друкаваным органам КРП была заснаваная Марці газета «Patria» («Радзіма»).*

*У красавіку 1895 года Марці вярнуўся на Кубу для непасрэднага ўдзелу ў паўстанні. Праз месяц ён загінуў у баі з іспанскімі войскамі ў Дос Рыас.*

*Хасэ Марці з'яўляецца аўтарам прасякнутай пратэстам супраць нявольніцтва драмы ў вершах «Абдала» (1869), паэтычных зборнікаў «Ісмаелільё» (1882), «Простыя вершы» (1891), «Кветкі выгнання» (1913), «Свабодныя вершы» (1913), у якіх апеў шчырыя і простыя чалавечыя пачуцці, рамана «Згубнае сяброўства» (1885), п'ес «Пралюбадзейка» (1874) і «За каханне плацяць каханнем» (1875), публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулаў.*

# СА ЗБОРНІКА «ПРОСТЫЯ ВЕРШЫ»

* * *

Мной чута аб Фівах, Афінах,
Негрыцыі і аб Іране,
Ды ў ранішніх горных далінах
Я выберу з ветрам спатканне.

Нямала гучала гісторый
Пра даўнія сечы, плямёны,
Ды выберу ў летнім прасторы
На кветчыне пчол перазвоны.

Мной чута, як стогне дуброва,
Каўтаючы ранішні вецер,
Ды вы мне паверце на слова,
Мне вецер — мілейшы на свеце.

Аб лані мне ведама тое:
Ў загоне ёй волі не мець, —
Аб сэрцы стамлёным, якое
Прывеціла сумную смерць.

* * *

Ненавіджу хлуслівы горад
З вечным шумам, самотай дрэў,
Я люблю узыходзіць на горы,
Слухаць лаўра адвечны спеў.

Я жадаю зрадніцца лёсам
З беднякамі маёй зямлі,
Мне рачулкі дасветнай плёсы
Морскай шыры мілей былі.

Ну а золата мне не трэба,
Багацей з ім марнуе дзень,

Мне — і лапік блакітны неба,
Мне — і сонца жывы прамень.

Хай жа золата льецца і срэбра,
Хай у горане ўсё гарыць,
Мне ж мілей, як у сінь паднеб’я
Белы голуб ляціць.

Шукае епіскап іспанскі
Калоны для алтара,
Ў маім жа храме гіганцкім
Алтар — агнявая зара.

У ім — дываны травяныя,
Сцены з гонкіх ствалоў,
І промні ляцяць залатыя
З блакітных яго купалоў.

І служка глядзіць з бажніцы,
Узносіць малітвы дары,
Імчыцца ў сваёй калясніцы
У час узыходу зары.

Сасновая шышка — каляска,
Дзве птушкі, як коні, ляцяць,
І ветру парыўнага ласка,
Бярозы бяростай зіхцяць.

Пад бокам — скала крутая,
Забыўся салодкім сном,
Кранула пчала залатая
Мне вусны лёгкім крылом.

Лістота агнём бліскоча —
Ружовага ранку ўздых,
І свет нарадзіцца хоча
Наноў у грудзях маіх.

Ражок пастушыны рана
Спявае за бліжняй гарой.
І сонца, паўстаўшы з туману,
Рух доўжыць адвечны свой.

Няхай жа епіскап іспанскі,
Стары, што усё спасціг,
Ў мой сонечны храм гіганцкі
Уступіць хаця б на міг!

* * *

Пабачыш вал бурлівы дзённы —
Ты бачыш верш мой; ён гарой
Ўстае пад небам; ды парой
Ён толькі веер лёгкі, сонны.

Мой верш падобны на кінжал,
Чыё вастрэчае лязо.
Мой верш — у тысячу разоў
Магутней, як імклівы шквал.

Ён ззяе зелянінай кроны
І зыркім вогненным пламеннем.
Мой верш параненым аленем
Між гор шукае абароны.

Мой верш — спатоля для адвагі,
Іскрыцца знанай прастатой,
З радні ён цвёрдай сталі той,
З якой куе адвага шпагі.

* * *

Я памерці хачу гэтак проста,
Як трава памірае ў палях,
Будуць зоркі гарэць над пагостам,
Пахавальняю стане зямля.

Хай жа здрайцаў хавае прырода
Пад каменны маркотлівы звод.
Быў сумленным, і мне ўзнагарода,
Каб памерці вачамі на ўсход.

* * *

Сніліся мне з мармуру палаты.
Там, маўкліва стоячы, спачылі
Статуі каменныя герояў
І душу я запаліў, як факел.
Ноччу размаўляў я з імі, ноччу.
Бліз каменнага праходзіў строю,
Цалаваў каменныя іх рукі,
Ўздрыгвалі каменныя іх вусны,
Стыглі іх каменныя бароды,
Камень-вочы зорылі адкрыта,
Пралівалі горка слёз каменне, —
І каменныя трымалі пальцы

З каменю часаныя мячы.
Моўчкі цалаваў я рукі статуй.
Ноччу размаўляў я з імі, ноччу.
Бліз каменнага праходзіў строю
І абняў з прытоеным рыданнем
Статую героя — стылы мармур.
«Адкажы мне, слаўны вой каменны,
Чуў не раз, што п’юць тваё нашчадкі
З келіхаў атручаных чужачых
Не віно, а толькі кроў сваю.
Што яны сваю забылі мову,
Размаўляюць скрозь на мове панства,
Спажываюць горкі хлеб бясслаўя,
Сеўшы шчыльна за ганебны стол.
Ў балбатні губляюць непатрэбнай
Свой агонь астатні. О, скажы мне,
Ты, вой сонны, вечны, мармур белы,
Можа, ўжо тваё сканала племя?!»
Ды герой, якога так абняў я,
На зямлю мяне зваліў ударам
Грознага кап’я, і мне на горла
Наступіў, адкрытыя далоні
Бліснулі, як сонца. Грозным гулам
Камяні азваліся; да ножнаў
Зноў прыпалі рукі, спешна ў наступ
Рушылі каменныя героі.

***Пераклад з іспанскай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

**Дзмітрый АЎЧАРОЎ**

# ВАВІЛОНСКІ СЛЕД
## *(актуалізацыя іудзейска-хрысціянскай традыцыі ў мастацкай прозе малых форм)*

Мастацкае пераасэнсаванне біблейскіх вобразаў і падзей — адзін з найбольш цікавых і істотных накірункаў у развіцці сусветнай літаратуры XX — пач. XXI ст. Такія знакамітыя пісьменнікі, як Т. Ман, Х.-Л. Борхес, Л. Андрэеў, М. Булгакаў, К. Льюіс, У. Караткевіч, праз архетыповыя вобразы Святога Пісання імкнуліся адлюстраваць сваё разуменне свету, эмацыянальнае, духоўнае, інтэлектуальнае жыццё асобы, ролю чалавека ці групы людзей у падзеях лакальнага, нацыянальнага ці планетарнага маштабу.

Гэты артыкул прысвечаны двум літаратурным творам, у якіх сюжэт, сістэма персанажаў, марфалогія мастацкай прасторы, падбор лексічных сродкаў вызначаюцца адсылкамі да першага раздзела Біблії — Старога Запавету. Паводле аўтарытэтнага біблеїстa Эрыха Цэнгера, тэксты, што складаюць яго, узніклі ў перыяд з XIII па I стст. да н. э., таму, нягледзячы на фармальнае аб'яднанне, адрозніваюцца функцыянальнымі, жанравымі, стылістычнымі асаблівасцямі. Адпаведна, і літаратурна-мастацкія творы, у якіх на ўзроўні інтэртэксту дамінуе Стары Запавет, маюць шэраг агульных і індывідуальных тыпалагічных прымет.

У якасці фактычнага матэрыялу намі абраны апавяданні «Цар»[1] Леаніда Андрэева і «Пыл Бабілонскі» сучаснай беларускай пісьменніцы Хрысціны Курчанковай. Зварот да мастацкай спадчыны Л. Андрэева абумоўлены тым, што ў яго творах біблейскія вобразы, падзеі, маральна-філасофская праблематыка адлюстраваліся найбольш поўна, займаюць адно з цэнтральных месцаў і ўвасобіліся ў розных жанрах (рамане «Сашка Жэгулёў», аповесці «Жыццё Васілія Фівейскага», драматычных творах «Анатэма», «Самсон у кайданах», апавяданнях «Елеазар», «Юда Іскарыёт» і інш.). Беларускі твор у гэтым сэнсе таксама паказальны: у ім рэалізаваны рэпрэзентатыўныя мадэлі ўзаемадзеяння рэлігійнага і мастацкага дыскурсаў.

У аснове апавядання «Цар» старазапаветная семантычная прастора. Вобраз галоўнага героя бярэ пачатак ад вобраза цара Навуходаносара з кнігі прарока Данііла. Навуходаносар, магутны ўладар, атрымлівае папярэджанне ад Бога. Сутнасць паслання ў тым, каб цар заўжды памятаў, што за высокім назірае вышэйшы, а над імі яшчэ вышэйшы, усякая ўлада ад Бога. Мінае час, цар забывае пра папярэджанне. «Як прайшло дванаццаць месяцаў, пахаджаючы па царскіх харомах у Вавілоне, цар сказаў: «Ці не гэта велічны Вавілон, які пабудаваў я домам царства моцай маёй магутнасці і на славу маёй велічы!»« (Дан. 4, 26—27). Бог

[1] Першапачаткова апавяданне называлася «З глыбіні вякоў». У лютым 1904 г. пад такой назвай яно было адпраўлена ў рэдакцыю сацыял-дэмакратычнага часопіса «Праўда». Аднак публікацыя апавядання не адбылася, паколькі Л. Андрэеў быў ім незадаволены. Перапіска Л. Андрэева з М. Горкім (сакавік — май 1904 г.) сведчыць пра тое, што Л. Андрэеў планаваў перапрацаваць апавяданне, аднак цалкам гэта так і не здзейсніў. У 1908 г. сатырычны штотыднёвік «Весна» публікуе пачатак апавядання «Цар» — скарочаны і зменены варыянт першых паўтара глаў апавядання «З глыбіні вякоў». Фармальна гэта публікацыя з'яўляецца выражэннем апошняй аўтарскай волі, таму ў дадзеным артыкуле мы будзем выкарыстоўваць загаловак «Цар»

карае Навуханосара, здзяйсняецца прароцтва, якое цар бачыў у сне: «Сэрца чалавечае адымецца ў яго і дасца яму сэрца звярынае, і сем часінаў пройдуць над ім» (Дан. 4, 13). Іншымі словамі, цар страціў розум, быў адлучаны ад людзей: «…Еў траву, як вол, і аброшвалася цела ягонае расою нябеснаю, так што валасы ў яго вырaслі як у льва, і пазногці яго — як у птушкі» (Дан. 4, 30).

Гэты эпізод з кнігі прарока Данііла з'яўляецца своеасаблівай крышталічнай рашоткай апавядання: біблейскі тэкст вызначае месца і час дзеяння, уплывае на падбор лексічных сродкаў і наратыўную структуру твора. У апавяданні «Пыл Бабілонскі» Х. Курчанковай выкарыстана іншая мадэль інтэртэкстуальнага ўзаемадзеяння са Святым Пісаннем.

Па-першае, сувязь з прэтэкстам умоўная і выяўляецца ў рэалізацыі сюжэтнабіяграфічнага патэнцыяла кнігі Быцця. Апавяданне «Пыл Бабілонскі» прысвечана дзяўчыне, бацькі якой пазнаёміліся на будоўлі Вавілонскай вежы, а пасля змяшэння моў пакінулі горад і рушылі «за вялікімі белымі птушкамі» на Паўночны Захад. На новым месцы ў «выгнанцаў» нарадзілася шмат дзяцей, але галоўная гераіня не можа паразумецца з імі, бы тыя не ведаюць дававілонскую мову. Яна сумуе па Вавілоне, пакутуе з-за таго, што не здольная адчуць хараство новага жыцця, якое віруе вакол яе бацькоў, братоў і сясцёр… Мінаюць гады, дзяўчына становіцца старой і назірае за тым, як унукі яе блізкіх забываюць пра радзіму, якую ніколі не бачылі.

Біблейская семантычная прастора прадстаўлена ў тэксце ўскосна: у выглядзе ўспамінаў і трызненняў пра «горад гарадоў», адсылках да Дрэва Жыцця, Каіна, Ноя, лесвіцы Якава і інш[1].

Па-другое, палемічныя адносіны грунтуюцца на супрацьстаўленні біблейскіх міфалагем (*Вавілонская вежа, змяшэнне моў, Адамава мова, лесвіца Якава*) і іх трансфармаваных мастацкіх аналагаў. Напрыклад, будаўніцтва Вавілонскай вежы[2] і змяшэнне моў канцэптуалізуюцца не як трагедыя, у выніку якой чалавецтва страціла еднасць, не як пакаранне за ганарлівасць, а як сакральная падзея, ад якой бярэ пачатак самастойная этна-культурная супольнасць — беларусы.

Спосабы актуалізацыі прэтэксту ў абодвух апавяданнях абумоўлены, па-першае, спецыфікай старазапаветнай семантычнай прасторы. Кнігі Святога Пісання, нягледзячы на прыналежнасць да хрысціянскага канона, могуць кардынальна адрозніваца па закладзенай у іх ідэалогіі. Напрыклад, імператыў усеагульнага даравання, дэклараваны ў Нагорнай пропаведзі, уступае ў супярэчнасць са старазапаветнай сістэмай каштоўнасцей[3], нацыянальная арыентацыя старазапаветнай канцэптуальнай карціны свету (у прыватнасці, ідэалагема *выбраны народ*) не адпавядае новазапаветнай звышнацыянальнай накіраванасці і г. д. Да таго ж фігура Хрыста — цэнтр усіх канфліктаў і сэнсаў у Новым Запавеце — у Старым Запавеце не з'яўляецца галоўнай фігурай, яе там няма. Адсюль немагчымаць хрысціянскай лінейнай канцэпцыі сусветнай гісторыі і, адпаведна, актуалізацыя больш архаічнай цыклічнай канцэпцыі.

Лейтматыў цыклічнасці сусветнай гісторыі, які пранізвае апавядальную тканіну «Цара» і «Пылу Бабілонскага», звязаны са старазапаветнай філасофіяй гісторыі, адлюстраванай у Эклезіясце: «Што было, тое і будзе; што рабілася, тое й рабіцьмецца, і нічога новага пад сонцам няма» (Экл. 1, 9). Абраная асаблівасць

---

[1] Напрыклад, «…Ён, сівы зубр, які так і ня змог забыцца на ласкавыя і шурпатыя ад мазалёў, загарэлыя рукі Ноя, — ён давёў мяне да першай празрыстай прыступкі»; «Аповед пра дрэва жыцьця мае сястрычкі ператкалі на казку пра залатую яблыньку. На белашчокай поўні мае браты бачылі дзявочы твар, а зусім не цень выгнанца Каіна» [5, с. 105].

[2] І сказалі яны: збудуем сабе горад і вежу, вышынёю да нябёсаў, і зробім сабе імя, перш чым рассеемся па ўлонні ўсёй зямлі (Быц., 11, 4).

[3] «Вы чулі, што сказана: «Вока за вока, і зуб за зуб». А Я кажу вам не працівіцца злому. Калі хто цябе ўдарыць па правай шчацэ тваёй, падстаў яму і другую» (Мц. 5, 38—39).

светапогляду набліжае апавядальніка да чытача і набывае формы прамых зваротаў («Тысячи лет прошло с тех пор, как это случилось, много сменилось царств и царей, и твой усталый ум равнодушно приемлет образ владыки мира, превратившегося в животное» [1, с. 119]); канцэптуальных метафар («Снег выпадзе зноўку. Ён паспрабуе завабіць у лёдавыя краты самоты не адну ганарлівую душу» [5, с. 107]) ці адсылак да моманту вымаўлення тэксту (цяперашні час з гледжання наратара): «…Над землею воцарился безумный бог. Но есть и сейчас места, где неспокойна земля…» [1, с. 118].

Па-другое, асаблівасцямі мастацкай канцэпцыі твораў. Так, у Л. Андрэева наратар адмаўляе сваю гісторыка-культурную прыналежнасць да таго, што адбываецца (погляд у далёкае мінулае далёкай краіны), у тэксце дамінуе апазіцыя «тут і зараз — там, тысячы гадоў таму». Напрыклад, калі апавядальнік кажа пра любімую жонку цара, падкрэсліваецца розніца ва ўспрыманні ўзросту чалавека ў старажытным Вавілоне і «тут і зараз»: «Так же молода она была, что у нас ты назвал бы ее девочкой, а там она была женщиной и царицей» [1, с. 116]. Такім чынам часавая аддаленасць з гледжання апавядальніка (дый гледжання чытача) спалучаецца з аддаленасцю, незразумеласцю культуры, носьбітам якой выступае галоўны герой апавядання: «Странное имя его (царя — Д. А.) звучит таинственно и чуждо, как имена отделенных звезд». І далей: «Гордое имя, чуждое имя, пусть останется оно добычею забвения: ведь и у имени есть душа и ей будет грустно и больно, когда глухо прозвучит оно на чуждой земле, среди чуждых людей, бледное, худое, истощенное тысячелетиями, обессиленное зловещей дальностью» [1, с. 111]. Наратар указвае на тое, што «зараз» (час аповеду) імя цара цяжка прачытаць.

Хрысціна Курчанкова, наадварот, уключае галоўную гераіню, ад імя якой вядзецца аповед, у сакральныя біблейскія падзеі: «Мае бацькі пазнаёміліся на будоўлі Бабілонскай вежы» [5, с. 98]. Аўтар, як сярэднявечны летапісец, бачыць пачатак гісторыі ў падзеях, апісанню якіх прысвечаны Стары Запавет, асвячае паходжанне беларускага народа аўтарытэтам сівой даўніны[1] і, акрамя таго, персаналізуе Святое Пісанне: «Пыл бабілонскі пахне язмінам, пахне суніцамі пыл бабілонскі, квеценню, глебаю, печаным яблыкам. Татам, зубром, ядлоўцам і попелам...» [5, с. 106—107].

Комплекс адсылак да прэтэксту прадстаўлены ў Л. Андрэева галоўным чынам у выглядзе алюзій на рэаліі пэўнай культуры ці пэўнай культурнай традыцыі, якая характэрная для цэлага рэгіёна, што ўключае розныя культуры. Наратар, які рэпрэзентуе жыццё галоўнага героя да ператварэння ў звера, кажа пра мнагажэнства цара[2], калі апісвае яго знешнасць — пра «округлые завитки черной бороды» (менавіта такія бароды ў скульптурных выяваў вавілонскіх цароў), калі апісвае знешні выгляд царадворцаў — пра тое, што «у всех продолговатые лица, похожие на их остроконечные стройные письмена черные бороды» (намёк на клінапіс, знакі якога складаюцца з клінавідных рысак). Наратар «спасылаецца» не толькі на рэаліі часоў росквіту вавілонскага царства, але і на нядаўнія (з гледжання Л. Андрэева) падзеі: у другой пал. XIX — пач. XX ст. археолагі знайшлі рэшткі старажытнага Вавілона (пар. у Л. Андрэева: «Большой и красивый был город — а теперь, когда кому-нибудь из ученых удается доказать, что он существовал, все радуются и говорят, как сильна наука» [1, с. 113]). Адзінства «спасылак» на дамінуючы прэтэкст забяспечваецца ўказаннем на месца дзеяння: «И тишиной грядущей ночи дышало оно (заходящее солнце. — Д. А.), и тихими снами реяли над Вавилоном последние звуки блаженно умирающего дня» [1, с. 127].

---

[1] «Чужая казала на пацеркі «бурштын». Дала маім птушкам імя «буслы» (і гэтым пераманіла іх). Чужая навучыла майго брата сваёй мове» [5, с. 104].

[2] Палігамія характэрная не толькі для блізкаўсходніх культур, таму толькі ў спалучэнні з іншымі «спасылкамі» можна вызначыць дамінуючы прэтэкст апавядання.

Іншая інтэртэкстуальная сітуацыя складаецца ў творы Х. Курчанковай, якая, у адрозненне ад Л. Андрэева, ужо ў назве апавядання ўказвае на час і месца дзеяння. З гэтай прычыны старазапаветная семантычная прастора з большага ствараецца з дапамогай прамых адсылак да прэтэксту. Да такіх адсылак належаць: прэцэдэнтныя асабістыя імёны (Ной, Каін), біблейскія тапонімы (Вавілон), элементы фабульнай структуры Бібліі (будаўніцтва Вавілонскай вежы, змяшэнне моў) і факты з біяграфіі біблейскіх вобразаў (да падзей у Вавілоне людзі размаўлялі на мове Адама). Як і «Цар», «Пыл Бабілонскі» з'яўляецца рэалізацыяй сюжэтнага патэнцыялу аднаго з эпізодаў Святога Пісання. Аднак ператварэнне цара і разбурэнне Вавілонскай вежы фактычна вычэрпваюць фабульную структуру прэтэксту.

Трансфармацыя канона ў межах мастацкага твора часцей за ўсё прыводзіць да «прасторавай» інверсіі: тое, што знаходзілася ў цэнтры, змяшчаецца на перыферыю. У апавяданні «Цар» вобраз адзінага Бога цалкам замяшчаецца вобразам вялікага цара — «лучшего из людей», увасабленнем бога на зямлі[1]. Аднак гэта не прыводзіць да поўнай дэканструкцыі старазапаветнай семантычнай прасторы, шматлікія элементы якой асіміляваныя ў мастацкай прасторы апавядання:

● галоўны герой сцвярджае ідэал старазапаветнай этыкі[2]: «Я убил, я разрушил, я дал ужас человека, ставшего скотом. Заплатите за смерть смертью, за ужас ужасом, и это будет справедливо» [1, с. 124];

● вобраз пустыні, якая захоўвае памяць пра мінулае: у Л. Андрэева — памяць пра вялікага цара Навухаданосара, у Старым Запавеце — памяць пра 40-гадовы шлях яўрэйскага народа ў зямлю абяцаную (пар. вобраз пустыні ў хрысціянстве — месца перамогі Хрыста над Сатаной);

● у апавяданні захоўваюцца сямідзённыя «цыклы стварэння»: сем дзён цар маўчыць, падаўляючы ў сабе светлую душу, сем дзён знаходзіцца ў іпастасі звера. У кнізе прарока Данііла пакаранне Навухаданосара павінна доўжыцца «сем часінаў»;

● моўныя асаблівасці Старога Запавету: актыўна выкарыстоўваюцца адваротны парадак слоў (*царство свое; дружбу свою и т. д.)*, устарэлая (*лик, очи, уста, чело*) і высокая (*владыка*) лексіка; запазычваюцца старазапаветныя ўстойлівыя канструкцыі (*видения головы моей* — пра сон; *небесный престол* — пра неба).

Калі ў апавяданні «Цар» Навухаданосар замяшчае ўсіх багоў, у мастацкім свеце «Пылу Бабілонскага» Бог прысутнічае імпліцытна: матывы лесвіцы Якава, анёлаў, парушанай Вавілонскай вежы, змяшэння моў указваюць на тое, што нябёсы кожнае імгненне сочаць за галоўнай гераіняй, умешваюцца ў яе лёс, але робяць гэта нябачна. «Нехта чакае мяне там, дзе бляск нябёсаў» [5, с. 107].

Як адзначалася вышэй, ганарыстасць прыводзіць біблейскага цара да вар'яцтва. Гэта пакаранне-павучанне. Валюнтарысцкі пачатак, які дамінуе ў андрэеўскім Навухаданосары, падштурхоўвае яго да добраахвотнага падзення. «Жажда испытания равенством (животностью) и «наказания» за исключительность, гордыню, одинокое избранничество, исходит от него самого — это его путь познания себя и мира без бога, своими силами, своим разумом» [2, с. 102]. «Цар звар'яцеў», — будуць казаць пракажоныя ў апавяданні, аднак андрэеўскі цар у адрозненне ад старазапаветнага не быў вар'ятам.

Усведамляючы абмежаванасць свайго вопыту, адчуваючы мяжу ўнутранай свабоды, Навухаданосар — ідэальны чалавек — паўстае супраць таго, што сціскае яго волю. Ён выракаецца ад сваёй светлай душы, ад боскага пачатку ў сабе

---

[1] У гэтым крыецца палемічнасць андэеўскага твора: у Старым Запавеце выявы Бога і тварнага сусвету былі забаронены (Вых., 20, 4).

[2] Пар.: «Хто зробіць шкодзіну на целе блізкага свайго, таму трэба зрабіць тое самае, што ён зрабіў: пераломам за пераломам, вока за вока, зуб за зуб; як ён зрабіў шкодзіну на целе чалавека, так і яму трэба зрабіць» (Лев. 24, 19—20).

дзеля вызвалення ад любых ланцугоў. Паказальна, што ў кнізе прарока Данііла ўнутраная свабода канцэптуалізуецца менавіта праз сцвярджэнне боскага пачатку ў сабе, дакладней — у свабодзе веравызнання.

З гэтага моманту ў семантычнай прасторы апавядання прасочваецца выразная семантычная апазіцыя *звер — быдла*. Гэта звязана з дзвюма рознымі іпастасямі жывёльнага пачатку ў душы цара. Звер канцэптуалізуецца як драпежнік, бязлітасны і горды, ахоплены прагай да свабоды. «Звярынае сэрца» змяняе знешні выгляд галоўнага героя: сківіца, што выдаецца, вочы, што звузіліся, белыя крэпкія зубы, «кошачьи изгибы плеч, жуткая ласковость и мягкость движений» — цар-звер небяспечны, яго баяцца не толькі царадворцы (яны баяліся яго і да ператварэння), але нават сабакі. Аналіз люксонімаў пацвярджае супрацьстаўленне боскага і звярынага ў вобразе цара. «Ясный ум», «светлые желания и чувства», «ясная мудрость, светлый разум» саступаюць месца «сумрачному образу» цара, вочы якога «сверкают свирепостью», «ночью светятся и гаснут», «вспыхивают в темноте», «горят огнем».

Быдла канцэптуалізуецца ў апавяданні як сабака і траваедная жывёла. У «польнага звера» ператвараецца Навухаданосар у кнізе прарока Данііла; у Л. Андрэева цар, які апусціўся да ўзроўню быдла, поўзае на карачках, чухаецца і павісквае «в ожидании ласки или удара», ліжа апушчаныя рукі, мыкае і качаецца па падлозе. Паказальна, што ў старазапаветнай семантычнай прасторы сабака — нячыстая жывёла[1]. Параўнанне з сабакам падкрэслівае ступень маральнага падзення галоўнага героя.

У творы Х. Курчанковай аповед будуецца вакол семантычнай апазіцыі *Бабілонская вежа — вежа адзіноты*. Першая вежа звязана з часам, калі ўсе людзі размаўлялі на мове Адама, сімвалізуе «залатое стагоддзе» галоўнай гераіні, куды яна імкнецца ўсім сэрцам: «І разам з жыццём я прыдбала салодкую тугу па Бабілоне. Гэты сум не выказаць вашымі словамі. Толькі маёй, толькі маёй мовай. Каму распавесці пра маю журбу?..» [5, с. 99] Другая вежа атаясамляецца са светапоглядным бар'ерам, што паўстае паміж монатэістычнай свядомасцю наратара і політэістычнай, міфапаэтычнай свядомасцю яе сваякоў, якія нарадзіліся на беларускай зямлі і пакланяюцца дубу, быццам ён — Вавілонская вежа, хто, нібыта паганскія багі і героі, вынаходжваюць рамёствы і гаспадарчыя прадметы, хто абагаўляе зубра і ўспрымае дрэва жыцця як залатую яблыньку. «Я спрабавала з імі паразумецца. Некалькі вёснаў я даганяла ў лесе майго першага браціка <…> Колькі летаў я дапамагала сваёй першай сястрычцы выкладаць з каменьчыкаў колы і крыжы (яна называла іх «КА», а я ведала, што калі-небудзь пра іх скажуць «капішча»). Паўтузіна восеняў я намагалася паўтарыць за маім другім братам зьвілістыя мелодыі, якія ён высвістваў <…> Я амаль дагнала яго, але... Але выпаў снег» [5, с. 103—104]. Галоўная гераіня адначасова належыць мінуламу і сучаснаму, і ў гэтым — галоўная трагедыя яе лёсу.

Супярэчнасці, ад якіх пакутуе дзяўчына з Вавілона, вынікаюць з дуалістычных уяўленняў пра чалавечую душу і звязаны з тэмай маральнага выбару. Х. Курчанкова, як і Л. Андрэеў, «прымушае» сваіх герояў ісці насуперак Боскай волі. У гэтых альтэрнатыўных сусветах людзі пакідаюць свае ганарлівыя памкненні, але не адчуваюць, што былі пакараны і павінны заслужыць дараванне. Парадаксальнасць крыецца ў тым, што і Навухаданосар, і сям'я з «Пылу Бабілонскага» быццам бы атрымліваюць анталагічную, гістарычную перамогу: знаходзяць но-

[1] Пар.: Ср.: «А сёння смяюцца з мяне і малодшыя за мяне гадамі, тыя, чыіх бацькоў я не згадзіўся б пасадзіць разам з сабакамі статкаў маіх» (Ёв. 30, 1); «Ты, Госпадзе, Божа сілы, Божа Ізраілеў, паўстань, каб наведаць усе народы, не шкадуй нікога з бязбожных беззаконнікаў: увечары вяртаюцца яны, як сабакі скуголяць, і вакол горада ходзяць: вось, яны вырыгаюць нагану сваім языком; у іхніх вуснах — мечы: "бо", думаюць, "хто чуе?"» (Пс. 58, 6—8).

вую радзіму на беларускіх землях, як самотная дзяўчына і яе бацькі; здзяйсняюць духоўны прарыў, як андрэеўскі цар. Але перамога не адчуваецца. Вежа адзіноты, дзе захоўваліся ўспаміны пра радзіму, так і застаецца зачыненай, а цар зноў страчвае спакой і глядзіць па начах на неба.

## Літаратура


1. Андреев Л. Н. Из глубины веков / Л. Н. Андреев // Творчество Леонида Андреева: исследования и материалы / Курский гос. пед. ин-т; редкол.: Г. Б. Курляндская (отв. ред.) [и др.]. — Курск: КГПИ, 1983. — С. 111—128.

2. Афонин Л. Н. Из глубины веков — Царь. Вступительная статья / Л. Н. Афонин, Л. А. Иезуитова // Творчество Леонида Андреева: исследования и материалы / Курский гос. пед. ин-т; редкол.: Г. Б. Курляндская (отв. ред.) [и др.]. — Курск: КГПИ, 1983. — С. 99—110.

3. Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / Пер. В. Сёмуха. — Duncanville (USA): World Wide Printing, 2002. — 1534 с.

4. Введение в Ветхий Завет / под ред. Э. Ценгера. — М., 2008. — 816 с.

5. Курчанкова Х. Пыл Бабілонскі / Х. Курчанкова // Дзеяслоў. — 2003. — № 1. — С. 98—107.


Артыкул паступіў у рэдакцыю 4 сакавіка 2013 года.

## Рэзюмэ

**Дзмітрый Аўчароў**

### Вавілонскі след
***(актуалізацыя іўдзейска-хрысціянскай традыцыі ў мастацкай прозе малых форм)***

У артыкуле даследуюцца два літаратурныя творы, у якіх на ўзроўні інтэртэксту дамінуе Ветхі Запавет. Раскрываюцца рэпрэзентатыўныя мадэлі ўзаемадзеяння рэлігійнага і маральнага дыскурсаў. Апісаны спосабы актуалізацыі прэтэксту, трансфармацыя ветхазапаветна-сімантычнай прасторы і спецыфіка ўвасаблення элементаў біблейскай паэтыкі ў рамках мастацкага твора.

### Babylon Trace

***(Actualization of Judeo-Christian Tradition in Small Form Fiction)***

The article investigates two literary works with the Old Testament as adominating intertext, discloses representative models of interaction between religious and artistic discourses, describes the ways of pre-text actualization, the transformation of the Old Testament semantic space and the specific embodiment of biblical poetics in fiction.

# АЛЕСЬ САВІЦКІ: «ТОЛЬКІ МУЖНЫ ДАСЯГАЕ МЭТЫ»*

## Храм, які завецца кнігай

**— Вы прыйшлі ў літаратуру, калі ў ёй яшчэ працавалі жывыя класікі — Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка… І роля мастацкага слова ў жыцці грамадства была надзвычай высокая. Ці не здаецца вам, што цяпер гэта роля прыкметна знізілася?**

— Не здаецца. Беларускае мастацкае слова і сёння мае важкія здабыткі, якім можа пазайздросціць любая краіна, любая культура. Ніколі не згасіцца слова праўды пра веліч народа, пра яго лёс.

Мудрыя людзі шмат стагоддзяў таму ставілі пытанні, над якімі і да гэтага часу б'юцца лепшыя розумы чалавецтва.

Пускай ты прожил жизнь без тяжких мук, — что дальше?
Пускай твой жизненный замкнулся круг, — что дальше?
Пускай, блаженствуя, ты проживешь сто лет
И сотню лет еще, — скажи, мой друг, что дальше?

Я бяру на сябе смеласць сказаць, што беларускае мастацкае слова адказала на гэтае пытанне: застаецца тое, што ты напішаш, што ты пакінеш.

У душы нашага сучасніка пытанняў сёння не меней, чым было ў часы Дастаеўскага. І наш сучаснік таксама сіліцца знайсці духоўнае апірышча ў літаратуры, бо яе функцыі не змяніліся: не ад чалавека, а да чалавека. Менавіта яно, мастацкае слова, пакідае наступным пакаленням энергетычнае аблічча эпохі, сканцэнтраваную прыгажосць і веліч чалавечага духу — бессмяротны матэрыял для развагі і роздуму.

Цывілізацыі знікалі з аблічча зямлі не таму, што ў іх, тых цывілізацыях, не было мудрых галоў, якія разумелі б, як адчыніць дзверы ў сонечны дзень сваёй краіны. Былі і тады такія людзі!

Цывілізацыі ператвараліся ў пыл стагоддзяў не таму, што там не было мужных ваяроў, якія лічылі лёс роднай зямлі вышэйшым за свой уласны і ахвяравалі сваім жыццём дзеля будучыні сваёй Бацькаўшчыны. Былі такія ваяры!

Цывілізацыі знікалі толькі тады, калі новыя пакаленні не прымалі, не бачылі, не чулі звону сілавога поля духоўнасці свайго народа, сваёй нацыі, калі падточваўся інтэлектуальны падмурак нацыянальнага дома. А калі падмурка няма — які дом будзе стаяць? Ён рухне.

Мы, пісьменнікі сённяшняй Беларусі, як можам, у сілу свайго таленту, у сілу сваіх ведаў імкнёмся дапамагаць свайму народу ў яго актыўнай, стваральнай працы. Я глыбока перакананы, што пройдуць гады і будучыя пакаленні захочуць

---

* Працяг. Пачатак у № 5, 2013 г.

зразумець: а што ж гэта быў за час? Якія людзі жылі тады? У што яны верылі, чаго яны хацелі, у чым памыляліся? Што яны зрабілі для таго, каб устаяць? Адказ на ўсе гэтыя пытанні яны будуць шукаць у мастацкім слове.

Ніхто лепей пра мужнасць, пра самаахвярнасць савецкага чалавека не напісаў, чым Пімен Панчанка:

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту…
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

Сустракаючыся з маладымі чытачамі ў школах, каледжах, універсітэтах, я часта ім гавару: калі ў вашым жыцці здарыцца нешта кепскае, цяжкае — ідзіце ў сквер, што побач з Купалаўскім тэатрам, пастойце ля помніка падпольшчыкам, якіх павесілі фашысты, — і вам сённяшнія беды здадуцца дробязнымі і нікчэмнымі, вы адчуеце веліч чалавечага духу, які заўсёды вёў і вядзе нас па жыццёвай дарозе.

**— Алесь Ануфрыевіч, не палічыце за танны камплімент, але веліч гэтага духу яскрава ўвасоблена і на старонках многіх вашых раманаў. Скажыце, калі ласка, якія ў вашых кнігах суадносіны прыдуманага і рэальнага?**

— Найбольш прыбліжаны да рэальнасці мой раман «Обаль». Там не прыдумана нічога. Там усе прозвішчы рэальныя. Там усе падзеі абсалютна праўдзівыя. Можа, таму ён сёння так і хвалюе чытачоў. Нядаўна з Міколам Мятліцкім мы праводзілі ў Доме літаратара ўрок мужнасці. Прыйшлі навучэнцы мінскіх школ і гімназій. Як яны эмацыянальна ўспрымалі гераічнае жыццё мужнай падпольшчыцы Зінаіды Партновай!

Рэальныя падзеі, рэальныя героі пакладзены ў аснову і маёй ваеннай трылогіі. Хаця там ужо дзеля ўзмацнення псіхалагічнага ўздзеяння на чытача, дзеля больш выразнага, яркага ўвасаблення мастацкай праўды сёе-тое і прыдумана.

Тое ж самае я магу сказаць пра аповесць «Кедры глядзяць на мора». Шафёр Пятро Каваль сапраўды працаваў на Брацкай ГЭС, і я цэлы месяц быў у яго змешчыкам. І падзеі там усе непрыдуманыя. Мне заставалася толькі выстраіць іх у пэўны сюжэт.

Сіла беларускай мастацкай прозы, мне думаецца, менавіта ў гэтай заглыбленасці ў рэальнае жыццё. У гэтым — адметнасць і самабытнасць нашай літаратуры.

**— Уся бяда толькі ў тым, што цікавасць да мастацкай літаратуры ў грамадстве падае, адбываецца дэвальвацыя духоўных і маральных каштоўнасцей. Ці, можа, я тут згушчаю фарбы?**

— Па праўдзе кажучы, мяне гэтыя працэсы таксама трывожаць. Я вось гляджу: апошнім часам мы шмат набудавалі храмаў, людзі зноў пацягнуліся да Боскага слова, да малітвы. З аднаго боку, гэта добра. А з другога, мы забываем, што ёсць і іншы храм, які завецца Кнігай. І чалавек павінен уваходзіць і ў гэты храм, схіліўшы галаву — над старонкай, над радком, над словам.

Мне думаецца, што новыя пакаленні не разумеюць таго, што гэты храм валодае магутнай, магічнай, невытлумачальнай сілай уздзеяння, хоча таго чалавек ці не. Бо тое, што ён убачыў у гэтым храме, што ён спасціг, што яму адкрылася — часцінка ўсяго гэтага застанецца ў ягонай душы. Вось гэта і ёсць тое духоўнае багацце, тая святая крыніца, якая жывіць, натхняе, фарміруе чалавечае сэрца, яго розум.

На вялікі жаль, сённяшняму маладому пакаленню праз розныя «галасы» імкнуцца прывіваць іншыя каштоўнасці. Той дэмантаж духоўнасці, які пачаўся з распадам Савецкага Саюза, ён жа працягваецца. Ён толькі набывае езуіцка-хітрыя формы, якія знешне здаюцца бяскрыўднымі, а па сутнасці развальваюць падмурак асобы.



*Т. Бондар, А. Савіцкі, В. Распуцін, І. Пташнікаў, У. Крупін, У. Паўлаў. 2005 г.*

Але я думаю, што кіраўніцтва рэспублікі выдатна ўсё разумее. У гэтым мяне пераконваюць словы Аляксандра Лукашэнкі, якія ён сказаў на нядаўняй сустрэчы з пісьменнікамі: «Кніга — гэта ікона. Я баюся, што мы страцім кнігу. Страціўшы кнігу, мы страцім краіну, страцім нацыю».

**— Адзін час наша крытыка, асабліва маскоўская, настойліва рэкамендавала пісьменнікам узнімацца на новы ўзровень праўды, а ў творах пра вайну пераходзіць ад маштабных палотнаў да акопнай праўды. Што вы можаце сказаць на гэты конт?**

— Я павінен сказаць, што праўда вайны — яна была і застаецца адна, бязлітасная і суровая: альбо заб'еш ворага ты, альбо ён заб'е цябе. Вось і ўсё. А якая другая праўда можа быць?

Іншая справа, як паводзіць сябе чалавек ва ўмовах гэтай праўды — вылузваецца з яе, шукае нейкага паратунку ці мужна паўстае ёй насустрач. Усё гэта залежыць ад характару чалавека, ад яго глыбіннай сутнасці. І вартасць лепшых твораў пра вайну менавіта ў адлюстраванні гэтай вось праўды.

Колькі гадоў таму на навуковай канферэнцыі «Літаратура аб вайне і праблемы веку» пра ўсё гэта ішла вельмі сур'ёзная размова. Некаторыя крытыкі нам, пісьменнікам, не проста рэкамендавалі, а настойліва патрабавалі пераходзіць да «новага сувымярэння праўды».

У той час крылатыя «Тамагаўкі» яшчэ не ўзрывалі плошчы і вуліцы югаслаўскіх гарадоў і не спапялялі тысячагадовыя храмы, яшчэ нават у дурных снах ветэранам Вялікай Айчыннай вайны не з'яўляліся малюнкі кашчунных маршаў былых эсэсаўцаў па вуліцах гарадоў, якія яны, салдаты, вызвалялі ад гітлераўскіх забойцаў і шчодра палівалі сваёй крывёй. Цяпер жа, калі ўсё гэта зрабілася злавеснай явай, не адны толькі ўдзельнікі памянёнай канферэнцыі зразумелі: патрабаванні выходзіць на «новы ўзровень праўды» былі чарговай прыступкаю да «новага ўзроўню бездапаможнасці чалавека», маштабнай дэфармацыі ягонага мыслення, былі крупінкаю з магутнага арсеналу консцыентальнай зброі, што сёння выведзена на прамую наводку супраць волі народа жыць сваім розумам, супраць літаратуры, якая ставіць сабе за мэту выхаванне не разбуральніка, а стваральніка.

На старонках аднога выдання мне давялося прачытаць такое: «…у асноўным, за адзінкавымі выключэннямі, беларуская літаратура сёння нагадвае баксёра, які

пад націскам больш вопытнага суперніка патрапіў у куток паміж канатамі і там стаіць, чакаючы перадыху ці выратавальнага сігналу гонга». Горкі лёс літаратуры, калі яна і сапраўды апынецца на маленькім квадраціку за прыгожай загарадкай: кожны крок яе там — гібельны. Літаратура не нараджаецца па законах рынга, яна заўжды — узнёслая песня, што «сонцу, зорам, арлам толькі роўня» — і менавіта ёй належыць найгалоўнейшая роля ў стварэнні духоўнага апірышча нацыі. Насуперак злавеснаму эгацэнтрызму ўкормленага сябелюбства, важкім зернем засявае нашу інтэлектуальную ніву новае літаратурнае пакаленне, выкарыстоўваючы лепшыя традыцыі беларускага мастацкага слова.

**— Ці можа напісаць праўду аб вайне чалавек, які не ваяваў, нават не бачыў усяго таго ліхалецця, якое перажыло ваша пакаленне?**

— Леў Мікалаевіч не прымаў удзел у кампаніі 1812 года…

**— Але ж ён удзельнічаў у абароне Севастопаля.**

— Так, ён прайшоў і Каўказ, ён разумеў душу салдата і ведаў, як гэта душа адчувае сябе на вайне. У тым і сіла мастацкага слова, што яно можа пранікнуць у сутнасць той альбо іншай з’явы. І чалавек, які нават не быў на вайне, заглыбіўшыся ў архівы, у мемуары, што пакінулі ўдзельнікі вайны, сілай таленту, мастацкай інтуіцыі можа даць праўдзівую карціну падзей, адлюстраваць псіхалогію чалавека на вайне.

**— А цяпер я дазволю сабе працытаваць невялічкі ўрывак з вашага эсэ «Сонца на ўсіх адно». «Мне пашчасціла, — пішаце вы, — быць госцем у доме Марціна Оттмана. Былы салдат вермахта і наш ваеннапалонны, які бачыў і Волгу, і Нёман, Мінск, Смаленск і шмат іншых гарадоў Расіі і Беларусі, з асаблівай, урачыстай прасветленасцю на твары паказваў мне тое, што створана яго ўласнымі рукамі. Прыгожы, у тры паверхі гмах, два гаражы пры ім, безліч кветак пад вокнамі…**

**Глядзеў на ўсё гэта і згадваў свой дамок на Лысай гары, які будаваўся ў тыя гады, калі цокаль пад хатай альбо гараж пры ёй лічыліся крамолай… Калі існавала безліч іншых ідыёцкіх табу на рэчы, якія чалавеку патрэбны як паветра. Быломy салдату вермахта гэтыя табу нават і ў снах не акрэсліваліся. Вярнуўшыся з палону, ён шмат гадоў працаваў на заводзе, цяпер атрымлівае ладную пенсію, якую наш, нават самай высокай планкі пенсіянер можа толькі сасніць, жыве вольна і добра.**

**Я глядзеў на чужое жыццё, вывучаў, параўноўваў. І над усім брала верх неадчэпнае пытанне: чаму на беразе Рура ўсё гэтак, а на беразе Свіслачы ўсё іначай? Дакладнага, вычарпальнага адказу на гэтае пытанне ў мяне пакуль няма».**

**Гэтыя радкі былі напісаны пятнаццаць гадоў таму. А цяпер вы маглі б сфармуляваць адказ?**

— Відаць, дакладна не сфармулюю і цяпер. Ведаю толькі адно: такога жахлівага страхоцця, якое мы перажылі ў вайну, і такога галоднага, гаротнага існавання, якое мы выцерпелі ў пасляваенныя гады, немцы не бачылі і не перажылі. У той час, калі мы ў адзіночку, выбіваючыся з апошніх сіл, ашчаджаючы кожную капейку, адбудоўвалі разбураную дашчэнту гаспадарку, на аднаўленне Германіі былі кінуты шалёныя грошы многіх заходніх краін.

«Вы жывяце на зямлі багата, — сказаў мне аднойчы Марцін Оттман. — Я бачыў, калі працаваў у Вілейцы, якія ўвішныя рукі ў вашых працаўнікоў. Калі чалавек прыгожа і добра працуе, ён і жыць зможа добра і прыгожа. Толькі хай яму не замінаюць…»

Гэтым словам былога салдата чужой арміі, які палову стагоддзя таму ішоў па нашай зямлі са зброяй у руках, а нядаўна да поту працаваў у Вілейцы, дапамагаючы нам хутчэй выбавіцца з жахлівай чарнобыльскай бяды, я веру болей, чым фарысеям-палітыканам. Гэта яны здрадзілі сваёй Бацькаўшчыне, ператварылі наша вялікае поле сяброўскага жыцця і працы ў палігон катастрафічных

эксперыментаў і доследаў, а цяпер, як і раней, хітруюць, са скуры вылузваюцца, каб славянін не адчуў сваім плячом славянскае плячо і рукі сваіх сяброў, злавесна каркаюць, прадказваючы нам пагібель…

**— Больш за палову стагоддзя спатрэбілася на тое, каб былы салдат вермахта і былы беларускі партызан змаглі сесці за адзін стол і глядзець адзін аднаму ў вочы, у якіх няма нянавісці, варажнечы і злобы. Але што гэта значыць: забыць усё, што было? Дараваць? Так, просты салдат нібыта і не вінаваты — ён выконваў загад. Але ж многае з таго, што тварылася на нашай зямлі, тварылася і без загаду. Як такое забыць?**

— Ёсць формула: забыць — значыць здрадзіць. Я думаю, што гэта справядлівая формула. Забыць нельга, таму што гэта будзе здрада той крыві, якая была праліта. Але сёння, калі з часу ваеннага ліхалецця мінула ўжо амаль 70 гадоў, калі выраслі новыя пакаленні, якія вайны і ў вочы не бачылі, акцэнты ў народнай памяці крыху змяніліся. Так, мы добра памятаем (і ў гэтым нам памагае наша літаратура), што такое фашызм — жахлівая чума мінулага стагоддзя. Ды яна, гэтая чума, панесла сваю заслужаную кару. А тыя, хто нёс на нашу зямлю пакуты і смерць, даўно ўсвядомілі сваю віну, пакаяліся. Новыя пакаленні, ведаючы, як тое ўсё было, адчуваюць сваю адказнасць перад тым, што было і яшчэ большую адказнасць перад тым, што будзе.

Пачуццё помсты, нянавісці — не ў традыцыях народных. Але дараваць — не значыць забыць. Вось чаму глабалісцкі Левіяфан наносіць самы страшны ўдар па памяці людской — спрабуе вытравіць усё гераічнае, знішчыць мужнасць бацькоў і дзядоў, мужнасць роднай зямлі. Знішчыць не толькі памяць людскую, але і памяць зямлі, якая, на маю думку, вышэй за ўсё. І задача мастацкага слова — гаварыць пра гэта поўную і абсалютную праўду.

## І нічога ўзамен

**— Алесь Ануфрыевіч, ідучы на сустрэчу з вамі, я паспеў прачытаць ваш апошні раман «Пісьмо ў рай». Чытаў, не адрываючыся, увесь вечар і яшчэ прыхапіўшы паўночы. Уражанне ашаламляльнае. Такой адкрытасці, такой душэўнай разнасцежанасці, такога эмацыянальнага напружання я ўжо даўно не сустракаў у нашай літаратуры. Гэта, відаць, ваш самы аўтабіяграфічны раман. Усё, што вы расказалі пра бацьку, пра яго трагічны лёс, чыстая праўда?**

— Усё — абсалютная праўда. Але паколькі гэта ўсё ж такі раман, рэч мастацкая, то многія прозвішчы дзеючых асоб зменены, каб даць аўтару магчымасць крыху вальней аперыраваць жыццёвым матэрыялам.

**— А што вас падштурхнула да напісання такога безагляднага па сваёй шчырасці і адкрытасці твора?**

— Пакаянне. Скажу табе шчыра, на згоне свайго жыцця я ніяк не магу сабе дараваць тое, што некалі пісаў пісьмы Сталіну. Гэтым самым я ўскосна паўплываў на трагічны лёс бацькі. Але я тады не мог не пісаць — гэта была святая вера, што Сталін ва ўсім разбярэцца і вырашыць справу чэсна, справядліва. І калі я атрымаў адказ на сваё першае пісьмо не ад Сталіна, а ад нейкага ўпраўлення з забойчай высновай, што «достаточных оснований для пересмотра дела не найдено», мяне гэта так абурыла, што я сеў і напісаў другі ліст таварышу Сталіну. Як жа так, даводзіў я правадыру, пішуць, што дастатковых падстаў не знойдзена, дык чаму ж не шукаюць? Я веру свайму бацьку. Ён мужна і чэсна ваяваў, і не яго віна, а бяда, што ён быў паранены і трапіў у палон.

Праз некалькі тыдняў прыходзіць адказ, і зноў не ад Сталіна. Зноў з нейкай канцылярыі і ўсё з тым жа бяздушна-абыякавым аргументам «нет оснований».



*Сустрэча з вучнямі і настаўнікамі Полацкай дзяржаўнай гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны. 1 верасня 2010 г.*

І тады я напісаў трэці ліст, гнеўны, абвінаваўчы, патрабуючы, каб было праведзена самае стараннае расследаванне, а тыя чыноўнікі, якія дапускаюць такія адпіскі, былі пакараныя. Для большай вагі сваіх патрабаванняў я выклаў іх на рэдакцыйным бланку і паслаў у рэдакцыйным канверце (я тады працаваў у абласной газеце).

На гэты раз прыйшло пісьмо ад выхаваценя папраўчай калоніі, дзе адбываў свой тэрмін бацька. Нехта Філяеў паведамляў (цытую даслоўна), што «в ночь с 10 на 11 декабря, будучи бригадиром, Онуфрий Яковлевич повел бригаду на выгрузку леса с парахода; в 23.00 привезли ужин. Он стоял у самого борта, наклонившись вниз к стоявшей барже, командовал подноской. В это время прогревавший лебедку матрос включил движение и большой крюк-гак весом в пуд, качнувшись, ударил Онуфрия Яковлевича в спину. Как был нагнувшись, так и упал вниз с высоты 5-6 метров прямо на баржу. Падая, ударился виском об угол борта баржи и, не вскрикнув, оказался через 2-3 минуты мертв».

Прачытаўшы гэтыя радкі, мама скрушна сказала: «Яны забілі яго, сынок… Твае пісьмы іх напалохалі… Сябе ратуючы, яны татку пад абух і кінулі… Я ж казала табе, прасіла. Навошта табе тыя пісьмы былі? Навошта?!»

І вось усё сваё жыццё я жыву з адчуваннем горкай віны і не магу сабе дараваць, што я тады паступіў так неразумна: з-за сваёй сляпой веры ў Сталіна паспадзяваўся на яго мудрасць і справядлівасць, паверыў, што можна лбом прабіць жахлівую бюракратычную сцяну.

**— А як склаўся лёс маці, братоў, сястры Валі?**

— Мама пражыла не скажу каб дужа шчаслівы, але дастаткова доўгі век — крыху не дацягнула да дзевяностагоддзя. Пасля вайны да яе сваталіся многія, але яна не магла здрадзіць свайму «адзінаму Оніку», так і звекавала адна. Маме прысвечаны мой раман «Зямля не раскажа», гераіня якога, маючы на руках чацвярых дзяцей, вынесла ўвесь цяжар ваеннага ліхалецця.

Старэйшы брат Гена ў сорак чацвёртым быў мабілізаваны ў армію і ў тым жа годзе, будучы першым нумарам кулямётнага разліку, загінуў у баях у Памераніі. Малодшы брат Віктар, скончыўшы Ленінградскі ўніверсітэт, стаў геолагам і па размеркаванні паехаў на Сахалін. Прымаў удзел у адкрыцці вялікага радовішча нафты. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. На жаль, вельмі рана памёр — спынілася сэрца.




*А. Савіцкі, Н. Гальпяровіч, Л. Анцух, М. Пазнякоў, Я. Каршукоў.*

Сястра Валя з залатым медалём скончыла ў Полацку сярэднюю школу, а пасля — Ленінградскі ўніверсітэт і працавала настаўніцай у Латвіі. Замуж выйшла за свайго аднакласніка Якава Дворкіна — выпускніка Маскоўскага авіяцыйнага інстытута, і яны паехалі ў Новасібірск. Валя там, пакуль не выйшла на пенсію, выкладала ў школе рускую літаратуру, а Якаў працаваў у навукова-даследчым інстытуце авіяцыі. Кажу «працаваў», таму што ён таксама заўчасна памёр.

**— Як жа вас усіх параскідала…**

— Не дай бог! Бацька пахаваны недзе на востраве Пуцяцін — магілы яго я так і не знайшоў. Маці, пераехаўшы ў сталым узросце да дачкі ў Новасібірск, там жа памерла і там жа пахавана. На Сахаліне знайшоў свой апошні прытулак малодшы брат. А старэйшы, які пайшоў з жыцця самым маладым, спачывае ў братняй магіле на Нямеччыне.

**— Вы ж апынуліся ў Мінску…**

— Я пасля заканчэння Маскоўскага літаратурнага інстытута апынуўся ў Мінску. Сюды ж, за мною, прыехала і мая жонка Людміла — карэнная масквічка. Яна — дзіцячы хірург. Дарэчы, у Дзіцячым хірургічным цэнтры ў Мінску, дзе яна працавала, былі праведзены першыя ў Беларусі аперацыі на сэрцы.

**— Вашы сямейнікі таксама ўсе ў Мінску?**

— Не. Гэта ўжо, мусіць, нейкі лёс, таму што і мая сям’я таксама аказалася раскіданай. Адзіная наша дачка Наташа, скончыўшы радыётэхнічны, працавала тут. Выйшла замуж. І мы нават жылі разам, у гэтай кватэры. У яе нарадзіліся дачушка Алеся і сын Яўген, мае ўнукі. А гэтыя ўнукі ўжо маюць сваіх дзяцей — двое ў Алесі і адно ў Яўгена. Такім чынам, у мяне ўжо трое праўнукаў. Праўда, двое з іх жывуць у Амерыцы, у Сіетле. Алеся з мужам, калі Беларусь атрымала незалежнасць, паехалі туды працаваць па кантракце.

**— Значыць, вы выхавалі кадры для амерыканскай эканомікі?**

— Нічога, будуць падрываць гэту эканоміку знутры (*весела смяецца*). Я мару, каб мае праўнукі прыехалі на стагоддзе вызвалення Беларусі і прысутнічалі на ўрачыстасцях, якія будуць праводзіцца ля Кургана Бессмяроцця пад Полацкам, і каб у іх прысутнасцідасталі з зямлі капсулу з пасланнем да нашчадкаў, якую калісьці, у далёкім 1984 годзе, закопваў і іх прадзед-партызан, і прачыталі, што ім завяшчалі былыя народныя мсціўцы. Вось цікава, што яны скажуць…

**— Вы ўпамянулі пра лёс. Што, сапраўды ёсць нейкае наканаванне нябёсаў ці ўсё ж такі чалавек — гаспадар свайго лёсу?**

— Я раскажу адну пацешную і разам з тым паказальную гісторыю. Аднойчы з пісьменнікам Міколам Ваданосавым мы паехалі да яго на Бярэзіну, на рыбалку. Раніцай выйшлі на рэчку, закінулі спінінгі. І адразу ж нешта трапілася на блешню, але да берага я не дацягнуў — рыбіна сарвалася. У другі раз цягнуў здабычу метраў пяць — і зноў няўдача, сарвалася. Закінуў у трэці раз і па рыўку лескі адчуваю — рыбіна вялікая, моцная. Я падцягваю яе да берага, падцягваю, а напятая леска ажно звініць. І я, стары, закажанелы атэіст, нечакана для самога сябе ў нейкай роспачы, у рыбацкім азарце выгукнуў: «Госпадзі! Гэта ж будзе несправядліва, калі яна зноў сарвецца». Слухай, і я выцягнуў вось такога шчупака (*паказвае, шырока развёўшы рукі*). І вось што хочаш, тое і гавары пасля гэтага.

Альбо такі факт. Я нядаўна прачытаў, што ў каменным вугалі знайшлі металічную шасцярэньку, якой 400—450 мільёнаў гадоў. Якім чынам яна там апынулася? Хто яе зрабіў? А колькі такіх з'яў у прыродзе і навакольным асяроддзі, якія навука не можа вытлумачыць!

Што ўвогуле мы, зямляне, ведаем пра сваю планету? Ну вось я, палачанін, ведаю Еўфрасінню Полацкую. А што было за 200 гадоў да яе? За тысячу? Мы да гэтага часу не можам дакладна сказаць, як была пабудавана піраміда Хеопса. А таямніцы вострава Пасхі, цывілізацыі майя… Пакуль усё гэта недаступна чалавечаму розуму.

І таму, зыходзячы з гэтага, я думаю пра тое, што ёсць нешта ў свеце загадкавае, неспасцігальнае. Тое, што часам кіруе нашым лёсам.

**— І не толькі лёсам чалавека, але і цэлых краін. Хто мог думаць-гадаць, што не стане магутнейшай дзяржавы — Савецкага Саюза. Калі б пра гэта нехта сказаў яшчэ трыццаць гадоў таму, яго палічылі б вар'ятам. А вось жа развалiўся…**

— Э, не. Савецкі Саюз развалiўся не сам — яго развалілі. Развалілі аб'яднанымі намаганнямі як сваіх, унутраных, так і знешніх сіл. Аперацыя па знішчэнні СССР распрацоўвалася шматлікімі навукова-даследчымі ўстановамі і спецслужбамі Захаду на працягу многіх гадоў. Прадумана было літаральна ўсё — ад штучнага дэфіцыту, татальнай інфармацыйнай вайны да здрадніцтва чыноўнікаў самага высокага рангу. Якая армія можа выйграць бітву, калі начальнік штаба — здраднік? А Якаўлеў жа быў галоўным кіраўніком ідэалагічнага штаба, і пазней сам прызнаваўся, што развалiць Савецкі Саюз — была галоўная мэта яго жыцця.

Нашы ворагі папрацавалі актыўна і плённа. Па ўсіх напрамках. Але гэта не здымае віны з Камуністычнай партыі, якая ў самы напружаны, самы адказны час аказалася не баяздольнай, разгубленай, дазволіла «пятай калоне» тварыць свае задуманыя злачынствы.

Што ж, пасланне пана Далеса амерыканскаму кангрэсу ажыццёўлена цалкам, адзін к аднаму. Не буду цытаваць, яго ўсе добра ведаюць. Але адну думку я хачу агучыць. Цытую не даслоўна, па памяці: «И только немногие, очень немногие будут знать или будут догадываться о том, что происходит на самом деле. Но таких людей мы сумеем оболгать и превратить в отбросы общества». Гэта была дактрына, праграма дзеянняў па знішчэнні СССР, на што былі кінуты агромністыя фінансы і падключаны шматлікія навуковыя сілы.

**— Нашы апаненты задаюць сустрэчнае пытанне: а чаму ж Савецкі Саюз не здолеў разлажыць Амерыку?**

— Нічога, Амерыку чакае тое ж, што яны рыхтавалі для іншых. Зараз там пачаўся рух у многіх штатах за незалежнасць, спрабуюць увесці сваю нацыянальную валюту. І ў штаце Юта ўжо ўвялі такую валюту — залатыя і сярэбраныя манеты. А штат Вірджынія дамагаецца падобнага права. Дык вось я і думаю: калі гэта інфекцыя распаўсюдзіцца на ўсе 49 штатаў, мы тады пабачым, што рэальна будзе ўяўляць сабой долар — паперку і не болей.

**— Пакінем Амерыку амерыканцам. Нас куды больш хвалюе лёс уласнай краіны і лёс Расіі, з якой мы звязаны тысячамі непарыўных ніцяў.**

— У Расіі цяпер сітуацыя складанейшая. Песімісты прадказваюць ёй непазбежную гібель, аптымісты спадзяюцца на лепшае, бачаць у дзеяннях Пуціна надзею на адраджэнне краіны. Мне ж прыгадваюцца мудрыя радкі паэта:

Умом Россию не понять,
Аршином общим не измерить…
У ней особенная стать —
В Россию можно только верить…

Я праехаў па Сібіры з краю ў край, пабачыў яе неаглядныя прасторы, яе незлічоныя багацці, яе веліч і падумаў: гэта той патэнцыял народа, які, відаць, нікому адолець не пад сілу. Упэўнены: Расія выстаіць.

Разважаючы пра лёс роднай Беларусі, я схіляюся да думкі, што нам адным, без Расіі, выстаяць будзе ох як складана. Нас падзеляць, як дзялілі па Рыжскім дагаворы ў дваццатым годзе мінулага стагоддзя. Не сумняваюся, што падобныя планы ўжо складзены і толькі чакаюць свайго часу.

Наша выратаванне — у цеснай славянскай супольнасці, у саюзе Беларусі і Расіі. І пісьменнікі, дарэчы, гэта добра разумеюць. На нядаўнім «круглым стале», праведзеным у Доме літаратара, адзін з рускіх пісьменнікаў сказаў: мы прывыклі да формулы, што старэйшы брат памагае малодшаму. А цяпер прыйшоў час, калі малодшы павінен памагчы старэйшаму. Яшчэ раней вядомы рускі публіцыст Сяргей Кара-Мурза зазначыў, што беларусы, можа, глыбей, чым іншыя народы, усвядомілі глыбіню страшэннай прорвы, якая ўзнікла наперадзе перад чалавецтвам. І ў першую чаргу — перад Расіяй і Беларуссю. Мысленне беларусаў, як людзей, якія стаяць на зямлі, а не лунаюць у аблоках, падкрэсліў ён, аздараўляе нашу свядомасць.

Гэта да пытання наконт таго, каму больш патрэбен саюз — Расіі ці Беларусі? Як бачыце, ён патрэбен абодвум краінам. І Расіі не ў меншай ступені, чым нам.

## Верай і праўдай

**— «Мы вельмі сціпла, як бы нават просячы прабачэння, адстойвалі гонар і славу сваіх дзядоў і бацькоў». Так сказалі вы ў адным са сваіх твораў. Ці не гэтым болем, гэтым клопатам выклікана ваша гарачнасць, бескампраміснасць, жаданне кінуцца на амбразуру, не думаючы аб наступствах?**

— Я заўсёды ў такіх выпадках згадваю Уладзіміра Маякоўскага, палымянага трыбуна, і яго неўміручыя радкі:

Встать бы здесь гремящим скандалистом:
— Не позволю мямлить стих
и мять!
Оглушить бы их
трехпалым свистом
В бабушку
и в Бога,
душу, мать!

Калі я бачу сёння гэтую зграю адшчапенцаў, якія забылі пра кроў і беды свайго роднага краю, і тых паэтаў, што пішуць пасквілі пра свой народ, мне хочацца так вось, як Маякоўскі, аглушыць іх… Бо многія нашы беды ўзніклі з-за таго, што ў нас у свой час не хапіла мужнасці, не хапіла смеласці стаць на абарону заваёў сацыялізму. Што б ні гаварылі сёння пра Савецкую ўладу, але савецкая цывілізацыя ўнесла ў гісторыю планеты Зямля такія неацэнныя каштоўнасці, лепшых за якія чалавецтва пакуль не прыдумала. І наўрад ці прыдумае. І калі крушылі гэту

цывілізацыю, аплёўвалі гэтыя каштоўнасці, мы часцяком сарамліва стаялі ўбаку, адводзячы вочы. Замест таго, каб устаць «гремящим скандалистом» і сказаць: ды не, тое добрае, што было створана, нельга замазваць гразёю. Яго трэба берагчы, браць на духоўнае ўзбраенне. Але ў многіх жыло не лепшае пачуццё: не вытыркацца. Мы забываліся на спрадвечную ісціну: ніхто іншы за цябе не скажа і не зробіць, калі ты гэтага не скажаш і не зробіш сам.

Я ўспамінаю ваенны час, калі да атакі заставаліся лічаныя хвіліны, калі вось-вось прагучыць каманда «У атаку!» і рукі ўжо ўпіраліся ў бруствер акопа — і ты адчуваў, як зямля пад далонямі робіцца гарачай. Адчуваў сябе часцінкай магутнай, неадольнай сілы. І што б сёння ні вярнулі на камуністаў, але першым гучала гэта: «Камуністы і камсамольцы — уперад!» І з гэтым заклікам байцы падымаліся з акопаў.

Дык вось, каб у свой час прагучала такая ж мужная і смелая каманда «Камуністы і камсамольцы — уперад!», мы не далі б разваліць магутную Савецкую дзяржаву. Пры ўсіх яе недахопах. Кітайцы не дурні: яны ўзялі за аснову нашу сістэму і паставілі толькі новы «рухавік». І ўвесь свет цяпер дзівіцца кітайскім поспехам. Савецкаму кіраўніцтву такой мужнасці і такой мудрасці не хапіла. Не хапіла, можа, таму, што адна з найвялікшых заган ЦК, якому я, як камуніст, верыў глыбока і шчыра, заключалася ў тым, што ён часам за праўду не змагаўся, а караў.

На адным са сходаў у Нацыянальнай акадэміі навук да Аляксандра Лукашэнкі падышоў нехта з навукоўцаў і сказаў: «У жыцці бываюць такія складаныя сітуацыі, што часам не ведаеш, як паступіць, што сказаць, каб і сябра не пакрыўдзіць і самому не трапіць пад агонь крытыкі…» Аляксандр Рыгоравіч параіў яму проста: «Гаварыце праўду!»

Вось гэтага ўмення і жадання гаварыць праўду і не хапіла ў свой час Кампартыі Савецкага Саюза. Як і мужнасці адстойваць яе, гэтую святую праўду.

**— Алесь Ануфрыевіч, вы — патомны гараджанін. Але, ведаю, што пры першай мажлівасці любіце паехаць на прыроду, сустрэцца, пагаманіць з вясковымі жыхарамі, паслухаць іх думкі, далучыцца да іх клопатаў. Што вас радуе і што засмучае ў жыцці сённяшняй беларускай вёскі?**

— Што радуе?.. Многае. Найперш — тэхнічная аснашчанасць цяперашніх хлебаробаў і жывёлаводаў. Ты паглядзі, якія будуюцца фермы — палацы! Ёсць ужо комплексы, дзе ўсе аперацыі, у тым ліку і дойку кароў, выконваюць робаты. А якія трактары працуюць на нашых палях — з музыкай, з кандыцыянерам у кабіне! За адзін праход такі агрэгат адразу выроўнівае глебу, засявае яе, уносіць угнаенні і забараноўвае іх. Механізаванасць сельскай гаспадаркі поўная. Вёска мяняецца карэнным чынам. Ды, зрэшты, у большасці сваёй гэта ўжо і не вёскі, а прыгожыя, добраўпарадкаваныя гарадкі.

**— На жаль, я не магу да канца падзяліць вашага аптымістычнага пафасу. Бо побач з тым, пра што вы сказалі, ёсць і малюнкі іншага плана. Вёскі, якія выміраюць. Палова дамоў пустуюць, а ў другой палове жывуць адзінокія, нямоглыя бабулі. А калі і ёсць які дзясятак мужчын, то яны співаюцца, дэградзіруюць. Няма каму працаваць. Тых, хто любіць сваю зямлю, дбае пра яе будучыню, становіцца ўсё меней і меней.**

— Вось слухаю цябе і ўспамінаю верш, які напісаў адзін з нашых так званых паэтаў-асветнікаў:

Банка піва, цыгарэта, секс і мат…
Ад жыцця не патрабуе ён зашмат.
Так жыве і весяліцца з году ў год…
А імя ў яго такое — мой народ.

Да якога ж духоўнага падзення трэба дайсці, каб напісаць такія радкі, поўныя цынізму і пагарды да свайго народа. Канешне, многа чаго паганага, непатрэбнага можна ўбачыць у жыцці сённяшняй вёскі. І я з табой згодзен: можна і трэба гэтае

паганае крытыкаваць. Але крытыкаваць з болем і любоўю. А вось у вершы, які я прачытаў, няма ні таго, ні другога. Ёсць толькі інтэлігенцкі снабізм і высакамернасць.

Разумееш, усё тлумачыцца падыходам да з'явы, да факта. Адзін заўважае толькі лужыну і гразь, а другі бачыць у гэтай лужыне зоркі. Тое, што старыя, невялічкія, неўпарадкаваныя вёскі паміраюць, знікаюць з твару зямлі — гэта працэс натуральны і незваротны. Будучыня — за аграгарадкамі, за буйнымі, пасучаснаму тэхнічна аснашчанымі гаспадаркамі.

І калі я гляджу на маладых землябаў, якіх краіна штогод ушаноўвае на рэспубліканскіх «дажынках», на іх мужныя, прыгожыя, адухоўленыя твары, я прыгадваю вясну сорак пятага. Двое-трое жанчын упрагаліся ў плуг і, высільваючыся, цягнулі яго, а следам з сявенькай ішоў дзядок і ўручную засяваў поле. Якія ж тытанічныя намаганні трэба было прыкласці, каб ад таго, амаль першабытнага ладу, прыйсці да сённяшняй явы. І я думаю, што чалавецтва з кожным годам будзе ўсё больш імкнуцца да таго, каб як мага меней затрачваць фізічных сіл, здабываючы хлеб надзённы, а ствараючы так званыя выгоды цывілізацыі, плаціць за іх як мага меншую цану.

Іншая справа, што некаторыя вясковыя жыхары адрываюцца ад зямлі і, як ты кажаш, співаюцца, дэградзіруюць. Губляючы сувязь з зямлёю, чалавек губляе самога сябе. Чым тут можа дапамагчы пісьменнік? Толькі прапаведдзю аднаго: ты — гаспадар гэтай зямлі і павінен яе шанаваць і любіць, захоўваць тыя законы, па якіх яна жыве.

**— Алесь Ануфрыевіч, прапаноўваю змяніць тэму. Давайце пагаворым пра каханне. Тым больш, што ніводзін ваш твор не абышоўся без гэтага высокага і ўсёпераможнага пачуцця. А вопытныя крытыкі сцвярджаюць, што чалавек, які не спазнаў у сваім жыцці кахання, ніколі не напіша пра яго пераканаўча. Так што давайце расказвайце.**

— А што расказваць — пра ўсё напісана ў маіх кнігах.

**— У рамане «Пісьмо ў рай» вы згадваеце пра Жанну, дзяўчыну, якую да вайны кахалі…**

— Жанна…Маё першае, школьнае каханне. Якая прыгожая, якая чыстая была гэта дзяўчына. І як жорстка, бязлітасна лёс абышоўся з ёю. Бязлітасна… Падчас акупацыі яе маці, партызанскую сувязную, закатавалі фашысты. Жанна, каб даведацца, хто выдаў яе маці, пачала супрацоўнічаць з немцамі. І дазналася! Паспела імя здрадніка паведаміць партызанам і таго неўзабаве павесілі на слупе каля моста. Пасля гэтага і сама падалася ў партызаны, але ёй не паверылі: палічылі за шпіёнку. Хутчэй за ўсё яе чакаў расстрэл. Жанна ўцякла і трапіла ў блакаду, яе вывезлі ў Нямеччыну. Працавала на вялікім ваенным заводзе. Потым было вызваленне, праверка. Перад ёю быў пастаўлены выбар: альбо пятнаццаць гадоў зняволення, альбо супрацоўніцтва з адпаведнымі органамі. Яна падпісала ўсе неабходныя паперы і сумленна выконвала тое, што ёй загадвалі. Сумленна да таго часу, пакуль не загадалі сачыць і за мною, сачыць гэтак жа, як і за тымі, хто ў час акупацыі працаваў на фашыстаў.

Адкуль я ўсё гэта ведаю? Пасля вайны мы выпадкова сустрэліся з Жаннай у Полацку. І былое пачуццё ўспыхнула з новай сілай. Было дзівам: мы прайшлі праз гэткія жахі і пакуты вайны, а яно, нашае наіўнае школьнае каханне, засталося чыстым і незамутнёным. Бяссоннымі начамі, астываючы ад шалёнай плыні пяшчоты, ласкавага шэпту і пацалункаў, мы ўжо будавалі розныя захапляльныя планы свайго будучага сумеснага жыцця.

Усё скончылася трагічна. Дазнаўшыся пра нашу сувязь, дзядзька Васіль агаломшыў мяне страшным адкрыццём. «Выбранніца? — гнеўна крычаў ён на мяне. — Ты альбо ёлуп, альбо пудзіла гарохавае! Выбранніца! Нямецкая падсцілка яна, твая выбранніца!»

Вось пасля гэтага Жанна мне ўсё і расказала. Усю ноч яна вяла сваю горкую споведзь, сказаўшы напаследак: «Усё святое ў сваёй душы я разбурыла сама, раз-

бурыла ў той момант, калі дала згоду сачыць за табой. Мне здавалася, што я ратую цябе ад бяды, затуляю ад непрыемнасцей і гора. А гэта быў падман, была чорная здарада самой сабе, чорная здрада таму светламу, што яшчэ было ў душы… Я даўно збіралася табе ўсё расказаць. І не адважвалася, бо разумела: раскажу, выверну душу, і абарвецца нітачка, што звязвае мяне з жыццём. Цяпер парвалася тая нітачка, і нельга на нешта спадзявацца, і жыццё сваё берагчы патрэбы няма…»

Сказала так і пайшла. А на другі дзень мне пазваніў на працу Сяргей і паведаміў, што ранкам бачыў, як з Дзвіны даставалі мёртвую жанчыну. Ён пазнаў яе адразу ж: гэта была Жанна…

**— Ці не пра гэту гісторыю вам калісьці нагадала цыганка: «А тая любоў, на якую ты молішся, табе горачка поўнай мерай адважыць»?**

— Не, гэта іншае. Згаданай жанчыны ўжо няма на гэтым свеце. Бог яе крэпка пакараў. Пад канец жыцця яна стала нават трохі неадэкватнай. Не буду называць яе імя, хай будзе пухам ёй зямля, як гаворыцца…

**— Нешта ж вельмі сумныя гісторыі кахання атрымоўваліся ў вас.**

— Ну, чаму? Тады ж, калі я вучыўся ў Маскве, я сустрэў і сваё сапраўднае, вялікае-вялікае каханне. Сваю цяперашнюю жонку Людмілу. Пазнаёміўся з ёю, тады студэнткай медінстытута, на вяселлі свайго аднакурсніка, і ўжо больш нічога і нікога не бачыў, акрамя яе іскрыстых вачэй і прывабных вуснаў. А пасля пайшоў яе праводзіць, і мы пешкі прайшлі ад Беларускага вакзала да Сакольнікаў, і толькі пад раніцу апынуліся каля яе дома. Развіталіся, калі ўжо ўзыходзіла сонца.

**— Як сімвалічна!**

— Напэўна. І вось мы з Людмілаю разам крочым ужо болей як пяцьдзясят гадоў. Заўсёды разумеем і падтрымліваем адно аднаго на самых крутых паваротках жыцця. І болей не буду нічога казаць.

**— Ну што ж, вернемся тады да літаратуры. Як вядома, на пачатку творчай дарогі вельмі важна, каб сустрэўся разумны і чуйны настаўнік, які б мог нешта падказаць, у нечым падтрымаць, даць мудры жыццёвы наказ. У вас такія настаўнікі былі?**

— У такім сэнсе, як ты сказаў, можа, і не было. Але мне вельмі шмат даў Літаратурны інстытут. Выхоўвала, вучыла ўжо само творчае асяроддзе, калі мы ўсе з ранку да вечара жылі літаратурай. У нас былі заняткі, якія вучылі фантазіі, мастацкаму ўяўленню. Разгортваў выкладчык, напрыклад, томік Чэхава, чытаў апавяданне «Кніга скаргаў» і прапаноўваў нам узяць любы запіс з гэтай кнігі і паспрабаваць стварыць вобраз таго чалавека, які пісаў скаргу.

А творчыя семінары? Мне пашанцавала адзін год займацца ў семінары, якім кіраваў Канстанцін Паустоўскі. Мы прыносілі туды свае толькі што напісаныя творы — хто апавяданне, хто эсэ, хто нарыс — і ішло абмеркаванне, добразычлівае, глыбокае, павучальнае.

Калі гаварыць пра беларускіх пісьменнікаў, то найпершымі і самымі галоўнымі настаўнікамі для мяне асабіста былі і застаюцца два нашыя песняры — Янка Купала і Якуб Колас. І чым болей я жыву, тым часцей прыпадаю да гэтых жыццядайных крыніц. Вось і нядаўна ўзяў у рукі «Новую зямлю» і, не адрываючыся, прачытаў яе ад пачатку да канца. Чытаў як абсалютна новы твор, адкрываў у ім дзівосы думак, захапляўся глыбінёй спасціжэння чалавечай душы, прыгажосцю радка, таямнічасцю слова. Гэта не проста энцыклапедыя беларусаў, гэта — падручнік жыцця для будучых пакаленняў. Каб такое стварыць, трэба быць не толькі магутным мастаком, але і вялікім чалавекам.

Альбо той жа «Курган». Я часта перачытваю гэты неўміручы твор і кожны раз думаю: як гэта Купала яшчэ ў параўнальна маладым узросце змог так глыбока пранікнуць у сутнасць чалавечай душы, у сутнасць колішняга жыцця беларусаў. Якая тут высокая мера праўды, дабра, справядлівасці!

Сярод маіх калег было шмат не столькі настаўнікаў, колькі добрых і шчырых сяброў, у якіх я, вядома ж, нечаму вучыўся, нешта пераймаў. Мы вельмі хараша



*З жонкай Людмілай Барысаўнай, дачкой Наталляй і швагеркай Таццянай.*

сябравалі з Петрусём Броўкам, маім земляком. У маладыя гады Пётр Усцінаваіч і мой дзядзька Васіль былі закаханыя ў адну і тую ж дзяўчыну. Аднак Броўку не пашанцавала — дзяўчына аддала перавагу майму дзядзьку. Затое ў Пятра Усцінавіча нарадзіўся паэтычны шэдэўр — «Александрына», які цяпер шырокавядомы.

Цесная дружба звязвала мяне і з Тарасам Хадкевічам. Колькі мы з ім парыбачылі і на Дзвіне, і на Віліі. Колькі начэй правялі ля вогнішча, колькі душэўных песень праспявалі!

Пазней мы блізка сышліся з Іванам Пятровічам Шамякіным. Жылі ў адным доме, толькі ў розных пад'ездах. Таму часта хадзілі адзін да аднаго ў госці, выбіраліся на праходкі. Першы мой раман «Верай і праўдай» рэдакцыя «Полымя» аддала яму на водгук. Ён прачытаў рукапіс з алоўкам у руках і зрабіў мне шмат талковых, карысных заўваг. Гэта быў, як цяпер бы сказалі, выдатны майстар-клас.

**— Алесь Ануфрыевіч, а вось газетная праца, якой вы аддалі сем гадоў свайго жыцця, дапамагала ці замінала ў вашай пісьменніцкай справе? Дабро гэта ці зло?**

— Газетная праца для пісьменніка на пачатку яго літаратурнай дарогі — дабро. Мне асабіста вельмі многае далі мае камандзіроўкі да лесарубаў Расоншчыны, да будаўнікоў Ветрына, да механізатараў Асвейшчыны. І сваю першую дакументальна-мастацкую кнігу я ж таксама напісаў будучы журналістам. А першае апавяданне «Рыбацкае шчасце» нарадзілася пасля паездкі на возера Дрывяты да тамтэйшых рыбакоў.

Таму, паўтаруся, на першым этапе газетная практыка, якая акунае пісьменніка ў жыццё з галавой, крайне неабходная. Невыпадкова большасць нашых пісьменнікаў прайшлі праз газету. А вось далей газетная праца пісьменніку замінае. Яна выпрацоўвае пэўны штамп, прымушае думаць па-газетнаму.

**— Вы пражылі ў літаратуры больш як паўвека, многае можаце бачыць, параўноўваць, рабіць пэўныя высновы. Як вы ацэньваеце стан сённяшняга беларускага прыгожага пісьменства? Што вас тут радуе, што трывожыць? Ці ёсць будучыня ў маладой літаратурнай змены?**

— Азірнёмся на дзесяць апошніх гадоў, якімі завершана XX стагоддзе, і дванаццаць, якія ўжо адлічыла стагоддзе новае, XXI. Гэта ж толькі міг у няўмольным поступе сусвету. А якія здабыткі мае беларускае мастацкае слова за гэты час! Дзя-

сяткі кніг прозы, паэзіі, публіцыстыкі. А як загучаў голас акына казахскага народа, мудрага Абая, у бліскучым перакладзе Міколы Мятліцкага на нашу родную мову! А сто паэтаў Кітая, што зажылі на мове беларуса! Вялікае духоўнае багацце аддалі пісьменнікі свайму народу. Так што ёсць, ёсць чым ганарыцца сёння нашаму Саюзу пісьменнікаў Беларусі і смела глядзець у дзень заўтрашні.

Я глыбока перакананы, што будучыня ў беларускага мастацкага слова ёсць. І будучыня харошая. Па даўняй завядзёнцы я і цяпер выпісваю ўсе нашы літаратурныя выданні і амаль усё калі не прачытваю, то абавязкова ўважліва праглядваю. Радуюць многія паэты. Не буду называць канкрэтныя імёны, скажу пра тэндэнцыю. Сёння беларуская паэтычная думка значна вышэйшая, чым яна была, скажам, у 20-я альбо 30-я гады. Вышэйшая яна і па майстэрстве.

Тое ж самае адбываецца ў нашай прозе. Расце зусім новае пакаленне, якое творыць раскавана, мысліць арыгінальна. Але бяда маладой прозы ў тым, што яна не становіцца сапраўды мастацкім летапісам эпохі. Як гэта было ў тыя ж 20—30-я гады. Бо што такое ўласна гісторыя? Гэта сухія факты, гэта толькі каркас народнага жыцця. А каб усё гэта стала духоўнай гісторыяй, яно павінна быць увасоблена ў мастацкім слове.

Наша маладая літаратура, як мне падаецца, яшчэ не знайшла сваёй дарогі, каб ярка і глыбока адлюстраваць змены ў духоўным свеце сучасніка, якія адбыліся і адбываюцца апошнім часам. Мы толькі намацваем гэту дарогу. Але адкрыцці будуць. Жыццё не стаіць на месцы.

**— Дарэчы, пра жыццё. У чым, на ваш погляд, сэнс чалавечага існавання?**

— Галоўны сэнс у тым, каб цвёрда верыць і разумець, што сцяг, які ты нёс і пад якім жыў, падхапілі і годна панеслі твае наступнікі.

**— Вы шчаслівы чалавек?**

— Больш чым шчаслівы! Вядомы паэт некалі скардзіўся:

Я вырос в той забытой стороне,
Где старики невесело шутили,
Что ехало к ним счастье на коне,
Да богачи его перехватили…

Я ж вырас у той старонцы, у той краіне, дзе ніхто маё шчасце не перахапіў. І калі летась на Лысай гары, дзе знаходзіцца маё лецішча, я запаліў вогнішча і два мае праўнукі ўпершыню ў жыцці ўбачылі жывы агонь і бурна радаваліся гэтаму дзіву, я падумаў: хіба я не шчаслівы чалавек, калі, прайшоўшы праз усе нягоды і ліхалецці, дажыў да тых дзён, калі магу бачыць, як мае праўнукі радуюцца вогнішчу, якое я запаліў. Хіба гэта не здорава?

Я шчаслівы і ў пісьменніцкім плане. Амаль усё, што я хацеў, я напісаў. І творы мае не залежваюцца на паліцах мёртвым грузам. Яны чытаюцца, актыўна абмяркоўваюцца. І гэта выдатна.

**— А як сябе пачуваеце на дзявятым дзясятку?**

— Здароўе па гадах. Сакрэт майго даўгалецця, відаць, у генах, якія мне падаравалі мае продкі. Бабуля мая пражыла 104 гады, амаль да дзевяноста, як я ўжо казаў, — мая маці. Мая заслуга толькі ў тым, што я няблага, мажліва, распарадзіўся гэтымі генамі. У маладосці актыўна займаўся спортам — футбол, валейбол, гарадкі. Цяпер люблю шматкіламетровыя праходкі. Раніцай раблю гімнастыку — цягаю эспандар, а замест гантэляў — вось гэтыя скарбы *(паказвае на два даволі ўнушальных памераў камянюкі, што прымасціліся на падаконніку)*. І яшчэ. Чалавеку трэба пастаянна нагружаць не толькі свае мускулы, але і мозг. Хто многа думае — той многа жыве.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

Ганад ЧАРКАЗЯН

# НЕЗАБЫЎНЫ ПЯТРУСЬ УСЦІНАВІЧ…



Пятрусь Усцінавіч Броўка.

*Паплечнікі славутага Петруся Броўкі пакінулі нямала згадак пра гэтага таленавітага паэта, выдатнага грамадскага дзеяча, шчырага і прачулага чалавека. Я належу да зусім іншага пакалення людзей, якія нарадзіліся ў зусім іншым часе. Але і мне пашанцавала на сустрэчы і нават добрае сяброўства з народным паэтам. І нічога ў гэтым неверагоднага няма. Чытач і сам зразумее тое, калі пазнаёміцца з маімі ўспамінамі.*

## Першая сустрэча

Каб згадаць тую памятную сустрэчу, на календары памяці мне трэба перагарнуць ажно чатыры дзясяткі гадоў.

Я працаваў тады ў каштарысна-дагаворным аддзеле будаўнічага ўпраўлення. Дзень, як заўсёды, пачынаўся са звыклай і надакучлівай мітусні. Дзе яе няма?! Заказчыкі са сваімі вечнымі прэтэнзіямі, майстры і прарабы, у якіх заўсёды пад рукой знойдуцца апраўданні: нехта захварэў, нехта пайшоў у запой, на складзе не знайшлося патрэбнай фарбы, а невядомыя ноччу ўкралі толькі што прывезены брус…

Ужо ў абед галава гудзела, што бубен, і жадалася толькі аднаго: як бы найхутчэй уцячы ў стары сад, адшукаць там зручны куточак, каб спакойна выпіць сваю каву з дамашнімі бутэрбродамі. Яшчэ зусім нядаўна тут жылі людзі — цэлай вёскай, — якія пераехалі ў дзевяціпавярховы дом непадалёку. Гледзячы на яго, я міжволі спакайнеў: усё ж неяк апраўдваўся увесь сэнс гэтай мітусні і сумбурнасці.

Я ўжо адчыніў дзверцы стала, каб дастаць свой абед, як зазваніў тэлефон. У слухаўцы пачуўся голас начальніка. Ён любіў патурбаваць мяне менавіта падчас абеду, каб падкараціць яго нейкім даручэннем. Я неахвотна падымаўся на другі паверх, дзе быў яго прасторны кабінет. Ён маю незадаволенасць згладжваў жартам: будзеш сябраваць з начальствам, дык і сам неўзабаве вылезеш са свайго заканурка ў святлейшы кабінет.

Адчыняю кабінет з тварам злоснага чалавека, якога пазбавілі заслужанага абеду. А начальнік дэманструе мне сваю самую святочную ўсмешку:

— У нас сёння дарагі госць! Пазнаёмся! Пятрусь Усцінавіч Броўка!

За вялікім сталом-аэрадромам насупраць начальніка сядзеў пажылы чалавек у акулярах, вельмі падобны на вясковага настаўніка, на твары якога чыталіся сама далікатнасць і пачцівасць. Я працягнуў руку і, хвалюючыся, так неразборлі

ва прамармытаў сваё прозвішча, што і сам сумеўся. А ён прыўстаў, абхапіў маю даланю сваімі дзвюма, як быццам мы былі даўно знаёмыя, і пры гэтым так светла і чыста ўсміхнуўся, што ўся мая ніякаватасць адразу знікла.

Белая палатняная кепка ляжала перад ім на стале. Час ад часу ён церабіў яе пальцамі левай рукі, лёгка пасоўваючы сюды-туды па бліскучай паліроўцы стала. На светлым летнім пінжаку вылучаўся нагрудны знак дэпутата Вярхоўнага Савета СССР. Цяпер сталася зразумелай і радасць начальніка: дэпутаты самага высокага ўзроўню да нас яшчэ не зазіралі. Хоць радасць магла прыкрываць і занепакоенасць — як бы чаго не здарылася. Потым я зразумеў, што, відаць, па гэтай прычыне ён тут выбраў менавіта мяне. У любым калектыве я трымаўся крыху нібыта збоку, не надта зліваючыся з агульным жыццярадасным тонам. Мой выгляд заўсёды крыху псаваў малюнак усеагульнай задаволенасці — асабліва на частых тады застоллях. Так што ў выпадку чаго мной можна было і лёгка ахвяраваць.

Я, вядома ж, чуў гэта імя, — Пятрусь Броўка — ведаў, што паэт лаўрэат Ленінскай прэміі, але бачыць яго не даводзілася. І вось зараз, седзячы з ім побач, у такой нечаканай і хвалюючай блізкасці, адчуваў, што сэрца маё б'ецца не зусім звычна: дзеля чаго ж я мог спатрэбіцца такому высокаму чалавеку?

Ён уважліва, але неназойліва, а з цікавасцю разглядваў мяне, маладога. І вось нарэшце, відаць, задаволіўшыся вынікамі сваёй «разведкі», зноў усміхнуўся і зусім нечакана запытаўся:

— Ну што, дапаможаце?

Я здзівіўся і нават разгублена паглядзеў на гаспадара кабінета, які ўсё яшчэ быў пад уражаннем прысутнасці нечаканага госця. Той, зразумеўшы мой позірк, пачаў падрабязна расказваць, чаго ўласна хоча Пятрусь Усцінавіч. У многаслоўнасці начальніка я ледзьве ўлавіў сам сэнс яго гаворкі. Далікатнасць паэта не дазваляла яму перапыняць чалавека, да якога ён прыйшоў з просьбай. Але крыху счакаўшы, выкарыстаўшы нейкую паўзу, усё ўраўнаважыў сваёй прапановай:

— А лепш мы разбяромся на месцы. Спатрэбіцца нам нейкіх пару гадзін, там вызначымся і з аб'ёмам работ.

Начальнік крыху памаўчаў, быццам дагаворваючы ў думках яшчэ не дагаворанае, пасля шырока ўсміхнуўся і з палёгкай выдыхнуў:

— Ён у вашым распараджэнні.

Час ад часу не лягчэй. А як жа мой абед? «Прывыкаць мне, ці што?» — урэшце супакоіў сам сябе. Мы спусціліся на першы паверх, я забег у свой «закануравак», захапіў рулетку, блакнот — здагадваўся, што яны мне спатрэбяцца, — сумна зірнуў на дзверцы, за якімі сумавалі мае бутэрброды з сырам, і накіраваўся на адказнае заданне.

Петруся Усцінавіча чакала «Волга», ужо без аленя на капоце і з немаладым кіроўцам за рулём. Як толькі я зачыніў за сабой дзверцы, Пятрусь Броўка (сам ён на правах гаспадара займаў заўсёды пярэдняе сядзенне) адразу і пазнаёміў нас. Іван Іванавіч выглядаў на ваеннага адстаўніка гадоў пяцідзесяці. Магчыма, я памыляўся. Мы з ім пасля неаднойчы сустракаліся, а здагадкі сваёй ні пацвердзіць, ні абвергнуць так і не змог. Ён з прастадушнай усмешкай вясковага хітруна лёгка ўхіляўся ад маіх роспытаў. Я і сам разумеў, што чалавек проста з вуліцы не мог бы стаць кіроўцам дэпутата Вярхоўнага Савета і народнага паэта. Пятрусь Усцінавіч, у адрозненне ад большасці савецкіх чыноўнікаў, у паездках па сваіх асабістых справах карыстаўся толькі ўласным аўто. Седзячы зараз у машыне, па асобных рэпліках гаспадара са сваім шафёрам, я зразумеў, што Іван Іванавіч валодае ўсімі сакрэтамі сям'і паэта. Ён ужо, думалася мне, магчыма, і сам пачуваецца часцінай гэтай сям'і.

Я чакаў, што па дарозе Пятрусь Усцінавіч будзе гаварыць толькі пра тое, у чым я змагу яму дапамагчы. А ён і не заікнуўся пра гэта, затое ўвесь час дапытваўся ў мяне самога (праўда, без ніякага хітравання): хто я, адкуль, як і чаму апынуўся ў Мінску. Здзівіўся і абрадаваўся, калі даведаўся, што я жанаты на

беларусцы. Я тады яшчэ не ведаў, што дружба народаў — гэта слабасць Петруся Усцінавіча. На гэту тэму ён нават раман напісаў «Калі зліваюцца рэкі», не адзін дзясятак вершаў. Ён быў верным сынам таго грамадства, у якім жыў. І нішто не магло парушыць яго святых перакананняў, бо за імі стаяла жыццё, суровыя гады змагання і ліхалецця.

Мы загаварыліся і не заўважылі, як пад'ехалі да ўскрайку дачнага пасёлка бліз Ждановічаў. Усе разам выйшлі з машыны і ўслед за паэтам прайшлі па дагледжанай дарожцы да невялікага драўлянага доміка, што хаваўся ў глыбіні двара за двухпавярховай дачай з белай цэглы. Тут адразу мне стала зразумела тое, што ад мяне патрабавалася: трэба перанесці той домік убок на нейкі дзясятак метраў. Я ўжо меў за сваімі плячыма вопыт будаўнічых работ і добра разумеў, якія праблемы падсцерагаюць у такім выпадку. Я дазволіў сабе нават нейкі будаўнічы жарт наконт гэтага:

— Самае лепшае было б выклікаць верталёт, зачапіць тросамі за вуглы і акуратна пераставіць дом у іншае месца.

Паэт заўсміхаўся і адказаў таксама жартам:

— Было б някепска. Ды толькі ці не разваліцца ўсё гэта ў паветры?

Я пахадзіў наўкруг дома, пару разоў піхнуў нагой у падазроныя месцы і згадзіўся:

— Разваліцца.

Тут жа выцягнуў з кішэні рулетку, блакнот з ручкай, каб пачаць тыя самыя замеры, але Пятрусь Усцінавіч падхапіў мяне пад локаць і павёў бліжэй да дома:

— Пасля, Ганад Бадрыевіч, пасля! Вы, як я зразумеў, яшчэ не абедалі, ды і мы з Іванам Іванавічам таксама нашча. З раніцы ў якіх толькі кабінетах і ўстановах не пабывалі. Столькі аўтографаў, як сёння, я ні на адным сваім творчым вечары не даваў. І з тым, і з гэтым трэба ўзгадніць. Як быццам мы палац збіраемся будаваць. Чуе маё сэрца, даканае нас гэта папяровая валакіта…

З самага першага і да апошняга дня паэт звяртаўся да мяне на вы, не забываючы і маё імя па-бацьку. Спачатку гэта мяне бянтэжыла — вунь якая адлегласць у нашых узростах! А потым неяк прывык і нават сам сябе запаважаў, як потым жартаваў перад знаёмымі. Наогул, я зразумеў, што чалавек гэты па прыродзе сваёй вельмі чулы і ўважлівы да іншых. Думаю, для яго не так важна было тое, якую пасаду, якую прыступку займае чалавек у службовай лесвіцы. Мера чалавечнасці ў яго была свая і для кожнага аднолькавая. Такіх людзей, асабліва ў наш сённяшні неўладкаваны час, мала.

Стол быў накрыты на верандзе. Жонка паэта Алена Міхайлаўна нават не здзівілася, што сёння за ім на аднаго чалавека больш. Відаць, такое тут здараецца часта. Боршч быў вышэй усялякай пахвалы. А на другое — сапраўдныя, дамашнія, што самі таюць у роце, катлеты. Даруйце мне, мае бедныя і забытыя бутэрброды!.. Я не каюся, што пра вас давялося забыцца. Цяпер я яшчэ раз згадзіўся з празаікам Іванам Чыгрынавым, які сцвярджаў, што для пісьменніка галоўнае — гэта харошая жонка. І па магчымасці, каб адзіная.

Потым, калі я пачаў рабіць замеры дома, размячаў новае месца для яго, Пятрусь Усцінавіч здзівіў мяне зноў. Ён адвёў мяне ўбок і ціха, каб не чуў Іван Іванавіч, папрасіў афарміць заказ такім чынам, каб засталіся задаволены самі рабочыя. Яны ж будуць тут галоўнымі выканаўцамі. «Я хачу, каб і ім было добра. Я ўсё ж чалавек не бедны», — казаў мне паэт.

Такое я ад заказчыка чуў упершыню. Звычайна ўсе намагаюцца, ідуць на самыя розныя хітрыкі, каб занізіць кошт, а значыць, і аб'ём работ. Яны прыдзірліва правяраюць дакументы, пералічваюць дошкі і цэглу, лічаць кожную жменьку цэменту. І тыя, з якімі мяне жыццё сутыкала, таксама былі не бедныя. Але, відаць, самі былі не чыстыя на руку, таму і на іншых глядзелі сваімі вачыма.

Пасля гэтага Пятрусь Усцінавіч развітаўся са мной — яго чакалі нейкія неадкладныя справы. Сказаў, што рыхтуецца да сесіі Вярхоўнага Савета, якая чака-

ецца ўжо праз некалькі дзён. А работу будзе прымаць па вяртанні. А пакуль яго паўнамоцным намеснікам застаецца Іван Іванавіч. Развітваючыся, яшчэ сказаў:

— І не саромейцеся выкарыстоўваць машыну ў якасці таксі, калі гэта патрэбна дзеля справы.

Іван Іванавіч быццам кіўнуў галавой у знак згоды, але асаблівай радасці ад такога перападначалення на яго твары я не ўбачыў. Магчыма, у яго на час адсутнасці гаспадара былі свае намеры. А тут… трэба быць прывязаным да будаўнікоў.

На наступны дзень я патэлефанаваў Петрусю Усцінавічу і паведаміў кошт пераносу будынка. Праз гадзіну ён заехаў і аплаціў патрэбную суму. Зазірнуў і ў мой пакойчык, пацiснуў руку і сказаў, што вельмі спадзяецца на мяне. І яшчэ дадаў, каб усе пытанні я вырашаў сам — ні жонка, ні сын, ні Іван Іванавіч нават не павінны мне нешта раіць. Яны толькі могуць нашкодзіць справе. Такі давер, вядома ж, дадаваў гонару, але больш — адказнасці.

Не хацелася браць абы-каго са шматлікіх будаўнікоў для выкання такога важнага для мяне даручэння, і я спыніўся на двух братах, што нядаўна з'явіліся ў нашай арганізацыі. Браты адразу звярнулі на сябе ўвагу сваёй старанлівасцю, умельствам, сумленнасцю. З імі можна быць упэўненым — не прагуляюць, не зап'юць, а ў вольны час нідзе не ўліпнуць. Тым больш, што і свае выхадныя дні браты праводзілі ў бацькоў у вёсачцы пад Валожынам. Там ім таксама хапала спраў. Я ведаў пра хлопцаў не проста па нейкіх чутках — сам дапамог ім атрымаць у нашым інтэрнаце пакой на двух. Я глыбока адчуваю душу вяскоўца, бо і сам вясковы, і ведаю, якой важнай бывае падтрымка ў незнаёмым і чужым горадзе. Галоўнае — гэта прытулак, дах над галавой, хоць часовы, але свой. А спадабаліся яны мне тым, што, не саромеючыся, як дома звыкліся, гаварылі з людзьмі, гаварылі на роднай беларускай мове, не падладжваючыся пад некага.

Праз дзень ад пачатку работы на дачы ў маёй рабочай каморцы з'явіўся старэйшы Ігар і распавёў, крыху хвалюючыся, што разабралі яны дамок хутка, а вось сабраць яго з таго, што засталося, не атрымаецца. Больш як палавіна дошак — гніллё, годнае толькі для вогнішча. Дык што рабіць? Па маёй прыкідцы на паднаўленне павінна было спатрэбіцца толькі 20 працэнтаў, а тут, на табе, больш як палавіна. Дадатковыя траты. А заказчык у Маскве. Як жа быць? Тэлефанаваць Івану Іванавічу неяк няёмка: узяўся за гуж, а сам нядуж… Я падняўся на другі паверх да начальніка. Ён выслухаў мяне і параіў пад'ехаць на дачу на ягонай машыне, каб на свае вочы ўбачыць, што там да чаго.

— Але аплату, — усміхнуўся начальнік, — будзеш рабіць са сваёй кішэні. Сам ведаеш — дошкі ў нас у дэфіцыце, разлятаюцца, як гарачыя піражкі. Ды і памятай, што гэта твая самадзейнасць. Пятрусь Усцінавіч мяне аб тым не прасіў. І хай гэта для цябе будзе ўрокам на будучае: зносіны з вялікімі людзьмі часта каштуюць дорага. Я не хачу сказаць, што Броўка адмовіцца плаціць. Але рызыка ёсць. А ў нашай справе яна зусім не патрэбная.

А яшчэ ён нагадаў мне пра той вялікі кабінет, які прарочыў калісьці. І мне ўжо яго не захацелася. Не, лепш трымацца свайго заканурка.

Запярэчыць начальніку я не мог, а за машыну падзякаваў. Урэшце, справа агульная. Шафёр начальніка падкінуў нас з Ігарам на дачу. Там да канца дня мы пераглядвалі дошкі і падлічвалі, колькі чаго спатрэбіцца. Старыя абломкі і канчуры акуратна складалі каля плота. На наступны дзень начальнік падпісаў усе мае заяўкі, сам я і аплаціў іх. На ўсё неабходнае, улічваючы і транспарт, набралася намнога больш маёй месячнай зарплаты. І толькі пасля таго, як будаўнічы матэрыял завезлі на ўчастак, я далажыў пра ўсё Івану Іванавічу. Той нічога не сказаў, але адчувалася, што заходы мае ўхваліў. Словам, як кажуць курды, сесці на асла — гэта адна ганьба, злезці з яго — яшчэ адна. Пачатае заўсёды трэба завяршаць.

Чытачу хацелася б нагадаць, што адбывалася гэта ў той час, калі нават прыбіральні на дачных участках дазвалялася будаваць толькі з аднасхільнымі дахамі,

а падвалы — не глыбей 1,8 метра. А будаваць новае з усяго новага таксама было небяспечна. Але ж выключэнні заўсёды бываюць.

Асабліва для такіх аўтарытэтных людзей, як Пятрусь Броўка…

Браты тут жа рупліва ўзяліся за справу. Яны ўжо ведалі, для каго стараюцца. У той час прэстыж пісьменніцкі быў надта высокі. Ніяк не параўнаеш яго з нашым часам. А Петруся Броўку вывучалі ў школе, яго ведаў кожны пачатковец. Ды і інструктаж, які правёў з імі начальнік, многае значыў. Ды ўсё роўна кожны дзень у канцы рабочага дня Іван Іванавіч заязджаў па мяне, і мы ехалі на дачу прымаць зробленае. Усё ішло, як мае быць, укладваліся ў тэрмін. Яшчэ адзін-другі дзень і аб'ект можна здаваць.

Раніцой, калі братам заставалася прыбраць тэрыторыю, у маёй каморцы зазваніў тэлефон:

— Добры дзень, Ганад Бадрыевіч! Гэта Пятрусь Броўка. Памятаеце?

— Як не памятаць, усіх сваіх даўжнікоў, Пятрусь Усцінавіч, я занатоўваю ў асобную кнігу.

— І многа іх там у вас?

— Адзін застаўся, той самы Пятрусь Броўка. Які ў Маскву збег…

— Вярнуўся з пакаяннем, гатовы заплаціць усё, што павінен. Нават з працэнтамі. Да хуткай сустрэчы!..

Незадоўга да абеду зноў запрасіў да сябе начальнік. За сталом-аэрадромам на тым жа самым месцы сядзеў Пятрусь Броўка, зноў гэтак жа цярабіў сваю палатняную кепку. Быццам і не пакідаў гэты пакой з той самай першай сустрэчы. Перад начальнікам ляжала разгорнутая кніга паэта, з аўтографам, вядома ж. Мы цёпла павіталіся з Петрусём Усцінавічам, я нават не прысеў за стол, бо начальнік, які толькі што дачытаў паэтаў аўтограф, апярэдзіў мяне словамі:

— Трэба ехаць. Здаваць аб'ект.

Тут жа Пятрусь Усцінавіч аддаў мне «тое, што павінен», узяў квіток і шчыра, з паклонам, як робяць гэта нашы аксакалы, падзякаваў за дапамогу.

Па дарозе я даведаўся, што ён ужо быў на дачы, бачыў зробленае і застаўся вельмі задаволены. Калі міналі фінскую запраўку, паэт папрасіў кіроўцу спыніцца. Той з недаўменнем паглядзеў на гаспадара:

— Дык у нас поўны бак, Усцінавіч!..

— Ды пры чым тут бак, Ваня? Мы павінны ўручыць наш падарунак Бадрыевічу.

Прызнацца, я чакаў, што мне зараз уручаць нейкі пакунак з традыцыйнай пляшкай і закускай. Але калі Іван Іванавіч адчыніў багажнік і тут жа зачыніў яго, на душы маёй палагаднела: традыцыя на гэты раз была парушана з прыемным для мяне вынікам. Я атрымаў з рук народнага паэта ажно сем яго кніг. І кожная — з аўтографам. Адзін надпіс кранyў мяне асабліва: «Ганаду Бадрыевічу з пажаданнем ніколі не бачыць таго, што бачыла маё пакаленне». І сапраўды, падумалася мне, ягонаму пакаленню хапіла ўсяго пад самую завязку. Мабыць, таму яны так хутка пакідалі гэты свет у васьмідзясятыя — каб ужо больш не бачыць нічога звыш дараванага. Нібыта хтосьці зверху і сапраўды сачыў за гэтай мерай. Пакаленне дзядоў і бацькоў пакідала нас адных з новай і не менш грознай рэальнасцю. З якой, шчыра кажучы, яны б ужо не справіліся. «Не, не юнкерс, снікерс над табой. Ціха рвецца сённяшні снарад, і не кроў цябе фарбуе — шакалад», — гэтыя радкі напісаліся ў дзевяностыя. Што ж, у кожным часе свае выпрабаванні.

На дачы нас чакалі браты-цесляры, яны паспелі ўжо не толькі ўсё прывесці да ладу, але і справіцца з нейкімі даручэннямі Алены Міхайлаўны, жанчыны даволі энергічнай, не ведаю толькі, ці ўладнай. Побач тупаў і Сцяпан Усцінавіч, брат паэта. Пятрусь Усцінавіч яшчэ раз абышоў вакол дома, а потым неяк заклапочана адвёў у бок старэйшага з цесляроў, і яны абодва на нейкі час зніклі за домам.

— Пайшоў дзякаваць хлопцам, — падміргнуў мне Іван Іванавіч.

Не прайшло і хвіліны, як Ігар куляй выскачыў з-за вугла.

— Пятрусь Усцінавіч, ды нічога не трэба. Вы лепш пішыце для нас новыя творы, — апраўдваўся хлопец. Следам за ім ішоў наш класік з канвертам у апушчанай руцэ. Такога расчуленага твару я яшчэ ў яго не бачыў.

— Ай, дзякуй, сынкі дарагія, дзякуй.

Я бачыў, як слёзы міжвольна пабеглі па яго твары. Ён прысеў з хлопцамі на лавачку, абдымаў іх і ўсё дзякаваў.

Потым, гэтак жа, у абдымку павёў іх да стала на веранду. Мы са Сцяпанам Усцінавічам і Іванам Іванавічам рушылі следам. За сталом браты трымаліся скавана, але пасля чаркі павялі сябе звыкла, а малодшы нават пачаў чытаць па памяці «Пахне чабор», але збіўся, пачырванеў, тут паэт прыйшоў яму на дапамогу, падхапіў сваім голасам радкі, і закончылі яны разам. А пабачыўшы, што хлопцы добра падвесялелі, Пятрусь Усцінавіч шапнуў шафёру:

— Ваня, адвязі хлопцаў, куды яны скажуць. А потым вяртайся, падкінеш Ганада Бадрыевіча.

Развітваючыся, паэт абдымаў, як родных, хлопцаў і ўсё запіхваў у іх кішэні цукеркі.

Хлопцы паехалі, а мы яшчэ пасядзелі. Менавіта тады згадаў Пятрусь Усцінавіч і сваю апошнюю паездку ў Арменію, Здаецца, і зараз чую яго прыемны мяккі голас, што гучыць недзе здалёку, нібыта са слухаўкі. Рэхам паўтараецца і знаёмае: «Гэта Пятрусь Броўка. Памятаеце?»

Паспрабую яго ж словамі перадаць пачутае.

— Па дарозе ў Арменію грэх было б не зазірнуць да братоў-грузінаў. Была б вялікая крыўда, і надоўга… Яе можна было б змыць толькі агромністымі патокамі віна і шматдзённым застоллем. Прынялі нас у Саюзе пісьменнікаў Грузіі так, як умеюць гэта рабіць грузіны. Так што шлях наш давялося працягваць толькі на наступны дзень…

Непадалёку ад армянскай мяжы, хоць межы тады былі ўмоўныя, машына забуксавала. Пайшлі да мясцовых жыхароў па дапамогу. Нам, вядома ж, дапамаглі. Машыну шумна і весела вынеслі амаль на руках. Задаволеныя і вясёлыя беларусы працягвалі свой шлях і толькі на армянскай тэрыторыі агледзеліся, што няма чамадана Броўкі. Відаць, выглядаў ён больш спакусліва, чым астатнія. А ў чамадане — дакументы, адзенне, грошы. У першым жа населеным пункце адшукалі тэлефон і пазванілі грузінскім калегам, паведамілі аб сваёй прапажы. Тыя доўга ўдакладнялі, дзе гэта адбылося: на грузінскім ці армянскім баку. Калі на грузінскім, казалі, то абавязкова знойдуць. Армянскія гаспадары прымалі беларускага сябра на вышэйшым узроўні і без яго чамадана — не першы раз у Ерэване.

— На зваротнай дарозе зноў зазірнулі ў Саюз пісьменнікаў Грузіі, зноў быў прыём, але мне ўвесь час не даваў спакою той самы чамадан.

Праз нейкі час з'явіўся тыповы грузін — з вусамі, у аэрадромістай кепцы і з чамаданам у руцэ. Ён урачыста паставіў чамадан на стол і спытаўся: «Ваш?»

Гэты момант паэт перадаваў з сапраўдным грузінскім акцэнтам:

— Ваш? Правэрайтэ, п-жалуста, всо ли на мэстэ?

Усё — і дакументы, і адзенне і грошы — было «на мэстэ». І нават бутэлька «Белавежскай». Што нас вельмі здзівіла. Я адразу выставіў у знак удзячнасці тую пляшку на стол. І пачуў ад вусатага наступнае:

— Грузыны чужой водка нэ пьют.

Я доўга пацiскаў яму руку, замілавана і ўдзячна паглядаў то на яго вусы, то на вялізную кепку, то на бутэльку «Белавежскай». Невядома, колькі б усё тое працягвалася, калі б не энергічнае ўмяшанне прадстаўніка Саюза пісьменнікаў. Той уладным жэстам выправадзіў гордага грузіна і сам з не меншай гордасцю падкрэсліў:

— Толькі не думайце, дарагі Броўка, што гэта зрабілі грузіны. Ваш чамадан укралі асеціны…

Гэта, вядома, нам не спадабалася, але ад грузінскага пачастунку адмовіцца мы не маглі.

…Я вяртаўся дамоў не толькі з кнігамі і ў вясёлым настроі. Зайшоў у кватэру з двума пакетамі пад пахамі. У адным былі кнігі, у другім — каробка цукерак і «Белавежская», не тая, вядома, якую не захацелі піць грузіны. Жонка Людміла Іванаўна абвяла мяне здзіўленым позіркам і ўсё зразумела. Мой настрой перадаўся і ёй.

А гісторыя з пераносам дачы на гэтым не закончылася. Праз некалькі дзён Пятрусь Броўка зноў з'явіўся ў прасторным кабінеце майго начальніка — ужо ў парадным пінжаку з узнагародамі — і ўручыў пісьмо з падзякай, дзе прасіў адзначыць кожнага, хто прымаў удзел у выкананні заказу. Потым гэта пісьмо начальнік часта зачытваў на розных нарадах і дзесьці ўнутры, напэўна, падхвальваў і сам сябе: вось пайшоў насустрач вялікаму чалавеку…

Думаю, што ў маім жыцці мне пашанцавала па-сапраўднаму двойчы. Першы раз — калі я сустрэўся з беларускай дзяўчынай, якая сталася маёй жонкай. Другі — калі сустрэўся і пазнаёміўся з Петрусём Усцінавічам Броўкам. Але тады я яшчэ не здагадваўся аб той вялікай ролі, якую ён адыграе ў маім жыцці.

## Новая машына

Пасля таго дачнага знаёмства сустрэчы нашы з Петрусём Усцінавічам Броўкам працягваліся. Гэта ўжо адбывалася без пасрэдніцтва майго не так і строгага начальніка. Загарадны дом — гэта заўсёды нейкія праблемы, вялікія ці малыя. А вырашаць іх у той час было не так і проста, нават за вялікія грошы.

Неяк раніцой прыадчыняюцца дзверы майго кабінета — заканурак свой я ўсё ж, як і прарочыў начальнік, пакінуў — і ў дзвярах узнікла святлістая галава Петруся Усцінавіча. Ён кіўнуў мне, не заходзячы ў пакой, і, загадкава ўсміхнуўшыся, зачыніў дзверы. Я тут жа падскочыў і кінуўся ў калідор, чым вельмі здзівіў сваіх калег — такога спрыту яны ад мяне не чакалі.

Броўка стаяў у калідоры. Звычны поціск рук — і мы ўжо кіруемся да выхаду.

— Сюрпрыз, мой юны друг, сюрпрыз. Толькі прытомнасці не страць, — інтрыгуе паэт.

Дзе, што, які сюрпрыз, не разумею. А па твары бачу, што народны рады незвычайна. Твор нечаканы напісаў, ці што? Такое ў паэтаў здараецца, і тады яны, як дзеці, ажно скачуць ад радасці. Самыя розныя варыянты сюрпрызаў маланкава замільгалі ў маёй галаве з хуткасцю кінакадраў. Я не на жарт расхваляваўся, мне здалося нават, што мяне кідае ў жар. Усё гэта, вядома, ад лішку ўяўлення, якое карыснае хіба толькі за пісьмовым сталом, а ў іншых выпадках можа нават нашкодзіць. Хвалявала тое, што побач са мною акадэмік, Герой Сацыялістычнай Працы, народны паэт, чалавек, якога ведаюць мільёны людзей, чалавек, які на сорак гадоў старэйшы за мяне, а ён паводзіць са мной сябе так, як быццам мы сябры-равеснікі ці калегі па працы. Ён так асцярожна вёў мяне па калідоры, быццам я быў шкляны і ад кожнага неасцярожнага кроку мог разбіцца і рассыпацца на друзкі, як тая кітайская ваза. Але нічога не здарылася, мы ўжо на ганку нашага ўпраўлення, і я чакаю сюрпрызу.

— Дык во ён мой сюрпрыз! — Пятрусь Усцінавіч паказвае на прыпаркаваную да самай сцяны новенькую «Волгу» ў экспартным выкананні. — Толькі ўчора вечарам Ваня прыгнаў.

Я замёр ад захаплення. Такой прываблівай машыны я яшчэ не бачыў. Гэта сёння мы распешчаны самымі рознымі крутымі іншамаркамі. А тады самай шыкоўнай савецкай машынай лічылася «Волга». Каб мець такую машыну, любы грузін, які гандляваў на рынку кветкамі, гатовы быў заплаціць у дзесяць разоў больш, чым яна каштавала. Гэта машына адразу павышала статус гаспадара.

Асабіста я ніколі не садзіўся за баранку і ніколі нават не марыў стаць уладальнікам уласнага аўто. Працаваць кіроўцам у самога сябе — на гэта не ставала

ні часу, ні ахвоты. І сімвалам шчасця, як гэта было ў многіх савецкіх людзей, машына для мяне не стала. Хоць палюбавацца цудам тэхнікі, чаму ж, і сёння не супраць. Толькі любаванне гэта заўсёды суседнічае з пачуццём болю за прыроду, якая з дапамогай гэтай прыгожай цацкі знішчаецца бязлітасным чынам. А каштоўнае багацце мінулых вякоў — нафта — проста бяздарна і бязлітасна спальваецца ў чэравах гэтых цудоўных пачвараў. Гэта ведаюць усе, але не кожны жадае над гэтым задумвацца ды шукаць нейкае выйсце.

Стоячы на ганку, я не хаваў свайго захаплення. А Пятрусь Броўка падышоў і ласкава, як грыву, пагладзіў капот ды яшчэ прамовіў: «Наша, савецкая!», я зразумеў, што, нягледзячы на розніцу ва ўзростах ды і ва ўсім іншым, мы ўсё ж бліжэй адзін да аднаго, чым многія мае калегі-равеснікі. Яго «наша» расчуліла мяне да слёз. Любы іншы сказаў бы «мая».

Каля самой машыны неяк незразумела мітусіўся Іван Іванавіч. Дужа чымсьці ён быў занепакоены. І чырвань на шчоках. Калі Іван Іванавіч працягнуў руку, каб прывітацца, я заўважыў, што яна трасецца, а далонь здалася незвычайна вільготнай. Штосьці тут адбылося незвычайнае…

Настрой свайго кіроўцы заўважыў і гаспадар машыны.

— Вось якая недарэчнасць атрымалася, — ледзь не са слязьмі на вачах прамовіў Іван Іванавіч і апусціў галаву. Такім кіроўцу я яшчэ ніколі не бачыў. Куды падзеліся яго бадзёрасць і энергічнасць?..

Змяніўся твар і ў Петруся Усцінавіча.

— Ваня, што ў цябе здарылася? — трывожліва запытаўся ён. — Адчыняй дзверцы! Пакажам нашаму сябру абноўку.

— Ды вось зачынілася і ніяк не адчыняецца! — Іван Іванавіч з крыўдай пляснуў далонню па версе машыны, быццам гэта была жывая істота, і зараз павінна была адгукнуцца на яго крыўду… — Хоць шкло разбівай.

— Што ты такое кажаш, Ваня?! — захваляваўся Пятрусь Усцінавіч. — Няўжо нічога нельга прыдумаць?..

— Новая машына… Але я не ведаю. Што мне рабіць. І шкло, калі пабіць, зараз для яе нідзе не дастанеш…

Ваню ахапіла істэрыка. А Пятрусь Усцінавіч у поўнай разгубленасці глядзеў на свой непрыступны цуд. Я спачатку не разабраўся, у чым тут справа. Ці не цямніць штосьці Іван Іванавіч? Можа, проста, карыстаецца некампетэнтнасцю гаспадара ў тэхнічных пытаннях, каб нечага свайго дамагчыся. А можа, прытаміўся ў доўгай дарозе, пакуль гнаў машыну з завода? А тут яшчэ паказваць пакупку немаведама чаму нейкаму выпадковаму чалавеку. Можа, тут проста звычайная чалавечая рэўнасць, падумаў я. Мне было няёмка адчуваць сябе сведкам такой непрыемнай і непрадказальнай сітуацыі. Але, відаць, марудзіць нельга, трэба неадкладна вырашаць праблему, а то і да інфаркта недалёка, нават да двух…

А здарылася вось што. Іван Іванавіч, выходзячы з машыны, заблакіраваў дзверцы, а ключы — увесь камплект — засталіся ў салоне. Такое здараецца.

— Не хвалюйцеся, я адчыню дзверцы! — самаўпэўнена выпаліў ці сам я, ці хтосьці іншы ў маім нутры. Я нават не ведаў толкам, што рабіць, але трэба было супакоіць маіх расхваляваных гасцей. Тым не менш, гэтыя словы прамовіліся не проста так сабе. Гадоў дзесяць да гэтага праходзіў я вытворчую практыку ў Маскве на аўтазаводзе імя Ліхачова. Як дапытлівы і зацікаўлены практыкант, пабываў, напэўна, ва ўсіх цэхах ЗІЛа, колькі разоў быў у зборачным. Ні Іван Іванавіч, ні Пятрусь Усцінавіч такіх падрабязнасцей з маёй біяграфіі не ведалі. І сам я даўно забыўся пра іх. Ды вось у патрэбны момант згадалася. Зараз мне трэба было зрабіць тое, чаго я ніколі ў жыцці не рабіў, але чуў, што такое магчыма.

Калі я агучыў свой план адкрыцця дзверцаў з дапамогай драціны, Іван Іванавіч зноў пачырванеў, пасля пабялеў і выдавіў з сябе толькі адно слова: «Падрапаем…» Пятрусь Усцінавіч здрыгануўся, жаласліва папрасіў: «А як-небудзь без драпін можна? Бо Алена Міхайлаўна…»

Як жа, каб Алена Міхайлаўна даравала драпіну…

— Скажаце, што я вінаваты, — ляпнуў я і сам схапіў сябе за язык.

Усё цяпер залежала ад мяне, толькі я мог вярнуць у нармальны стан маіх паніклых гасцей, якія збіраліся парадаваць мяне, а самі апынуліся закладнікамі такой непрадбачанасці. На некалькі хвілін я пакінуў іх, а вярнуўся з алоўкам і даволі гібкім канчуром меднага дроту, амаль загадаў:

— Іван Іванавіч, я зараз апушчу шкло, а вы ў шчыліну ўтыкаеце аловак.

Я разумеў, што ўсё залежыць зараз толькі ад мяне. Хоць, калі шчыра, упэўненасці ў тым, што ўсё атрымаецца належным чынам, не было аніякай. Але тады я быў малады, і мог рынуцца на любую амбразуру, не раздумваючы. А яшчэ хацелася і сябе паказаць: во які я герой, глядзіце.

— Зробім так: Пятрусь Усцінавіч адварочваецца на некалькі хвілін. Пачынаем. Броўка тут жа адвярнуўся, каб не бачыць, як зараз будуць мучыць яго «ластавачку». Я яшчэ глянуў на яго пакутлівы выгляд, і мне стала балюча за класіка.

Дзвюма далонямі, вільготнымі ад хвалявання, я пачаў націскаць на шкло, зрушваючы яго з месца і адначасова піхаючы ўніз. Шкло з неахвотай паддалося і апусцілася ўніз міліметраў на пяць. Тут галоўнае — не згубіць момант. Скамандаваў Івану Іванавічу:

— Давайце!..

І ён ткнуў дрыготкай рукой аловак завостраным бокам у шчыліну. Цяпер справа за мной. Праз шчыліну я прасунуў драціну і сагнутым кручком на яе канцы падчапіў кнопку блакіроўкі. Яна паднялася ўслед за кручком. Я выцягнуў драціну, дастаў аловак. Шчыліна тут жа знікла. Адчыніўшы дзверцы, весела выгукнуў:

— Усё!.. Карэта пададзена!..

Гэта хвалюючая аперацыя заняла самае большае дзве хвіліны. Пятрусь Усцінавіч павярнуўся, і твар яго зноў змяніўся. Цяпер у лепшы, радасны бок.

— Як гэта вы зрабілі, Ганад Бадрыевіч? — аж прысядаў ён ад шчасця.

— Вопыт багаты! — пажартаваў я.

Ён прыабняў мяне і ціха прамовіў:

— Дзякуй вам. За драпіну мы атрымалі б вялікую вымову ад вышэйстаячай інстанцыі. А калі б яшчэ шкло давялося біць…

Настрой у паэта падняўся на вачах. Але тая лёгкая дзіцячая радасць, з якой ён збіраўся мне паказаць сваю дарагую «ластавачку», ужо не вярнулася. Затое потым ён часта згадваў гэты эпізод, асабліва ў застоллях, пры гасцях і ніколі не прамінаў пажартаваць:

— А ўсё ж прызнайцеся, Ганад Бадрыевіч, дзе вы навучыліся так хутка адчыняць чужыя машыны?..

Аднак вопыт, набыты на машыне паэта, мне болей у жыцці не спатрэбіўся. Хоць жыццё, здаецца, яшчэ не канчаецца…

## Юбілей

Летам 1975 года ў краіне шырока адзначалася 70-годдзе Петруся Броўкі. Усе СМІ, як сёння прынята казаць, усе газеты, часопісы, радыё і тэлебачанне, разам з ім святкавалі гэту дату. Але ўсё гэта мала кранала народнага паэта. Інфармацыйны шум і ён сам існавалі як бы па сабе, толькі зрэдку і не надоўга перасякаючыся.

Калі я аднойчы пацікавіўся, дзе і як ён будзе адзначаць свой юбілей — мы тады прагульваліся ў любімым яго скверы каля стадыёна «Дынама», — ён здзіўлена паглядзеў на мяне і, усміхнуўшыся, адказаў, што адзначаць гэту гістарычную падзею будзе дома. Канкрэтней — на дачы, разам з сям'ёй, дзе спадзяецца бачыць і мяне.

— Даражэнькі, — казаў ён, — гэта так званая ўрачыстасць зараз для мяне не галоўнае. Вось зрабіць бы хоць частку таго, што задумана. Бо часу застаецца

катастрафічна мала. Калі ў маладосці нашай час бясконцы, то зараз ён няўмольна сціскаецца, як незваротная спружына. З кожным днём яго ўсё менш. Траціць яго на юбілеі ды адымаць у іншых — мне зусім не да твару. Прыязджай, абавязкова прыязджай на дачу. Алена Міхайлаўна пакулінарыць, падрыхтуе стол… Пасядзім… Будуць толькі свае…

Я ўпершыню ў сваім жыцці быў запрошаны на такую святочнасць да такога заслужанага чалавека. Выхаваны ва ўсходніх традыцыях павагі да старэйшых, я больш чым сур'ёзна ўспрыняў гэтае запрашэнне. Пасля размовы ў скверы мае думкі былі заняты толькі адным: з якім жа падарункам пайсці да Петруся Усцінавіча? Я перабіраў усе магчымыя і немагчымыя варыянты, далучаў да гэтых пошукаў нават жонку, але ўсё было не тое. Так падказвала сэрца. А з ім я заўсёды згаджаюся.

Вечарам, перад датай, лёг спаць са спадзяваннем, што, магчыма, прысню той падарунак. Прачнуўся ўранку — у галаве па-ранейшаму сумбур ды неразбярыха. А што б іншыя рабілі на маім месцы? Ну, быў бы я які-небудзь магнат, тады іншая справа. А чым можа здзівіць звычайны савецкі інжынер са сваёй сціплай зарплатай? Думаць няма часу — трэба збірацца. Узяў з дамашняга бара пляшку сапраўднага армянскага каньяку, апрануў свой лепшы касцюм, жонка павязала новы гальштук — і ў дарогу…

У тыя часы на вуліцы Рэвалюцыйнай у Мінску (зараз гэта Раманаўская Слабада), на трамвайным закругленні існаваў стыхійны кірмаш кветак. Міліцыя перыядычна палохала назойлівых бабулек, вось толькі грузіны і армяне без ніякіх перашкод гандлявлі паўднёвымі ружамі і гваздзікамі. Кветкавых крам у горадзе было мала. На святы яны пусцелі на вачах. Але калі кветкі вам патрэбны, хіба пашкадуеш на іх дзясятку, хоць у краме каштавалі яны ўсяго 70 капеек. У той дзень на кветкавым рынку было пуста. Я ўжо сабраўся ехаць на Камароўку, як нечакана ўбачыў смуглявага, невялікага росту мужчыну, што, прыгінаючыся, валок у мой бок некалькі валізак.

— Кветкі? — радасна запытаўся я.

— Кветкі, — спалохана адказаў ён.

Я пераканаў яго, што не маю ніякага дачынення да міліцыі. Ён адразу супакоіўся і смела расчыніў валізку — ружы, сотні ружаў, цесна прыціснутыя адна да адной, паўраспушчаныя, з кроплямі пяшчотнай вільгаці на пялёстках, глядзелі мне ў вочы. Пакуль што я быў адзіным пакупніком, і мне было аж занадта многа ўвагі. Заўважыўшы маё захапленне, мужчына сам пачаў фарміраваць для мяне букет. І рабіў гэта старанна, з густам. І ніхто нам не перашкаджаў, не прыспешваў. Сам Бог не быў раўнадушным да юбілею паэта. З двумя букетамі на згібе адной рукі і з дыпламатам у другой я горда ішоў да прыпынку таксі ля кінатэатра «Беларусь».

Вось і падарунак ёсць сімвалічны. Ружы з далёкай сонечнай Грузіі абавязкова нагадаюць паэту тое, што там яго памятаюць і чакаюць. А ў дыпламаце побач з каньяком ляжыць і «Анталогя беларускай паэзіі», выдадзеная ў Ерэване ў 1957 годзе. Унушальная кніга ў зеленаватым пераплёце, дзе надрукавана і вялікая нізка вершаў Петруся Усцінавіча. Лепшага падарунка і не прыдумаеш. А таму ў таксі я садзіўся ў добрым душэўным супакаенні.

На мой званок дачную брамку адчыніла ўсхваляваная Алена Міхайлаўна. Было відаць, што клопату ёй напярэдадні хапіла. Яна яшчэ не паспела пераапрануцца ў святочнае, была ў халаце, заклапочана замітусілася:

— Ах, даруйце, Ганад, прыслугі ў нас, як ведаеце, няма, забегалася адна, не паспела і пераапрануцца.

Я адразу ўручыў ёй букет ружаў. Алена Міхайлаўна паднесла яго да твару, лёгка ўдыхнула незвычайны водар, адразу нібыта пасвятлела і сама. Другі букет адрасаваўся юбіляру.

Пятрусь Усцінавіч быў у настроі, абрадаваўся майму з'яўленню, букету, які я ўручыў яму і асабліва кнізе. Ён доўга разглядаў яе, узважваў на далоні, а потым папрасіў пачытаць біяграфічную даведку. Тут жа ўсіх запрасілі да стала на веран-

дзе. Я прачытаў даведку спачатку ў арыгінале, тут жа пераклаў яе, потым прачытаў некалькі вершаў з нізкі. Штосьці ёсць магічнае ў гуках чужой мовы, калі змест сам табе ўжо знаёмы. Нас раз'ядноўваюць гукі, але яднае сэнс. Здаецца, самі сабой сказаліся тады гэтыя словы, і яны замянілі ўсё маё віншаванне. Тут падышла Алена Міхайлаўна з падносам у руках. Цяпер пераапранутая. Гаспадыні дужа пасаваў яе святочны ўбор. Здаецца, гэта заўважыў і сам юбіляр. Кожная жанчына — гэта актрыса, якой даводзіцца іграць на дзень адразу некалькі роляў. Мне здалося, гаспадыня вельмі паспяхова спраўляецца з усімі сваімі ролямі. За сталом сабралася добрая сябрына. Падышоў брат Броўкі Сцяпан Усцінавіч, які выходзіў падыхаць свежым паветрам. Мы выпілі па чарцы каньяку за юбіляра і яго жыццёвую спадарожніцу. Пятрусь Усцінавіч капнуў пару кропель каньяку ў свой фужэр, дабавіў туды баржомі, а мы са Сцяпанам Усцінавічам нават добра прыкладаліся да чаркі. У пляшцы пачало паказвацца дно, ужо добра адчулася неўзабаве, што зямля сапраўды не стаіць на месцы. Аб гэтым папярэдзіў мяне і мой унутраны цэнзар. Ды і марку трэба было трымаць перад класікам-юбілярам. А застолле, як я зразумеў, яшчэ толькі пачыналася. Я пачаў збірацца ў дарогу.

— А можа, пачакаеце, Ганад Бадрыевіч? — захваляваўся гаспадар. — Хутка Пётр Міронавіч Машэраў пад'едзе. Пазнаёмлю… Ды і падарунак у мяне для вас ёсць. Не ведаю толькі, ці спадабаецца…

Знаёміцца з першай асобай на падпітку? Хай сабе і прычына для гэтага ёсць важная… Не, гэта не ў маіх правілах… Пятрусь Усцінавіч тым часам зайшоў у дом, затрымаўся там. Я ўжо захваляваўся. Але вось ён нарэшце вярнуўся і пачапіў мне на шыю нейкі скураны футарал на раменьчыку. Потым адчыніў яго і дастаў адтуль ваенны бінокль.

— Гэта на памяць ад мяне, ад Алены Міхайлаўны, ад Сцяпана і Юрасіка, — расчулена прамаўляў паэт. — Думаю, што рэч будзе карыснай…

Я не ведаў, як і дзякаваць гэтаму вялікаму і добраму чалавеку. Ці заслугоўваю я, ці варты таго падарунка?...

Неўзабаве Іван Іванавіч вёз мяне ў бок Мінска. Недзе на паўдарозе ён нечакана тармазнуў на ўзбоччы.

— Едуць, — сказаў ён — Машэраў паехаў да нас. Можна было і не спяшацца…

Не спяшацца, вядома, можна было б. Сышоў бы за роднага ці блізкага. Цяпер я нават пашкадаваў, што не застаўся. Мог бы ўрэшце і з чаркай той пачакаць. Ды і колькі там выпіў? Іван Іванавіч пераконваў мяне, што выглядаю я зусім на цвярозага чалавека.

— Нічога, Машэраў даруе мне, — супакоіў я жартам Івана Іванавіча.

— Пётр Усцінавіч вельмі хораша да цябе адносіцца, — прызнаўся мне кіроўца па сакрэце. — Нядаўна казаў, што трэба параіцца наконт ацяплення…

— А чаму б і не параіцца?..

— Казаў, што няёмка. Чуць што — дык да Ганада… Паважае цябе, як свайго сына.

— Ды сын у Петруся Усцінавіча ёсць. Проста, чалавек ён такі чуллівы. Добра разумее іншых…

— Ну так, — згаджаўся Іванавіч. — А ўсё ж пачуццяў бацькоўскіх у яго шмат, нерастрачаных. Іх хапіла б на добрую сям'ю…

Хто лепей ведае свайго гаспадара, як не яго шафёр? З кожнай новай нашай дарогі я даведваўся пра паэта больш, чым мог даць пра яго любы даведнік.

Іван Іванавіч давёз мяне дахаты і зноў паспяшаўся на дачу. Думаю, што я зрабіў тады правільна, хоць было б цікава пабачыць і паслухаць Пятра Міронавіча і Петруся Усцінавіча.

Мінула шмат гадоў, і трапілі мне пісьмы Петруся Усцінавіча да загадчыка аддзела культуры газеты «Правда» Сяргея Кошачкіна. Сярод іх знайшоўся і ліст з подпісам Пятра Міронавіча, у якім той прасіў галоўнага рэдактра «Правды» знайсці магчымасць надрукаваць у святочным нумары ваенны верш Петруся Броўкі. Гэтыя лісты я набыў і перадаў у дар музею паэта. Сярод экспанатаў музея ёсць

і мой даўні падарунак — «Анталогія беларускай літаратуры» на армянскай мове. Я часта наведваюся ў музей, які мне заўсёды дадае адчування прысутнасці самога паэта ў маім жыцці і лёсе.

## Бінокль

Многія мае аднагодкі ў дзяцінстве хацелі мець такую цацку. Думаю, што ніхто не адмовіўся б ад яе і потым, у сталасці і… Так-так, у любым узросце. І вось пашанцавала: праз два дзясяткі гадоў мая мара спраўдзілася. Гэтая дарагая рэч вісіць на раменьчыку ў маім рабочым пакоі і сёння, і я амаль кожны дзень бяру яе ў рукі. І, каб вы ведалі, колькі самых нечаканых адчуванняў узнікае тады ў маёй душы. У першую чаргу згадваю чалавека, які падараваў мне яе ў той чэрвеньскі летні дзень. Вялікі, добры, вядомы гэта быў чалавек. Часам я думаю, ці не шкадаваў ён сам, калі дарыў гэту дарагую рэч. Напэўна, і для яго самога яна была вельмі дарагая. Бо шмат чаго магла нагадаць з гадоў яго маладосці. Думаю я яшчэ і пра тое, а ці змог бы я падараваць яе камусьці вось гэтак нечакана, без прытворства, зусім шчыра, як падаравалі мне. Але падараванае зноў не дараць.

Бінокль гэты для мне — значыць куды больш, чым падарунак. У той чэрвеньскі, юбілейны для Броўкі дзень, калі бінокль апынуўся ў маіх руках я яшчэ не ведаў, што мне потым пакажуць яго дзіўныя акуляры. Да падарунка было і настаўленне ( калі ўжываць армейскую тэрміналогію, дык — інструктаж. Бінокль жа ваенны ). Звярнуся да памяці:

— Захочаш убачыць вялікіх і харошых людзей, вялікія справы — глядзі ў маленькія шкельцы. Людзей маленькіх і нікчэмных адсылай як можна падалей. На гэта здольныя вялікія шкельцы.

А прыпадзеш вачыма да акуляраў бінокля, што ўжо самі па сабе празрыста адліваюць небам, і як на далоні бачыш зялёную і раўнінную беларускую далячынь, нават тыя дарогі, па якіх ты некалі прайшоў сваімі нагамі. А вось часу — і таго, далёкага, і зусім блізкага, што быў з табой, у бінокль, на жаль, не разгледзіш. Тут патрэбны зусім іншыя акуляры, іх мае толькі чалавечая памяць. Гледзячы далёка ў памяць, трэба быць непадробна чыстым і сумленным душою. Яна і адтуль, здалёку, ніколі не даруе табе хлусні і абыякавасці.

Падарунак Петруся Усцінавіча, армейскі бінокль, захоўваю са смуткам. Часам гляджу праз яго на твары людзей. Яны ўсе розныя — вясёлыя, сумныя, заклапочаныя і абыякавыя. І ўсе спяшаюцца. А мне хочацца, каб яны не тузаліся, не ўздрыгвалі з прычын і без прычыны, а спакойна верылі, што ўсё ў іх складзецца, як трэба. Хай смела ступаюць — кожны на сваю сцяжыну дабра, і тая абавязкова выведзе на шырокую дарогу жыцця. І калі кожны зробіць для сваёй краіны хоць бы адну добрую справу — вялікай будзе краіна і шчаслівымі яе людзі. Калі бракуе сіл, каб тварыць добрае, хай яны хоць устрымаюцца ад злога — у адносінах да сябе і блізкіх. Жыць трэба па прыкладзе продкаў, што па крупінцы ўзбагачалі скарбонку нашай духоўнасці, ахвяруючы цяплом душы, ведаў, намаганняў, а часам і жыццём у імя будучыні свайго народа. Тады не засохне дрэва жыцця, не хруснуць галінкі маральнасці, на якіх і з’яўляюцца зялёныя лісточкі вечнасці. Бо чалавек — гэта не «я», гэта «мы». Бо ёсць здагадка, што і біблейскі Адам — гэта не імя асобнага чалавека, а цэлага племя.

## На імяніны

Паэты любяць прыроду. Яна неад’емная частка і самой паэзіі, адна з яе складнікаў. Калі Петрусю Усцінавічу Броўку не ўдавалася выехаць за горад, ён кампенсаваў гэта прагулкай у скверы ля стадыёна «Дынама». Гэта якраз насупраць яго

кватэры па вуліцы Карла Маркса. Рабочы дзень яго, нягледзячы на ўзрост, меў шчыльную, аж занадта, загрузку. Колькі часу займалі адны толькі пасяджэнні са сваім адвечным пераліваннем з пустога ў парожняе. Іх то ён і баяўся больш за ўсё. «Сёння зноў змарнаваў тры гадзіны бяздарна», — жаліўся часам мне, калі мы прагульваліся разам. А такое здаралася не так і рэдка. Я жыў побач, на вуліцы Ульянаўскай. Неяк выпадкова сустрэліся ў гэтым скверы, хоць ужо былі знаёмымі. Памятаю, падышлі да скрыжавання Свярдлова з Ульянаўскай, я не стрымаўся, паказаў яму свае вокны. Тады паэт пажартаваў:

— Калі-небудзь я зазірну да вас на агеньчык. Не прагоніце? Акраец хлеба і шклянка вадзіцы знойдзецца?..

— Для вас, Пятрусь Усцінавіч, два акрайцы і дзве шклянкі знойдуцца, — адказаў я таксама жартам.

Класік любіў лёгкі і просты гумар. Жартаваў сам, любіў, калі жартуюць іншыя. Сёння я часта выходжу ў той сквер, хаджу даўнімі сцяжынамі і, вядома ж, шкадую, што не магу ўзнавіць у памяці ўсё тое, пра што мы некалі гаварылі — старэйшы і маладзейшы. Гаварыў, безумоўна, ён, а я быў уважлівым слухачом.

Аднойчы, калі ўжо завяршалі свой шпацыр і збіраліся развітвацца, а ў размове нашай узнікла нейкая паўза, мой старэйшы суразмоўца запытаўся, ці не ведаю я свайго аднафамільца, які друкуецца ў газеце «Во славу Родины». У таго быццам і імя супадае. Гэта было прамоўлена так знянацку, што я разгубіўся, але адразу ж прызнаўся:

— Дык гэта я і ёсць.

— Я так і падумаў, што гэта вы. На адзін Мінск двух такіх прозвішчаў многавата, — усміхнуўся ён і паўшчуваў. — Усё гэта добра, але чаму таемна ад мяне?

Я не ведаў, што і сказаць. Каб ён ведаў, як мне карцела прызнацца, што я даўно пішу вершы і нават друкуюся. Саромеўся, нават баяўся, як гэта прагучыць у маіх вуснах. Раптам паэт падумае, што я сябе стаўлю ўпоравень з ім, класікам? Да вершаў маіх мы вярнуліся крыху пазней, калі я чарговы раз завітаў на дачу да паэта.

— Думаю, урэшце вы пакажаце мне свае цывільныя творы, — сказаў Пятрусь Усцінавіч, сустракаючы ля брамкі, і тут жа звярнуўся да жонкі:

— Уяўляеш, Міхайлаўна, наш Ганад Бадрыевіч піша вершы. Ну, майстра на ўсе рукі! Значыць, так, Ганад Бадрыевіч, дамаўляемся, што праз тыдзень вашы вершы будуць у мяне на стале. Я павінен ведаць, з кім маю справу. А ў вершах чалавек якраз і раскрываецца. Не абавязкова есці пуд солі, дастаткова прачытаць дзясятак вершаў чалавека — і ты будзеш ведаць яго самога…

Не зусім я тут згаджаўся з паэтам, але думку яго пра мае вершаваныя практыкаванні пачуць хацелася. Але, з другога боку, было і страшнавата. Пісаў я на курдскай і армянскай мовах, перакладаў на рускую мову, такіх, каб самому падабалася, не меў. Чакаў, што яны ўрэшце з'явяцца. Але і тут лёс быў для мяне міласцівым. Аднойчы на літаб'яднанні пры газеце «Вячэрні Мінск» я пазнаёміўся з паэтам Валерыем Ліпневічам, амаль равеснікам — усяго на год маладзейшы за мяне. Яго імя ўжо было вядомае ў літаратурных колах Беларусі, вось-вось павінна выйсці з друку першая кніга вершаў. Тады, на літаб'яднанні, я чытаў падрадкоўнікі сваіх вершаў, зробленыя мной не лепшым чынам. Мая руская мова выклікала хіба што смех, а вось Валерыя вершы мае закранулі. На наступным пасяджэнні В. Ліпневіч прачытаў пераклады маіх вершаў. Мне яны спадабаліся. Так завязалася наша творчае супрацоўніцтва.

Неўзабаве я адважыўся паказаць тыя пераклады Петрусю Усцінавічу.

— Добра, — сказаў ён, — днямі і пагляджу… Тут спраў крыху прыспела…

— Ну, можа, да юбілею, майго трыццацігоддзя, прачытаеце, — пажартаваў я.

— А юбілей калі? — зацікавіўся ён, вядома ж, адказваючы на мой жарт. Я назваў дату.

— Ну, часу ў нас яшчэ хапае, — усміхнуўся ён.

Развітваліся мы тады, а ў мяне заскрабло пад сэрцам: хто ведае, можа, і не спадабаецца класіку мая раскаванасць. Ён жа традыцыяналіст, а ў мяне ўсе вершы нерыфмаваныя, затое блізкія да арыгінала. А ранейшыя, якія перакладчыкі рыфмалі, мяне не радавалі. Я не пазнаваў там сябе самога. Думаю, што гэтак жа не пазнаваў сваіх вершаў і Расул Гамзатаў. І ў яго арыгіналах не было рыфмавання. Баяўся я толькі аднаго — каб перакладчык не згубіў і нават не пакалечыў маю думку. Усё іншае хвалявала не дужа. Думаў я і вось яшчэ пра што. Калі Броўку раптам не спадабаюцца мае вершы, то і адносіны нашы могуць зусім змяніцца. Яны ж з яго боку былі сапраўды бацькоўскія.

Будзённыя клопаты робяць наш час заўсёды хутчэйшым. Я нават забыўся пра свае вершы. Ведаў, што Пятрусь Усцінавіч чалавек абавязковы — калі што паабяцае, то абавязкова зробіць. Раней-пазней — якая розніца? Я вунь сам колькі марудзіў са сваёй вершаванай нізкай. Буду чакаць, нечага ж дачакаюся. А ў яго, акрамя мяне, абавязкаў пад завязку. Ці не зашмат на такі ўзрост?

Наогул, я не аматар усялякіх урачыстасцей і застолляў. Там мяне хапае толькі на нейкае паўгадзіны, потым усё пераходзіць у сум. І самае найцяжкае — хаваць гэта сумнае ад прысутных. Ну а калі з'яўляюцца госці да цябе самога — тут ужо рабі ўсё, каб яны пачувалі сябе, як дома. П'юць — пі таксама, спяваюць — спявай разам з імі. Мае госці на гэты раз пачуваліся вольна, не горш, як дома, але песень яшчэ не спявалі. А таму пошчак дзвярнога салаўя яны пачулі адразу. Нехта пабег адчыняць, а нехта ўжо напаўняў самы вялікі штрафны келіх. І раптам слых крануў нібыта знаёмы голас. Нехта шапнуў, што нейкі пажылы чалавек жадае мяне бачыць. Я падумаў, што гэта мой няўрымслівы сусед Савельевіч. Ён жыве ў нашым доме, падтрымлівае і сочыць за чысцінёй ва ўсім двары, не дае разагнацца чужакам з вакзала, які ў нас побач. Я падрыхтаваўся сустракаць Савельевіча, ужо і поўную чарку наліў. А тут, бачу, з гваздзікамі ў руцэ стаіць сам Пятрусь Усцінавіч. Дзе і гваздзікі тыя ён адшукаў у такі час? Таксама, відаць, не малых намаганняў каштавала? Нашы касмічныя караблі ўжо даўно сваволілі ў касмічнай прасторы, пабывалі на Месяцы, а купіць букет кветак усё яшчэ было вялікай праблемай. Гэта ўскладняла людзям жыццё, але не перашкаджала жыць даволі прыстойна. Зараз кветак стала больш, а вось жыццё само даволі не кветкавае.

Я ўсадзіў дарагога госця за стол і аб'явіў , што ў нас у гасцях не хто іншы, як народны паэт Беларусі Пятрусь Усцінавіч Броўка. Гэта ўсіх уразіла незвычайна. Я тое зразумеў па цішыні, якая адразу ўсталявалася ў кватэры.

— Пятрусь Усцінавіч! Урачыстасць пад пагрозай! Усе чакаюць вашага слова! — загаманіла застолле.

— Я павінен сказаць слова? — здзіўлена пытаў госць.

— Вы-вы, народ чакае…

Не ўсё запомнілася з таго, што казаў тады гасцям, а болей мне, шаноўны госць. Але перакананы, што гаварыў пра дабрыню, пра сапраўдныя чалавечыя ўзаемаадносіны. Здаецца, гучалі там і гэтыя словы:

А я нічога не хаваю,
Што праспяваў,
Што прапяю.
Я і набытак, што збіраю,
Заўсёды людзям раздаю.

Памятаю, што віншаваў мяне класік не толькі як свайго знаёмага, але і як паэта, якога толькі надоечы адкрыў для сябе. Для маіх астатніх гасцей гэта было таксама навіной. Толькі пасля гэтага яны апамяталіся і пачалі прасіць пачытаць вершы. Спачатку — госця, а пасля і мяне.

Пятрусь Усцінавіч толькі краёчкам вуснаў дакрануўся да свайго штрафнога келіха. Чытаць яму было і лягчэй, і лацвей, чым смакаваць тую святочную моц.

— Узрост нагадвае і загадвае, — апраўдваўся паэт, а народ патрабаваў. Мне ж хацелася толькі аднаго — дагадзіць Петрусю Усцінавічу, толькі б ён не пакрыў-

дзіўся. На тым дні нараджэння мае госці засталіся цвярозымі намнога даўжэй, чым звычайна, і першы мой жыццёвы юбілей запомніўся назаўсёды. Усё гэта дзякуючы яму, незабыўнаму Петрусю Усцінавічу.

У той вечар, 18 кастрычніка 1976 года, ён акрамя кветак прынёс мне і нізку маіх вершаў, якія прачытаў і ўхваліў. Ці варта казаць, як гэта мяне акрыліла. Доўга за сталом Пётр Усцінавіч заседжвацца не збіраўся. Пакінуўшы гасцей на апеку жонкі, я пайшоў праводзіць яго дамоў. Па дарозе пачуў яшчэ шмат цёплых слоў пра сябе і мае вершы. Не магу і сёння перадаць тую радасць, якая віравала тады ў маёй душы. Думаю, і ў мяне было ўсё так, як і ў паэтавым пазнейшым вершы:

Пішу я вершы. Шмат друкую,
Нямала радасці спазнаў…
Ах, каб мне радасць зноў такую,
Як першы верш надрукаваў.

З гэтага ўсё і пачалося…

## Кудмень

У мяне на пісьмовым стале пад шклом ляжыць запіска Петруся Усцінавіча. Яе змест даўно ведаю на памяць. Заўсёды, калі саджуся за стол, прабягаю яе вачыма. Для мяне — гэта своеасаблівы кудмень. Я веру ў яго сілу, і ён мне дапамагае. Калі ў жыцці даводзіцца вырашаць штосьці надзвычай важнае, амаль лёсаноснае, перачытваю яе ўслых, як мантру. У свой час яна сталася маім пропускам у беларускую літаратуру.

У адрозненне ад звычайнай дарогі, творчая не церпіць доўгіх збораў, нейкага раскладу руху, канкрэтных прыпынкаў, сустрэч, людзей. Тут амаль усё стыхійнае і непрадказальнае. На гэтым шляху няма верставых слупоў, але заўсёды ёсць і свае зычліўцы, і свае зайздроснікі. Але калі ты выправіўся ў дарогу, трэба ісці.

Аднойчы вечарам патэлефанаваў Пятрусь Усцінавіч і папрасіў, каб заўтра я зазірнуў да яго на працу. Прасіў захапіць з сабой і нізку вершаў, з якой ён да гэтага пазнаёміўся. Працаваў тады галоўным рэдактарам Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Хвалюючыся, заходжу ў прыёмную, дзе ўжо неаднойчы быў. Сакратарка ветліва папрасіла пачакаць, а сама асцярожна прыадчыніла дзверы і зайшла ў кабінет. Ён куды большы і прадстаўнічы, чым у майго начальніка. Я падумаў, што яна зараз скажа свайму галоўнаму пра мяне, і я адразу зайду, як было колькі разоў да гэтага.

Але на гэты раз усё было па-іншаму. Сакратарка тут жа вярнулася назад, трымаючы ў руцэ незаклееены канверт, які адразу ж працягнула мне і сказала, што ў Петруся Усцінавіча зараз вельмі важная нарада. Ну што ж, канверт дык канверт — можа, яшчэ і лепш. Не трэба лішняй траты часу.

Я выйшаў на вуліцу, крыху прайшоўся, размахваючы тым канвертам, і толькі потым дастаў з яго запіску. Каліграфічным почыркам — такіх я даўно не бачыў — на ёй было выведзена: «Ганад Бадрыевіч! Званіце па тэлефоне 33-24-12 ад 12 да 15 гадзін дня Браніславу Пятровічу Спрынчану. Прынясіце вершы. Ён вас прыме і ўсё раскажа». Я яшчэ раз звярнуў увагу на почырк паэта. Як далёка майму, па-курынаму разбэрсанаму, да яго! Потым я ўжо зразумеў, адкуль той почырк. Трынаццацігадовым хлапчуком паступіў Броўка на працу ў Вяліка-Долецкі камісарыят. Перапісваў паперы. А там патрабавалася каліграфічная зграбнасць і акуратнасць. Вось спакваля і навучыўся выключнасці ў напісанні літар.

Я спыніўся, прачытаў яшчэ раз запіску, і гэтак, перыядычна чытаючы, ішоў па сённяшнім праспекце Незалежнасці (тады ён называўся Ленінскім) у кірунку да рэдакцыі часопіса «Нёман». Як жа пазваніць Спрынчану? І адкуль? Мабільнікаў у той час яшчэ не існавала. Я пачаў шукаць вачыма тэлефон-

аўтамат, то вымаючы, то зноў засоўваючы ў канверт запіску. І тут быццам чыйсьці голас аклікнуў мяне… Азірнуўся і ўбачыў светлы твар Петруся Броўкі. Ён махаў мне з адчыненай дзверцы службовай машыны, што дагнала мяне. Аказваецца, вяртаючыся з нарады, Пятрусь Усцінавіч заўважыў мяне, і папрасіў шафёра развярнуцца і дагнаць. І вось я стаю перад ім нібыта ў нечым вінаваты.

— Запіску ці прачыталі? — запытаўся адразу.

— А як жа, нават на памяць завучыў.

— «Нёман» дзе — ведаеце?

— Быццам бы ведаю, — няўпэўнена адказаў я.

— Значыць, не ведаем, — зрабіў заключэнне паэт.

Мне прапанавалі сесці ў машыну — і вось мы ўжо імчымся да Даўгабродскай.

Па дарозе Пятрусь Усцінавіч жартаваў:

— А ведаеце, якая школа загартоўкі беларускіх талентаў? Спачатку добра нагрэюць у «Полымі», а потым дзеля загартоўкі апусцяць у «Нёман». Трываласць зрэдку бывае адменнай. Можа, і нам трэба было з беларускай адразу пачынаць? Не, будзем праходзіць загартоўку адразу…

Машына прытармазіла ля самых дзвярэй «Нёмана».

— Гэтыя некалькі прыступак трэба пераадолець самому, — сказаў Пятрусь Усцінавіч. — Браніслаў чакае. Прывітанне яму перадавайце. А вечарам пазваніце мне…

А далей было знаёмства з Браніславам Пятровічам. Здзівіў ён мяне сваёй прыстойнасцю, сумленнасцю, добрым веданнем паэзіі і ўважлівымі адносінамі да яе. Пазней я даведаўся, што пачынаў ён свой творчы шлях у кавальскім цэху, прайшоў выдатную рабочую школу. За плячыма ў мяне таксама быў завод. Можа, па гэтай прычыне ён так цёпла сустрэў і мае вершы. І ён, і я ішлі не ад кніг, а ад самога жыцця. Хоць, у адрознене ад мяне, у яго быў і завочна закончаны Літінстытут. Чытаючы мае вершы, ён перыядычна штосьці пазначаў алоўкам, чытаў услых сваім гучным і выразным голасам. Я ўпершыню чуў свае вершы ў чужым выкананні. Адчуванне было дзіўнае: здавалася, гэтыя вершы ўжо не належаць мне, я, як тых птушанят, выпусціў іх у нейкі самастойны палёт. Мае радкі паэт даволі ўдала прымяраў на свой голас. І гэта мне падабалася.

На голас паэта ў пакой зазірнуў галоўны рэдактар часопіса Андрэй Макаёнак. Гэты прыемны, энергічны чалавек, вядомы ўсёй краіне драматург, не мог і кроку ступіць без гумару. Акінуўшы мяне імгненным позіркам, ён кінуў жарт:

— Што, Бронік, зноў талент адкапаў? На ўсю рэдакцыю чуваць…

— Не, ты, Андрэй, паслухай…

— Ды чуў я ўжо…

— Я пакіну, сам пачытаеш потым…

— Не трэба мне нічога пакідаць! — Макаёнак, нібыта супраціўляючыся, выставіў рукі ўперад. — Усё вырашай сам. Ты ж у нас паэзіяй камандуеш. Варты — будзем друкаваць.

Макаёнак пацiснуў мне руку і сказаў:

— У такім разе віншую. Калі ты спадабаўся Браніславу Спрынчану, то можаш лічыць сябе нашым аўтарам. Нават калі б мы не захацелі друкаваць — ён свайго даможацца…

Макаёнак пакінуў нас, і Браніслаў Пятровіч моўчкі дачытаў маю падборку. У мяне ўжо было адчуванне, што мы даўно знаёмыя, з’явілася больш цеплыні і даверлівасці ў нашай размове. Нейкі час ён праглядаў вершы, потым змацаваў іх скрэпкай і, гледзячы ў акно, што выходзіла на двор, задумаўся. Мне нават здалося, што ён забыўся пра мяне. Відаць, штосьці прыкідваў і вырашаў. У рэшце рэшт павярнуўся ў мой бок і сказаў, што нізка падыходзіць да друку. І, магчыма, пойдзе без чаргі. Самі вершы даюць на гэта права. Але было б добра, каб Пятрусь Усцінавіч напісаў невялічкую прадмоўку. Было б, значыць, добра і для мяне самога, і для рэдакцыі. Патрэбны нейкія падпоркі, як я зразумеў.

Тут жа ён павёў мяне да намесніка галоўнага, высокага падцягнутага мужчыны з армейскай выпраўкай — Георгія Папова. Як я зразумеў пазней, ён і быў галоўнай фігурай у часопісе. Макаёнку належалі прадстаўнічыя функцыі і кантакты з уладаю, а ўсе рэдакцыйныя клопаты ляжалі на плячах намесніка. Нагадаю, што тыражы «Нёмана» былі такія, якім маглі пазайздросціць многія маскоўскія часопісы.

Вечарам я патэлефанаваў Броўку. Распавёў яму, як прайшла наша сустрэча з Бранiславам Спрынчанам, сказаў і пра тую самую прадмоўку.

— Ну то і добра, — сказаў ён, уздыхнуўшы.

Пятрусь Усцінавіч напісаў прадмоўку да нізкі і сам перадаў яе ў «Нёман». А яшчэ праз нейкі час я трымаў у руках і карэктуру. Першую ў маім жыцці. Нікому, вядома, пра гэта не казаў. Яшчэ сурочаць, чаго добрага.

«Нёман» са сваімі вершамі і партрэтам, як ні дзіўна, я набыў у Астрахані. Туды прывяла наш рабочы калектыў турыстычная паездка. Вось там ужо не было ніякага сэнсу штосьці ўтойваць. Усе, хто быў побач, бачылі, што са мной адбылося нешта важнае. Праўда, суседка па аўтобусе ўгледзела ў гэтым сваю заслугу. Я не стаў пярэчыць.

Пра свой кудмень, дарагую для мяне запіску Петруся Броўкі, я ўспомніў толькі ў Мінску. Адразу схаваў яе ў патаемнае месца. Вось і сёння прабег па ёй вачыма — і цёплая, прыемная хваля адразу ўлагодзіла сэрца.

## Першая кніга

Чарговы раз на дачу Петруся Броўкі я прыехаў з новымі публікацыямі ў часопісе «Рабочая смена», некаторых нашых газетах. Такая ў нас была дамоўленасць — усё новае з надрукаванага я абавязкова паказваю свайму старэйшаму апекуну. Аказваецца, большасць з прывезенага ён ужо бачыў і чытаў. Тады знанаму паэту было ўжо за семдзесят. Яму часта не здаровілася. Даваліся, вядома, у знакі рабочыя і грамадскія нагрузкі. Але гэта, як казаў ён, адначасова і трымала яго, як той выратавальны круг. Мне было сумна глядзець, як ён з цяжкасцю падымаўся на другі паверх па акуляры. Я хацеў дапамагчы, але ён спыніў: «Вы без мяне не знойдзеце».

Гэтак жа марудна спускаўся потым уніз, слабым голасам клікаў Алену Міхайлаўну. Начапіўшы акуляры, адразу ўзбадзёрваўся, чытаў услых вершы. Пахваліў іх тэматыку, вобразнасць. Урэзаліся ў памяць ягоныя словы наконт паэзіі: «З паэзіяй жартаваць небяспечна. Ці ты займаешся вершамі сур’ёзна, ставіш іх на першае месца ў сваім жыцці, ці развітваешся назаўсёды. Калі будзеш пісаць ад выпадку да выпадку — яны табе адпомсцяць. Яны, як і жанчыны, халодных адносін не даруюць. Але і ад залішняй палкасці таксама стамляюцца».

Пры нашай размове прысутнічала і Алена Міхайлаўна. Яна таксама дабавіла несуцяшальнай дыдактыкі. Пажадаўшы поспехаў у маіх творчых патугах, яна таксама сказала штосьці пра саму небяспечнасць творчага шляху.

— Ну што ты, Міхайлаўна, палохаеш нашага Ганада Бадрыевіча? — перапыніў яе паэт. — Са мной жа, як бачыш, нічога не здарылася.

— Толькі таму, што ў цябе ёсць я! — пераявяла ўсё на жарт Алена Міхайлаўна і тут жа пакінула нас.

Мы яшчэ доўга размаўлялі з ім, развітваючыся, ён сказаў:

— Цяпер у мяне толькі адно жаданне ўбачыць першую кнігу Ганада Чарказяна.

Я сказаў, што, можа, к гадам пяцідзесяці яна і з’явіцца, калі так усё пойдзе.

— Не, трэба раней, да вашых пяцідзесяці я не дацягну, — перабіў мяне Пятрусь Усцінавіч. — Падбяры ўсё, што ёсць, падключы Ліпневіча і трэба выдаваць кнігу.

З такім пажаданнем мы развіталіся.

Урэшце рукапіс быў гатовы, і я аднёс яго ў выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Рэдактарам зборніка быў прызначаны Хведар Жычка. Мы з ім хутка знялі ўсе пытанні, спрэчнага было мала. Мой рэдактар быў у настроі, а ў мяне дык і наогул галава кружылася ад шчасця. Тое, пра што я нават баяўся марыць, нарэшце здзяйсняецца. Мы часта перамаўляліся па тэлефоне з Петрусём Усцінавічам. Ён таксама быў рады за мяне. Але тут узнікла невялікая паўза. У чарговы выдавецкі план рукапіс не трапіў. Ну, думаю, пачакаем наступнага. Але і наступны з'явіўся без майго прозвішча. Зашчымела пад сэрцам. І тады мне намякнулі, што патрэбна прадмоўка Петруся Усцінавіча.

Перастрахоўка, зноў тая ж перастрахоўка…

Прадмова была гатова ўжо на наступны дзень. Тут, як кажуць, можна было б і перажагнацца. У працэс умяшаўся «прынцыповы» галоўны рэдактар. Ён настойваў, каб рукапіс накіравалі ў Саюз пісьменнікаў Арменіі на экспертызу. У чым была сутнасць той экспертызы, я не разумею і сёння. Але рукапіс адаслалі ў Арменію. Пакуль рукапіс дойдзе і вернецца, сумна думаў я, з'явіцца нейкая новая перашкода. Словам, валакіта працягвалася, і я адчуваў сябе бездапаможным.

У пачатку лютага 1980 года я наведаў Петруся Броўку ў бальніцы. Яго ўсё больш адольвала цяжкая хвароба. Ён аслабеў, змагаючыся з ёй. Паміж іншым пацікавіўся і лёсам маёй кнігі. Як-ніяк прайшло тры гады, а вынікаў ніякіх. Я расказваў пра яе лёс, жартуючы, каб не засмучаць паэта. Ён доўга маўчаў, а потым сіплаватым голасам сказаў:

— Заўтра Ваня павязе мяне ў ЦК на нараду. Паглядзім…

Чакаць на гэты раз давялося нядоўга. Недзе праз дзень мяне выклікалі ў выдавецтва і заключылі дамову. У красавіку кнігу здалі ў набор. А ў жніўні я ўжо трымаў у руках сігнальны асобнік сваёй першай кнігі «Трываласць». Блакітная, пад колер васілька, вокладка выклікала на маіх вачах слёзы. У сваёй прадмове незабыўны Пятрусь Усцінавіч пісаў пра тры вузлы, якія звязваюць мой лёс з Беларуссю: «Першы вузялок завязаў …бацька, што вызваляў Беларусь ад фашысцкіх акупантаў. Другі — завязаў ён сам, калі пакахаў беларускую дзяўчыну, якая стала яго жонкай. Трэці — работа: нялёгка ад'язджаць з горада, дзе ты пабудаваў хаця б адзін дом. А Ганад Чарказян па прафесіі будаўнік…»

На вялікі жаль, я не мог падзяліць сваю радасць з аўтарам прадмовы Ён ужо быў у ліку адсутных на гэтай зямлі. Пасля той лютаўскай сутрэчы мы з ім больш не бачыліся.

5 лютага я трапіў у аўтамабільную катастрофу і ляжаў у бальніцы. А 24 лютага Петруся Усцінавіча не стала. У палату да мяне зайшоў Валерый Ліпневіч, які толькі што вярнуўся з пахавання паэта. Я моўчкі слухаў яго, а з вачэй самі выплывалі слёзы. Адышоў не проста чалавек, з ім адыходзіла цэлая эпоха вялікіх падзей, змагарных людзей і гераізму. Недзе адным сваім крылом зачапіла яна і нас, маладзейшых. Гэта мы зразумеем крыху пазней.

Сёння, наведваючы Усходнія могілкі, дзе вечным сном спачывае вялікі сын Беларусі, з хваляваннем кладу ў яго бронзавыя рукі свежыя кветкі. Ганаруся тым, што ведаў яго, сустракаўся, адчуваў заўсёды сапраўдны бацькоўскі клопат і падтрымку. Я ўдзячны лёсу, што ён аднойчы падараваў мне сапраўднае знаёмства, а потым і сяброўства з гэтым чалавекам.

Кожны раз, здымаючы тэлефонную слухаўку, здаецца, зараз пачую знаёмае: «Гэта Пятрусь Броўка! Памятаеце?» А як жа, памятаем, чытаем, думаем, згадваем…

***Пераклад з курдскай Казіміра КАМЕЙШЫ.***

Максім СОХАР

# РЭЖЫСЁРСКАЯ ШКОЛА БЕЛАРУСІ

Праблема рэжысёрскіх кадраў для тэатраў Беларусі заўсёды была вельмі актуальнай. Не хапала іх, — маладых, дзёрзкіх, таленавітых, — у 50—60-х гадах XX ст. на кінастудыі, радыё, у філармоніі, тэатральнай самадзейнасці. Галоўнае — адсутнічала свая, нацыянальная рэжысёрская школа. У той час працавалі выхаванцы ўкраінскіх, малдаўскіх, узбекскіх, рускіх студый, тэхнікумаў, вучылішч, інстытутаў. Само жыццё ставіла кадравыя праблемы, вырашаць якія трэба ў жывым працэсе адзінства педагогікі і практыкі. Натуральна, што пытанні падрыхтоўкі рэжысёраў замыкаліся на дзейнасці Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Аднак, перш чым перайсці да праблемы адукацыйнай і выхаваўчай, неабходна хоць бы тэзісна паглядзець на тэарэтычную базу гэтай прафесіі.

Адкрыцці вялікіх рускіх рэфарматараў тэатра К. Станіслаўскага і яго паплечніка У. Неміровіча-Данчанкі сталі моцным падмуркам для фарміравання адукацыйных метадаў у рэжысёрскай школе не толькі Беларусі, але і краін Еўропы. Але наіўна сцвярджаць, што наватарства будавалася на пустым месцы. У перыяд іх рэформ сусветны тэатр ужо меў тэарэтычную базу і новыя прынцыпы выхавання, у тым ліку і рэжысёраў. Выходзяць у свет «Гамбургская драматургия» Лесінга (1880); «О сценическом искусстве» Д. Дзідро (1883), «Правила для актеров Веймарского театра», складзеныя І. Гётэ (1885), «Нужна ли наука для театрального искусства?» — зборнік артыкулаў Гарвардскага ўніверсітэта (1886). Спецыяльна праблемам рэжысуры прысвячаліся артыкулы французскіх дзеячаў тэатра. Так Антуан Ламбор пісаў, што рэжысёр мусіць валодаць воляй і крытычным дарам. «Ён нічога не павінен паказваць акцёрам, але ўмець унушыць ім сваю думку. Рэжысёр ніколі не павінен дапускаць, каб рама брала верх над карцінай... Аднак пры гэтым змест п’есы павінен раскрывацца ў першую чаргу акцёрскімі сродкамі, а ўжо потым прыёмамі сцэнічнага афармлення»[1]. Шмат каштоўных меркаванняў і рэкамендацый па пытаннях рэжысёрскай педагогікі ў артыкулах рускіх пісьменнікаў, рэжысёраў, тэатральных крытыкаў, перакладчыкаў[2].

Тэатральная педагогіка Беларусі цалкам грунтавалася на падмурку рускага тэатра, пераважна МХТа і Александрынскага. Бо першым прафесійным рэжысёрам-педагогам, які прыйшоў у 1919 годзе ў беларускі тэатр, а пазней стаў заснавальнікам нацыянальнай тэатральнай школы, быў вучань Александрынскага імператарскага тэатра Е. Міровіч. Абапіраючыся на творчы досвед сваіх настаўнікаў — К. Варламава, У. Давыдава, В. Стрэльскай, М. Савінай, В. Камісаржэўскай, на рэжысёрскія прынцыпы У. Васільева, Ю. Азароўскага, П. Шэйна, малады мастацкі кіраўнік Першага беларускага тэатра (БДТ-1) цалкам прыняў сістэму і творчы метад К. Станіслаўскага. Пошукі і навацыі Маскоўскага мастацкага тэатра Е. Міровіч успрымаў як вядучы напрамак у драматычным мастацтве, які ён глыбока вывучаў, прапагандаваў і перадаваў сваім вучням у рэжысёрскіх і акцёрскіх класах[3].

Упэўнены, што для даследавання вытокаў беларускай рэжысёрскай школы будуць важнымі ўспаміны найстарэйшага тэатразнаўца А. Лабовіча, якімі ён

падзяліўся з намі: «Маім настаўнікам у Беларускім тэатральным інстытуце быў выдатны рэжысёр-педагог Е. Міровіч. Часта на занятках ён расказваў нам пра спектаклі «Юлій Цэзар», «Марыя Сцюарт» у тэатры герцага Георга II Мейнінгенскага, якія ён бачыў на сцэне Александрынскага тэатра, падзарабляючы там статыстам без адрыву ад вучобы ў прыватнай школе. Уражвалі Еўсцігнея Афінагенавіча, — адзначаў Арсень Аляксандравіч, — разнастайныя прыёмы рэжысёрскай фантазіі, што спрыяла яркай сцэнічнай выразнасці пастановак. Праліўны дождж, аблокі, гром, маланкі, трывожнае месячнае святло — усё было вельмі эфектна і вобразна. А якая скрупулёзная дакладнасць у касцюмах, бутафорыі, дэкарацыях... Вось тады я заразіўся марай стаць рэжысёрам!.. — у захапленні гаварыў наш настаўнік. — А дысцыпліна іх трупы? Найстрогая, сапраўдная нямецкая! За ўсім гэтым стаяў рэжысёр, яго аўтарытэт. Гэтыя высокія тэатральныя прынцыпы былі ўласцівыя і самому Міровічу — рэжысёру, мастацкаму кіраўніку творчых калектываў, стваральніку і педагогу тэатральнай школы Беларусі»[4].

Безумоўна, з-за розных жыццёвых абставін Е. Міровіч спецыяльнай падрыхтоўкай рэжысёрскіх кадраў не займаўся. Але ў розныя гады, працуючы рэжысёрам Першага беларускага тэатра, мастацкім кіраўніком Тэатра юнага гледача, стваральнікам тэатральнага вучылішча і тэатральнага інстытута, выхавальнікам акцёраў у многіх студыях пры беларускіх тэатрах, ён спрыяў станаўленню прафесійнай тэатральнай школы.

Прадаўжальнікам педагагічных прынцыпаў Е. Міровіча сталі выхаванцы беларускай студыі пры МХАТ (1921—1926) рэжысёры-педагогі К. Саннікаў, М. Міцкевіч, Л. Мазалеўская. Дарэчы назваць моцных рэжысёраў-рэалістаў, рэжысёраў-пастаноўшчыкаў, якія атрымалі спецыяльную адукацыю ў тэатральных школах Масквы і Ленінграда — Ю. Арынянскі, М. Пацехін, Г. Волкаў, А. Струнін, Б. Валадарскі, І. Папоў, Б. Эрын, С. Казіміроўскі і іншыя. Усе яны годна працягвалі традыцыі вялікіх папярэднікаў-самародкаў І. Буйніцкага, Ф. Ждановіча, У. Галубка. Сваім мастацтвам, пошукамі, навацыямі, педагагічнай творчасцю заклаўшы дыхтоўны падмурак у стварэнне *беларускай рэжысёрскай школы — (курсіў мой. — М. С.)*.

Такім чынам, каб не перарвалася пераемнасць тэатральнай адукацыі, з мэтай папаўнення калектываў маладымі рэжысёрамі, у жніўні 1958 года было прынята рашэнне стварыць у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце кафедру рэжысуры. Мяркуючы па архіўных дакументах БДТМІ, першая прапанова ўзначаліць новую вучэбную структуру была зроблена Д. Арлову, які далікатна адмовіўся, патлумачыўшы гэта тым, што загадчыкам кафедры рэжысуры павінен быць майстар з грунтоўнай рэжысёрскай школай. Такога майстра-рэжысёра ў Беларусі не знайшлося. Пасля доўгіх пошукаў, па рэкамендацыі Міністэрства культуры СССР з Масквы запрасілі рэжысёра мхатаўскай школы А. Яфрэмава. У склад кафедры залічылі рэжысёраў А. Шкапскага і С. Бірукова, а таксама актрысу тэатра імя Я. Купалы В. Галіну. Тэрмінова набралі чатырох студэнтаў — Яраслаў Громаў, Клара Галушкова, Вікторыя Ліпень, Дзіамара Ніжнікоўская. Яны ўжо мелі пэўны вопыт тэатральнай практыкі. Да прыкладу, Я. Громаў скончыў акцёрскі курс у майстэрні Д. Арлова і больш як сем гадоў працаваў у Тэатры драмы і камедыі (спачатку ў Мінску, затым у Бабруйску). Дзяўчаты былі актрысамі ў прафесійных і аматарскіх тэатрах.

Да месца прывесці фрагменты гутаркі аўтара з найстарэйшым педагогам БДТМІ, прафесарам А. Бутаковым. «Тады быў вельмі радасны і хвалюючы час, — успамінаў Аляксандр Іванавіч. — Ці жарт — адкрылі кафедру рэжысуры, запрасілі вядомага, дасведчанага маскоўскага педагога А. Яфрэмава і набралі цікавых студэнтаў. Чаму так мала? Па-першае, заканчваліся тэрміны набору; падругое, не было сродкаў, бюджэт на створаную кафедру яшчэ не быў зацверджаны, па-трэцяе, не хапала вопытных рэжысёраў-педагогаў, навучальных праграм, метадычнай літаратуры да т. п. Вырашылі шляхам спроб і памылак пачынаць важную для рэспублікі справу»[5].

Па сведчаннях разнастайных крыніц, А. Яфрэмаў узяўся за справу энергічна і паслядоўна. Ён пачаў складаць вучэбную праграму, галоўны «даведнік» па майстэрстве рэжысуры. Значную дапамогу яму ў гэтым аказаў Ленінградскі тэатральны інстытут *(цяпер СПДАТМ. — М. С.)*[6], які даслаў Яфрэмаву метадычныя распрацоўкі — «Инструкция по преподаванию режиссуры», «Инструкция по производственной практике», што сталі вельмі карыснымі пры складанні праграмы.

Вялікую дапамогу ў фарміраванні беларускай рэжысёрскай школы аказаў ГІТІС імя А. В. Луначарскага *(цяпер РУТМ. — М. С.)*, яго рэжысёрская кафедра і асабліва прафесар Ю. Завадскі. Дарэчы, А. Яфрэмаў быў даўнім сябрам яго, яшчэ з часоў вучобы ў студыі Я. Вахтангава. Ды і галоўная рэкамендацыя аб прызначэнні А. Яфрэмава загадчыкам беларускай рэжысёрскай кафедры зыходзіла ад «самаго Завадскага». Шматлікая метадычная літаратура, адпраўленая з ГІТІСа на кафедру А. Яфрэмаву, суправаджалася добрымі, сяброўскімі пажаданнямі: «Дзейнічай, Андруша, дзейнічай — у цябе атрымаецца», «Дарагі Андрэй Андрэевіч, пасылаю табе маё сціплае тварэнне “Рэжысёрскі аналіз”, магчыма спатрэбіцца. Бо аналіз — гэта пачатак сустрэчы мастацтва з жыццём, ці не праўда? Твой Юрый». Аднак ёсць і сумныя запіскі, выкліканыя невядома якімі душэўнымі намаганнямі, можа, пакутамі: «...Ведаеш, Андруша, я маю задумку пакінуць Массавет. Няма больш сіл, ні маральных, ні фізічных адказваць за яго. Буду больш бываць у ГІТІСе, мець зносіны з моладдзю. Гэтай прадухі мне хопіць». Але праз нейкі час, калі ўсё нармалізавалася, Яфрэмаў атрымаў поўны аптымізму і захаплення ліст: «Добры мой сябар! Адбылося! Нарэшце! Массавет знайшоў годны прытулак. Я маю новы тэатральны дом. Гэтая велізарная сцэна, мабыць, будзе ў мяне апошняй... Прыязджай у снежні *(першы спектакль «Леший» Чэхава быў сыграны ў новым будынку 28.01.1960 г. — М. С.)*, узыдзем на сцэну разам. Твой Юрый Завадскі»[7].

Вывучаючы гэтыя ўнікальныя дакументы, мы даведваемся, у якой добрай, зацікаўленай атмасферы стваралася новае творчае навучальнае падраздзяленне — кафедра рэжысуры. Можна прасачыць, як з адкрыццём гэтай кафедры ў беларускай тэатральнай педагогіцы фарміравалася пераемнасць руска-беларускай рэжысёрскай школы. Ад фундаментальнай апоры К. Станіслаўскага, У. Неміровіча-Данчанкі, Я. Вахтангава да іх паслядоўнікаў — А. Дзікага, Б. Захавы, В. Тапаркова, А. Музыля, Г. Таўстаногава, М. Сулімава, У. Смышляева, Ю. Завадскага; і да прадаўжальнікаў: А. Яфрэмава, Д. Арлова, Б. Дакутовіч, К. Саннікава, Л. Мазалеўскай, В. Рэдліх, У. Маланкіна, Р. Баравіка і іншых.

Аднак вернемся непасрэдна да педагагічных светапоглядаў і прынцыпаў А. Яфрэмава. Пасля складання праграмы ён прыступіў да стварэння тэарэтычнай базы кафедры. Звярнуўся да вучоных Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, непасрэдна да старэйшага навуковага супрацоўніка Г. Барышава, з якім распрацаваў новы курс лекцый — «Гісторыя тэатральнай архітэктуры і эвалюцыя тэхнікі сцэны». Потым Г. Барышаў быў запрошаны ў БДТМІ на пастаянную працу, дзе многія гады чытаў лекцыі па гэтым курсе. Характэрна  і тое, што некаторыя пункты распрацовак увайшлі ў праграму спецкурсаў тэатральных ВНУ СССР. І сёння ў Маскоўскім тэатральным універсітэце (былы ГІТІС) вучаніца Г. Барышава, народная артыстка Расіі, прафесар І. Кузьміна выкладае названы спецкурс. На наш погляд, гэта яркае пацвярджэнне пераемнасці ў тэатральнай педагогіцы, калі перадача досведу і ведаў праходзіць, нібы па спіралі: вучань — практык — педагог.

Далучэнне сваіх вучняў да рэжысёрскіх ведаў А. Яфрэмаў пачаў з комплекснага падыходу — арганічнае спалучэнне (у роўных долях) вучэбнай практыкі з тэорыяй. Пад практыкай мы маем на ўвазе працу на «пляцоўцы», над эцюдамі і ўрыўкамі. Паколькі педагогі, якія прыйшлі на кафедру, з’яўляліся тэатральнымі практыкамі, то з першых заняткаў яны сталі перадаваць уласны сцэнічны вопыт. Скажам, А. Галіна лічыла, што рэжысёрам эцюдны працэс не абавязковы, таму

ён павінен быць мінімальным. На пасяджэнні кафедры А. Яфрэмаў «далікатна» патлумачыў: «Мне здаецца, што працэс навучання рэжысёрскай прафесіі мы пачалі не зусім правільна. Назіраецца непаслядоўнасць. Некаторыя педагогі не зусім дакладна зразумелі аснову праграмы — «дзейсны аналіз». Яны ўспрымаюць гэта як «аналіз дзеянняў», мы ж павінны імкнуцца да «аналізу дзеяннем» *(падкрэслена намі. — М. С.)*. А гэта павінна выпрацоўвацца ў працэсе працы над эцюдамі. У першы год навучання студэнты павінны засвоіць азбуку сцэнічнай творчасці. А мы, педагогі, павінны ім у гэтым дапамагчы. Распаліць жаданне да самастойнай творчасці, узбудзіць актыўнасць, прышчапіць любоў да імправізацыі, да ўсяго таго, што разнявольвае маладога чалавека, дае прастор яго творчаму ўяўленню. І, вядома ж, ад пачатку трэба прывучыць іх аналізаваць зробленае. Праз глыбокі аналіз кожнага практыкавання, эцюда трэба выхоўваць арганічную нецярпімасць да фальшу на пляцоўцы, у якую б «арыгінальную» форму ён не пераўвасобіўся. Мы таксама павінны ўкладваць у іх маладыя галавы думку пра тое, што рэжысура — не сядзячая прафесія, а рэжысёр не гэтакі мэтр-вяшчальнік, які раздае каштоўныя ўказанні. Гэта складаная, адказная, фізічна цяжкая работа. Але радасць, якую прыносіць творчасць рэжысёра, ні з чым непараўнальная. Вось, на мой погляд, з такімі адчуваннямі наш студэнт павінен скончыць першы курс»[8].

Шмат увагі надаваў А. Яфрэмаў агульнаадукацыйнай працы са студэнтамі, фарміраванню ў іх актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Я. Громаў адзначае: «Яго рэжысёрская педагогіка заключалася ў імкненні выхаваць у студэнта шырокі светапогляд. «Грамадзянская пазіцыя рэжысёра, — казаў нам Андрэй Андрэевіч, — пачынаецца з пільнай цікавасці да чалавека, яго псіхалогіі, светаадчування. Рэжысёрская прафесія павінна мець больш высокую мэту, чым проста ставіць спектаклі. Яго сутнасць і аснова — грамадзянская пазіцыя. Рэжысёр абавязаны быць чалавекам самых перадавых поглядаў. Здольнасць вобразнымі сродкамі сказаць пра праблемы жыцця — галоўная асаблівасць рэжысёрскай прафесіі»[9].

Умела супастаўляючы арганізатарскую дзейнасць загадчыка кафедры з рэжысёрска-педагагічнай працай у вучэбнай майстэрні, А. Яфрэмаў паслядоўна фарміраваў эстэтычны і прафесійны ўзровень студэнтаў. Аднак дыялог сталага майстра з моладдзю не абмяжоўваўся навучальнымі гадзінамі ў аўдыторыі, а працягваўся ў бібліятэках і клубах горада. А. Яфрэмаў любіў і ўмеў весці дыскусіі, якія можна атаясамліваць з яго арганізацыйнай энергіяй і здатнасцю «распушыць» цікавую тэму па гісторыі і тэорыі драмы, або тэатра. А яшчэ ён разумеў, што для стварэння рэжысёрскай школы патрэбна не толькі практычная, але і тэарэтычная база, уменне выкладчыкаў і студэнтаў разумець і прапагандаваць перадавыя сцэнічныя метады. Бо з пункту гледжання адукацыйнай метадалогіі, найважнейшым у тэатральнай педагогіцы з’яўляецца сучасны погляд на з’явы, якія адбываюцца не толькі побач, але і на творчыя працэсы міжнароднай значнасці.

А. Яфрэмаў лічыў, што выкладчык спецыяльных дысцыплін, які працуе на кафедры рэжысуры, абавязаны быць шырока эрудзіраваным спецыялістам, імкнуцца глыбока разумець перадавыя працэсы сучаснага сусветнага тэатра і пры падрыхтоўцы спецыялістаў выкарыстоўваць іх ва ўласнай практыцы. З гэтай мэтай, па яго ініцыятыве, восенню 1960 года ў БДТМІ арганізавалі вучэбна-тэарэтычную канферэнцыю «Рэжысура: гісторыя і сучаснасць», на якую запрасілі вядучых выкладчыкаў Школы-студыі МХАТ, Украінскага інстытута тэатральнага мастацтва імя І. К. Карпенкі-Карага, Браціслаўскага інстытута тэатральнага і музычнага мастацтва. На працягу двух дзён былі заслуханы і абмеркаваны даклады: «Методыка тэатральнай педагогікі К. С. Станіслаўскага» — Р. Крысці, г. Масква; «Рэжысёрская школа Украіны: Юра, Сярдзюк, Цягно» — М. Йосіпенка, г. Кіеў; «Комплекснае выхаванне ў сістэме навучання рэжысуры» — Ю. Свобада, г. Браціслава; ЧССР; «Работа рэжысёра над п’есай і спектаклем» — А. Яфрэмаў, г. Мінск. У абмеркаванні дакладаў і дыскусіях актыўны ўдзел прымалі студэнты другога і трэцяга курсаў рэжысёрскай майстэрні А. Яфрэмава. Іх даклады пра-

ходзілі пад агульнай назвай «Рэжысёрскія партрэты — Меерхольд, Вахтангаў, Ахлапкоў, Папоў». Як адзначаецца ў протаколах інстытута — «Гэтая канферэнцыя стала своеасаблівым іспытам двухгадовай дзейнасці кафедры рэжысуры і яго загадчыка»[10].

Ініцыіруючы сваіх вучняў да ўмення аналітычна абгрунтаваць з'явы ў літаратуры, тэатры, ды і ў жыцці, педагог, тым самым, адводзіў іх ад прымітыўных, інтуітыўных меркаванняў, накіроўваючы ў рэчышча метадычнай сістэмы, калі доказная тэорыя спрыяе засваенню прафесійнага майстэрства. З гэтай мэтай ён і настойваў на ўключэнні ў вучэбную праграму курса па тэорыі рэжысуры і драмы. Аднак з боку адміністрацыі БДТМІ і ўпраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР Яфрэмаў не знайшоў падтрымкі. Тады звярнуўся з аналітычным лістом у Галоўнае ўпраўленне навучальных устаноў пры Савеце Міністраў СССР, у якім адзначаў: «...Міжнародная канферэнцыя, якая прайшла ў Мінску, будзе садзейнічаць вырашэнню праблем, звязаных з пытаннямі ўдасканалення методыкі падрыхтоўкі маладых рэжысёрскіх кадраў. Яе вынікі паказалі жаданне студэнтаў асвойваць досвед работы розных па сваіх мастацкіх прынцыпах майстроў тэатра. Але, разам з гэтым, мы выяўляем даволі нізкі тэарэтычны ўзровень ведаў нашых вучняў, што, у першую чаргу, звязана з адсутнасцю ў вучэбнай праграме гадзін на тэорыю драматургіі і рэжысуры. У сувязі з гэтым педагогі праяўляюць непатрабавальнасць, лічачы, што тэорыя ўскладніць методыку перадачы практычных ведаў па рэжысуры. Але мы не можам у сучасных умовах спадзявацца толькі на досвед і інтуіцыю выкладчыка. Неабходна ўвесці, у форме заліку або экзамену, на апошнім годзе навучання тэарэтычную абарону сваёй рэжысёрскай задумы. Добра засвоеныя веды па тэорыі рэжысуры і драматургіі, будуць спрыяць уменню маладых спецыялістаў ужываць іх у сваёй практычнай працы. Гэта з'яўляецца прынцыпам сучаснай тэатральнай школы»[11].

Вядома, гэтая руцінная праца забірала шмат часу і сіл, але вынік быў добрым — прапановы А. Яфрэмава прынялі і ў вучэбную праграму ўвялі дысцыпліну «Тэорыя драмы і рэжысуры». Цяпер студэнты дыпломнага курса ажыццяўлялі абарону пастановачных планаў — г. зн. праводзілі тэарэтычнае абгрунтаванне самастойна пастаўленых спектакляў. Станоўчыя вынікі такой працы знайшлі разуменне і на кафедры майстэрства акцёра, дзе педагогі сталі актыўна ўкараняць у навучальны працэс тэорыю акцёрскай творчасці. Па кнізе К. Станіслаўскага «Работа акцёра над сабой» і падручніках па псіхалогіі шляхам практычных заняткаў правяралася правільнасць успрымання студэнтамі палажэнняў сістэмы. Пачыналіся падыходы да стварэння праграмы па тэатразнаўстве. Пад кіраўніцтвам выкладчыка У. Няфёда старшакурснікі праглядалі спектаклі тэатраў г. Мінска, а потым іх публічна абмяркоўвалі[12].

Для вывучэння педагагічнай методыкі А. Яфрэмава ўяўляе цікавасць арганізацыя ім вучэбна-вытворчай практыкі. У яе аснове — як мага больш пазнаёміць вучняў з новымі рэжысёрскімі адкрыццямі і напрамкамі ў тэатрах СССР. Для другога курса ён арганізаваў паездку ў маскоўскі тэатр «Современник», дзе пасля прагляду спектакля «Звычайная гісторыя» па рамане І. Ганчарова (інсцэніроўка В. Розава) адбылася сустрэча беларускіх студэнтаў з акцёрамі. Ажыццявіў калектыўную паездку выкладчыкаў і ўсіх студэнтаў рэжысёрскай спецыялізацыі ў г. Паневежыс, дзе яны пазнаёміліся з модным у той час авангардным напрамкам літоўскага тэатра. Прагляд спектакля «Макбет» У. Шэкспіра і сустрэча з рэжысёрам Э. Мільцінісам аказалі велізарнае эмацыянальнае ўздзеянне на гасцей. На наш погляд, такая праца загадчыка кафедры з'яўлялася працягам пошуку мастацкай педагогікі і выпрацоўкі методыкі далейшага выхавання рэжысёраў. Прычым, гэтая дзейнасць А. Яфрэмава набывала сістэмны характар, бо ўжо праз год у межах вучэбна-вытворчай практыкі ён з трэццякурснікамі паехаў у Ленінград.

Акрамя знаёмства з «тварэннямі» Пятра Вялікага, наведвання мастацкага музея, адбыўся прагляд і сустрэча са стваральнікамі спектакля «Варвары»

М. Горкага ў БДТ імя М. Горкага Г. Таўстаногавым і Таццянай Даронінай. Вучань А. Яфрэмава, які стаў пасля рэжысёрам-педагогам, В. Кісялёў успамінае: «Гэта былі дзіўныя сустрэчы-гутаркі з фантастычна адоранымі творцамі. Да гэтага часу памятаю словы Георгія Аляксандравіча Таўстаногава, які разважаў пра сучаснасць. Ён гаварыў: «...Галоўная задача нашага калектыву — *мастацкае (курсіў мой. — М. С.)* разуменне часу. Сучасны спектакль, а мы лічым, што «Варвары» менавіта такі, — не ёсць спектакль толькі пра надзённыя праблемы сённяшняга дня. Ён суадносіцца не з бягучым момантам, — ён суадносіцца з Часам. Мы часта блытаем такія паняцці, як сучаснасць, надзённасць, мода, лічачы іх сінонімамі. Гэта далёка не так. Дакладней — зусім не так. Трэба адчуваць і думаць, як твой сучаснік. У гэтых адносінах асаблівыя патрабаванні прад'яўляе нам класіка. Так, М. Горкі ў нашым рэпертуары — госць рэдкі. Таму нашай калектыўнай задачай было адрадзіць яго жывога, сучаснага. Зрабіць яго блізкім сённяшнім гледачам, паказаць глыбіню і разнастайнасць яго характараў-вобразаў, зноў зацвердзіць бессмяротнасць высокага рэалістычнага мастацтва драматурга. Пра гэта я шмат думаў, разам з акцёрамі, калі пачыналі работу над Горкім. Дыскусіі, якія сёння разгарнуліся вакол спектакля — прыкметы яго сучасных адносін да рэальнага жыцця». «Мне дарагія гады вучобы ў майстэрні А. А. Яфрэмава, — працягвае свае разважанні Кісялёў, — дарагія тым, што настаўнік імкнуўся ўсебакова пашыраць наш прафесійны кругагляд. У гэтым, на мой погляд, было адно са звенняў яго педагагічнай методыкі»[13].

Аналізуючы асаблівасці методыкі А. Яфрэмава, выяўляеш дзіўны арсенал яго педагагічных прыёмаў — ад простых практыкаванняў і эцюдаў, вывучэння сістэмы К. Станіслаўскага, аналітычнага абгрунтавання дзейснага аналізу, тэарэтычных разважанняў з нагоды сучаснага тэатральнага працэсу да імправізаваных, пад выглядам вытворчай практыкі, паездак у розныя гарады для знаёмства з найбольш сучаснымі тэатральнымі рэжысёрамі-педагогамі. Трэба яшчэ дадаць імкненне майстра абуджаць у вучнях творчую самастойнасць, актыўнасць, здольнасць рэалізаваць сябе. Удзел у канцэртах, у розных тэатралізаваных паказах, здымках у кіно і на тэлебачанні з'яўлялася своеасаблівай вучэбнай практыкай, добрай школай выхавання і творчай загартоўкі будучых рэжысёраў. У навучальную праграму А. Яфрэмаў таксама ўвёў факультатыў, тэарэтычны курс «Народная тэатральная творчасць Беларусі», вывучэнне і засваенне якой давала студэнтам веды ў справе далейшага развіцця нацыянальных форм тэатра. Па-іншаму ставілася пытанне ўдзелу студэнтаў у рабоце з аматарскімі калектывамі. Пачынаючы з другога курса, кожны павінен быў ўзначальваць аматарскі тэатр. Працяглая практыка работы з акцёрамі-аматарамі давала будучаму рэжысёру неабходныя навыкі, якіх ён, звычайна, у сценах інстытута атрымаць не мог.

Як адзначае Я. Громаў: «...Яфрэмаў развіваў у студэнтаў уласную творчую ініцыятыву, павагу да абранай прафесіі, дапытлівасць, пачуццё новага, жаданне пашыраць свой культурны ўзровень... Ён «прышчапляў» будучым рэжысёрам пачуццё калектыўнай творчасці, іх удзел з першага курса ў кіраўніцтве аматарскімі драматычнымі гурткамі, фарміраванне неабходнасці ў назапашванні імі жыццёвых назіранняў»[14].

Цяпер пяройдзем да заключнага адказу на пытанне: што ж адбылося з маладой кафедрай рэжысуры і яе таленавітым загадчыкам? Мяркуючы па яго асабістых задумах і планах, А. Яфрэмаў хацеў яшчэ шмат чаго зрабіць дзеля развіцця рэжысёрскай адукацыі. У аналітычным артыкуле «Высокае права быць педагогам» ён пісаў: «Развіццё беларускай тэатральнай адукацыі патрабуе вырашэння многіх пытанняў. І перш за ўсё — кадравых, патрэба ў якіх усё павялічваецца ў сувязі з развіццём вячэрніх і завочных аддзяленняў. Трэба ўдасканальваць і матэрыяльна-тэхнічную базу кафедры рэжысуры — вельмі неабходны вучэбны тэатр... Якое гэта шчасце для маладога рэжысёра — прайсці праз тэатр-сям'ю, праз неспрактыкаваных вытворчасцю студэнтаў-акцёраў, праз начныя рэпетыцыі,

усякую неўладкаванасць... а потым спектакль — другі, трэці. Утвараецца свой глядач, грамадскае меркаванне... Але пакуль, гэта толькі маё ўяўленне»[15].

Каментуючы гэтыя шчырыя думкі майстра, трэба канстатаваць, што неабходных педагогаў на кафедры сапраўды не хапала. Але ўжо на пачатку 60-х на спецыялізацыі актыўна працавалі Д. Арлоў, К. Саннікаў, В. Рэдліх, В. Броўкін[16] — дасведчаныя рэжысёры-практыкі. Іншая справа, што, як сведчаць архіўныя дакументы, не ўсе яны прымалі методыку А. Яфрэмава, асабліва самастойны прынцып *(без акцёрскага класа — курсіў мой. — М. С.*) падрыхтоўкі рэжысёраў. Але галоўная прычына ў тым, што А. Яфрэмаў цяжка захварэў. Пасля выпуску першага рэжысёрскага курса, спешна паехаў на лячэнне. Але і там не пераставаў турбавацца пра сваю кафедру, пра набор вучняў. Трохі паправіўшы здароўе, ён ужо зноў імкнуўся да работы. У паштоўцы на імя загадчыка вучэбнай часткі Ф. Коблі А. Яфрэмаў пісаў: «Пасля скарачэння ўсіх лячэбных працэдур і спрэчак з урачамі — вылятаю ў Мінск 19 жніўня *(1963 г. — М. С.)* на світанні, так што на вечар прызначайце кансультацыю для абітурыентаў. Прымаю ўсе меры, каб хутчэй набыць рабочую форму і заняцца любімай справай. Жах, як засумаваў па студэнтах і рабоце»[17].

Аднак яго жаданням не было наканавана спраўдзіцца. У Мінск ён не вярнуўся... Вучні, выказваючы сваю любоў і адданасць, падтрымлівалі з ім сувязь, наведвалі яго ў Маскве да самага канца...

Праз шмат гадоў яго былы вучань У. А. Арлоў пракаменціраваў лёс свайго педагога так: «Ідэя нашага майстра-ўтапіста Андрэя Андрэевіча Яфрэмава стварыць на базе нашага курса «тэатр-сям'ю», «тэатр-ансамбль», «сутворчасць-аднадумцаў» — не спраўдзілася... Але тое, што ён даў нам любоў да тэатра і дапамог разабрацца ў асновах рэжысёрскай прафесіі, — гэта несумненна»[18].

Праз некаторы час кафедру рэжысуры ўзначаліў К. Саннікаў, потым яна як самастойнае падраздзяленне перастала існаваць. У далейшым беларуская рэжысёрская школа набыла новае развіццё ў сумесным навучанні з акцёрамі на кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры.

На кафедры рэжысуры, а потым, майстэрства акцёра і рэжысуры, К. Саннікаў дабіўся максімальнай сваёй рэалізацыі як тэатральны педагог, выхавацель моладзі. Ёй аддаў свае лепшыя гады і ўсе сілы, адносіўся да студэнтаў па-бацькоўску, з павагай, лічыў іх сваімі «родненькімі». Ён яшчэ ў дзяцінстве прыйшоў у тэатр і праслужыў у ім больш за пяцьдзясят гадоў як рэжысёр-педагог…

Нарадзіўся К. Саннікаў 30 мая 1896 г. у невялікім, жывапісным гарадку Рагачоў. Бацька Мікалай Васільевіч быў адукаваным, інтэлігентным чалавекам, служыў афіцэрам царскай арміі і з'яўляўся адданым паклоннікам тэатральных прадстаўленняў. Арганізоўваў у казармах Гурыйскага пяхотнага палка аматарскія спектаклі, у якіх удзельнічаў сам з жонкай, а таксама дзеці Косця і Клава. Пастаянныя «гульні ў тэатр», воплескі, пахвала блізкіх, фарміравалі ў душы хлопчыка жаданне спасцігнуць гэты чароўны свет сцэны.

У XIX — пачатку XX ст. Рагачоў быў даволі вядомым культурным цэнтрам поўдня Беларусі. Дыхтоўны будынак гарадскога тэатра, на сцэне якога выступалі майстры рускай сцэны — М. Зверава, М. Сабліна-Дольская, С. Строева-Сакольская (Фундамінская), А. Агароў, М. Дзіеўскі, А. Смірноў, П. Орленеў. Пазней, у сваіх успамінах П. Орленеў напіша: «... Я ізноў у Беларусі. Бабруйск, Рагачоў — гарады маленькія, але вельмі тэатральныя. На нашых спектаклях заўсёды многа ваенных з сем'ямі... Тут я ўпершыню паспрабаваў іграць без суфлёра сухотнага Афоню. *(Мяркую, што артыст меў на ўвазе п'есу А. М. Астроўскага «Грэх ды бяда, на каго не жыве». — М. С.)*[19].

Можна меркаваць, што на спектаклях рускіх гастралёраў прысутнічала і сям'я Саннікавых. Да таго ж у Рагачове на сцэне гарадскога тэатра Канстанцін сыграў сваю першую ролю. «Ён успамінаў, — адзначае біёграф К. Саннікава К. Кандрашына, — аднойчы, перад самым спектаклем, захварэў выканаўца, які

павінен выбегчы на сцэну і сказаць адну фразу: «Тата, госці прыехалі!». Гэтую рэпліку даручылі мне. Хваляваўся страшэнна. Раптам — моцны штуршок у спіну і шэпт сцэнарыста: «Пайшоў!». Я, выскачыўшы на сцэну, ва ўсю моц закрычаў: «Бацька! Госці прыехалі!» і наўзрыд заплакаў. Гледачы, а за імі акцёры паваліліся ад смеху. Я не разумеў, што адбылося, стаяў у роспачы...»[20]

Потым пачалася вучоба. У 1907 годзе К. Саннікаў паступае ў Рагачоўскае рэальнае вучылішча, дзе дзейнічаў аматарскі тэатр, якім кіравала настаўніца літаратуры Вольга Мацюшэўская. Яе «рэжысёрскія ўрокі» акрылілі юнака, далі магчымасць праявіць свае артыстычныя здольнасці. Ён з захапленнем і поспехам увасабляў на аматарскай сцэне памешчыкаў, папоў, жандараў з інсцэніраваных твораў Чэхава, Крылова, Горкага. Аднак найбольш удалымі былі вобразы Ярша ў казцы М. Салтыкова-Шчадрына «Карась-ідэаліст», адстаўнога партупей-юнкера Сюсіна А. Чэхава «Цынік» і драматычны характар Рыгора ў сцэнах з трагедыі А. Пушкіна «Барыс Гадуноў». Яго заўважылі прафесіяналы і запрасілі ў трупу Рагачоўскага гарадскога тэатра на амплуа «героя-палюбоўніка». Іграў ён там многа, з захапленнем, аднак часам стаў заўважаць, што такая, напалову прафесійная творчасць, прыводзіць да дэградацыі прыродных здольнасцей. Вырашыў сур'ёзна авалодаць акцёрскім майстэрствам у адным з вучылішч Масквы. Тым больш, што ўжо ведаў пра пошукі Мастацкага тэатра, пра сістэму К. Станіслаўскага.

Аднак сабраны чамадан давялося распакаваць — прызвалі на вайсковую службу ў Мінск. Салдацкія гады не прайшлі марна — юнак дасканала асвоіў тэатральнае жыццё беларускай сталіцы. Пасля дэмабілізацыі паступіў у тэатр мініяцюр «Рэнесанс», а пасля яго закрыцця перайшоў у «Першае таварыства беларускай драмы і камедыі». Пад крылом Ф. Ждановіча малады артыст адпраўляецца ў вырай Першага беларускага тэатра (БДТ-1), дзе ўжо былі Г. Грыгоніс, Л. Ржэцкая, С. Станюта, І. Ждановіч, А. Ільінскі. Так склалася, што першыя словы на сцэне БДТ-1 прагучалі з вуснаў К. Саннікава ў вобразе Аляксея («Рысь» паводле аповесці Э. Ажэшкі «У зімовы вечар»). Пазней ва ўспамінах артыст скажа: «...Фларыян Ждановіч быў вельмі тонкім і мудрым мастацкім кіраўніком, ён дапамог мне хутка асвоіць складаную партытуру ролі Аляксея і выступіць у першай пастаноўцы. Маёй рэплікай пачынаўся спектакль, а значыць мае словы пачыналі новую эпоху развіцця беларускага прафесійнага тэатра»[21]. Потым была напружаная вучоба ў Маскве (*беларуская Студыя пры дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва 1921—1926 гг. — М. С.*) у славутых настаўнікаў В. Смышляева, А. Бондарава, Б. Афоніна, С. Гіяцынтавай, М. Успенскай і іншых. Была не менш цікавая работа акцёрам і рэжысёрам у новым нацыянальным тэатры (БДТ-2, г. Віцебск). І зноў Мінск...

Яшчэ падчас вучобы ў Маскве К. Саннікаў праявіў свае здольнасці ў рэжысуры. Пры пастаноўцы дыпломных спектакляў кіраўнік Студыі В. Смышляеў заўсёды браў яго да сябе асістэнтам, як аднаго з самых здольных вучняў. Потым К. Саннікаў прайшоў рэжысёрскую стажыроўку ў Маскоўскім Мастацкім тэатры, дзе атрымаў дыплом рэжысёра. Пасля вучобы працаваў рэжысёрам у БДТ-3 (тэатр Галубка), а з 1931 па 1937 гг. — мастацкім кіраўніком гэтага ж калектыву. Разам з Е. Міровічам, якога запрашалі ў тэатр на асобныя пастаноўкі, К. Саннікаў ездзіў па вёсках, адбіраў там таленавітую моладзь і шляхам студыйнай вучобы рыхтаваў акцёрскія кадры для БДТ-3. З гэтага перыяду, па сутнасці, і пачалася яго педагагічная дзейнасць...

У 1938 годзе К. Саннікаў вяртаецца у БДТ-1, дзе працягвае рыхтаваць творчыя кадры ў студыях пры тэатры. Пастаўленыя ім спектаклі «Партызаны» К. Крапівы (сумесна з Л. Рахленкам), «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка былі высока ацэнены крытыкай у час першай Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве (1940 г.). У гэтых пастаноўках побач са сталымі майстрамі паспяхова выступала творчая моладзь, выхаваная К. Саннікавым.

У гады вайны ён разам з тэатрам працаваў у гарадах Сібіры (Томск, Омск, Новасібірск, Юрга і г. д.). Пасля вызвалення Мінска (3.07.1944 г.) вяртаецца ў родны БДТ-1, якому ў верасні 1945 г. было прысвоена імя Янкі Купалы. Праз два гады К. Саннікаў становіцца яго мастацкім кіраўніком і адначасова пачынае педагагічную дзейнасць у Тэатральным інстытуце (верасень 1947 г.).

Народны артыст БССР (1950 г.), прафесар БДТМІ (1960 г.) К. Саннікаў унёс значны ўклад у справу выхавання маладых работнікаў тэатра. Ён сфарміраваў і на практыцы замацаваў свае педагагічныя прынцыпы і метады, чым і садзейнічаў станаўленню рэжысёрскай школы.

Каб выявіць найбольш здольную моладзь, якая магла б паспяхова вучыцца, К. Саннікаў падтрымліваў цесную сувязь з тэатральнай самадзейнасцю. Бываючы ў розных драматычных гуртках, прымаючы ўдзел у конкурсах і аглядах, даючы кансультацыі аматарам сцэны, пастаянна шукаў таленавітых людзей і запрашаў іх вучыцца ў інстытуце. Невыпадкова ў яго майстэрні заўсёды былі два-тры самабытныя таленты, якія, атрымаўшы прафесійную падрыхтоўку, ішлі працаваць у нацыянальныя тэатры.

Сам адбор студэнтаў на конкурсных экзаменах праводзіўся К. Саннікавым не толькі па іх прафесійных, але і грамадзянскіх якасцях. Майстар разумеў, што гэта найгалоўнейшы этап у фарміраванні калектыву аднадумцаў. Да прыкладу, яго акцёрскі курс 1953—1957 гг. (восьмы выпуск інстытута) вызначаўся высокай творчай арганізаванасцю, працавітасцю, так званай псіхалагічнай сумяшчальнасцю. У гэтым найперш заслуга кіраўніка курса, бо яшчэ пры наборы ён праводзіў калёквіумы для абітурыентаў, уважліва знаёміўся з імі. Пазней, у працэсе вучобы, К. Саннікаў прысутнічаў на лекцыях і семінарах, падтрымліваў пастаянны кантакт з педагогамі рухавых, моўных і тэарэтычных дысцыплін, удзельнічаў ва ўсіх экзаменах і заліках свайго курса. Любы студэнцкі спектакль ці канцэрт, любое калектыўнае мерапрыемства, няхай гэта былі сельскагаспадарчыя работы, уборка інстытуцкіх аўдыторый, таварыскія сустрэчы за горадам, немагчымы былі без удзелу педагога. Гэта дружба, таварыская ўзаемавыручка, набытая студэнтамі ў перыяд вучобы ў майстэрні Саннікава, захоўваецца і сёння яго вучнямі. Вядучыя майстры беларускай сцэны М. Захарэвіч, Г. Талкачова, З. Зубкова, Т. Шашкіна, Г. Аўсяннікаў — свята захоўваюць тыя добрыя зярняты чалавечнасці, пасеяныя ў іх мудрым настаўнікам.

Адносіны да студэнта як да сябра — прынцып усёй педагагічнай дзейнасці К. Саннікава. Менавіта праз фарміраванне дружбы, узаемавыручкі, калектывізму ён ішоў да стварэння паўнацэннай акцёрскай і рэжысёрскай школы, адпавядаючай высокаму ўзроўню тэатральнай педагогікі, краевугольныя камяні якой у Беларусі паклаў Е. Міровіч і якія так беражліва шліфаваў К. Саннікаў.

Для яго быў характэрны прыродны дар педагога, які выражаўся ў гранічна дакладным адчуванні часу, у разуменні задач, што стаялі перад тэатрам у той ці іншы перыяд. Да прыкладу, у пачатку 60-х гадоў тэатральная сцэна востра адчувала недахоп у так званым «маладым героі». Галоўнае Упраўленне навучальных устаноў Мінвуза СССР накіравала ўсім тэатральным навучальным установам краіны дырэктыўнае пісьмо, у якім адзначалася, што «ў цяперашні час самымі дэфіцытнымі амплуа ў тэатры з'яўляюцца героі і гераіні, у сувязі з гэтым пры прыёме неабходна ў першую чаргу адбіраць кандыдатаў, прыгодных у далейшай рабоце да роляў гераічнага плана»[22].

Канстанцін Саннікаў жыва адгукнуўся на такое патрабаванне, бо і сам лічыў, што без амплуа героя тэатр існаваць не можа. З яго майстэрні разам з характарнымі і бытавымі акцёрамі пастаянна выходзілі артысты гераічнага плана, якія многія гады радавалі гледачоў яркімі характарамі сацыяльных герояў.

З'яўляючыся вопытным рыжэсёрам, К. Саннікаў імкнуўся ў сваёй вучэбнай практыцы перш за ўсё развіваць добрыя традыцыі, назапашаныя ім самім у зносінах з найбуйнейшымі рэжысёрамі-педагогамі тэатральных школ краіны.

Працуючы разам з А. Яфрэмавым, ён усяляк падтрымліваў перадавыя ідэі свайго маскоўскага калегі. Інакш і быць не магло, бо асновы рэжысёрска-педагагічных прынцыпаў А. Яфрэмава і К. Саннікава пачыналіся з адных каранёў — Маскоўскага Мастацкага тэатра, прагрэсіўнай сітэмы К. Станіслаўскага. Таму адносіны К. Саннікава да маскоўскай мастацкай школы былі заўсёды прынцыповымі і нязменнымі. «Што такое «Сістэма Станіслаўскага»? — гаварыў ён на занятках у рэжысёрскай майстэрні. — Гэта рэалістычны, праўдзівы спектакль. Гэта перажыванне акцёра ў вобразе. Гэта творчы метад падрыхтоўкі акцёра да ўмення праўдзіва жыць думкамі і пачуццямі вобраза. Гэта жывая крынічная вада, якую п'юць і будуць піць у будучым майстры тэатра ўсіх нацыянальнасцей і ва ўсе эпохі. Заяўляю адказна — без уплыву Маскоўскага Мастацкага тэатра на ўвесь савецкі тэатр і, у прыватнасці, на тэатральнае мастацтва Беларусі — не было б тых мастацкіх вынікаў, якія мы сёння маем»[23].

Каб пацвердзіць дакладнасць сказанага Канстанцінам Мікалаевічам, прывядзём некалькі фактаў. Заняткі названай студыі В. Смышляева праходзілі ў памяшканнях Першай Студыі МХАТа, што дазваляла беларускім хлопцам і дзяўчатам кожны дзень сустракацца з такімі майстрамі, як Вахтангаў, Дзікі, Чабан, Берсенеў, Дурасава, Гіацынтава. Творчая атмасфера была вельмі адкрытая, добрая, цёплая. Сувязі тэатральнай Беларусі з Маскоўскім Мастацкім тэатрам не перарываліся многія гады. У 1934 годзе пад кіраўніцтвам рэжысёра і акцёра МХАТ-2 Б. Сушкевіча ў Ленінградзе павышаў кваліфікацыю калектыў беларускага ТЮГа; у 1935 г. у Маскву, на вучобу, выязджаў БДТ-3 (тэатр У. Галубка). З гэтым калектывам некалькі месяцаў праводзілі заняткі А. Дзікі і І. Раеўскі; для падрыхтоўкі тэатра імя Янкі Купалы да дэкады ў Маскве, з купалаўцамі займаўся рэжысёр МХАТа І. Раеўскі, які разам з Л. Рахленкам паставіў п'есу К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». Акрамя таго, у Беларусі доўгі час працавалі два акцёрскія калектывы, выхаванныя вялікімі майстрамі МХАТа А. Тарханавым (Магілёўскі абласны тэатр) і Л. Леанідавым (Брэсцкі абласны тэатр).

У верасні—снежні 1960 года на старонках газеты «Советская культура» вялася шырокая дыскусія па пытаннях перабудовы тэатральнай адукацыі. Роздумы рэжысёраў, педагогаў, майстроў сцэны, якія мелі адносіны да выхавання яе дзеячаў, у асноўным зводзіліся да наступнага: ці пакінуць ранейшую форму навучання, захаваўшы чатырохгадовы тэрмін падрыхтоўкі акцёраў, ці перабудаваць яе, зменшыўшы да двух-трох гадоў. Былі таксама выступленні, якія ставілі пад сумненне ўрокі К. Станіслаўскага, называючы іх «устарэлымі», а прапаноўвалі «смялей эксперыментаваць». Аўтары артыкула, які так і называўся «Смялей эксперыментаваць» абвяшчалі свой метад падрыхтоўкі акцёра: пры тэатры, у студыйным парадку, вучні 8-га класа павінны вывучаць «сістэму Станіслаўскага, сумяшчаючы гэта з заняткамі ў сярэдняй школе»[24].

Супраць гэтага выступілі многія вядомыя дзеячы тэатра. У прыватнасці народны артыст СССР, загадчык кафедры майстэрства акцёра школы-студыі МХАТ, прафесар В. Тапаркоў у сваім артыкуле адзначаў: «Мяне не здзіўляе, што сумненне ў мэтазгоднасці паслядоўнага акцёрскага выхавання, прапанаванага Станіслаўскім, узнікае ў тых ачагах, дзе дух яго вучэння, у выніку розных прычын, не мог быць моцным. Але я проста ўзрушаны, што за разбурэнне гэтай паслядоўнасці выступаюць работнікі тэатра, які ўзнік пад кіраўніцтвам самога Канстанціна Сяргеевіча». Далей выкладаліся асноўныя палажэнні школы К. Станіслаўскага і яе несумяшчальнасць з тымі эксперыментамі, якія праводзілі некаторыя педагогі школы-студыі МХАТ: «...аўтары артыкула запэўніваюць, што васьмікласніца паспяхова іграе ў іх у тэатры. Каго яны хочуць здзівіць? Мяне гэта не здзіўляе. Бо зусім магчыма «нацягаць» на ролю любую здольную дзяўчынку, асабліва пры ўдалым супадзенні знешніх даных. Але папярэджваю, што гэта можа скончыцца для здольнай дзяўчынкі вельмі сумна. Усякае насілле над неўзмацнелым талентам у корані супярэчыць усяму строга прадуманаму метаду

паступовага вырошчвання арганічна дзеючага акцёра, акцёра сапраўдных перажыванняў, а не завучаных інтанацый і прыёмаў»[25].

Матэрыялы дыскусіі шырока абмяркоўваліся на пасяджэнні кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Педагогі ўносілі прапановы па паляпшэнні методыкі выкладання спецыяльных і грамадскіх дысцыплін, па ўдасканальванні вытворчай практыкі студэнтаў і г. д. Некаторыя прапановы былі ўключаны ў Пастанову калегіі Міністэрства культуры СССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні падрыхтоўкі кадраў акцёраў і рэжысёраў драматычных тэатраў» (10 мая 1961 г.). Дакумент меў важнае значэнне для творчых ВНУ краіны. У ім перад інстытутамі ставілася задача прынцыпова палепшыць методыку выхавання сучаснага дзеяча мастацтваў, арганічна звязваць педагогіку з тэатральнай практыкай, накіроўваць намаганні на стварэнне неабходных навучальных дапаможнікаў па асновах тэатральных дысцыплін, папаўняць кафедры высокапрафесійнымі педагагічнымі кадрамі. «...Сур'ёзныя недахопы ёсць у методыцы выхавання і навучання студэнтаў, — адзначалася ў пастанове. — Лічыцца, што іх прафесіянальная падрыхтоўка апіраецца на сістэму Станіслаўскага. Аднак далёка не ўсе выкладчыкі самі глыбока валодаюць гэтай сістэмай. Некаторыя з іх не ўмеюць адрозніць сапраўднай жывой арганічнай творчасці ад рамесніцкага адлюстравання. Іх выкладанне зводзіцца, галоўным чынам, да метаду эмпірычнай перадачы моладзі свайго асабістага творчага вопыту. Яны не вывучаюць са студэнтамі працэсу стварэння сцэнічнага вобраза, не ўзбройваюць іх веданнем трывалых асноў акцёрскага і рэжысёрскага майстэрства і метадаў творчай работы»[26].

Кафедра пад кіраўніцтвам К. Саннікава, імкнучыся быць на ўзроўні сучасных патрабаванняў, будавала сваю работу так, каб выпрацаваць найбольш плённую методыку акцёрскага і рэжысёрскага выхавання, стварыць лагічную і паслядоўную праграму асваення вучнямі асноў сцэнічнага майстэрства. Практычны вопыт К. Саннікава і яго калег, дасягненні іншых тэатральных школ краіны прыводзілі да пераканання, што толькі ў рабоце над добрым драматургічным матэрыялам, ад простых дзеянняў да больш складаных, будучы акцёр набывае выразнае разуменне сваёй канчатковай мэты. Студэнт ведае, адчувае, што ўся яго складаная праца над сабой накіравана непасрэдна на стварэнне ролі ў будучым спектаклі. Але гэта не значыць, што з першага курса пачыналі «рэпеціраваць спектакль». К. Саннікаў будаваў работу так, што эцюдны перыяд і рэпетыцыя ўрыўкаў падпарадкаваліся спасціжэнню працэсу работы над будучай роляй і, адначасова, выяўленню самога сябе. Гэта доўгая карпатлівая праца ставіла адну мэту — арганічнае нараджэнне дзеяння, слова, вобраза. Не навязанага звонку, не падказанага педагогам, а народжанага па законах арганічнай прыроды ў выніку глыбокага пранікнення ў жыццё ролі *(падкрэслена намі. — М. С.)*. На такім шляху выхавання акцёра выключалася «нацягванне», і для вучня станавілася натуральнай неабходнасцю працаваць па ўдасканальванні свайго творчага апарата, па развіцці ўласнай творчай псіхатэхнікі. Таму ў педагагічнай практыцы К. Саннікава вялікае месца адводзілася трэнінгу, які развіваў псіхафізічны апарат вучня.

Пачынаючы з другога семестра першага курса К. Саннікаў падбіраў урыўкі з твораў, якія ў далейшым станавіліся дыпломнымі работамі. Як правіла, бралася вялікая літаратура або драматургія — А. Астроўскі, М. Горкі, К. Гальдоні, Лопэ дэ Вега, Ю. Славацкі, Я. Купала, В. Розаў. Паступова вывучаючы і асвойваючы характары герояў, студэнты выхоўвалі ў сабе мастака, з кожным днём набліжаючыся да будучай ролі ў спектаклі. Паралельна ўдасканальвалася творчая прырода вучня, у спецыяльных практыкаваннях праходзіла трэніроўка органаў пачуццяў, выхоўвалася вобразнае мысленне. Такая методыка выкладання давала добры творчы плён.

Канстанцін Саннікаў надаваў велізарнае значэнне выхаванню акцёрскай выразнасці. У сістэму класных практыкаванняў па майстэрстве ўводзіў і шэраг

практыкаванняў па тэхніцы мовы, музычнасці, рытміцы. Ён удзяляў шмат увагі распрацоўцы методыкі выкладання танца, сцэнічнага руху, фехтавання. Яго цікавілі пошукі педагога па сцэнічнай мове (Б. Вішкараў), урокі па танцы (Т. Узунава і В. Дудко) і асабліва праграма па сцэнічным фехтаванні, якую распрацавала педагог Я. Сямёнава. Прыйшоўшы ў 1960 годзе ў інстытут, яна з курсам К. Саннікава падрыхтавала паказальны ўрок, калі студэнты, выкарыстоўваючы тэксты з твораў Шэкспіра і Шылера, вялі баі на шпагах, шаблях, нажах. «...Гэта тое фехтаванне, якое нам неабходна, — гаварыў К. Саннікаў у час абмеркавання. — Можа, студэнты яшчэ мала натрэніраваны, але фехтаваць у тэатры яны будуць добра. І добра, што ўключаны тэкст у рух»[27].

Не з’яўляючыся вялікім тэарэтыкам у галіне ўсіх відаў і жанраў мастацтва, К. Саннікаў, разам з тым, з’яўляўся строгім арганізатарам і праграмістам новых метадаў у педагогіцы. Па яго ініцыятыве на кафедры праводзіліся кантрольныя ўрокі па ўсіх спецыяльных дысцыплінах. Гэта выражалася ў тым, што кафедра перыядычна прысутнічала на занятках таго ці іншага педагога, а затым падрабязна абмяркоўваліся прынцыпы яго работы. «Мне здаецца, — адзначаў К. Саннікаў пасля наведвання заняткаў курса Б. Дакутовіча, — што вопыт правядзення кантрольных урокаў трэба расшыраць і працягваць. Па-першае, таму, што студэнты, рыхтуючыся да яго, працуюць значна больш, творча. Па-другое, таму, што на абмеркаванні такіх урокаў выкладчыкі як бы раяцца, абмяркоўваюць, што добра і што дрэнна, што варта працягваць і развіваць, а што адкінуць як непатрэбнае»[28].

Навучанне ўнутранай і знешняй тэхніцы акцёра — складала галоўны змест педагагічных задач, зацверджаных К. Саннікавым перад выкладчыкамі кафедры. Прынцыпы адзінства і агульнасці ва ўмовах шырока адкрытага працэсу прафесійнага выхавання акцёра і рэжысёра, пазбаўленага нейкай «засакрэчанасці», «келейнасці» — усё гэта паслядоўна ўкаранялася. Работы студэнтаў заўсёды былі сціплыя і дакладныя. Няхай гэта ўрывак з п’есы, ці цэлы вучэбны спектакль — гэта строга адпавядала задачам, пастаўленым на дадзеным этапе выхавання акцёра.

У рэцэнзіях на дыпломныя работы выпускнікоў майстэрні пастаянна адзначаліся творчы пошук педагога, рэалістычныя прынцыпы яго школы, высокі прафесіяналізм і самабытнасць вучняў. «На курсе 12 юнакоў і дзяўчат, — гаварыў тэатральны крытык С. Пятровіч. — Педагогі вучаць будучых артыстаў метаду рэалістычнай школы выканання, імкнуцца паўней раскрыць творчую індывідуальнасць і ўнутраныя дадзеныя кожнага студэнта, накіраваць іх на дзейсную аснову. Для гэтага на працягу чатырох гадоў педагогі ўважліва сачылі за выхаванцамі, стараючыся выявіць і пашырыць іх творчыя магчымасці. Для гэтага падбіраўся адпаведны рэпертуар са строга індывідуалізаваным падыходам да кожнага студэнта»[29].

Другі рэцэнзент рэспубліканскай маладзёжнай газеты, аналізуючы педагагічныя прынцыпы К. Саннікава, таксама спыняўся на ўменні педагога так падабраць вучэбны рэпертуар, каб кожны выпускнік змог цалкам паказаць свае сцэнічныя здольнасці. «Дыпломныя спектаклі давалі магчымасць студэнтам паўстаць перад камісіяй у разнастайным рэпертуары. Гэта тры камедыі: бытавая — «Не было ні граша, ды раптам шастак» А. Астроўскага, іспанская — «Паехаўшы застаўся дома» Лопэ дэ Вега і сучасная беларуская — «Злавацца не трэба» В. Зуба». Далей газета адзначала: «Не хочацца рабіць ніякіх скідак на маладосць З. Зубковай, Л. Былінскай, Л. Давідовіч, У. Драбышэўскаму, М. Пятрову, Е. Яланскай і іншым. У якіх скідках «на маладосць» мае патрэбу Лілія Давідовіч?! У спектаклі «Паехаўшы застаўся дома» яна — выдатная Лаўрэнсія — з глыбокім гучным голасам, яркая, страсная, рухавая... Можна чакаць, што з Зубковай вырасце актрыса з густам, тактоўнасцю і розумам — у гэтым пераконвае работа над роляй Насці ў п’есе Астроўскага. Каларытна, шчодрымі мазкамі малюе Е. Яланская Домну Мігачову ў п’есе Астроўскага — сквапную і прыгожую, нахабную і баязлівую...»[30]

Выхаванне акцёра, які валодае метадам работы над роляй і над сабой ва ўмовах калектыўнай творчасці, майстэрствам пераўвасаблення — асноўны прынцып педагогікі К. Саннікава. Самае важнае тое, што гэты прынцып майстра на працягу многіх гадоў яго работы ў інстытуце заставаўся нязменным. Дакладны набор студэнтаў, выяўленне індывідуальнасцей праз рэпертуар, выхаванне грамадзянскасці і этычных якасцей — усё гэта характэрна для кожнага ягонага курса.

Канстанцін Саннікаў, разам з тым, адначасова вёў два курсы — акцёрскі і рэжысёрскіТолькі ў БДТМІ ён падрыхтаваў больш як сто акцёраў (гэта без цікавых самародкаў, якіх знайшоў і выхаваў у вучэбных студыях пры розных тэатрах). Ён сфарміраваў і на практыцы замацаваў акцёрскую тэатральную школу, свае педагагічныя прынцыпы і метады выхавання. Яго дыпломныя пастаноўкі розных гадоў — «Апошнія» М. Горкага, «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Слуга двух паноў» К. Гальдоні, «У добры час» В. Розава — выявілі цікавыя, яркія, самабытныя акцёрскія індывідуальнасці. У 1962 годзе ён правёў дыпломныя экзамены свайго акцёрскага выпуска. Спектаклі «Апошнія» М. Горкага, «З любоўю не жартуюць» П. Кальдэрона, «Смерць ваяводы» Ю. Славацкага атрымалі добрую адзнаку дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі. У друку адзначалася: «...Студэнцкі спектакль «Апошнія» вылучаецца стройнасцю, ансамблем, адзінай школай выканання. Усе вобразы жыццёва праўдзівыя, глыбокія, увасоблены на аснове ўнутранага перажывання. Відавочна, што студэнты вывучалі сістэму К. С. Станіслаўскага не толькі тэарэтычна, але і на практыцы»[31].

Праз год К. Саннікаў выпусціў рэжысёрскую групу (5 чалавек). Усяго ім было падрыхтавана больш як 20 рэжысёраў драмы. Аднак апошнія выпускі (акцёрскі і рэжысёрскі) не прынеслі педагогу задавальнення. Частка выпускнікоў пайшла працаваць у тэатры, некаторыя — у самадзейныя гурткі, філармонію, іншыя раз’ехаліся па краіне. Ніхто з іх так і не пакінуў значны след у рэжысёрскай мастацкай творчасці...

У свой час К. Станіслаўскі адзначаў, што «для таго, каб быць добрым рэжысёрам, неабходна быць прыроджаным акцёрам». Педагагічная практыка кафедры рэжысуры 1958—1964 гг. паказала, што рэжысёр, выхаваны без акцёрскага калектыву, не зусім здольны ў далейшай рабоце глыбока пазнаваць і раскрываць прыроду акцёрскай творчасці. Неабходна было шукаць шляхі сумеснай падрыхтоўкі рэжысёраў з акцёрамі. «Мой досвед паказвае, — адзначаў на пасяджэнні кафедры К. Саннікаў, — што самастойна выхаваць рэжысёра немагчыма. Трэба стварыць добрую атмасферу, дзе змог бы фарміравацца, прарастаць і расці рэжысёр. Такой атмасферай можа стаць толькі акцёрскі калектыў»[32]. Для педагогаў стала зразумелым, што неабходна адмовіцца ад адасобленай падрыхтоўкі рэжысёраў і выхоўваць іх разам у акцёрскіх майстэрнях.

У той перыяд тэатральныя школы Масквы і Ленінграда таксама спрабавалі адасоблена выхоўваць акцёраў і рэжысёраў. Але праз некаторы час ад гэтай практыкі яны таксама адмовіліся. У Ленінградскім інстытуце тэатра музыкі і кінематаграфіі з 1963 года «...усе наборы абітурыентаў кафедра Б. Зона праводзіла толькі сумесна з прыблізнымі суадносінамі акцёраў і рэжысёраў 5:1»[33]. Такім чынам, педагагічныя прынцыпы вядучых театральных школ краіны, асабістыя назіранні і досвед найбуйнейшага тэатральнага дзеяча, якім быў К. Саннікаў, сцвярджалі, што выхаванне рэжысёра ў акцёрскім калектыве не толькі заканамерна, але і дае добрыя вынікі. Пры такім метадзе навучання адбываецца ўзаемнае ўзбагачэнне прадстаўнікоў гэтых блізкіх, але розных творчых прафесій. Беручы на ўзбраенне перадавыя метады тэатральных школ краіны, К. Саннікаў лічыў, што рэжысёрам можна стаць толькі тады, калі авалодаеш асновамі акцёрскай прафесіі, навучышся самастойна ствараць сцэнічныя вобразы.

У апошнія гады сваёй педагагічнай практыкі ў інстытуце ён вёў самастойны курс рэжысуры, які не паспеў выпусціць. Па-ранейшаму заставаўся чалавекам лагодным, добразычлівым. Мог творча не прымаць методыку таго ці іншага

педагога, адмаўляць асобныя студэнцкія работы, але ніколі не прыніжаў годнасці чалавека. Часам яго нават папракалі за празмерную шчырасць з вучнямі, што сваёй непасрэднасцю і добразычлівасцю быццам бы ахвяруе нейкімі педагагічнымі каштоўнасцямі. Але на самай справе менавіта гэтыя рысы настаўніка ўзбагачалі студэнтаў. Адзін з яго апошніх вучняў рэжысёр У. Унукаў успамінаў: «Хоць мінула шмат гадоў, але я добра памятаю сустрэчу з К. М. Саннікавым. Ён гаварыў нам пра складанасці рэжысёрскай прафесіі, пра план заняткаў на пяць гадоў, расказаў, чаму яны будуць прысвечаны і якіх вынікаў ён чакае ад нас. Гэта была шчырая размова, поўная гумару, вясёлых гісторый. Размова не абстрактная, у ёй ускрывалася сутнасць прафесіі, прааналізаваная мудрым чалавекам, які, валодаючы ёю, многае перадумаў, асэнсаваў з пазіцый сваёй тэатральнай практыкі. Ён дзяліўся з намі не толькі ведамі, а як бы спрабаваў унушыць нам вынікі свайго вопыту, выдатна разумеючы, што кожны з нас пройдзе свой шлях, набудзе свой вопыт, які, магчыма, не будзе супадаць з яго, таму што мы творчыя людзі… За гады вучобы ў інстытуце і работы ў тэатры маё рэжысёрскае, творчае жыццё не заўсёды ішло так, як хацелася, але ўсё, да чаго я імкнуўся і імкнуся, было закладзена ў той першай гутарцы з выдатным рэжысёрам-педагогам, вялікім майстрам тэатра»[34].

У 1964 годзе кафедра рэжысуры была аб’яднана з кафедрай майстэрства акцёра і стала называцца «кафедра майстэрства акцёра і рэжысуры». К. Саннікаў па прычыне хваробы ўжо не мог працягваць работу ў інстытуце. Аднак да апошніх дзён ён не парываў сувязі са сваімі вучнямі, з педагагічным калектывам. Усё перспектыўнае, што з’яўлялася ў вучэбных майстэрнях, заўсёды ім падтрымлівалася, а памылкі і пралікі ў добразычлівай форме, з мяккім гумарам аналізаваліся. «На адным з курсавых экзаменаў, за некалькі месяцаў да смерці, сядзеў Канстанцін Мікалаевіч, — успамінаў А. Бутакоў, — пастарэлы, змучаны хваробай. Ён уважліва глядзеў на работы маіх першакурснікаў. Усміхаўся, а часам і хмурыўся. Пасля экзамена, на пасяджэнні кафедры, ён падтрымаў мае пошукі. Потым, застаўшыся адзін на адзін у аўдыторыі, у нас адбылася доўгая, грунтоўная размова, у працэсе якой Майстар падрабязна разабраў кожны наш урывак, звярнуў увагу на недахопы. Я не згаджаўся, спрачаўся. Канстанцін Мікалаевіч уважліва паглядзеў на мяне і сказаў: «Саша, ты педагог малады, самаўлюбёны, табе нестае досведу, вопыту, каб усё ўбачыць, адчуць. Таму самалюбства ўбок, слухай...» І я слухаў. Размова зацягнулася да позняй ночы...»[35]

Летам 1965 года К. Саннікава не стала. Ён пакінуў жыццё поўны творчых задум. У памяці многіх акцёраў і рэжысёраў, якія атрымалі ў ягонай школе адукацыю, застаўся незабыўны вобраз мудрага, жыццярадаснага, духоўна багатага чалавека, выдатнага педагога.

## Заўвагі:

[1] А. Ламбор. На подмостках. «Театральная библиотека», № 39, М., 1894, с. 52—53.

[2] Гл.: Воронов Е. И. Как надо учиться драматическому искусству. Спб., 1883; Бурдин. Ф. А. Краткая азбука драматического искусства. М., 1886; Юрьев С. А. Несколько мыслей о сценическом искусстве. М., 1889; Боборыкин П. А. Лекции о сценическом искусстве. М., 1892 и др.

[3] Гл.: Ю. М. Сохар. Тэатральныя пуцявіны. Мн., 2003, с. 358—361.

[4] Запісана падчас гутаркі з А. А. Лабовічам 18 снежня 2010 г. Архіў аўтара.

[5] Запісана падчас гутаркі з А. І. Бутаковым ад 17.01. 2004 г. Архіў аўтара.

[6] У розныя гады гэтая вучэбная ўстанова называлася па-рознаму: Школа акцёрскага мастацтва (1918—1922); Інстытут сцэнічных мастацтваў (1922—1925); Тэатральны тэхнікум (1925—1936); Цэнтральнае тэатральнае вучылішча (1936—1939); Ленінградскі тэат-

ральны інстытут (1939—1962); Ленінградскі дзяржаўны інстытут тэатра музыкі і кінематаграфіі (1962—1994); Санкт-Пецярбургская дзяржаўная акадэмія тэатральнага мастацтва (1994 — па сёння).

[7] Усе пісьмы, запіскі, запрашэнні, якія ўпамінаюцца ў дадзенай працы, знаходзяцца ў асабістым архіве В. А. Яфрэмавай, дачкі А. А. Яфрэмава, г. Цвер.

[8] НА РБ, ф. 1279, воп. 1, спр. 72, л. 34.

[9] Громов. Я. А. Театральное образование Беларуси. Мн., 2006, с. 79.

[10] НА РБ, ф. 1279, воп. 1, спр.43, л. 43.

[11] НА РБ, ф. 1279, воп. 1, спр. 43, л. 38.

[12] Там жа, л. 28.

[13] Запісана падчас гутаркі з В. С. Кісялёвым ад 4 мая 2011 г. Архіў аўтара.

[14] Громов Я. А. Театральное образование Беларуси. Мн, 2006, с. 79.

[15] Советская культура, 1960, 16 жніўня.

[16] Броўкін В. У., вучань А. Д. Папова і М. І. Кнэбель. Пасля ад'езду Яфрэмава, некаторы час працаваў з Арловым і Саннікавым. Пасля рэарганізацыі кафедры рэжысуры інстытут пакінуў.

[17] Паштоўка захоўваецца ў асабістым архіве В. А. Яфрэмавай, дачкі А. А. Яфрэмава, г. Цвер.

[18] Сохарь Ю. М. Мастера искусств. Мн, 2005, с. 370.

[19] Жизнь и творчество русского актёра Павла Орленева, описанные им самим. Л. — М., 1961, с. 33—40.

[20] Кандрашына К. М. Канстанцін Саннікаў, Мн., 1981, с. 4.

[21] БДАМЛіМ, ф. 129, воп. 2, спр. 79, л. 17.

[22] НА РБ, ф. 1279, воп. 1, спр. 45, л. 55.

[23] Літаратура і мастацтва. («МХАТ і беларускае тэатральнае мастацтва»), 1948, 23 кастрычніка.

[24] Советская культура, 1960, 24 верасня.

[25] Тамсама, 13 снежня.

[26] НА РБ, ф. 1279, воп. 1, спр. 139, л. 248.

[27] НА РБ, ф. 1279, воп. 1, спр. 80, л. 122.

[28] НА РБ, ф. 1279, воп. 1, спр. 80, л. 114.

[29] Літаратура і мастацтва, 1959, 31 снежня.

[30] Знамя юности, 1960, 26 ліпеня

[31] Мінская праўда, 1962, 7 ліпеня.

[32] НА РБ, ф. 1279, воп. 1., спр. 80, л. 132.

[33] Гл.: ЛГИТМИК.Сборник статей. Л., 1971, с. 296.

[34] Запісана падчас гутаркі з рэжысёрам У. М. Унукавым, 12 снежня, 2011 г., г. Бабруйск. Архіў аўтара.

[35] Бутаков А. И. Мои учителя. Мн., 2004, с. 74.

**Міадраг САБІНАВІЧ**

# СТРУНЫ ПЯВУЧЫЯ ДУШЫ БЕЛАРУСКАЙ

**(Слова на прэзентацыі кнігі «Антологија белоруске поезије» — 13 чэрвеня 2012 г., Бялград, Нацыянальная бібліятэка Сербіі)**

**1**

Усходнеславянская беларуская, руская і ўкраінская паэзія маюць адны і тыя ж крыніцы — язычніцкую славянскую і праваслаўную хрысціянскую культуры. Таксама і ў аснове пісьменнасці ўсходнеславянскіх народаў ляжыць адна мова, старaславянская, у выглядзе, што яна мела ў царкоўнаславянскай літаратуры, якой яшчэ раней для ўспрыняцця і ўкаранення хрысціянства карысталіся сённяшнія сербская і балгарская культуры. На працягу стагоддзяў у працэсе перапісвання і інтэрпрэтавання для бягучых патрэб агульнага пачатковага корпуса царкоўнай і свецкай тэматыкі ўносіліся асаблівасці мясцовых гаворак, якія паступова, праз новаўнесеныя лакальныя тэмы і тэксты, прывялі да афармлення асобных варыянтаў мовы, што пазней і развіліся ў тры славянскія літаратурныя мовы (рускую, украінскую і беларускую).

Гэтыя агульныя карані маглі быць асновай для добрага ведання беларускай літаратуры ў нашым асяроддзі. Але, на жаль, рэальнасць зусім іншая…

Беларусы, дзякуючы Івану Чароту як рэдактару і аднаму з перакладчыкаў, апублікавалі анталогію перакладаў «Сербская паэзія» ў 1989 г., у той час як мы першае выданне «Анталогіі беларускай паэзіі» І. Чароты на сербскай мове ў маім перакладзе атрымалі толькі ў 1993 г. (выпусціла «Српска књижевна задруга» — «Сербскае літаратурнае таварыства»). Некалькі гадоў таму аўтарытэтны часопіс «Писмо» («Пісьмо») надрукаваў пераклад даволі вялікай падборкі з твораў сучаснага беларускага паэта Алеся Разанава. Наша газета «Книжевне новине» («Літаратурныя навіны») адсочвала падзеі на Бялградскіх міжнародных сустрэчах пісьменнікаў і час ад часу змяшчала асобныя вершы гасцей з Беларусі, а наш вядомы літаратурны крытык і цяперашні рэдактар гэтага выдання Мілэта Ачімавіч-Іўкаў у лютаўска-сакавіцкім нумары змясціў каля дваццаці вершаў сучасных беларускіх паэтаў, заўважаючы, што такім чынам ён указвае чытачам на адну, як ён сказаў, у нас недастаткова вядомую, але «сапраўды вартую сучасную паэзію».

Чаму беларуская літаратура, нягледзячы на яе несумненную мастацкую якасць, для нашай інтэлектуальнай аўдыторыі ўсё яшчэ недастаткова вядомая?

Па-мойму, галоўная прычына гэтага — збег неспрыяльных гістарычных абставін. А менавіта: знаходзячыся на заходнім рубяжы праваслаўных усходніх славян, у непасрэдным суседстве з неславянскімі і славянскімі каталіцкімі этнічнымі групоўкамі, сённяшняя тэрыторыя Беларусі ў асноўным на працягу стагоддзяў была пад ударам і ціскам колькасна і арганізацыйна значна большых дзяржаўных сіл; яе драбілі і дзялілі, далучалі то да каталіцкай Польшчы, то да аднавернай праваслаўнай Расійскай імперыі. Гэта непазбежна пакідала сляды і ў культуры Беларусі. Такая бесперапынная барацьба беларусаў за існаванне,

напружанае супраціўленне, каб пазбегнуць нацыянальнай асіміляцыі, нам, паўднёвым славянам, магла быць зразумелай і блізкай.

Між тым у сваёй уласнай барацьбе за існаванне пад турэцкім прыгнётам, адчуўшы таксама небяспеку германізацыі і мадзьярызацыі, сербы на ўсходнеславянскіх братоў глядзелі перш за ўсё як на жыхароў магутнай адзінавернай еўрапейскай дзяржавы, якая можа абараніць і дапамагчы ў барацьбе за нацыянальнае вызваленне. На працягу XIX стагоддзя сербам, ахопленым барацьбой за аднаўленне сваёй нацыянальнай дзяржавы, было не да этнічных, нацыянальных і іншых праблем вялікай Расійскай імперыі. Гэта, на жаль, працягнулася і ў XX стагоддзі, калі імперыю замяніла першая краіна сацыялізму, зноў вялікая сіла, Савецкі Саюз, які на нашай тэрыторыі адыграў вырашальную ролю ў Другой сусветнай вайне, а потым са сваім пралетарскім інтэрнацыяналізмам стаў для нас і своеасаблівым узорам для будаўніцтва новага грамадства. І як усіх уцекачоў з царскай Расіі, што пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі прыехалі да нас, мы, хоць між імі, акрамя рускіх, было нямала ўкраінцаў і беларусаў, лічылі і называлі рускімі, так і ў савецкі час мы атаясамлівалі савецкую краіну з самым шматлікім народам СССР — з рускім.

Па такой самай мадэлі наш сярэдні суайчыннік, як член самага шматлікага народа ў нядаўнім югаслаўскім дзяржаўным аб’яднанні, утаропіўшыся ў «матку Расію», з-за жадання захаваць маналітнасць славянскага свету, неабходную для выжывання ў неміласэрным сучасным новым сусветным парадку, з асцярогай глядзіць на намаганні славянскіх дзяржаў (якія нядаўна сталі незалежнымі) па сцвярджэнні ўласнай культуры. Верагодна, перш за ўсё гэтым можна растлумачыць вышэйапісанае сённяшняе наша слабае веданне беларускай паэзіі, блізкай нам і аб’ектыўна вартай вялікай увагі. Гэта таксама з’яўляецца прычынай недастатковага інтарэсу чытачоў да падобных тэм, што непазбежна прыводзіць і да незацікаўленасці выдаўцоў, якія, звычайная рэч, пазбягаюць некамерцыйных выданняў. Гэтым, відаць, можна растлумачыць і млявую рэакцыю (ці яе адсутнасць) у сродках масавай інфармацыі на з’яўленне перакладаў літаратурных твораў з дагэтуль менш нам вядомых славянскіх культур.

Але самалюбаванне нікому не прыносіць шчасця, бо пастаянна выклікае незадавальненне і супраціўленне навакольных. Для выхаду з ізаляцыі патрэбна перш за ўсё выбрацца з уласнай акасцянелай шкарлупіны, пашукаць ніці, з дапамогай якіх можна без перашкод «уплесціся» ў шырокае таварыства людзей…

Усведамляючы якраз гэта, мы спрабуем звярнуць увагу нашай культурнай грамадскасці на згаданую «Анталогію», якая можа, спадзяёмся, выклікаць цікавасць да ўсёй роднаснай нам беларускай літаратуры і культуры.

**2**

Кнігу, якую мы сёння прадстаўляем, склаў і напісаў да яе прадмову і каментар, вядомы беларускі славіст, замежны член Сербскай акадэміі навук і мастацтваў І. Чарота, з якім я маю гонар супрацоўнічаць (і з задавальненнем гэта раблю) яшчэ з першага выдання «Анталогіі беларускай паэзіі» ў «Сербскім літаратурным таварыстве» («Српска књижевна задруга») у 1993 г. І. Чарота — прафесар і загадчык кафедры славянскіх літаратур Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён член Саюзаў пісьменнікаў Беларусі, Расіі і Рэспублікі Сербскай. З 1985 г. узначальвае бюро секцыі літаратурнага перакладу і літаратурных сувязей Саюза пісьменнікаў Беларусі. І. Чарота працуе сакратаром біблейнай камісіі Беларускага Экзархата Рускай праваслаўнай царквы, якая займаецца перакладам Святога пісьма і багаслужэбных тэкстаў на беларускую мову. Ён таксама з’яўляецца выканаўчым рэдактарам часопіса «Праваслаўе» і членам

рэдакцый яшчэ дзевяці перыядычных выданняў. І. Чарота быў рэдактарам і перакладчыкам рускамоўнага варыянта міжканфесійнага часопіса «Самарыцянін» (Беласток, 1996—2000).

У сваёй навуковай працы І. Чарота займаецца славянскімі літаратурамі і культурай, міжславянскімі сувязямі, гісторыяй праваслаўя і літаратурным перакладам. Спіс яго публікацый налічвае больш як 500 навуковых і літаратурна-крытычных адзінак, а найзначнейшыя з іх наступныя: кандыдацкая дысертацыя, абароненая ў Ленінградзе ў 1986 г. «Творчество М. Шолохова и литературный процесс Югославии (1956—1986)»; «Беларуская савецкая літаратура за мяжой» (Мінск, 1988), «Пошук спрадвечнай існасці» (Мінск, 1995) — манаграфія па тэме доктарскай дысертацыі «Беларуская літаратура XX ст. і працэсы нацыянальнай самасвядомасці», абароненай у Мінску ў 1998 г.; «Сербская праваслаўная царква» (Мінск, 1998); «Мастацкі пераклад на беларускую мову (асновы тэорыі і практычныя рэкамендацыі)» (Мінск, 1997); «Югаславянскія літаратуры і культуры» (Мінск, 1999; суаўтар М. В. Трус); «Косовская битва продолжается» (Мінск, 2000); «Беларуская мова і царква» (Мінск, 2000). І. Чарота склаў грунтоўную бібліяграфію беларуска-югаслаўскіх літаратурных сувязей, апублікаваную ў 1991 і 1992 гг. у бялградскім часопісе «Перакладчык» («Преводилац»).

Іван Чарота пераклаў на беларускую мову больш за сорак кніг сербскіх аўтараў (пісьменнікаў І. Андрыча, Б. Нушыча, Д. Максімавіч, Б. Чопіча, Д. Чосіча, Д. Міхаілавіча, Г. Олуіч; царкоўных аўтараў Юсціна Попавіча, Мікалая Веліміравіча, патрыярха Паўла і інш.). Разам з М. Джэркавічам ён склаў анталогію «Сербская паэзія» (Мінск, 1989). Для гэтага выдання ён пераклаў вершы Р. Петравіча, Д. Матыча, С. Куленавіча, Р. Тошавіча, П. Попавіча, Ё. Дунджына, Р. Нікаліча, М. Павіча, М. Антыча, Ё. Хрыстыча, Б. Мількавіча, Б. Шчапанавіча, В. Лукіча, Л. Сімавіча, Л. Вучкавіча, М. Вукміравіча, М. Бечкавіча, С. Джорджавіча, Б. Прэлавіча, Р. Андрыча, Р. Петрава-Нога, Т. Крагуевіч, М. Максімавіча, Д. Еўрыч, Р. Лівадэ, Л. Мілэтыч і М. Комадынэ. І. Чарота перакладае і з беларускай на сербскую: апублікаваў свае выбраныя пераклады пад назвай «Лірыка ўсходніх славян» (2000).

І. Чарота склаў і адрэдагаваў зборнікі «Православие в славянских культурных традициях» (Мінск, 1996), «Уния: сборник документов» (Минск, 1997)» і інш., а таксама тры анталогіі хрысціянскай літаратуры: беларускай хрысціянскай паэзіі (2001), беларускай хрысціянскай прозы (2002) і рускай духоўнай паэзіі (2003, 2-е выд. 2005). Для патрэб выкладання сербістыкі ў беларускіх ВНУ падрыхтаваў дапаможнік «Сербская літаратура: анталогія тэкстаў» (Мінск, 2002—2007, кнігі 1—5) .

Ён склаў першае выданне «Анталогіі беларускай паэзіі» на сербскай мове (выпусціла «Сербскае літаратурнае таварыства» — «Српска књижевна задруга» ў 1993 г.), для якога ён напісаў прадмову і каментары.

## 3

Дапоўненая і выдадзеная з нагоды 130-годдзя нараджэння беларускіх класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама 120-годдзя «Сербскага літаратурнага таварыства», гэтая «Анталогія» пасля ўключэння ў яе верша Кірылы Тураўскага ахоплівае цяпер перыяд не з XVI ст., а з XII ст. да сёння. У ёй наш чытач атрымлівае новыя пераклады яшчэ 50 вершаў дваццаці новаўключаных паэтаў — гэта значыць, што названым выданнем у рызніцу сербскай культуры мы ўносім 141 верш 68 беларускіх паэтаў.

Каб пакінуць больш месца для новых вершаў і паэтаў, я ў новым варыянце «Анталогіі» зняў сваё пасляслоўе пра беларускую паэзію, якое было змешчана ў

выданні 1993 г. Між тым для сённяшняй прэзентацыі, думаю, было б мэтазгодным пазнаёміць вас, прынамсі, з некалькімі маімі заўвагамі пра пэўныя істотныя характарыстыкі беларускай паэзіі, якую я пераапрануў у сербскае культурнамоўнае ўбранне. Лічыце гэта поглядам на беларускую паэзію, як яна ўяўляецца аднаму славісту тутэйшага асяроддзя…

Фальклярыстычная навука даўно прыйшла да высновы, што адной з асаблівасцей беларускай народнай паэзіі з’яўляецца перавага лірычных жанраў над эпічнымі. Гісторыкі літаратуры гэтым тлумачаць і тое, чаму беларуская мастацкая літаратура аж да савецкага перыяду амаль выключна арыентавалася на лірыку. Фальклорная традыцыя, несумненна, вельмі важная. Яна заўсёды абумоўлена менталітэтам, выступае як адзін са спосабаў выяўлення глыбокіх схільнасцей народа, што яе стварае. Але дамінаванне кароткіх літаратурных жанраў, верагодна, абумоўлена і грамадска-гістарычнымі ўмовамі, у якіх стваралася беларуская літаратура. Бо ад далучэння да Польшчы ў XVI ст. і да 1919 г. яе пісалі на мове, якая для дзяржаўнай улады не была пажаданай, а часта забаранялася і афіцыйна. Паколькі гэта павінна было ўплываць на ўмовы друкавання, ясна, што прыхільнасць да большых жанраў лірычнай паэзіі азначала і адмаўленне ад магчымасці, каб літаратурны плён пісьменніка ўвогуле дайшоў да якой-такой шырэйшай чытацкай аўдыторыі.

Між тым недастатковае развіццё эпічных і драматычных жанраў на працягу доўгага часу ўсё ж, паводле закона раўнавагі, які ў прыродзе ў цэлым, а значыць, і ў літаратуры, найчасцей рэалізуецца праз кампенсацыю, прывяло да таго, што найлепшыя мастацкія здзяйсненні беларускай лірычнай песні ўтрымліваюць яшчэ і значную дозу эпічнага і драматычнага. І гэта, як асаблівасць, засталося прысутным у беларускай паэзіі і пазнейшага перыяду, аж да сённяшняга часу. Гэтым разам як прыклад прывяду вам адзін верш Максіма Танка, напісаны яшчэ ў 1951 г.:

**Два орла**

Утегла се пољa
Дима црним крепом,
Орлују два орла
Над широком степом.

Први оро црн је,
Црна смрт војника
Који лежи рањен
На трави борика.

А други — скроз бео,
Бео, светлих крила —
То је верна љубав
Коју носи мила.

Тишина. Ни горе
Више не роморе.
Осим што се птице
За војника боре.

А он — изнемого,
Не може да седи,
И гледа у небо:
Ко ће да победи.

**Два арлы**

Зацягнула далі
Дыму чорным крэпам,
Два арлы арлуюць
Над шырокім стэпам.

Першы арол чорны.
Чорны —
смерць салдата,
Што ляжыць, паранен,
На траве прымятай.

А другі — ўвесь белы,
Белы, яснакрылы —
Вернае каханне
Заручонай, мілай.

Цішыня. І травы
Нат не шалахнуцца.
Толькі чуць, як птахі
За салдата б’юцца.

А ён сам — без сілы
І прыўстаць не можа,
Глядзіць толькі ў неба:
Хто там пераможа?

А паглядзіце цяпер на гэткую ж канцэнтрацыю лірычнага, эпічнага і драматычнага ў вершы пра трагічную бездапаможнасць звычайнага чалавека, закручанага ў віры нябесных і зямных сіл, пра якую больш чым на два дзесяцігоддзі пазней піша Віктар Шніп:

**Балада потопа**

Оде у неизвесност вода потопа.
Под небом, као под Божјом руком,
Стиже, к'о вечност, наша Европа,
Опрана водом, к'о сузом пуком.

И нађе ме и рече ми овде:
— Трај како сам хоћеш своје дане...
И као вода од потопа оде,
А у крви ми остаде пламен.

Хтедох да узвикнем «не», ал ништа
Не успех да кажем, иако чело стуштих.
Као крст, преда мном пут блиста,
А свуд неизвесност, к'о потоп сушти...

**Балада патопу**

Сцякла ў невядомасць вада ад патопу.
Пад небам, нібыта пад Боскай рукой,
З'явілася наша, як вечнасць, Еўропа,
Вадою амытая, нібы слязой.

І ты адшукала мяне і сказала:
— Як хочаш ты сам, так цяпер і жыві…
І, нібы вада ад патопу, прапала,
І, нібы агонь, засталася ў крыві.

Я крыкнуць хацеў у адказ, і нічога
Не змог я прамовіць, хоць моршчыў свой лоб.
Як крыж, прада мною ляжала дарога,
І ўсцяж — невядомасць, нібыта патоп…

* * *

Паспрабаваўшы як мага больш сцісла прадставіць тэмы і матывы беларускай паэзіі, раскрытыя і ў нашай «Анталогіі», мы павінны былі б вылучыць перш за ўсё велізарную прагу ўласнага кута (прытулку душы і цела); бяссілле людзей перад вышэйшымі законамі прыроды; боль чалавека з-за несправядлівасці (якую яму робіць прырода, можа, і сам Бог, калі вызначае людскі лёс, які крышаць рэлігійныя сутычкі і фарміруе суровасць іншых людзей); надзею і спробу дасягнуць няпэўнага людскога шчасця праз пагружэнне чалавека ў перамены, у трансфармацыі і цыклы жыцця пароды, а гэта недалёка ад глыбіннага ўсведамлення таго, што адзінае выйсце ў чалавека — самаахвяраванне.

Канцэпцыя пагружэння чалавека ў прыроду «ўплецена», канечне, і ў разуменне паэтычнай творчасці. Гэта асабліва запамінальна і выразна паказана ў вершы Леапольда Родзевіча «Белая музыка». Паэзія, на яго думку, гэта «нарочит летећи ћилим», сатканы «од небеске пређе», од «сунчевих коса» и «одјека славе

негдашњег света», увесь у народных узорах з ваколіц беларускага Слуцка, — яна спалучае «вековечног савеза» старога славянскага бога Дажджбога і беларускага «крајем хељде и рутвица»; яе гукі ўзнікаюць як белыя крылы матылёвых раёў, што лунаюць у блакіце і выглядаюць як «летеће цвеће» — «додирују меке струне»; яна веснавы кліч і рэха Надыходу / *«самалётны дыван асаблівы», вытканы «з сонечных касаў, кудзелі нябеснае» і «водгулля славы дзяржаўнай, старой», увесь у народных узорах з ваколіц беларускага Слуцка, — яна «аб'яднала ў хаўрус векавы з добрым Дажджбогам Край грэчкі і руты»; яе гукі ўзнікаюць ад узмахаў крылцаў матылькоў, якія выглядаюць «бы краскі лятучыя», лунаючы «між сінявы», і «ледзь-ледзь чапаюць за струны пявучыя»; у ёй «покліч вясны» і «водгук прыходу».*

**4**

Уладзімір Караткевіч у кнізе-эсэ «Зямля пад белымі крыламі» згадвае тлумачэнне, паводле якога Беларусь атрымала сваё імя ў час, калі агульная ўсходнеславянская дзяржава Кіеўская Русь у XIII стагоддзі трапляе ў мангола-татарскае рабства, а Беларусь, якая адзіная змагла адбіць напады захопнікаў, жыве свабодна і так засталася «неачарнёнай», «белай», «чыстай ад татар», г. зн. «свабоднай» тэрыторыяй першапачатковай усходнеславянскай дзяржавы. Яе паэзія, як спалучэнне дажджбогавай культуры і «край грэчкі і руты», сапраўды з'яўляецца «белай музыкай».

Адзін з вялікіх беларускіх паэтаў, Янка Купала, у першай палове XX стагоддзя прадстаўляў беларуса як несвабодную, прыгнечаную істоту, якая з усім сваім народам вымушана яшчэ толькі змагацца за права «людзьмі звацца». А Васіль Зуёнак і ў восьмым дзесяцігоддзі таго ж веку прамаўляе, што *«у белым адчаі // Зямля анямела» («од беле патње људске // Занемела земља»).* Таму ў «белай музыцы» беларускіх пісьменнікаў значную ролю як паэтычныя матывы маюць зоркі, знічкі, вятры, свечы, агонь, ачаг душы, маці і слёзы… Эстэтычная моц беларускай паэзіі праглядаецца таксама ў парадоксе апазіцыі ідэала свабоды як першапачатковага кораня і спрадвечнага ідэала народа — і рэчаіснасці, якая чалавеку безупынна абмяжоўвае тую свабоду, — усё роўна, ці ідзе гаворка пра выбар агульнай экзістэнцыйнай прасторы (супрацьпастаўленне «неба — зямля»), зямнога (вызначэнне на карысць аднаго ці другога зямнога царства як умова выжывання), духоўнага (вызначэнне на карысць адной ці другой веры, адпаведна пазней — адной і другой ідэалогіі, зноў як адзіная ўмова выжывання), ці гаворка ідзе пра пошук індывідуальнага шляху асобы, якім увесь час кіруюць вышэйшыя прыродныя або грамадскія сілы і законы. Здаецца, быццам у свядомасці кожнага беларускага паэта заўсёды прысутнічае частка трагічнай гісторыі, якую, магчыма, раскрывае сучасны паэт Алесь Разанаў, заўважаючы, што жыццёвы шлях чалавека паварочваецца папярок і ператвараецца ў расколіну, якая яго, сапраўды, аддзяляе ад *«отргнуте стране живота».*

Але праз усё гэта ў беларускай паэзіі пастаянна праходзіць адна ніць, так бы мовіць, незнішчальнай незласлівасці, якая ўвасабляе надзею ў добразычлівага суседа ці спадарожніка (сябра, прыяцеля і сяброўку), надзею, што ў рэшце рэшт любоў і дабро заваююць перамогу над людской прагнасцю і злом. Увасабленне гэтай надзеі я бачу і ў вершы свайго равесніка, сучаснага паэта і драматурга Валянціна Лукшы (які, верагодна, невыпадкова, з вялікім поспехам піша і паэзію для дзяцей). Гэты верш мае назву «Врх беле Руси села — рода бела» / «Над Белай Руссю — белы бусел» (нагадаю вам, што старая агульная ўсходнеславянская дзяржава з цэнтрам у Кіеве і прарадзіма, значыць, сённяшніх беларусаў, называлася Кіеўская Русь). Вось яна:

Врх Беле Руси села
Рода бела.
Спокојно шири крила.
А то значи
Дух белоруског рода
Штедро озарен сија.
Врх Беле Руси вода
Бела рода
Савија сигурно гнездо.
А то значи,
Да Рус Бела
Живи у дому с песмом.
Врх Беле Руси села
Рода бела
Милује птиће гладне.
А то значи,
Бела Рус неће
Имати буре и јаде.
Врх Беле Руси села —
Рода бела
Са својом другом већа.
А то значи,
Белу ће Рус да прати
Суђена срећа.

Над Белай Руссю —
Белы бусел
З даверам выпрастаў крыло.
А гэта значыць,
Белай Русі
Прасцяг ашчодраны святлом.
Над Белай Руссю —
Белы бусел
Ладуе спраўнае гняздо.
А гэта значыць,
Белай Русі
Жыць, нібы поўны песень дом.
Над Белай Руссю —
Белы бусел
Галубіць прагных птушанят.
А гэта значыць,
Белай Русі
Не ведаць чорных бур і страт.
Над Белай Руссю —
Белы бусел
З бусліхай ў вышыні нябёс.
А гэта значыць,
Белай Русі
Наканаваны шчасны лёс.

Памылкай было б думаць, што гэтыя тэмы хвалююць толькі беларусаў. Белая музыка беларускіх паэтаў — гэта адначасова спантанны, імпрэсіўны і мудры аповед аб чалавеку і чалавецтве ўвогуле і аб чалавечым у чалавеку, у прыродзе, і аб прыродзе людзей. Таму яна ўніверсальная, агульначалавечая, і калі ў гэты час нечытання яна дойдзе да чытачоў, то яна прыдбае, я ўпэўнены, сваіх паклоннікаў і ў падобнай да яе сваім лёсам, блізкай ёй сербскай культуры.

***Аўтарызаваны пераклад з сербскай***
***Мікіты СУПРУНЧУКА.***

Кастусь ЛАДУЦЬКА

# НА СКРЫЖАВАННЯХ ПАМЯЦІ

**Якуб КОЛАС. У думках, у сэрцах, у песнях: успаміны, нарысы, эсэ, прысвячэнні**. / *Уклад. Міхася Міцкевіча. Мн.: Мастацкая літаратура, 2012.*

Кожная з кніг папулярнай серыі «ЖЗЛБ», заснаванай выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 2004 годзе, выклікае ўвагу шырокага кола нераўнадушных чытачоў. І біяграфічныя кнігі пра пісьменнікаў таксама прыцягваюць да сябе. Сёння яны ўжо сталі асобнай гісторыка-літаратурнай бібліятэкай. Сапраўдныя жыццяпісы Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Танка, Максіма Багдановіча, Івана Шамякіна, Мікалая Чаргінца… «Дапаможнікам для студэнтаў і школьнікаў у паглыбленні ведаў пра Якуба Коласа як чалавека і грамадзяніна» назваў кнігу ўспамінаў, нарысаў, эсэ, прысвячэнняў «Якуб Колас. У думках, у сэрцах, у песнях» яе ўкладальнік — малодшы сын народнага песняра Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч. «У гэтую кнігу, — чытаем у прадмове «Ад укладальніка», — падрыхтаваную да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, увайшлі ўспаміны яго родных і блізкіх, паплечнікаў і сяброў, удзячных вучняў і землякоў. Большая частка ўспамінаў друкавалася раней. А колькі шчырых прысвячэнняў песняру, героям яго твораў і любым мясцінам створана паэтамі, чые сэрцы закранула Коласава слова!» І далей: «І ўсё ж асноўная ўвага да Коласа сыходзіць з боку даследчыкаў яго творчасці. Паводле яго твораў абаронена больш за трыццаць кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, напісаны дзясяткі манаграфій і нарысаў, праводзяцца канферэнцыі па розных аспектах дзейнасці. Даследчыкі творчасці Якуба Коласа вызначаюць яго як аднаго са стваральнікаў літаратурнай мовы, заснавальніка беларускага рамана, знаўца мовы — у творах народнага паэта выкарыстана трыццаць чатыры тысячы слоў. Творы Коласа прасякнуты мяккім беларускім гумарам, насычаны мноствам афарыстычных выказванняў, алегорыямі.

Спадчына Якуба Коласа багатая не толькі на мастацкія творы, яна ўключае грунтоўныя крытычныя работы, распрацоўкі методыкі выкладання мовы, сотні публіцыстычных артыкулаў. У фондах музея захоўваюцца больш як дзве тысячы лістоў да Коласа, на якія ён даваў адказы. Менавіта ў лістах і дзённіках найбольш грунтоўна раскрываюцца яго светапогляд і духоўнасць».

Пад адной вокладкай сабраны творы 121 аўтара. Родныя Коласа, яго сябры, даследчыкі яго жыцця, паэты, якія выказалі свае пачуцці ад сустрэч з мясцінамі народнага песняра, ад прачытання яго твораў, эмацыйна і ўзнёсла выкладаюць тыя цаглінкі памяці, што разам утвараюць рэльефны вобраз яркай і шматаблічнай асобы.

Хацелася б прыгадаць паўнагучныя страфы прызнання песняру другога вялікага сына Бацькаўшчыны Максіма Танка з верша «Якубу Коласу», напісанага ў пасляваенным 1946 годзе:

Тады ў мяне быў свет, як поле выгана,
Дзе лапці плёў я, пасучы кароў,
Дзе кнігаўкі ўздымаліся над выгарам,
Спалоханыя крыкам пастухоў.

Тады звісала з плечаў торба зрэбная,
Чужыя літары вучыўся я складаць,
І ў школе, і ў жыцці
быў непатрэбным я,
Пра што не раз хацеў табе пісаць.

…Тым больш — табе ўсё гэта было
ведама,
Аб чым дазнаўся я, чытаючы лісты
Тваіх паэм, якія нас наведалі,
Прайшоўшы праз калючыя драты.

Я ўслухаўся ў сугучча непаўторнае,
Загледзеўся у ззянне струн тваіх, —
І хлынулі на вочы ліўні зорныя,
І гром напоўніў музыкай мой слых.

Укладальнік грунтоўнага фаліянта для серыі «ЖЗЛБ» фактычна падсумоўвае, што ж занатавалі сучаснікі Коласа, невыпадковыя яго наступнікі і нашчадкі, жадаючы распавесці пра легендарнага сына зямлі беларускай. І заўважым, што Міхась Канстанцінавіч, як ніхто іншы, мае на гэта права. Не толькі як удзячны сын, чуйны да бацькі і да плёну бацькавай працы. А яшчэ — і як публіцыст, даследчык жыцця і творчасці песняра, актыўны прапагандыст яго літаратурнай спадчыны. У апошнія пятнаццаць—дваццаць гадоў Міхасём Міцкевічам зроблена на гэтым шляху столькі, што часам уражліва азіраешся: «А ці пад сілу гэта аднаму чалавеку?!» Малодшы сын Коласа ўвасабляе сабой, калі так можна сказаць, «перасоўны вандроўны музей», у падарожжах сваіх па Міншчыне, Беларусі выступае руплівым сувязным у зносінах чытачоў, найперш — школьнікаў, з веліччу і глыбінямі Коласавага мастацкага і грамадзянскага светабачання. А яшчэ ж выступленні ў друку з успамінамі — пра бацьку, яго атачэнне, пра маці, сярэдняга сына Коласа — Юрку. Рука Міхася Канстаніцінавіча адчувальная і ў публікацыі ўспамінаў яго жонкі Наталлі Іванаўны Міцкевіч — дачкі славутага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра.

Зборнік памяці распачынаецца грунтоўнымі фрагментамі з кнігі Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе». Гэта ў многім незвычайная біяграфічная проза. Лужанін, які ў пасляваенныя гады быў блізкі да народнага песняра, выяўляе сябе ў гэтым творы найперш як празаік, пасля — як біёграф-дакументаліст. І справа тут не ў тым, што нешта дадумваецца, дадаецца самім Лужаніным. Наадварот — як дбайны сакратар Коласа аўтар аповесці пра яго ідзе дарогай праўды, як відаць з кнігі, дапытваецца ў свайго персанажа пра многія акалічнасці. Справа ў іншым: кнігу памяці пра Коласа напісаў таленавіты аўтар, дзеяздольны паэт і празаік. Ён змог пранікнуць у лабараторыю мышлення свайго героя, паспрабаваў прасачыць дарогу некаторых творчых задум, іх суадносіны з рэальным жыццём народнага песняра. Чытанне фрагментаў з кнігі Максіма Лужаніна стварае пэўную атмасферу, вымалёўвае для шараговага чытача адразу ўсю постаць Коласа. І пасля лагічным падаецца знаёмства з раздзелам «Карані і атожылкі. Родныя пра Якуба Коласа», дзе выступаюць Антось Галіна (нагадаем: родны брат Якуба Коласа, пісьменнік, перакладчык, педагог, які бальшыню свайго жыцця правёў у эміграцыі), Алена Лойка (сястра паэта), сыны Даніла Міцкевіч і Міхась Міцкевіч, нявестка Коласа Наталля Міцкевіч і ўнучка Вера Міцкевіч — дачка Данілы Канстанцінавіча.

Усе, акрамя Веры Данілаўны, якая нарадзілася ў 1961 годзе, — сучаснікі Коласа. І ў іх нарысах — жывая памяць, фактаграфічныя сведчанні пра геніяльнага сына зямлі беларускай і блізкага ім чалавека. Вера Міцкевіч («Непаўторная кветка») выкладае штрыхі да партрэта жонкі Якуба Коласа — Марыі Дзмітрыеўны Каменскай, якая нарадзілася ў 1891 годзе ў сям'і псаломшчыка ў Ашмянах. Дзед Марыі — Аляксандр Каменскі, святар у Яраслаўскай губерні. Родны дзядзька — Міхаіл Аляксандравіч Каменскі, ваенны ўрач, удзельнік абароны Шыпкі ў 1877 годзе. У сям'і Каменскіх было пяць сыноў і дзве дачкі Вольга і Марыя, будучая жонка паэта. Знаёмства Коласа і Марыі Каменскай адбылося ў 1912 годзе. Радкі з паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» пра каханне Сымона і Ганны — гэта і радкі пра Канстанціна і Марыю: «Мімавольна і выпадкам // Чыйся погляд ён спаткаў,

// Хтось сачыў за ім украдкам // І вачмі вачэй шукаў»… Прыводзіць Вера Міцкевіч і ўспамін сястры Коласа — Алены Лойка: «Каб не такая жонка брату надарылася, то, можа, ён і такім вялікім не стаў бы». Пра тое, якой незвычайнай жанчынай была Марыя Дзмітрыеўна, гаворыць і наступны фрагмент з нарыса Веры Міцкевіч: «З Куршчыны ўзялі Міцкевічы на выхаванне дзяўчынку Вольгу Прачук са шматдзетнай сям'і беларусаў-бежанцаў з Гродзеншчыны < … > У 1921 годзе Вольга Прачук разам з сям'ёй Якуба Коласа паедзе ў Менск. Тут яна скончыць школу, педагагічны тэхнікум, фізмат БДУ і пойдзе ў самастойнае жыццё. У розныя гады ў сям'і Міцкевічаў гадаваліся Яўгенія Увядзенская — дачка заўчасна памерлай родзічкі Марыі Дзмітрыеўны; Мікалай Міцкевіч — сын «дарэктара» Яські Базылёва (Івана Васільевіча Міцкевіча). Жыла непрацяглы час у доме на Вайсковым завулку Валянціна Сай (Процька — па мужу)…» І яшчэ: «З пераездам у Менск Марыя Дзмітрыеўна — хатняя гаспадыня, у 1926 годзе нарадзіўся трэці сын Міхась. Сям'я была вялікая: з пяццю Міцкевічамі жыла бабуля Марыя Цімафееўна, дзядзька Аляксандр Дзмітрыевіч, выхаванцы. Трэба было ўсіх накарміць, дагледзець. Яшчэ былі ў яе абавязкі ў бацькоўскім камітэце школы, дзе вучыліся сыны. Адукацыі Марыя Дзмітрыеўна надавала вялікае значэнне, на адным з першых месцаў сярод духоўных аўтарытэтаў для яе быў Леў Талстой».

Такога кшталту ўспаміны дапамагаюць зазірнуць у атмасферу сям'і, уявіць увесь характар жыцця паэта, яго стасункі з блізкімі людзьмі, дзе, канешне ж, творца раскрываўся найболей, быў самім сабою напоўніцу. Але і старонкі памяці, занатаваныя калегамі па творчай працы, беларускімі пісьменнікамі, якія былі з Коласам побач, паэтамі і празаікамі іншых краін, сведчаць пра неардынарнасць асобы, вылучаюць адметнасці характару, вымалёўваюць прыкметную асобу ў галіне нацыянальнай культуры.

Вось радкі з верша «Баявое, магутнае слова» аднаго з прызнаных паэтаў Расіі, вялікага сябра Беларусі Аляксандра Пракоф'ева, адрасаваныя Якубу Коласу з нагоды яго 70-годдзя:

…Гэта слова сягоння не знае граніц,
Гэта заклік да подзвігаў новых.
Нібы голас народа, усюды грыміць
Баявое, магутнае слова.

То крыніца, што ласкаю поіць лугі,
То вытокі ракі ўсенароднай,
Што скрышыла варожыя ўшчэнт ланцугі
І пад сонцам бруіцца свабодна.

Слова майстра узрушыла сэрцы ва ўсіх,
Майстра мае вялікае сэрца, —
Той, якому ты дружбу навек аддасі,
І любоўю яна адзавецца.

1952.
*Пераклад з рускай Анатоля Вялюгіна.*

Раздзел «Духоўны прарок і зямны чалавек. Успаміны, нарысы, эсэ» — фактычна кніга ў кнізе. Міхась Канстанцінавіч спалучыў разам успаміны сучаснікаў і тыя артыкулы, якія напісаны вядомымі беларускімі літаратарамі ў звязку з жаданнем асэнсаваць месца народнага песняра ў фарміраванні не толькі літаратуры, але і ўвогуле нацыянальнай культуры, ды і самой нашай краіны Беларусь. Часам кароткія эсэ наступнікаў па творчай дарозе засваення беларускага існавання ў свеце значаць не меней, чым дзясяткі іншых старонак. Як і ў гэтым выпадку… «Паэзія Я. Коласа святарыць багавейна — пераводзіць душы ў беларускую веру, набліжае душы да беларускага Бога. < … > Паэзія Якуба Коласа кіравала думку беларуса на вечнае, вока беларуса — на роднае, наскае, вуха беларуса — на гук, прашчурамі пранесены з туманоў балтаславяншчыны». (Рыгор Барадулін. Як тых снапкоў на току…).

Сярод аўтараў раздзела «Духоўны прарок і зямны чалавек» — нямала пісьменнікаў з іншых старонак свету. Пра Коласа, пра свае сустрэчы з паэтам расказваюць Мікола Нагнібеда, Якаў Хелемскі, Максім Рыльскі, Мікалай Рыленкаў, Аляксей Суркоў, Паўло Тычына, Мікалай Грыбачоў, Алекса Юшчанка. Відавочна, што гэта толькі

частка з успамінаў пра Коласа, напісаных дзеячамі літаратуры і культуры іншых краін, найперш — постсавецкіх. Як мне падаецца, даўно наспела патрэба ў выданні адмысловай кнігі на тэму стасункаў народнага песняра з пісьменнікамі замежжа. Поруч з успамінамі яе змест маглі б скласці артыкулы пра Коласа і яго творчасць, напісаныя Дзям'янам Бедным, Барысам Бендзік-Веравым, Ядвігай Бранеўскай, Антанасам Венцлавам, Сяргеем Гарадзецкім, Мірмухсіна і іншых паэтаў, мастакоў, дзеячаў культуры.

Кніга, укладзеная Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам, — і чарговая падстава паразважаць пра вартасць выдання персанальнай энцыклапедыі «Якуб Колас». Дарэмна нашы вучоныя, энцыклапедысты прамаруджваюць у гэтым плане. Безумоўна, патрэбна адпаведнае ўрадавае рашэнне, адпаведнае грунтоўнае планаванне. Маючы энцыклапедыі пра Скарыну, Янку Купалу, Максіма Багдановіча, мы не павінны спыніцца ў развіцці такога фармату падсумоўвання гісторыка-літаратурных, літаратуразнаўчых напрацовак. Ёсць жа апірышча. Найперш — шасцітомны біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі». Але ж і пасля іх выдання шмат што было надрукавана і выдадзена, шмат было напрацавана і ў гісторыі літаратуры і ў яе тэорыі ў звязку з жыццём і творчасцю народнага песняра. Шкада, калі гэты шматступенчаты вопыт не будзе падсумаваны.

І вяртаючыся да серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі»… Беларускія кнігавыдаўцы за гады працы заклалі трывалы падмурак для стварэння шырокай, панарамнай, ніколькі не горшай за маскоўскі аналагічны праект, серыі. Гаворым «ЖЗЛБ» выдавецтва «Мастацкая літаратура» (нагадаем, што на авантытуле кожнага тома пазначана: «Аўтарскі праект серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі»: У. А. Мачульскі, В. А. Праўдзін, В. А. Шніп») — і ўспамінаем кнігі не толькі пра пісьменнікаў, але і пра Уладзіміра Мулявіна, Міхаіла Высоцкага, Мікалая Яроменку, Расціслава Янкоўскага, Міхаіла Фінберга, Аляксандра Мядзведзя… Ізноў жа — асоб для гэтага кніга выдавецкага праекта нашмат болей. І хацелася б памарыць пра асобную рэдакцыю ў выдавецтве, якая б займалася выключна гэтай серыяй. Мо такога кшталту, такой тэматыкі і сацыяльны заказ сфарміраваць бы для Саюза пісьменнікаў Беларусі, для празаікаў, публіцыстаў краіны?.. І склаўся б адмысловы партрэт нашай дзяржавы — праз асоб, знакамітых асоб нашай Айчыны.

# ЭПАС ПРА ПЧОЛ І МЁД*

## Зладкаванне борці. Бортніцкія прылады працы і прыстасаванні.

***Дзе бортнічкі борцілі, там і трэсачкі ляжалі.***
З народнае песні

У пчалярскай літаратуры час ад часу прасочваюцца паведамленні, якія трактуюць бортніцтва як прымітыўны занятак, якім быццам без усякай падрыхтоўкі мог займацца кожны. Варта было, маўляў, толькі выдзяўбаць борць, злавіць і пасадзіць у яе рой — і ўсё пойдзе само сабой: прыходзь восенню і выграбай лапатаю мёд. А некаторыя атаясамліваюць выразы «бортнае пчалярства» і «прымітыўнае пчалярства»: «У падлесных і лясных вёсках Сакольшчыны рэшткі бортнага (*прымітыўнага*) гаспадарання захаваліся амаль да канца XIX стагоддзя»[1].

Апіска? Выпадковасць? Не, падобная ацэнка бортніцтва стала хадульнай — яна вандруе з адной працы ў другую. Такое падманнае для чытача разуменне тэхналогіі бортніцтва, як нам здаецца, з’яўляецца вынікам няўцямнага прачытання крыніц, і ў першую чаргу прац М. Вітвіцкага і А. Пакорскага-Жораўкі. Абодва называюць бортніцтва прымітыўным толькі ў параўнанні з пасечным пчалярствам, імпэтнымі прапагандыстамі якога яны былі. Абодва разумелі, што ў зменлівых экалагічных і эканамічных умовах будучыня за новым тыпам вулляў і новай формай пчольнага гаспадарання. Адзначалі, што тэхналагічныя «недахопы» бортніцтва ў перыяд яго росквіту кампенсаваліся многімі, зніклымі да таго часу перавагамі. Напрыклад, большай колькасцю лясных дзікіх пчол, што засялялі пустыя борці тады і што пазней стала праблемай.

Адначасова дасведчаныя даследчыкі не забываліся падкрэсліць і станоўчыя бакі бортніцтва. Да іх ліку, напрыклад, М. Вітвіцкі адносіў большую адпаведнасць борці прыродным умовам існавання пчалінай сям’і. Высотнае пчалінае жытло забяспечвала яго насельнікаў больш сухім паветрам, чым унізе, у борці ўстойлівы тэмпературны рэжым, лясныя пчолы менш падатлівыя да розных захворванняў.

Роевая матка лясных пчол па многіх якасцях пераўзыходзіць штучную, выведзеную пчалярамі дзеля замены старых матак і фармавання адводаў. Дагляд і ўтрыманне баровак не патрабавала значных выдаткаў у працы і часу пры наяўнасці гатовых борцяў.

Паводле сучасных навуковых назіранняў, пчолы з борцяў на дрэвах пачынаюць працаваць нашмат раней, чым тыя, што жывуць у борці на глебе. У лясных палескіх пчол працоўны дзень даўжэйшы на 1 гадзіну 30 хвілін, чым у свойскіх. Яны вылятаюць з вулля пры больш нізкай тэмпературы і нават у час дажджу[2].

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2013 г.

Характарызуючы бортнае пчалярства, М. Вітвіцкі пісаў: «Я не однажды сравнивал мед и воск в один год полученный с десяти ульев и десяти бортей и всякий раз перевес оказывается на стороне последних»[3]. А вось меркаванне, выказанае праз паўтара стагоддзя: «борть по медосбору выше колоды!»[4] Гэтыя словы належаць старшаму навуковаму супрацоўніку башкірскага запаведніка Івнію Шафікаву, вучонаму і практыку-пчаляру.

Перавага высотнага ўтрымання пчалінай сям'і ўласціва і сучасным рамкавым вуллям. Жыхар Брэста Г. І. Грыцэнка ўсталяваў 12 вулляў на даху хлява, дзе ў ранішні і вечаровы час тэмпература паветра вышэйшая, чым на паверхні глебы. Перастаноўка вулляў нечакана спрычынілася да досыць адчувальнай мядовай прыбаўкі. У першы ж год ён сабраў мёду больш за іншых пчаляроў-аматараў горада[5].

Занядбанне прынцыпаў гістарызму заўсёды вядзе да памылковых ацэнак і высноў. Чамусьці атрымліваецца, што ў дачыненні да мінулага нам усім уласціва адна агульная рыса: успрымаць зніклае, як штосьці больш прымітыўнае, чым яно было ў сапраўднасці.

Праца бортніка не з'яўлялася простай, яна вымагала разнастайных ведаў, практычнага досведу, назіральнасці, вялікага спрыту, лоўкасці, вынослівасці і трывалай фізічнай моцы. Нездарма ж нашы продкі называлі бортнікаў векшамі, то бок вавёркамі.

Занятак бортнікаў быў спалучаны з небяспекамі — самая малая неасцярожнасць, прыкрая выпадковасць заканчваліся калецтвам, а то і смерцю: «яко отец мой и брат древолазцы суть, в лесах мед емлют от древия… Аше кто урвется — сей живота гонзнет»[6].

Штодзень бортніку, які працаваў адзінцом, пагражаў напад драпежных звяроў — ваўкоў, рысяў, мядзведзяў. Дый ці мала што магло здарыцца з чалавекам у лясных нетрах. Узяць хоць сабе выпадак, які адбыўся з адным някемлівым бортнікам, змушаным пераначаваць у лесе. Не прыдумаўшы нічога лепшага, ён вырашыў забрацца ў дупло вялізарнага дуба і ўвяз, як сведчыць легенда, у мёдзе амаль па калені. Да краю дупла не дацягнуцца, вязкі мёд мацней за пастку трымае… Але няма дрэннага без добрага — на дрэва ўзлез мядзведзь і пачаў выломваць соты. Раз сунуў лапу ў мёд, другі, трэці. Аблізваецца і крэхча ад задавальнення. Як толькі касалапы ласун у чарговы раз прасунаў лапу ў дупло, бортнік абедзвюма рукамі ўчапіўся ў яе. Мядзведзь ад нечаканасці зароў і вырваў зняволенага з дупла, а сам, ломячы сучча, імгненна кінуўся наўцёкі.

Прафесію бортніка звычайна спакваля засвойвалі змалку, сакрэты спасцігалі ў бацькі ці дзеда, паступова, дзень у дзень дапамагаючы старэйшым. Найбольш важныя тайны, у тым ліку розныя чарадзейскія прымхі і замовы, якімі, быццам павуціннем, было аплецена бортніцтва, перадавалі сынам і ўнукам перад смерцю. Такі звычай, паводле сведчання І. А. Сербава, бытаваў на Палессі яшчэ ў пачатку XX стагоддзя[7].

Чаму толькі не верыў неадукаваны чалавек, што толькі не рабіў дзеля поспеху. Апынуўшыся сам-насам з пчаліным роем, таямнічым і незразумелым, многія загадкі якога не разгаданыя да цяперашняга часу, ён адначасова і захапляўся, і губляўся.

Інтуітыўна спасцігаючы спрыт нястомных працаўнікоў і супастаўляючы свае назіранні з досведам продкаў, ён ампірычна, літаральна на дотыкі асвойваў рацыянальныя прыёмы догляду пчол. Але разуменне біялагічных працэсаў, што адбываліся ў пчалінай сям'і, заставалася для яго тайнай за сямю замкамі. Гэта пакідала вялікую прастору для ўзнікнення самых фантастычных уяўленняў, розных прымхаў і забабон.

Борць выдзёўбвалася задоўга да засялення яе пчоламі, звычайна летам папярэдняга года. Лічылася, што яна павінна добра прасохнуць, апрача гэтага, вясною бортніку не было калі рабіць борці, ён быў заняты праверкай перазімаваных сямей і ачысткай (падмятаннем) борцяў. На вырабленне борці (борціць, рабіць,

вырабіць борць, выдзеўбці, выдлубаць борць) патрабавалася ў сярэднім ля двух тыдняў. Гэта была цяжкая і марудная праца, бо даводзілася працаваць на вышыні 3,5—18 метраў, седзячы на хісткім лезіве. Часамі бортнікі даручалі гэтую працу парабкам, так званым «хаджалым людзям»[8].

Часта ў адным дрэве высякалі дзве (блізняк), часам тры, радзей чатыры борці. Такое бортнае дрэва сведчыла пра высокае майстэрства, было прадметам гонару яго ўладальніка і называлася «маткай», на Гарадзеншчыне — «каралевай».

Для зладкавання борцяў падбіралі спелыя хвоі ва ўзросце не меней за 100 гадоў. Борці таксама высякалі ў дубах, ліпах, зрэдку ў асінах, але самым шыкоўным лічыўся дуб, ён каштаваў удвая даражэй за бортную хвою. Усе бортныя дрэвы «знамянавалі» — высякалі на ўзроўні аблічча знамену (знамя, кляймо, знак), асаблівую пазнаку належнасці борці таму ці іншаму ўладальніку. У аснове іх кампазіцый ляжалі геаметрычныя матывы ўсемагчымых спалучэнняў розных па велічыні трохкутнікаў, рысачак, скобаў, колцаў, зігзагападобных ліній і гэтак далей. Старыя бортныя знамены можна пабачыць яшчэ і сёння. Адным з іх пазначаны пяцісотгадовы дуб «Мінтус», пра які расказвалася вышэй. Другая знамена ўпрыгожвае калодны вулей, які знаходзіцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР[9]. Мяркуючы па наплывах і каростах, яна высечана яшчэ на жывым дрэве. Пазней гаспадар выпілоўваў борць, яна рабілася калодай-стаяком.

Я. Ляцэеўскі ў артыкуле «Бортные знамена» прыводзіць 176 малюнкаў бортных «гербаў», выяўленых у пратаколах судоў Наваградскага староства на Ломжыншчыне за 1629—1739 гады[10]. Такія самыя знамены былі і ў бортнікаў Браншчыны.

Для заваблівання пчол у борць здзяйснялі так званую творбу (тварба, зрабіць прынаду, даць закроп, напырскаць, выпырскаць). Тварыць — значыць падрыхтоўваць борць да пасадкі пчол. Гэта быў адзін з самых адказных момантаў у гадавым цыкле бортнай працы. Менавіта ад яго залежала, ці будзе абжытай у гэтым сезоне борць. І калі скалі (пчаліныя разведчыкі) не забракуюць борць і прывядуць рой, праца бортніка ўзнагароджвалася ўдвая.

Сам працэс творбы заключаўся ў тым, што борць апрысквалі сытой (адна частка мёду на пяць частак вады), водарнымі настоямі з featureрознастайных кветак і траў, націралі сценкі мялісай, акурвалі верасам, у галаве борці прыклейвалі расплаўленым воскам сухую вашчыну, на якую «ахвоча ідзе рой і не мінае вулей». Творба давала бортнікам шырокае поле дзейнасці для эксперыментавання. Падобна да рыбакоў, вечна заклапочаных няспынным пошукам ідэальнай насадкі, пчаляры верылі ў існы, але пакуль што яшчэ чалавекам не знойдзены ўніверсальны сродак для прынады пчол. Чаго толькі не пераспрабавалі яны: варылі розныя травы і карэнне, дабаўлялі ў сыту шчупаковую жоўць, парашок з высушаных і патоўчаных касцей кажаноў, гадзючай скуры, ракавай ікры, бабровага струменя, цэцэруковага памёту.

У існаванне філасофскага каменя ў пчалярстве верылі не толькі непісьменныя сяляне. Нават М. Вітвіцкі ў якасці прынады, названай ім «витерунок», рабіў збор, у які ўваходзілі карэньчыкі лукрэцыя, аніс, мускатны арэх, хлеб святога Яна і гэтак далей[11].

«Эт, чаго толькі раньш не было, — сказаў неяк стары палескі бортнік Навум Сцяпанавіч Кот падчас нашай апошняй сустрэчы ў 1978 годзе ў яго на хутары Кодуб Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. — І не так ад цямноты, як ад нашага пчалярскага даверу. І сам я не бязгрэшны. Усё пераспрабаваў. Ведаю, што глупства на посным масле, а дзесьці ў сярэдзіне шаволіцца сумнеў: не будуць жа людзі без дай прычыны плявузгаць? А потым перастаў прыслухоўвацца да ўсякіх плёткаў і рабіў сам, як калісь мяне дзед навучыў. Выкраплю сценкі сытою, падклею вашчыну, а на дно трошкі галінак свежай маладой алешыны кіну. Вось і ўся творба. Пчолы, як і людзі, усё праўдзівае любяць, прыроднае».

Пасля зімы вясною борці пільна абглядвалі (падмяталі): вырэзвалі заплясне-лую вашчыну, збіралі з дна мёртвых пчол, забяроску, здымалі са сценак павуціну, пры патрэбе падкормлівалі пчол сытаю. Падкормку (падкармячка) ставілі ў чыстай драўлянай ці глінянай місачцы на дно борці.

Для пад'ёму па гладкім, асабліва хваёвым ствале, ніжнія галіны якога былі на досыць вялікай вышыні, часам больш за дваццаць метраў ад зямлі, старажытны пчаляр вынайшаў наўздзіў простае, і ў адначас надта адмысловае ў канструктыўным вырашэнні прыстасаванне — лезіва (лязіва, лазіва, лёзва, лазы, лазва, лазня, ліня, лін, лінка, жэнь, плець). Асноўнай яго часткай была плеценая з пяці сырамятных палосак скуры ці пяці канапляных вітых паскаў трыццаціметровая вяроўка з драўляным услончыкам (сядзёлка, крэсла, седзелка, лазвеня) на адным канцы, дзвюма петлямі ці драўляным круком — на другім і рухомым казлом паміж імі (казёл, хобат).

Даўней лезівы плялі яшчэ з лыка. Пра гэта распавядаў у 1978 годзе, спасылаючыся на ўспаміны дзеда, жыхар вёскі Вараўка Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці Макаранка Сяргей Платонавіч. Па словах ягонага дзеда, ліпавыя лезівы па трываласці не саступалі канапляным і былі значна лягчэйшымі. З чатырох вядомых лезіваў у Беларусі карысталіся трыма: складзенымі з частак, канцы якіх злучаны і ўтвараюць колца; лезіва з дзвюмя петлямі на канцы, і лезіва з дзвюх частак[12].

Гэтыя нязначныя канструктыўныя адрозненні вынікалі з рознай тэхнікі пад'ёму (пад'язджаць) на бортнае дрэва: поцягам, чашкай і перакідам.

Пры пад'ёме поцягам, якім карысталіся ў Пагары[13], бортнік перакідваў праз тоўстую галіну ці сук лезіва, садзіўся на яго лаўку і, адштурхоўваючыся ад ствала нагамі, падцягваў сам сябе ўгору[14]. Потым прымацоўваў на патрэбнай вышыні пятлю ці крук і апускаўся да адтуліны борці.

На Гродзеншчыне прымяняўся і іншы спосаб пад'ёму — чашкай. Бортнік абхопліваў двайной пятлёю сябе і дрэва так, каб паміж ім і ствалом заставалася вольная прастора ў 70—80 см, і, карыстаючыся лезівам, як сучасныя электраманцёры пасам, падымаўся ўгору па чашках — невялікіх засечках, зробленых на ствале.

Трэці спосаб, які называлі перакідам, адрозніваўся ад другога толькі тым, што заміж чашак выкарыстоўвалі падобныя на стрэмя петлі. Дрэва абвівалася некалькі разоў лезівам з такім разлікам, каб частка яго шчыльна абхоплівала ствол, а частка была аслаблена. Зрабіўшы пятлю для адной нагі, бортнік станавіўся на яе і падымаўся на 50—60 см угору, потым завязваў пятлю на другой назе. Напераменку робячы петлі і перасоўваючы ўгару лезіва, падымаўся на патрэбную вышыню.

Для пад'ёму на невысокія дрэвы, асабліва абсталяваныя подкурам, выкарыстоўвалі так званую астрову (астроўкі, астроў) — ствол не тоўстага дрэва з не да канца абсечанымі галінамі, па якіх, як па лясках драбін, узбіраўся на дрэва.

Асадзіўшы ў новай борці рой, бортнік павінен быў паклапаціцца і пра яго абарону ад спрытных аматараў мёду: мядзведзяў, мурашоў, куніцаў і заўзятай аматаркі пчол — жаўны. Гэты дзяцел з матава-чорным пер'ем на тулаве, ярка-чырвоным, як кардынальскі каптурык, верхам галавы і доўгай, вострай, падобнай па форме на долата, дзюбай, здольны быў за некалькі дзён знішчыць усю пчаліную сям'ю. Не меншую шкоду тварылі і мурашы. Варта ім было толькі паспрабаваць мядку, як паміж борцю і мурашнікам пракладвалася траса з такім інтэнсіўным рухам, што, здавалася, быццам рухаюцца не маленькія бяскрыўдныя стварэнні, а віецца па ствале якаясьці велізарная гадзюка, таўшчынёю ў дзве добрыя рукі. Дбайны бортнік жвава перакрываў гэты мядовы «трубаправод» кудзельным жгутом, добра вымачаным у дзёгці.

Асабліва вялікую шкоду бортніцтву чынілі чацveраногія грабежнікі — мядзведзі. Яны і дасюль сустракаюцца ў лясах Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай абласцей. У параўнальна недалёкім мінулым, яшчэ ў канцы XIX стагоддзя, мядз-

ведзяў у Беларусі вадзілася процьма. Паляўнічыя і бортнікі адрознівалі тры віды беларускіх мядзведзяў: самых маленькіх — мураўедаў, а таксама бура-рыжых са срэбным адлівам[15]. Гэтых на Палессі называлі мёдаедамі, у іншых раёнах — бортнікамі і барцявікамі. Сапраўды, касалапыя выдатна цямілі ў пчолах: пакруцяць носам, фыркнуць некалькі разоў, прыкладуць вуха да ствала бортнага дрэва і не горш за кемлівага пчаляра беспамылкова адрозняць борць з пчоламі ад пустой. Унюхаўшы магчымасць пажывіцца, ласун адразу ж узбіраўся на дрэва. Уніз ляцелі снет і доўжань — века і брусок, якія прыкрывалі лазейку борці. Зажмурыўшыся і скуголячы ад пчаліных укусаў, памаўза вомегам накідваўся на мёд. Бедалазе дасхочу перападала ад раззлаванай пчалінай сям'і. Спагнаўшы ахвоту, ён вяртаўся ў лясную нетру не толькі з раздзьмутым, як бубен, пузам, але і апухлым рылам, вейкамі і нават языком. Забурыўшыся пад густы ляшчэўнік на мяккі подсціл з сухой леташняй лістоты і шыгалля, мядзведзь сціха крактаў ад задавальнення і наедку, гультаявата ссаў лапу і засынаў чуйным звярыным сном.

Знайшоўшы адначасова некалькі борцяў, «кудлаты бортнік» зазвычай выбіраў тую, якая была бліжэй да вады. Як толькі пчолы гурмой аблеплівалі яго, ён стрымгалоў саслізгваў з дрэва, кідаўся ў воду і тапіў насякомых, якія самаахвярна баранілі сваё жытло. Зрабіўшы некалькі такіх заходаў, мядзведзь няшчадна знішчаў увесь рой і пачынаў раскашаваць.

Чалавеку даводзілася рабіць лішнюю і нялёгкую працу — ладзіць розныя прыстасаванні. Найбольш распаўсюджаным і надзейным быў падкур (адзёр, поткур, адонак, памост, пасцель, ложак, койка) — абаронная пляцоўка вакол бортнага дрэва. Яе рабілі з тоўстых дошак (тарчыц), якія шчыльна, у тры пласты насціläліся на дубовыя бэлькі, урэзаныя ў ствале ніжэй борці. Знізу подкур нагадваў барану: вострыя дубовыя, пазней металёвыя зубы не давалі касалапаму праламаць дужым загрыўкам насціл. Шырыню памосту рабілі такой, каб мядзведзь не здолеў дацягнуцца лапай да яго краёў — не болей чым 1 метр — 1 метр 20 сантыметраў.

Але падкуры зладжвалі рэдка, шырокі распаўсюд яны набылі ў перыяд калоднага пчалярства. Часцей за ўсё прымянялі самабіткі — падвешаныя на вяроўках, рамянях, а, бывала, і ланцугах цяжкія бярвёны ці дубовыя калоды. Звісаючы ўздоўж ствала, яны перашкаджалі мядзведзю ўзбірацца на дрэва. Драпежнік спачатку асцярожна і паціху адводзіў самабітку ўбок, але яна адразу ж вярталася на сваё месца. Мядзведзь пачынаў сердаваць з кожнай новай спробай пазбавіцца ад нечаканай перашкоды, адштурхоўваў самабітку ўсё з большай сілай, а яна, нібыта маятнік, упарта імкнулася назад і біла нездагадлівага памаўзлівуцу. Удар з кожным разам мацнеў, двубой заканчваўся падзеннем мядзведзя на паўбіваныя вакол дрэва ў дол вострыя калы…

Больш дарагімі, але не менш трывалымі і надзейнымі былі выштукаваныя тутэйшымі кавалямі з крычнага жалеза двухбакова вострыя нажавыя лёзы, іх забівалі з усіх бакоў у ствол і дбайна завастралі. Мядзведзь раніў лапы, жывот, а падолець двухметровы стальны пас не мог і, ад уласнага бяссілля і роспачы, рабіўся лютым, літаральна шалеў: біўся дарэшты адурнелай галавой аб дрэва, рваў кіпцюрамі кару ці з ровам круціўся па зямлі, кусаючы збалелыя лапы...

Вядомыя і іншыя, менш надзейныя спосабы абароны ад мядзведзя: зладжванне пужлівага курэня вакол камля дрэва, абвешванне ствала слізкімі дошкамі з цвёрдых парод дрэў, устаноўка самастрэлаў. Самастрэлы, а пазней паляўнічыя стрэльбы ў Беларусі ўстанаўлівалі па абодва бакі мядзведжай сцяжыны, злучаючы спускавыя механізмы шнурком-насцярожкай (сімка).

Пасля веснавога агляду пчол (падмятаць, пераглядаць) у борці да канца лета не заглядвалі. Да медазбору (падглядаць, падбіраць, падглядваць, падладжваць, падладжаць, пакупеняць, хаджаць) яны развіваліся без умяшання чалавека. Лічылася, што да 19 жніўня (да Спаса) нельга даставаць мёд, бо згінуць пчолы. Звычайна вырэзвалі мёд на Прачыстую (28 жніўня), бо «на Прачыстую поле ўсё чыстае»: заканчваліся палявыя працы, медазбор, набліжаліся халады.

Колькі атрымлівалі ад аднае борцевай сям'і мёду за сезон, сёння сказаць з пэўнасцю цяжка. Адныя аўтары сцвярджаюць, што борць давала не больш як 6—8, іншыя — 8—10 фунтаў. Паляшукі, прытым адмысловыя пчаляры, бацькі і дзяды-прадзеды якіх былі бортнікамі, смяюцца, калі называеш ім гэтыя лічбы. Яны запэўніваюць, што ў сярэднім бралі з борці паўтара, а ў «добры год» — па тры вядры мёду.

Вынікі медазбору залежалі ад шмат якіх прычын: расы пчол, квітнення меданосаў і гэтак далей. Год на год не прыпадаў, але на Палессі бортніцтва нават у канцы XVIII стагоддзя было досыць стабільным, працягвала заставацца прыбытковым промыслам. У 1773 годзе, напрыклад, Члухаўскае лясніцтва за продаж драўніны (на будматэрыялы і дровы) выручыла 14 талераў і 25 грошай, а бортны падатак, які паступіў ад бортнікаў, склаў суму ў 30 разоў большую, то бок 507 талераў[16].

Аазісы бортніцтва на Палессі страцілі сваё гаспадарчае значэнне як у тэрытарыяльным, так і колькасным вымярэнні толькі на пачатку XIX стагоддзя. У адрозненне ад іншых гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі, тут яно было выціснута не так антрапалагічным уздзеяннем на прыроду, як паступовым, на працягу некалькіх вякоў, распаўсюдам калоднага пчалярства.

## Бортнае права

***Если выдерут пчел, то три гривны штрафа, а хозяину, если мед еще не вынут — 10 кун, если же вынут — 5 кун.***

Русская правда. XI век.

Пад правам у агульным сэнсе гэтага слова звычайна разумеецца комплекс дзейных норм і правіл паводзін асобы ў грамадстве. Яны ахопліваюць усе бакі матэрыяльна-духоўнай, сацыяльнай і бытавой дзейнасці чалавека. У нашай свядомасці разуменне права заўсёды лучыцца з дзяржавай, якая, як і само права, узнікла са з'яўленнем прыватнай уласнасці і падзелам грамадства на антаганістычныя класы. У класавым грамадстве праўда заўсёды абумоўлена эканамічным ладам і выяўляе волю паноўнага класа.

Гэта ніякім чынам не абазначае, што ў дакласавым грамадстве кожны дзейнічаў, як яму ўздумаецца. Паводзіны і ўзаемаадносіны людзей рэгуляваліся і ў першабытным грамадстве. Нарматыўныя правілы першабытных людзей складаліся спакваля, яны выяўлялі абагулены досвед многіх пакаленняў і былі ўвасоблены ў звычаях. «В основе обычая первоначально лежало «табу» — различные запреты и ограничения, передававшиеся от старших к младшим… без всякого обсуждения и обоснования»[1]. Паўтараючыся з году ў год, звычай настолькі ўваходзіў у прывычку, што выконваўся людзьмі падсвядома. Сіла звычкі была такой вялікай, што амаль немагчыма ўявіць яе сапраўднае імператыўнае ўздзеянне на чалавека. Мы і цяпер часам не можам вытлумачыць свае ўчынкі і дзеянні, і на пытанне пра матывы нашых паводзін адказваем «так заведзена» ці «такі звычай». Канчатковай мэтай звычаю было стварэнне найбольш спрыяльных магчымасцей забеспячэння існавання і захавання цэласці роду ці плямені.

Выкананне агульнапрынятых норм гарантавалася і бясспрэчным аўтарытэтам грамадскай думкі. Істотную ролю ў фармаванні станоўчага стаўлення да звычаяў роду (плямені) адыгрывала выхаванне на станоўчых прыкладах старэйшых і прымусам, бо на ўсіх прыступках існавання чалавецтва «право есть ничто без аппарата, способного принуждать к сохранению норм права»[2]. Волю грамадскага меркавання здзяйснялі мудрыя, назапашаныя жыццёвым досведам старэйшыны, і паважаныя прадстаўнікі супольнасці — знаўцы звычаяў, абрадаў і традыцый. Вера ў досвед старэйшых людзей засведчана ў фальклоры: «Што кажа стары

наглум — бяры малады на вум», «Старога чалавека пабранка — двару папраўка». «Стары з пуця не звядзець»[3].

Як звычаёвае права, так пазней і дзяржаўнае рэгламентавала ўсе накірункі вытворча-гаспадарчай дзейнасці чалавека, у тым ліку і бортніцтва. Па меры распаўсюду і развіцця бортніцтва, ператварэння яго з дапаможнага занятку ў самастойную галіну ляснога промыслу, фармавалася і бортнае права. Асноўныя яго палажэнні склаліся ў рамках звычаёвага права і ўвайшлі без істотных змен у першы пісьмовы звод законаў Кіеўскай Русі «Русскую правду». Першая старажытная рэдакцыя гэтага выдатнага юрыдычнага помніка ўсходніх славян «Соудъ Ярославлъ Володимирица «Правда Роуськая» адлюстравала нормы звычаёвага права IX—X стагоддзяў, прычым усе артыкулы, датычныя бортніцтва, сведчаць пра яго, як пра даўно існуючы і добра ўсім вядомы занятак.

Для свайго часу «Русская правда» была вялікім дасягненнем праўнай думкі ўсходніх славян. На працягу многіх вякоў яна задавальняла як заканадаўцаў, так і праўнікаў (юрыстаў), якія вяршылі суд. Не страціла яна свайго значэння і праз пяцьсот гадоў, разам з прававымі актамі (агульназемскія, абласныя і валасныя прывілеі, лісты), соймавымі пастановамі (ухвалы, статуты ці канстытуцыі) і нормамі звычаёвага права беларусаў. Асноўныя палажэнні «Русской Правды» ляглі ў аснову «Статута Вялікага Княства Літоўскага».

«Статут» уяўляў сабою першую ў Еўропе кадыфікацыю розных галін права і па аднадушным прызнанні спецыялістаў быў «вялікім помнікам заканадаўства сваёй эпохі»[4]. Вялізарнае значэнне «Статута» разумелі яго складальнікі. Адзін з іх, Леў Сапега, пісаў у прадмове да трэцяй рэдакцыі «Статута»: «не обчым яким языком, але своим власным права описанные маем и каждого часу, чаго нам патрэба ку адпору усякай крывды ведати можам»[5]. Вялікае значэнне «Статута» і як каштоўнай крыніцы вывучэння культуры і мовы беларускага народа.

Ва ўсіх трох рэдакцыях «Статута» (1529, 1566, 1588 гады), якія дзеілі пачаргова ў Беларусі з 1529 па 1840 год, утрымліваюцца адмысловыя артыкулы «Хто бы мел спор о борти або о входы в пущу» (Артыкул 6), «Устава дереву бортному» (Артыкул 13) і «Цена пчолам» (Артыкул 14, с. 70) уключаныя ў дзясяты раздзел «О пущу, о ловы, о дерево бортное, о озера и сенажати». У адрозненне ад «Рускай правды», «Статут» больш дакладна размяжоўвае датычныя да злачынцаў меры пакарання: улічваецца цяжар і сутнасць правапарушэнняў («выхад з права»), нанесены матэрыяльны ўрон, наяўнасць намераў («кгвалтовне умысльне»).

Пашкоджанне бортнага дрэва па неасцярожнасці (корань незнарок пасечаны, альбо падрэзаны плугам, узніклы па віне адказчыка пажар, і гэтак далей) караліся штрафам у «две копе[6] грошей». За такія самыя, але загадзя абдуманыя дзеянні, прызначаўся штраф у пяціразовым памеры: «Хто бы кому в дому альбо в пасецы, альбо в лесе на дереве з улья або с кореника поставленого пчолы выдрал альбо з ульев взял, а дошли бы его коного альбо якого просоною, тогда маеть заплатити три рубли грошей»[7].

«А хто бы свепет в чыем лесе умыслне порубал и мед выбрал, тот маеть за то шесть рублей грошей заплатити»[8]. Калі ўлічыць, што ў той час бортнае дрэва з пчоламі каштавала 30 грошаў, дык штраф складаў дваццаціразовую вартасць знішчанай борці. Досыць высокім ён уяўляецца і ў параўнанні з існуючымі тады коштамі. За гэтыя грошы можна было купіць вала і тры бараны, дзве каровы і 24 курыцы, 3 вепрукі і 12 гусей ці 160 пудоў жыта[9].

Не соладка было злодзею, калі даводзілася расплачвацца за свае грахі. Але яшчэ горш было таму, каго злавілі на месцы злачынства, ці, як тады казалі, «з лицом пойманo». Злачынцу прыгаворвалі «на горло», то бок да смяротнай кары. Калі ж гэтага здзірцу лавілі пазней і цалкам выкрывалі яго, ён абыходзіўся штрафам у тры рублі[10]. Логіка складальнікаў «Статута» ў гэтым выпадку не зусім зразумелая. Верагодна, існавалі якіясьці матывы, што дазвалялі прымяняць розныя санкцыі да таго самага злачынства. За рабаўніцтва борцяў і крадзеж мёду строга караліся ваяры Вялікага Княства Літоўскага. Вайсковая ўстава Мінскага

сойму 1507 года сярод іншых пакаранняў за бортныя злачынствы прадбачвала вышэйшую меру пакарання — павешанне: «Хто з бчолами дерево посечет, того тэж на шибеницу»[11]. Для параўнання прывядзём падобны пункт з такой самай уставы Наваградскага сойму 1508 года «А хто со пчолами дерево посечет, того тэж на шыбеницу»[12]. Гэтае супастаўленне выяўляе наяўнасць не толькі адзіных юрыдычных фармуліровак, але і пранікненне ў актавыя матэрыялы мясцовых моўных адметнасцяў. У першым дакуменце пішацца «бчолами, шибеницу», у другім — «пчолами, шыбеницу». Дарэчы, у актавых дакументах копных судоў Міншчыны амаль усюды фігуруе слова «бчолы»[13].

Жаўнеры караліся штрафам у адзін рубель і за хаванне лезіва. За гандаль украдзеным мёдам карчміта выганялі з войска. Калі хтосьці паўторна ўчыняў злачынства, «тогды того на шибеницу». Рабаванне борцяў і паўторны гандаль крадзеным мёдам прыраўніваліся да дэзерцірства, якое ў тыя часы лічылася цяжкім вайсковым злачынствам і каралася смерцю.

У адрозненне ад «Русской правды» (1016 год па Іпацьеўскім летапісе), якая не прадбачвала смяротнай кары датычна да бортных злачынстваў, «Статут» па ўсіх галінах права прадугледжваў больш жорсткае пакаранне, а ў шмат якіх выпадках і смяротную кару. Тэндэнцыя да жорсткасці паслядоўна прасочваецца ва ўсіх трох рэдакцыях «Статута»: «Статут» 1529 года прадбачваў смяротную кару ў 20 выпадках, 1566 — у 60, 1588 — у 100. І гэта цалкам правамерна. Абмяжоўваючы ў пэўнай ступені шляхецкую «вольніцу», сваволю судовых і адміністрацыйных органаў, «Статут» у класавых адносінах заставаўся тыповай прыладай прыгнечання простых людзей, як вольных, так і падняволеных. У першую чаргу ён стаяў на варце прывіліяваных саслоўяў — шляхты і буйных феадалаў. І, як мы ўбачым ніжэй, магнаты часта ігнаравалі не толькі агульнадзяржаўныя законы, але і мэтавыя граматы вялікіх князёў і каралёў, асабліва ў тых выпадках, калі закраналіся іх фінансавыя інтарэсы.

У выпадку адсутнасці ў «Статуце» таго ці іншага палажэння, неабходнага для інкрымінавання злачынства, суддзям рэкамендавалася судзіць па старых звычаях. «Статут» 1588 года да звычаю ўжо не адсылаў: «где бы чого в том Статуте не доставало, тогды суд…водле сумненья своего и прикладом инших прав…то отправляти и судить маеть»[14].

На ахове бортніцтва стаяла і звычаёвае права, якое часамі, асабліва ў аддаленых раёнах, напрыклад, такіх, як Палессе, выяўлялася больш дзейсным. Прынцып «да Бога высока, да начальства далёка», якім часцей за ўсё кіраваўся ў сваёй праўнай дзейнасці паляшук, побач з высокім аўтарытэтам грамадскай думкі і прыхільнасцю да «старыны», «старадаўняй звыкласці», «...звычаю старадаўняму» спрыяў кансервацыі традыцыйных норм звычаёвага права. Перасягнуць нябачную рысу звычаю не шмат хто адважваўся. Да таго ж крадзёж мёду спрадвеку лічыўся амаль такім сама цяжкім злачынствам, як забойства. Мянушка «пчаладзёр» на ўсё жыццё кляйміла ганьбай злодзеяў, магла паставіць іх звонку грамады. У шматлікіх літаратурных крыніцах XVI—XVII стагоддзяў апісваюцца жорсткія расправы з пчаладзёрамі. Аднак у XVI стагоддзі выпадкі самасуду ўжо былі рэдкімі, асуджаліся не толькі законам, але і грамадой.

Копны суд таксама прымяняў да зацятых пчаладзёраў вышэйшую меру пакарання. У 1582 годзе ў ваколіцах Мінска пракацілася хваля бортных злачынстваў. Невядомыя «подрали» пчолы ў ваяводы Віленскага, мітрапаліта, у валадаркі сяла Бараўляны княгіні Саламярэцкай, у праваслаўнага мінскага манастыра. Копа сабралася ва ўрочышчы Дубок, па дарозе «з Менска да Прилеп». Канкрэтны вінаваты не быў вядомы, але хадзілі чуткі пра нядабрадзейныя паводзіны Хамы Мікуліча і Сямёна Плешчыца. Пад пагрозай катаванняў, Мікуліч прызнаўся ў крадзяжы мёду і назваў супольнікаў: Еньку Печанку і Лявона Мацукевіча. Усіх, апрача Мацукевіча, прысудзілі на шыбеніцу. Калі старцы дапытвалі Еньку Печанку «пры остатнем ступени» (то бок стаяў на апошняй прыступцы шыбеніцы), ён выдаў яшчэ двух удзельнікаў — «менчанина Герасима Дурняка й Омельяна

Ивана». Прысуд тутсама і быў выкананы: «И затым …смертью поконали»[15].

Большасць бортных спраў разглядалася копнымі судамі, называных у архіўных дакументах проста «капа»[16] ці «гайны суд»[17]. Капа мае шматвякавыя традыцыі, пачатак якіх узыходзіць да даўніх часоў паганства. Дакласавае ўзнікненне капы падцвярджаецца тым, што яна ажыццяўляла судавытворчасць па-за рамкамі саслоўнай дыферэнцыі — шляхта, баяры, сяляне разглядаліся «как равноправные субъекты процессуального правоотношения»[18].

Копныя суды праіснавалі ў Беларусі да XVIII стагоддзя. Доўгі час феадалы падтрымлівалі іх, бо былі зацікаўлены ў тым, каб чужымі рукамі караць тых, хто пасягаў на іх уласнасць. Першы помнік кадыфікаванага права «Русская правда» заканадаўча даваў грамадзе шэраг судова-следчых функцый. Санцыянаваў чыннасць копных судоў і «Статут» 1588 года: «А на Руси и инде, где здавна копы бывали, там мають быти и тепер …на старых коповищах тым звычаем як и пярвей бывала»[19]. Але неўзабаве шляхта стала ігнараваць копныя суды, а з XVII стагоддзя іх пачалі ўвогуле разганяць. Прайшоўшы праз пэўны перыяд напаўлегальнага існавання, капа спыніла сваю дзейнасць. Суд над сялянамі і іншым простым людам перайшоў пад кантроль магнатаў, то бок у органы судовай улады феадальнай дзяржавы.

Капа валодала не толькі судовымі, але і следчымі функцыямі: выяўляла злачынцу па следзе, здабывала рэчавыя доказы, адшуквала сведкаў, судзіла, прыводзіла ў выкананне не належны абскарджанню прысуд. Першая капа, якая збіралася адразу ж пасля выяўлення злачынства, называлася гарачай і ішла па следзе злачынцы (гнала след, брала гарачы след), пакуль ён «не астыў», то бок быў свежым. Калі след прыводзіў да якогасьці населенага пункту (вёскі, шляхецкай сядзібы, панскаму двару), капа патрабавала выдаць злодзея. Калі ж жыхары адводзілі след (адсочвалі), то бок даказвалі, што след мінуў іх вёску і пайшоў далей, капа працягвала пошукі. Пераслед ішоў да той пары, пакуль след не губляўся ў якімсьці паселішчы, напрыклад, трэцім ці пятым па ліку. Калі яго жыхары не маглі ці не хацелі выдаць злачынцу, яны «прынимали след» і аплачвалі пацярпеламу ўрон. За вёскай у такім разе захоўвалася права шукаць злодзея для спагнання прынесенай страты (шкоды).

У выпадку катэгарычнай адмовы прыняць след, а значыць, і кампенсаваць шкоду, склікалася вялікая капа, на якую збіралася шмат народу, у тым ліку «привелю зацнай шляхты». Пасля апытання пацярпелага і ўдакладнення ўсіх падрабязнасцей злачынства, копнікі прыступалі да ўзаемнага апытання. Кожны павінен быў згадаць у думках усіх падазроных людзей сваёй вёскі і назваць таго, хто, паводле яго меркавання, мог здзейсніць злачынства. Калі падазрэнне ні на каго не падала, копнік заяўляў, што, на яго погляд, злачынцы ў вёсцы не было. У справе Хамы Мікуліча і яго таварышаў прозвішча верагоднага злодзея назваў копнік, родны брат. Сваё падазрэнне ён абгрунтаваў смутнай чуткай пра продаж Хамой яшчэ ў папярэднім годзе возу мёду. Калі ж падазроныя не выяўляліся, вялікую капу пераносілі (завівалі) на патрэбны для даследавання тэрмін. Трэцяя капа называлася завітай і лічылася апошняй, але і на ёй не заўжды собіла завяршыць справу.

Копныя суды заўсёды ўлічвалі маральны воблік абвінавачанага. Калі ён меў рэпутацыю непрыстойнага чалавека (быў веры нягодным, нядобрым, лезным), ці падазраваўся ва ўчыненні якогасьці злачынства ў мінулым (меў славу зацятага злодзея), суддзі заўсёды прымянялі больш суровыя меры, у тым ліку і смяротнае пакаранне. Чалавека, які здзейсніў такое самае злачынства ўпершыню, маглі прысудзіць толькі да спагнання страты. Вядомыя выпадкі, калі яе аплачвалі выкрытыя ў дачы хлуслівых паказанняў сведкі.

Дзейным сродкам копнага судаводства лічылася прысяга (рота). Прысягалі ў адмысловым месцы: у часы паганства на капішчы ў абведзеным разорай коле са свяшчэнным вогнішчам пасяродку, пасля прыняцця хрысціянства — у храме. Звычайна прысягу давалі вусна, толькі ў выключных выпадках яна запісвалася,

калі меркаваць па выразе «рота на пісьме», які сустракаецца ў копных рэляцыях, занесеных у актавыя кнігі гродскіх судоў. Да прысягі ставіліся надзвычай адказна, рэдка хто адважваўся крывіць душою. Вядомы не адзін выпадак, калі абвінавачаныя ў самую апошнюю хвіліну адмаўляліся ад прысягі і прызнавалі сваю віну ці зусім не прыходзілі на месца яе прыняцця. У другой палове XVII стагоддзя стаўленне да прысягі мяняецца: у рэляцыях копных судоў з'яўляюцца нараканні на сапсутасць і легкадумнае стаўленне да прысягі. Копнікі скардзіліся, што некаторым яўным злодзеям не ўпершыню «отприсягаться» ад злачынства.

Апрача прысягі ў ардальным[20] арсенале капы мелі фізічныя метады здабывання ісціны (вымучваць шкоду, браць на муку), асвечаныя звычаем і традыцыяй, а з XI стагоддзя санкцыяніраваныя дзяржаўным заканадаўствам[21]. У рэляцыях копных судоў згадваюцца: біццё бізунамі, выпрабаванне агнём, жалезам, вадою. У актавых матэрыялах яны выступаюць пад агульнымі сінанімічнымі тэрмінамі «проба», «мука», «тартары».

У XV—XVII стагоддзях «брали на муку» пры наяўнасці тых самых абставін, што і пяццю вякамі раней — пры настойлівым адмаўленні абвінавачаным сваёй віны і ўпартага датрымання пацярпелым свайго абвінавачвання. Аднак капа не злоўжывала «мукай» і карысталася гэтым інструментам судаводства вельмі асцярожна. Пры прыняцці рашэння пра назначэнне катаванняў істотную ролю іграла рэпутацыя чалавека. Фізічныя выпрабаванні зазвычай пачыналі з хлосты[22], і толькі тады, калі бізуны і ў другі раз не давалі жаданага выніку, абвінавачанага аддавалі пацярпеламу на пробу агнём ці распаленым жалезам. Пры гэтым сачылі, каб не пакалечыць абвінавачанага. Аднак дазволеная мяжа не заўсёды вытрымлівалася.

Як відаць са справы Хамы Мікуліча, смяротная кара, як мера грамадскага ўздзеяння, скарыстоўвалася вельмі рэдка і толькі ў дачыненні да дрымучых, невыпраўляльных злачынцаў ці ў выпадках асабліва цяжкіх здарэнняў. Так, у канцы 1685 года пяцёра злодзеяў вычысцілі свіран земскага суддзі горада Пінска Міхала Кірдзея, знёсшы рознай маёмасці, у тым ліку два бяркоўцы бітага мёду, на агульную суму 10 тысяч злотых. Каб замясці сляды, падпалілі свіран. Агонь перакінуўся на суседнія будынкі і ў імгненне вока вынішчыў усю сядзібу Парэчча. Скліканая Кірдзеем капа досыць хутка выявіла злодзеяў і вынесла наступны дэкрэт: «живых их четвертовать, части их расставить на больших дорогах в научение всякому»[23].

Да падобнага пакарання пакутніцкай смерцю капа выракала злачынцаў выключна рэдка і галоўным чынам тады, калі імі былі сяляне. За зладзейства ў вясковых жыхароў капа прысуджала павешанне ў вельмі рэдкіх выпадках.

Смяротны прысуд прыводзілі ў выкананне адразу ж па аб'яўленні копнага дэкрэту. Шыбеніцу ставілі заўсёды на адным і тымсама месцы, звычайна на скрыжаванні дарог. Да вісячай на перакладзіне канаплянай пелькі вялі рыштаванні па збітых з неакораных жэрдак драбінах. Прыгаворанага вымушалі падняцца на верхнюю прыступку і самому сабе накінуць на шыю пятлю. У гэты момант да яго звярталіся копнікі з прапановай яшчэ раз падцвердзіць віну, узгадаць іншыя свае злачыны, назваць імёны супольнікаў. Звычайна злачынец не ўтойваў нічога і ўсё выкладваў, як на споведзі. Ён шчыра адказваў на ўсе пытанні, якія мог задаваць кожны з прысутных. І калі ён, напрыклад, калісьці ўкраў авечку ў Пятра, а ў Сымона — кадоўбчык мёду, вінаваціўся перад імі.

Копнаму суду належала права памілавання, але канчатковае слова пры гэтым заставалася за пацярпелым. Пагэтаму асуджаны, молячы пра спатолю, у першую чаргу звяртаўся да праўдашукальніка. Часам самі копнікі і «добрыя людзі» далучаліся да яго літанняў, асабліва тады, калі чалавек спатыкнуўся ўпершыню, а да гэтага не быў заўважаны ў дрэнных учынках. Калі ісцец ці ад шкадобы, ці ад павагі да «паноў-копнікаў» і да грамады выяўляў душэўную добрасць, ён павінен быў асабіста звесці злачынцу з эшафота, што было знакам таго, што ён дорыць яму жыццё, але і бярэ адказнасць за далейшыя паводзіны і ўчынкі выратаванага

ад знявечання чалавека. Пасля абавязковай у такім выпадку хлосты памілаванага (дараванага горлам) передавалі ісцу. Пры адмове памілавання прысуджаны маліўся (пацер мовіў) і кідаўся з прыступкі долу. Возны абмочваў пяро ў чарніла і трафарэтным сказам дапісваў рэляцыю: «бросился с шыбеницы и смертью тот оговор запечатал».

Саўдзельнікаў, імёны якіх перад смерцю назваў пакараны, звычайна адразу не прысуджалі да адказнасці. Іх запісвалі ў «чорную» гродскую кнігу і трымалі пад наглядам, як людзей «лезных» і «негодных веры». А пасля гэтага першае сутыкненне з правам, які б характар яно не мела, прыводзіла іх на эшафот…

Многія дарэвалюцыйныя даследчыкі копнага права, напрыклад, І. Я. Спрогіс[24], адзначалі, што капа не брала пад увагу маёмасны і грамадскі стан абвінавачаных і прысуджаных на смерць, аднолькава караючы як простага селяніна, так і шляхціча. Не аспрэчваючы гэтага сцвярджэння, адзначым толькі, што капа ўсё ж улічвала саслоўную прыналежнасць як пацярпелага, так і абвінавачанага. Пан і селянін не маглі выступаць раўнапраўнымі суб'ектамі працэсуальных дачыненняў. Іначай капа не выносіла б больш суровых прысудаў за рабункі панскай уласнасці, чым за аналагічныя выпадкі крадзяжу ў сялян. Вазьміце справу ўжо згадванага Хамы Мікуліча ці справу Пінскага земскага суддзі Кірдзея: у абодвух выпадках крадзяжоў у прадстаўнікоў прывілеяванага стану тадышняга грамадства, злачынцы прысуджаны да вышэйшай меры пакарання — засільванню аднаго і чацвертаванню другога...

Адначасова было б памылковым цалкам адмаўляць народны характар копных судоў, заснаваных на зразумелых простым людзям і, больш за тое, прызнаваных імі традыцыйных маральна-этычных прынцыпаў. Дэмакратычныя элементы копных судоў найбольш поўна выяўляліся выключна толькі ў тых здарэннях, калі судавытворчасць ажыццяўлялася ў простанародным атачэнні і не закранала інтарэсаў паноўнага класу.

***Пераклад з рускай Яўгена ЛЕЦКІ***
***(з кнігі У. С. Гуркова і С. Ф. Цярохіна «Спрадвеку высакародны занятак»).***

## Зладкаванне борці

### Заўвагі:

[1] Пецюкевіч М. Матэрыяльная культура Сакольскага павета // Навуковы зборнік. Беласток, 1964. С. 241.

[2] Иванченко Я. И. Полесские пчелы // Пчеловодство. 1961. № 10. С.20—21.

[3] Витвицкий Н. М. Практическое пчеловодство. СПб., 1835. Ч. 1. С. 110.

[4] Люшин И., Орлов В. Это еще не настоящий мед // Вокруг света, 1977, № 5. С. 41.

[5] Гриценко Г. И. Пасека на крыше // Пчеловодство. 1975. № 5. С. 41.

[6] Повесть о Петре и Февронии. Л., 1979, С. 214.

[7] Сербаў І. А. Вічынскія паляне. Мн., 1928. С. 45.

[8] Хаджалыя людзі — у арыгінале похожие (заўвага перакладчыка), асабіста незалежная катэгорыя сялян, якія мелі права вольнага пераходу ад аднаго феадала да іншага, калі не «засиживались».

[9] Цяпер установа мае агульнанацыянальны статус Музея старажытнабеларускай культуры пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (заўвага перакладчыка).

[10] Lecijewski. J. Znamiona bartnicze // Pasiecznik wzorowy. Lwów. R. II. C.p 18.

[11] Витвицкий Н. М. Практическое пчеловодство. С. 196.

[12] Kochanowski J. Barcie i bartnictwo w Grodzienszczyźnie // Nieman. Rocznik 1, Zeszyt 1. Grodno. 1935, S. 5; Źukowski R. Bartnictwo w Zagajnicy...1965, S. 35.

[13] Цяперашні Столінскі і колішні Давыд-Гарадоцкі раён Брэсцкай вобласці, размешчаны ўздоўж ракі Гарыні.

[14] Эремич И. Очерки Белорусского Полесья. Вильно, 1868. С. 12.

[15] Живописная Россия / Под ред. П. П. Семенова. СПб., 1882. Т. 3. С. 55; Аникиевич К. Т. Сенненский уезд. Могилев. 1907. С. 54; Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб., 1870. С. 31.

[16] Conwentz 1. Uber Bienenbaume // Berichte des westpreussischen botanischzoologischen. Vereins. 1898. C.p. 28. S. 67.

## Бортнае права

### Заўвагі:

[1] Полторацкий А. Швыряев В. Знак и действительность. М., 1970. С. 5.

[2] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 26. С. 443.

[3] Прыказкі і прымаўкі / Пад рэдакцыяй А. С. Фядосіка. Мн., 1976. Кн. 2. С. 92.

[4] Maciejowski W.Historia prawodawstw słowianskich. Warszzawa, 1856. T. 1. S. 207; Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978. С. 58, 59.

[5] Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Мн., «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1989, с. 16. У арыгінале кнігі цытата і зноска на расійскамоўнае выданне Статута.

[6] Капа — мера адліку, роўная 60 адзінкам.

[7] Статут ВКЛ, С. 274.

[8] Там сама. С. 279.

[9] Акты, относящиеся к истории Западной России. СПб., 1848. Т. III. С. 72—95.

[10] Статут ВКЛ, С. 27.

[11] Акты, относящиеся к истории Западной России. СПб., 1848. Т. II. С. 27—28.

[12] Там сама. С. 35.

[13] Акты, издаваемые виленскою археографическою комиссиею. Вильно, 1891. Т. XVIII. С. 4, 8.

[14] Статут ВКЛ. Прадмова.

[15] Там сама. С. 40—43.

[16] Копа — грамада, суд, любая людская зборня.

[17] Гай — невялікі лістоўны лес, выспачка лесу сярод поля. Адна з любімых мясцінаў, дзе збіралася капа.

[18] Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в., Мн., 1978. С. 126.

[19] Статут ВКЛ. Прадмова.

[20] Ардалія (*лацін.*) — варварскі спосаб выяўлення вінаватасці.

[21] Суд Ярослава Владимировича. Русская правда // Хрестоматия по русской истории… С. 71.

[22] Хлоста — пакаранне бізуном (хлыстом), розгамі.

[23] Шчарбакоў В. К. Нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1934. С. 102.

[24] Спрогис И. А. Древнейший народный суд в Северо-Западной Руси // Витебские губернские ведомости. 1896. № 94. С. 37.

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

**Ідзе падпіска**
**на ІІ паўгоддзе 2013 года:**

*індывідуальная льготная*
*для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 11 500 руб.
на 3 месяцы — 34 500 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 17 600 руб.
на 3 месяцы — 52 800 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 47 000 руб.
на 3 месяцы — 141 000 руб.

*ведамасная льготная*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 38 100 руб.
на 3 месяцы — 114 300 руб.

**«ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**
**г. Мінск**
**Магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
**Магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
**Магазін «Глобус», вул Валадарскага,16.**

***e-mail: polymya@bk.ru***

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверавай*

Падпісана ў друк 07.06.13 г. Фармат 70×108$^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,99. Ул.-выд. арк. 17,34. Тыраж 2873 экз. Заказ 1805.
Кошт нумара ў розніцу 15 300 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.